ЛЕАНІД ЛЕВАНОВІЧ

# ВАЛАНЦЁР СВАБОДЫ

АПОВЕСЦЬ І АПАВЯДАННІ



Мінск
«Мастацкая літаратура»
1983

# ВАЛАНЦЁР СВАБОДЫ

**Аповесць-маналог**

Усё праходзіць: каханне, жаль аб ім, горыч страт, нават боль ад ран праходзіць, але ніколі-ніколі не праходзіць туга па радзіме.

*Віктар Астаф'еў*

Сябры, давайце працаваць, думаючы пра тое, што тая мэта, дзеля якой мы працуем — шчасце ўсіх людзей,— важней за стому кожнага з нас.

*Орасіа Кірога*

*Фадзею Варанішчу — удзельніку рэвалюцыйнага руху ў Аргенціне і Іспаніі, руху Супраціўлення ў Францыі*

## Частка першая

### 1

Я сядзеў за маленькім, вузкім столікам і пісаў ліст маці. Калі б хто непрыкметна ўбачыў мяне ў той час, то дужа здзівіўся б: малады здаровы дзяцюк з кулакамі малатабойца, з абветраным, загарэлым тварам сядзіць над аркушам паперы і гатовы развесці сырасць. Той, хто не ведае, што такое туга па радзіме, ніколі не зразумее. Як гэта: здаровы бамбіза будзе сядзець над чыстай паперчынай і плакаць?! А я плакаў. Першыя дні, як прыехаў у Аргенціну, думалася, што з бегам часу абвыкну, прытруся тут, не буду сумаваць па доме, па маці, родных і блізкіх. Ажно не! З кожным годам туга гэтая мацнела.

О, каб вы ведалі, як зайздросціў я тады птушкам! Яны шчаслівейшыя, бо кожнага разу пакідаючы ўвосень свае гнёзды, вясной вяртаюцца ў родны край. Я ж толькі ў думках мог ляцець туды, дзе ўсё так дарага і міла. У той час я меў работу, быў дужы, зарабляў на хлеб сабе і на масла фабрыканту. Я нават адклаў трохі грошай на чорны дзень.

Цяжка пісаўся той ліст, і ўсё ж вось што я накрэмзаў:

«Мілая, родная матуля! Так даўно не меў ад вас ніякіх вестак. Можа, вы пішаце на стары адрас? Я жыву цяпер у горадзе Буэнас-Айрэсе. Гэта — сталіца Аргенціны, вялікі і прыгожы горад. Працую на фабрыцы газаэлектразваршчыкам, добра зарабляю. Высылаю вам, матуля, сто долараў. Тут жывецца лепей, чым у Санта-Фе. У мяне добрая кватэра, вялікі светлы пакой — тры акны на вуліцу. (Папраўдзе, адно малюсенькае акенца, бо жыў у чулане, які гаспадары трохі пераабсталявалі і здалі мне. Пра гэта я, вядома, не пісаў, як і пра тое, што не меў уяўлення, як дацягну да палучкі, адаслаўшы сто долараў — больш як дзве сотні песа.) Гаспадары мае родам з Італіі, людзі вясёлыя, хоць і жывуць беднавата. «Порка мізэрыя!» — часта гаворыць гаспадар. Па-нашаму — чорт пабяры гэтую беднасць, або чорт яго меў...

Дарагая матуля! Як мне хочацца вас пабачыць! Ужо сем гадоў не быў я дома, на Беларусі. Так хочацца басанож прайсці па расе, схадзіць у грыбы, пакупацца ў нашай рачулцы, пачуць родную мову, нашыя песні... Праўду ты казала: «У чужой старонцы не так свеціць і сонца...» Як збяру болей грошай, каб было за што купіць зямлі, прыеду дамоў. Паклон Пётру, Алене і Чэсі. Цалую ўсіх.

22 красавіка 1936 года. Ваш Павел».

Прачытаў ліст і, каб не завыць па-воўчы, кінуўся на ложак, галавой у падушку. Успаміны агарнулі мяне.

## II

Жнівеньская раніца 1914 года. Памятаю, як прыбеглі ў вёску жанчыны, яны хадзілі ў горад на рынак.

— Што робіцца! Ой, людцы добрыя, што гэта робіцца! — крычалі, вохкалі яны.— Немцы страляюць па вакзале... Усе, хто можа, уцякаюць з горада.

У вёсцы ўзнялася сумятня, беганіна. Людзі пыталіся адзін у аднаго, што рабіць, сёй-той ладаваў на воз сякі-такі скарб і кіраваў у лес. А я, пачуўшы пра немцаў, пачаў румзаць, як гадавалае цялё. Бадай, болей за ўсіх напалохаўся, бо да гэтага ў нас,— мабыць, і не толькі ў нас,— свавольнікаў і неслухаў страшылі немцамі, гаварылі, што перш за ўсё яны забіваюць дзяцей: зганяюць іх у адзін дом, сілком кормяць аўсянаю кашай, а тады па чарзе ставяць да сцяны і прыкладаюць да

жывата лаву (а ў нас была лава з шырокай, тоўстай дошкі) і цiснуць. Вось такой пакутлівай смерцю забівалі немцы малых. Таму я крычаў на ўвесь голас:

— Мама, не аддавай мяне немцам...

Як на тую бяду, бацька пайшоў да суседа і доўга не вяртаўся. З бацькам я не надта сябраваў, хоць ён мяне ніколі не біў, нават калі я скінуў аднойчы насценны гадзіннік, і то абышлося без лупцоўкі. А вось маці я любіў усёй душой. У тую трывожную раніцу не адыходзіў ад яе. Нарэшце прыйшоў бацька. Ён быў хмуры і заклапочаны.

— Усе жанчыны збіраюцца на луг,— ціха сказаў ён маці.— Карову трэба ратаваць. Ты таксама ідзі... А я тут збяру сёе-тое на воз і буду ехаць. Ганіце каровы гасцінцам. У лагчыне каля Максімаўкі чакайце нас...

Як я ні прасіўся ісці з мамай, мяне не ўзялі. Маці паклікала старэйшую маю сястрычку Аленку, перахрысцілася перад іконай і пайшла. Маленькую Чэську бацька загарнуў у даматканую коўдру і пасадзіў на воз. Побач з ёй сеў дзесяцігадовы Петрык, якому бацька загадаў трымаць Чэську, а мне — ціха сядзець і не кратацца. Бацька ўскінуў на скорую руку звязаныя клункі, запрог Гнедку, маладога рудавата-чырвонага жарэбчыка, выгнаў з хлява тоўстую хручку. Яна не хацела пакідаць цёплае гайна, дзе ўжо рыхтавалася прынесці нам маленькіх парсюкоў. Я чакаў гэтага, як вялікага свята — хацелася падзівіцца на маленькіх парасятак.

— Петрык, бяры кіёк і падганяй свінку,— сказаў бацька.— А ты, Паўлік, трымай Чэську, каб не звалілася.

Бацька ўзяў Гнедку за аброць, зняў шапку, абвёў вачамі хату, усе пабудовы, перахрысціўся і павёў каня цераз падворак на загуменную дарожку, па якой ляскаталі ўжо суседзі. Хручка неахвотна ішла ўслед, хоць Петрык і падганяў як мог. За вёскай яна заўпарцілася і далей не пайшла. Бацька адагнаў яе ў кусты, там яна, змораная, адразу легла, прыкінуў ад сонца веццем, пасадзіў на падводу Петрыка і сцёбнуў Гнедку пугаю.

Паабапал гасцінца рухаўся на ўсход бясконцы людскі паток. Пасярэдзіне дарогі на захад ішлі войскі, абозы, пяхота. Праехаў кавалерыйскі полк. На сёдлах зыбаліся запыленыя кавалерысты,— адно вочы блішчэлі з-пад пыльных броваў, мокрыя ад поту, стомленыя коні ледзь цягнуліся: мусіць, прайшлі немалы шлях. Збоч

ґасцінца было пакідана шмат усялякіх рэчаў: ляжалі матрацы, сталы, крэслы, швейныя машыны. Усё гэта некалі людзі нажывалі, а зараз яно зрабілася непатрэбным. Кожны ратаваў сябе, сваіх дзяцей.

Падводы рухаліся марудна. Петрык узяў мяне за руку, і мы пайшлі следам за нашымі калёсамі. Петрык убачыў у канаве скураную сумку, падняў яе, пачаў разглядаць, з яе выкаціўся свісток. Я тут як тут падхапіў яго, пачаў свістаць.

— Ты што? Зараз жа перастань! — крыкнуў бацька.— А то немцы пачуюць.

Я схаваў свісток у кішэню, Петрык ускінуў на плячо сумку. Яна, мусіць, належала гарадавому ці жандару, уцякаючы, гаспадар згубіў яе. Я радаваўся сваёй знаходцы і шкадаваў, што нельга пасвістаць.

Дзень хіліўся к вечару, калі пад'ехалі да Максімаўскай лагчыны, дзе павінны былі чакаць абоз жанчыны з каровамі. Але ні жанчын, ні кароў не было. Падводы спыніліся, мужчыны раіліся, дзе шукаць сваіх жанок. Неўзабаве падышлі два вайскоўцы з вінтоўкамі.

— Тут нельга спыняцца. Гарматы блізка ўстаноўлены. Едзьце далей,— загадалі яны.

— Татка, паедзем шукаць маму,— угаворваў я бацьку.

Мой бацька быў чалавек рашучы, гарачы. Нядоўга думаючы, павыкідаў усё з падводы, захутаў нас, трое малых, армяком і павярнуў Гнедку ў абгон абозу. Гнедка адразу адчуў, у якім настроі гаспадар, і з месца рвануў наўскач. Разгарачаны малады жарэбчык імчаў з усіх капытоў, і бацька прытрымаў яго, калі Гнедка ўзмакрэў. Неўзабаве мы ўбачылі на лузе статак кароў, а ля дарогі купкай стаялі жанчыны. Я здалёк угледзеў маці, кумільгом скаціўся з воза і пабег да яе. У кулачку сціскаў свісток, які тут жа паказаў маці, але свістаць яна таксама не дазволіла.

Ніколі не забуду тую ноч на поплаве каля Віліі. Мужчыны зарэзалі маладую цяліцу, насмажылі на агні мяса, усе разам дружна елі. Ноч была відная, неба скрозь усыпана зоркамі. Мы з Петрыкам стаялі на беразе ракі, у цёмнай вадзе адлюстроўваліся бліскучыя кропкі зорак.

— Глядзі, глядзі, Паўлік! Вунь зорка згарэла,— таўхануў пад бок Петрык, калі мы ляжалі на возе. Я паспеў убачыць, як зорка мільганула белай палоскай

і знікла.— Нехта памёр. А мо немцы забілі? — глыбакадумна, тонам бывалага чалавека, сказаў Петрык.

Я ціха дрыжаў пад армяком, ці то ад холаду, ці то ад страху, хацелася, каб хутчэй узышло сонца, не цярпелася ехаць далей, каб не трапіць у лапы немцам.

Раніцай, калі я прачнуўся, Петрыка на возе не было. Чэська яшчэ спала, смачна чмокала ў сне і моршчыла кірпаты носік. Я падняў галаву, працёр кулачкамі вочы.

— Хто там вылупіўся з яйка? — маці прытуліла мяне да сябе. Ад яе пахла расой і дымам.

— А дзе Петрык? — спытаў я.

— Пайшоў у вёску. Жанчыны і большыя хлопцы пайшлі.

— Чаму мяне не пабудзілі?

— Ты гэтак соладка спаў. Пашкадавалі будзіць.

Нізкае сонца свяціла ярка, я ўглядаўся за дарогу, дзе быў відзён ланцужок хат, ахутаных зелянінай дрэў. Сонца падымалася вышэй, мацней прыпякала, а вяскоўцы ўсё не вярталіся.

— Ну што там здарылася? Навошта ж я хлопца пусціла? — бедавала маці.

Нарэшце прыбег Петрык. Ён прынёс сумную вестку.

— Хата наша згарэла. Уся вёска спалена. Людзі бачылі. Кажуць, што ўсё дашчэнту згарэла,— захліпаючыся, усхвалявана гаварыў Петрык.

Маці сцішана заплакала, а бацька моўчкі слухаў, толькі нервова торгалася няголеная шчака. Мабыць, яму цяжка было гэта чуць, ён адвярнуўся, ссутуліўся, адышоў за кусты, дзе фыркаў Гнедка.

Бежанцы запрэглі коней, потым усе павярнуліся ў бок вёскі, перахрысціліся і рушылі ў далёкую дарогу. Праз некалькі дзён дабраліся да Мінска. Тут прапанавалі здаць коней і вупраж, далі ўзамен таварны вагон. Бежанцаў назбіралася багата — цэлы эшалон. І аднойчы вечарам нас павезлі ў кірунку Смаленск — Масква.

## III

Гэтае падарожжа я памятаю слаба. Мусіць, было яно аднастайнае і нуднае, нас падоўгу трымалі на паўстанках, заганялі ў тупік. Была позняя восень, з дрэў падала пажоўклае лісце, калі наш вагон адчапілі на станцыі Ліпецк. Неўзабаве пад'ехалі фурманкі, бежан-

цы ўскінулі на вазы рэшту свайго скарбу, пасадзілі дзяцей і паехалі ў горад.

Пасялілі нас усіх на першым часе ў школе. Гэта была даўжэзная, як гумно, хата. З кожным днём людзей усё менела: хто знаходзіў кватэру, пераязджаў туды. Бацька ўладкаваўся працаваць на заводзе скураных вырабаў, разам з ім прынялі і Петрыка. Маці з Аленкай рабілі на тытунёвай фабрыцы. А я і Чэська засталіся дома. Я павінен быў глядзець малую. Мне абрыдла выціраць ёй нос і яшчэ адно месца, і я прасіў маму, каб яна адвяла мяне ў школу. Але толькі ў наступную восень я пачаў вучыцца. Аднойчы, задаволены і радасны, прыйшоў я дадому.

— Ну, як там у школе? Добра? — спытала маці.

— Цікава. Настаўніцу завуць Галіна Аляксандраўна. Яна ласкавая і прыгожая, як ты, мама. І вочы ў яе блакітныя, як у цябе. Толькі яна беленькая-беленькая. І твар яе нібы мукой абсыпаны.

— Гэта не мука, а пудра,— усміхнулася Аленка.

— Хай сабе пудра,— слова гэта мне адразу не спадабалася, і таму я дадаў: — А Галіна Аляксандраўна ўсё роўна добрая. І мы заўсёды бяжым ёй насустрач, калі яна ідзе ў школу.

Вучоба ішла добра. Праўда, быў адзін нялюбы прадмет — закон божы. Мо таму, што я ненавідзеў папа, які вучыў нас малітвам. Заўсёды ён быў сярдзіты, ніколі мы ад яго не чулі ласкавага слова, нават калі хто з нас і вызубрываў малітву, святы айцец не хваліў, яго маленькія вочы глядзелі сурова і, быццам свярдзёлачкі, праціналі нас, а чырвоны, як сліва, нос заўсёды грозна чмыхаў, нібы святы айцец нанюхаўся тытуню і зараз чхне на ўсю школу.

Аднойчы мы сядзелі ў чаканні бацюшкі, давучвалі, хто не паспеў, малітвы, а святога айца ўсё не было. Раптам шырока расчыніліся дзверы, увайшла расчырванелая, усхваляваная Галіна Аляксандраўна:

— Дзеці, у Петраградзе перамагла рэвалюцыя. Бальшавікі прагналі буржуяў. Галоўны бальшавік — Ленін! — Галіна Аляксандраўна на дошцы крэйдай напісала: «Да здравствует Ленин! Вся власть Советам!» — Цяпер вы, дзеці, не будзеце зубрыць малітвы. Давайце развучым «Інтэрнацыянал». Гэта — міжнародны гімн усіх бедных людзей.

Галіна Аляксандраўна яшчэ болей пачырванела,

шчокі яе гарэлі, акурат макава кветка, і звонкім высокім голасам заспявала. Мы падцягвалі, спачатку нядружна, неўпапад, але памалу песня набірала сілу, мацнела, быццам развінала крылы, і вось ужо ёй было цесна ў класе, яна выпырхнула на волю і загучала на прасторы.

Я спяваў з вялікай ахвотай. Папераздзе мяне сядзела Ліда Кавалёва. Мусіць, я занадта гучна спяваў, бо яна некалькі разоў азірнулася, усміхнулася мне, быццам падбадзёрвала, і сама спявала высокім, чыстым, як званочак, галаском. І я тады ўпершыню заўважыў, што Лідачка прыгожая, і яе касіца, жыдкаватая, русявая, падалася мне таксама прыгожай, хоць раней яна нагадвала пацучыны хвосцік.

Святы айцец болей у школу не паказваўся, і малітвы мы не вучылі. Потым у нас утварыўся гурток мастацкай самадзейнасці. Галіна Аляксандраўна кіравала ім. Спявалі мы «Варшавянку», «Смело, товарищи, в ногу».

Неяк напрадвесні Галіна Аляксандраўна сказала:

— Дзеці, набліжаецца свята Першае мая. Трэба нам падрыхтаваць канцэрт. Хто хоча прыняць удзел?

— Я, я,— закрычалі мы і дружна паднялі рукі.

— Ну, значыць, будзем усе спяваць. Арганізуем хор. Лідачка Кавалёва і Паўлік Варанецкі будуць салістамі.

Я хацеў спытаць, што гэта азначае — салісты. Мо трэба прынесці сала, дык у нас яго няма, але язык быццам прысох у роце.

— А што мы павінны рабіць? — Лідка аказалася смялейшай.

— Будзеце запяваць. Удваіх саліраваць. Гэта называецца — спяваць дуэтам. Спачатку развучым гэтую песеньку.— Галіна Аляксандраўна памаўчала і ціхім тонкім галаском завяла:

Слети к нам, тихий вечер,
На мирные поля,
Тебе споем мы песню,
Вечерняя заря...

А потым гэтую песеньку мы спявалі з Лідкай. Я ніколі не забуду таго светлага пачуцця, чыстай радасці ад тых спеваў, нашай дзіцячай дружбы. Гэта засталося на ўсё жыццё.

Час ішоў. Маіх бацькоў не пакідала думка вярнуцца на радзіму, у Беларусь. А тут яшчэ закрылі скураны

завод — не было сыравіны для яго. І тады бацька і яшчэ некалькі аднавяскоўцаў вырашылі ехаць дамоў.

— Савецкая ўлада дасць нам памешчыцкай зямлі. А працаваць нам не прывыкаць,— гаварыў бацька.

— Дык усё ж там пагарэла,— уздыхнула маці.

— Хату збудуем. Будзем жыць.

## IV

Вясной 1920 года, як толькі зазелянела трава, пяць падвод аднавяскоўцаў выбраліся ў далёкі шлях на радзіму.

Гэтае доўгае падарожжа помніцца мне, як у тумане, яно зліілося ў адзін халодны ветраны дзень і адну халодную ноч ля вогнішча. Начавалі звычайна каля рачулак, на паплавах, каб можна было напасвіць коні, сагрэць чаю, зварыць заціркі.

Падарожнічалі амаль усё лета і толькі ў жніўні прывандравалі на тое самае пажарышча, дзе некалі была наша вёска. Як зараз бачу разворанае траншэямі, зарослае пырнікам, быльнёгам поле. Зялёнаю дратвою травы цыравала зямля свае раны, мурожным абрусам засцілала курганы салдацкіх магіл. У бліндажах, што засталіся ад вайны, жылі вяскоўцы, якія прыехалі раней. Бацька адшукаў разбураную зямлянку, трохі падлатаў яе, і пачалі мы жыць у ёй. Помню, увечары, кладучыся спаць, я часта думаў, што вось я лягу, а тым часам зямля абваліцца і застануся тут, як у магіле.

Неяк мы з Чэськай сядзелі адвячоркам у зямлянцы. Маці дома не было: яна з Аленай пайшла ў Максімаўку жаць жыта, каб зарабіць трохі хлеба. Нанач яны дамоў не прыходзілі, начавалі па чужых людзях, раненька паднімаліся, каб зрабіць, а значыць, і зарабіць болей, бо свайго нічога не мелі.

Дык вось мы сядзелі, нібы краты, у цемры, як раптам загула, затупала нешта ў лесе, са столі зямлянкі пасыпаўся, зашамацеў пясок. Мы мігам выкаціліся на волю і ўбачылі бацьку і Петрыка — яны прывезлі некалькі бярвён. Петрык, як дарослы, трымаў на плячы сякеру.

— Што, жэўжыкі, напалохаліся? — зарагатаў ён.

Бацька хмурна маўчаў, стомлена дыхаў.

— Нічога, дзеткі, да зімы паставім хаціну. Пражывем як-небудзь. Сонца свеціць, вецер дзьме. Абы жывы-

здаровы былі,— сумна сказаў ён. Мусіць, прадчуваў, што яму засталося нядоўга хадзіць на гэтым свеце.

Да скону не забуду, як мы з ім садзілі пад акном таполю. Дрэўца было танклявае, праменькае, што струна, але ўверсе раздвойвалася. Галінкі з лісцем утваралі крону, круглаватую, нібы яйка. Калі мы садзілі таполю, на ёй яшчэ трапяталася лісце, жаўтавата-бліскучае, на доўгіх чаранках.

Да зімы бацька агораў хату, але жыць яму ў ёй не прыйшлося: ён моцна прастыў, захварэў на запаленне лёгкіх і памёр.

На двары стаяла позняя восень. Аднойчы я прачнуўся, зірнуў у акно і здзівіўся: усё вакол было нязвыкла белае, гразюкі на падворку не відаць, і сам падворак пашырэў, пасвятлеў. Я падбег да акна на вуліцу, глянуў на таполю. Галінкі яе былі нібы абкладзены ватай, а ў развілцы сабраўся цэлы камяк снегу. Некалькі жоўта-шэрых лістоў сіратліва віселі на дрэўцы. Раптам з-пад страхі зялёным камячком шмыгнула на таполю сініца. «Пінь-пінь»,— весела піснула яна, пераскочыла з галінкі на галінку, пакруціла ва ўсе бакі цёмную галоўку. Мне падалося, што яна пільна глядзіць на мяне сваімі бліскучымі, маленькімі, быццам канаплінка, вочкамі. І мне так захацелася на вуліцу. Я хутка абуў лыкавыя лапцікі, сплеценыя бацькам, ускінуў на плечы сярмяжку, выбег на падворак. З хлява выйшла маці, яна, мабыць, давала сена цялушцы: бацька купіў, каб выгадаваць карову.

— Што ты рана ўспароўся? Бяжы ў хату, а то замерзнеш,— сказала мама.— Ногі абчышчай. Снег ліпкі. Надта бярэцца. А ў хаце і так сыра.

Я грабануў далонькай снегу, сціснуў яго ў камячок і шпурнуў у варотцы: на шэрай, зеленаватай ад моху дошцы азначылася белая круглая пляма. Я ляпіў сняжкі і шпурляў іх на дах, цаляў зноў у варотцы, аж пакуль зайшліся ад холаду пальцы.

Пасля сняданку маці села да акна, узяла маю сярмяжку і пачала рамантаваць. Латала яна доўга, нарэшце паклікала мяне:

— Сынок, надзень-ка. Ці можна яе насіць? Надта яна слабенькая, латаная-пералатаная.

Узяў я сярмяжку, патрос, быццам правяраў, ці адарвуцца лапікі, а было іх шмат, насціламіся адзін на адзін, як рыбіна луска, апрануўся, зірнуў на маму, і сэрца маё

зайшлося ад вялікага жалю: твар яе быў сумны-сумны, увесь у маршчынках, у вачах стаялі слёзы. «Як пастарэла мама»,— жахнуўся я. У дзяцінстве мне здавалася, што мая мама самая прыгожая на свеце. Гэта, відаць, усім так здаецца. Але ў маёй памяці мама назаўсёды засталася самай прыгожай. Падышоў я да яе і кажу:

— Чаму ты плачаш, мама? Не бядуй! Скора я вырасту. Паеду ў горад, паступлю працаваць на фабрыку. Багата грошай буду зарабляць. А ты нічога не будзеш рабіць... Я цябе ніколі не пакрыўджу...

Прыхінула мяне маці да сябе, пацалавала. І тады я даў сабе зарок — здзейсніць сваю мару.

## V

Наша вёска паводле Рыжскага мірнага дагавору апынулася пад Польшчай. У маёнтку ў Максімаўцы зноў паявіўся памешчык і заграбастаў сабе лепшую зямлю. Я ўсё больш разумеў, што нам не выбіцца з галечы, і надумаў уцячы да Саветаў — так у нас называлі Савецкі Саюз,— дабрацца да горада Ліпецка. Я чакаў, калі паспее жыта. Харчавацца буду каласкамі, ягадамі, разважаў я, да граніцы якіх паўсотні кіламетраў, а там зашыюся між вагонаў, чыгункаю, а дзе і пеша дабяруся да Ліпецка. І што б ні рабіў, усё думаў пра гэта. Вырашыў нікому не гаварыць, ні Петрыку, ні Чэсьцы, бо даведаецца маці і не адпусціць. Ішоў мне тады пятнаццаты год, быў я даволі рослы, худы, маслаты. Я ўсё абдумаў: перайду граніцу, напішу дамоў ці як-небудзь перадам, каб маці не бедавала, а потым забяру да сябе ў Ліпецк і ўсіх сваіх — перавяду іх цераз мяжу...

Наіўнае дзіця! Мяне самога сцапалі польскія жандары яшчэ далёка ад граніцы. Я, вядома, не прызнаўся ў сваім намеры, сказаў, што збіўся з дарогі, заблудзіў. Жандары не паверылі, адлупцавалі гумовымі палкамі, пад канвоем прыгналі ў павятовы горад. Паведамілі маці, што сына затрымалі як злачынцу. А яна і так за гэтыя дні столькі перажыла, гатова была валасы на сабе рваць: куды раптоўна знік сын? Маці аблётала ўсе навакольныя вёскі, але нічога не даведалася: ніхто не бачыў яе Паўліка, ніхто не сустракаў падлетка ў залапленай сярмяжцы.

У паліцыі мяне шмат разоў дапытвалі, прывозілі за сведак некалькі вяскоўцаў. Усе яны пацвердзілі, што

я працавіты, рахманы хлопец, ні ў чым раней не правініўся, нават у чужыя сады не лазіў (папраўдзе, гэта было не так: па садах я шастаў, але сучча ніколі не абламваў і яблыкі зрываў асцярожна). Нарэшце, як непаўналетняга, мяне адпусцілі. Усю дарогу дамоў я пераконваў маці, што трэба ўсё роўна ўцякаць адсюль, што так жыць немагчыма.

— Сынок мой любы. Рана ты пачаў думаць аб сваім жыцці. Ты яшчэ малы,— угаворвала маці.— Калі станеш дарослым, тады і будзеш выбіраць сабе сцежку, долю шукаць...

— А з чаго выбіраць, мама? Шлях адзін — ісці парабкаваць да пана. На фабрыку не бяруць. А калі і прымуць, радасці мала.

— Твая праўда, сынок. Можа, нешта пераменіцца? Мо бальшавікі вызваляць нас, прагоняць паноў.

— Мама, само па сабе нічога не пераменіцца. Як выpacту, я буду з буржуямі біцца,— у мяне гарэла пабітая спіна, і ў дзіцячай душы закіпала нянавісць да прыгнятальнікаў, жаданне змагацца за справядлівасць, каб усім бедным людзям было добра жыць, каб усе былі роўныя.

Як зараз помню гутарку з маці, той жнівеньскі адвячорак. Мы ішлі гасцінцам, паабапал яго ціха стаялі купчастыя ліпы, шапаткія таполі, сям-там пракідаліся старыя бярозы, на кары іх былі знаць засечкі: бралі бярозавік, дрэвы тады быццам плакалі, на сонцы бярозавік гусцеў, ружавеў і пеніўся, аж пакуль не засыхала, загойвалася рана. Чырвонае сонца нізка вісела над полем даспелага жыта, у якім гучна і звонка спявала перапёлка. Я тэпаў басанож па дарозе, нагрэты за дзень пясок яшчэ быў цёплы, ісці было лёгка, мама за мной не магла ўтнацца.

А мне хацелася бегчы, узбрыкваць, як маладое жарабятка, калі яно вырвецца на волю. Бо я сапраўды нібы вырваўся з клеткі,— такое было ў мяне адчуванне пасля таго, як пасядзеў у паліцэйскім каземаце і пакаштаваў бярозавай кашы. Апроч болю я адчуў духоўнае прыніжэнне, бо яны здзекаваліся з мяне як хацелі, маглі зусім забіць. «Як гэта так? — разважаў я па дарозе.— Няўжо мяне ўжо магло не быць на свеце? Сонца б свяціла, перапёлка спявала б. Васількі сінелі б у жыце, а мяне б не было. Я б гэтага ўжо ніколі не ўбачыў, нічым бы не дапамог сваёй маме. А яна ж будзе старэнькая, я

павінен ёй памагаць. І Чэська ж яшчэ малая... Чаму кепска жывуць людзі? Чаму яны крыўдзяць адзін аднаго, чаму забіваюць? Няўжо мала сонца? Ці зямлі не стае, ці лесу, дрэў на ўсіх не хапае?» Я адчуваў, што за тыя дні быццам падрос, бо раней гэтакіх думак у мяне не было. Праўду кажуць людзі: за аднаго бітага двух нябітых даюць.

## VI

Абудзілі мяне ад успамінаў галасы ў калідоры. Гаспадыня, донна Луіза, пыталася ў дачкі Хуаніты, куды тая збіраецца. Гаварылі па-італьянску, уперамешку з іспанскімі словамі. Я амаль усё разумеў.

— Мы пойдзем да Кармэн,— адказала Хуаніта.

— Хто гэта мы?

— Ну я, Энрыке і Пабла.

— І што, ён пойдзе? — ціха спытала донна Луіза, я пачуў крокі каля маіх дзвярэй: гаспадыня цікавала ў замочную шчыліну.— Ён усё нешта пісаў. А цяпер, мусіць, заснуў.

— Мама, хіба ж так можна?

— Пачакай, пачакай, будзе ў цябе дачка нявеста, яшчэ не так будзеш цікаваць. А што ён усё піша? Мабыць, вершы складае? Дзівак нейкі. Пагуляў бы пасля работы, віна выпіў, дык не...

— Ну во, бачыш. Пабла не такі, як ты думаеш.

— Ды ўжо ж. Свет табе зачыніла, дык ён і здаецца анёлам. Усе яны такія, пакуль свайго не возьмуць. Будзь з ім асцярожней, дачушка. Ён табе не пара... Глядзі, каб потым на цябе пальцамі не тыцкалі. **O, madre de dias** [1], бяда побач ходзіць.

— Якая бяда, мама? Можа, гэта шчасце?

Голас Хуаніты аддаліўся: пайшла ў свой пакойчык. Донна Луіза, мабыць, узялася мыць бялізну. Ляпнулі дзверы, пачуліся цяжкія крокі — гэта вярнуўся з работы дон Альберта, гаспадар.

— Чао, кара міа! [2] — гучна прывітаўся ён, чмокнуў жонку ў шчаку, дадаў па-іспанску: — Мі корпулента Луіза, мі кордэра,— і, мусіць, ляпнуў па тым самым месцы, дзе пачынаюцца ногі, бо ў адказ на «мая мажная Луіза, мая рахманая, ціхая» пачулася:

---

[1] Матка боска — *італ.*

[2] Прывітанне, мая дарагая! — *італ.*

— Ах ты, стары карэкалес (лайдак), каратаньера (падхалім),— і яшчэ некалькі італьянскіх слоў, мабыць, мацнейшых. Сцішаным голасам Луіза пачала яго даймаць, што ён нічога не бачыць, не заўважае.

— Карамба [1], Луіза. Што я павінен бачыць?

— Ты зірні на Хуаніту. Не пазнаць дзеўку. Прыйдзе з работы, не ляціць на кухню, да стала, як раней, а хутчэй — пад душ. А потым перад люстэркам выглядаецца з усіх бакоў. Любуецца...

— Чаму ж не паглядзецца? Прыгожае дзяўчо. Выліты бацька, карамба!

— О, мадонна! Выліты бацька! Яна ж на цябе ні кропелькі не падобна. Уся як я. Хіба забыў, якая я была?

— Порка мізэрыя! Некалі было, ды сплыло...

— Ну, хопіць малоць пустое,— спахапілася Луіза.— Пагавары з ім. Даведайся, што на рабоце ў яго? Можа, выгурылі? А мо ён з камуністамі?

— Ну, добра, добра. Пагавару. Усё выпытаю...

Яны пайшлі на кухню, а я падняўся, зноў перачытаў свой ліст, заклеіў канверт. Я ўжо хацеў ісці кінуць у скрынку пісьмо, але ў дзверы рашуча пастукалі: дон Альберта ішоў выконваць загад сваёй рахманай Луізы.

— Можна да цябе, Пабла?

Дон Альберта, каржакаваты, смуглявы, расчырванелы ад гарачыні і вячэры, увайшоў у мой пакойчык.

— Заходзьце, дон Альберта,— я падняўся насустрач.— Рады вас бачыць.

— Ну, рады не рады, а я вось прыйшоў,— сказаў ён, падаючы мне шырокую далонь з кароткімі моцнымі пальцамі.

— Калі ласка, дон Альберта, сядайце,— падсунуў яму адзінае старое крэсла, што было ў мяне, а сам сеў на табурэт.

— Можа, па чарачцы зробім, га? — дон Альберта падміргнуў мне і прыгладзіў густыя, ужо з сівізной, чорна-белыя, як грыва ў чалага каня, вусы.— Я ўжо трохі прамачыў горла. Душна сёння, горача, як у катле...

— Дзякуй, дон Альберта. Вялікае дзякуй. Я не хачу.

— Не хочаш? Ну, глядзі. Эх, Пабла, Пабла... Порка мізэрыя! Ці даўно я быў малады, нежанаты. Гуляў па набярэжнай у сваім родным Неапалі. А потым капіта-

[1] Чорт пабяры! — *ісп.*

лісты ўсчалі разню ў чатырнаццатым годзе. Я тады паспеў ужо ажаніцца з Луізай, Энрыке нарадзіўся. У пятнаццатым забралі мяне ў войска. А праз паўгода Хуаніта з'явілася на свет. А мяне тады паранілі. Добра, што не забілі. Як бы Луіза гадавала дзяцей? Порка мізэрыя, цяжка б ёй давялося!

— Так, дон Альберта, адной жанчыне цяжка дзяцей гадаваць,— падтакнуў я, каб падахвоціць яго да гаворкі, бо мне хацелася ведаць, як жылі яны раней, мне ўсё хацелася ведаць пра Хуаніту.

— Вайна скончылася. Голад пачаўся. Толькі ракушкі елі. Порка мізэрыя. Болей нічога не было.

Пачуўшы бацькаў голас, у пакой зазірнуў Энрыке, сын гаспадара, мой сябра.

— Што ты мітынгуеш тут, баця? — усміхнуўся ён, кіўнуў мне і прыхінуўся да вушака.

Я падсунуў яму табурэт, сам сеў на ложак.

— Дык вось уладкаваўся я на параход матросам і дапяў да Аргенціны. Ну, і застаўся тут. А ў дваццаць трэцім годзе Луіза з малымі прыехала. І тут было не салодка, порка мізэрыя.

— Я добра помню той час,— падаў голас Энрыке.

— Чаму ж не? Табе было дзевяць гадоў. Заарэндавалі мы гэтую хаціну, дзе во і жывем.

— Добрая хаціна, дон Альберта. Жыць можна.— Я стараўся ўсяляк заахвоціць старога на ўспаміны, тады ён забудзе пра даручэнне жонкі і мне не давядзецца нешта прыдумваць, выкручвацца, бо я не мог гаварыць яму пра свае партыйныя справы.

— Канечне, не на вуліцы...— з гонарам сказаў ён, бо ў глыбіні душы лічыў сябе кемлівым, спрактыкаваным чалавекам, які ўсё, што мог, зрабіў для сям'і, для сваіх бамбіні.— Я працаваў на будоўлі. Порка мізэрыя, Луізе давялося мыць бялізну халасцякам, што ў нас кватаравалі. Вось так мы і перабіваліся.

— Тады лягчэй жылося,— пачаў Энрыке.

— Лягчэй? — перапыніў яго дон Альберта, ускочыў з крэсла і ўзрушаны, як слон у клетцы, хадзіў у маім маленькім катуху.— Скажы каму іншаму, а не мне. А ты забыўся на беспрацоўе пасля перавароту?

Дыскусія разгаралася, і каб яшчэ болей падліць масла ў агонь, я спытаў:

— Якога перавароту? Урыбуруўскага? — хоць ведаў

добра — ваенны пераварот Урыбуру адбыўся ў 1930 годзе, калі я працаваў у Санта-Фе.

У гэты час ціхутка ўвайшла Хуаніта, яна была ў белай блузцы і цёмнай спадніцы, густыя цёмныя валасы спадалі на плечы, чорныя цыганскія вочы пільна зірнулі на мяне, быццам пыталі: што ўсё гэта азначае, ці не я распачаў тут спрэчку і чым гэта можа скончыцца? Я ўстаў, разгублена пакланіўся, не ведаючы, куды пасадзіць яе, а тым часам Энрыке падаў ёй табурэт, а сам стаў ля дзвярэй. Дон Альберта зірнуў на дачку, вочы яго ўраз палагаднелі, але гаворку кідаць не думаў.

— Так, дыктатар Урыбуру ледзь не замарыў нас голадам. Беднаму чалавеку — усюды блага. Порка мізэрыя, такое жыццё. Сэ ля ві, як французы кажуць.

— О, дон Альберта, гэта я ўжо на сваёй скуры зведаў,— сказаў я і непрыкметна зірнуў на Хуаніту, а яна на мяне, позіркі нашы сустрэліся, Хуаніта зачырванелася і ўтаропіла вочы долу.

— Ты адзін, Пабла. Малады, дужы. Вольны птах. А ў мяне сям'я. Работы няма, грошай — няма. Мы з Энрыке,— дон Альберта ляпнуў сына па плячы,— ездзілі на правінцыю ў заробкі. Энрыке працаваў, як дарослы. А ты кажаш, было лягчэй.

— Проста забылася,— усміхнуўся Энрыке.

— Мы бадзяліся як непрыкаяныя. А Луіза з Хуанітай жылі тут. Каналі з голаду. Давялося ісці Хуаніце прыбіральшчыцай у атэлье. Колькі ты зарабляла тады, дачушка?

— Усяго дваццаць песа ў месяц.

— Чуеш, Пабла? Дваццаць песа за месяц! Порка мізэрыя, хіба гэта заробак? Ногі выцягнеш.

Дзверы ў пакой былі адчынены, я і не ўбачыў, як увайшла донна Луіза. Энрыке падсунуў ёй крэсла, у якім толькі што сядзеў бацька, але яна не села, а стала ля парога, агледзела ўсіх, мабыць, падумала, што муж бліскуча выканаў сваю місію, задаволены інфармацыяй, і таму гэтак разгаварыўся.

— Хуаніта — малайчына. Навучылася добра шыць. Кавалак хлеба забяспечаны,— дон Альберта падышоў да дачкі, ласкава пагладзіў яе па шчацэ, чмокнуў, задаволена расправіў вусы.

— Цяпер мы з Альбертам не бядуем. Дзеці пачалі працаваць. З голаду не памром,— донна Луіза замілавана паглядзела на Хуаніту, потым на Энрыке. І столькі

радасці, гонару было ў яе паглядзе! Што ж, яна мае права ганарыцца сваімі дзецьмі. А мне так захацелася пабачыць маці...

— Цяпер ты можаш адпачыць, мама. Мы з Энрыке вас пракормім.— Хуаніта зірнула на гадзіннік: — Ой, нам пара ісці. Мы да Кармэн у госці. Ты гатовы, Пабла?

— Я заўсёды гатовы,— адказаў я, хоць мне не хацелася цягнуцца да гэтай Кармэн. Тоўстая брунетка Кармэн была па вушы закаханая ў Энрыке. Значыць, яму і трэба туды ісці, а мне карцела пахадзіць па горадзе з Хуанітай. Дык не — бацькі не дазваляюць.

— Не пазніцеся, дзеці. Вяртайцеся хутчэй,— сказала донна Луіза.— Пайшлі, Альберта,— пацягнула мужа за парог, ёй не цярпелася выведаць ад яго ўсё, што ён разведаў.

— Мы чакаем каля дома,— Хуаніта з Энрыке выйшлі з пакоя.

Я хуценька надзеў свежую белую кашулю, завязаў на шыі блакітную хусцінку, узяў канверт з лістом да маці і сігануў за парог. Акустыка ў нашым доме была як у касцёле, а гаспадары не ўмелі гаварыць ціха, то я хоць-няхоць пачуў такую размову:

Д о н н а  Л у і з а. Ты мне зубы не загаворвай. Што дазнаўся?

Д о н  А л ь б е р т а. Добры хлопец. Не лайдак. Не п'яніца. Эль абстэміо... (Цвярозы чалавек.)

Д о н н а  Л у і з а. Гэта я без цябе ведаю. Сама бачу. А наконт камуністаў?

Д о н  А л ь б е р т а. Не пытаў. Думаю, што ён за іх. Certamente. Assicuramente! [1]

Д о н н а  Л у і з а (спалохана). Ой, няўжо? Дык нас жа ў турму пасадзяць. О, мадонна, заступіся за нас!

Д о н  А л ь б е р т а. Чаго ты галосіш? От, дурная баба. Я ж у душы таксама за камуністаў, але ж не пасадзілі.

Д о н н а  Л у і з а. Што ты балбочаш, як папугай? Дзяцей пашкадуй. А калі Пабла ў ячэйцы? Ён і Энрыке туды зацягне, і Хуаніту. Божа мілы, божа міласэрны, пашкадуй маіх дзетак...

Стаяць у калідоры было няёмка, таму, чым скончылася размова, не ведаю. Але і без таго я зразумеў, што

---

[1] Канечне. Несумненна! — *італ.*

цяпер гаспадыні не будзе спакою і яна пачне сачыць за кожным крокам Хуаніты.

О, каб донна Луіза ведала, што і да Кармэн мы ішлі не проста піць і спяваць. Ва ўсякім разе — я. У мяне было заданне прыглeдзецца да Хасэ, брата Кармэн, вясёлага прыгожага хлопца. Ён хораша іграў на гітары, добра спяваў, сам з беднай сям'і. Мне здалося, што хлопец ён надзейны і зможа выконваць любыя даручэнні, а для канспірацыі гэтакі весялун нам вельмі патрэбен.

## VII

У той вечар мы пагаварылі з ім добра, але расказваць пра гэта не буду, адразу перайду да наступнай сустрэчы, што адбылася ў маім катуху дні праз тры.

Напярэдадні я бачыўся з таварышам Мігелем, маім непасрэдным партыйным кіраўніком. Сапраўднага прозвішча яго я не ведаў, хоць і знаёмыя мы былі амаль пяць гадоў. Мігель сказаў, што кампартыя рыхтуецца да першамайскай дэманстрацыі.

— Запомні, Пабла, асноўны лозунг: «Народны фронт супраць фашызму і замежных манаполій». Запомніў? — круглыя чорныя вочы Мігеля пільна зірнулі на мяне.

— Мы даўно працуем пад такім дэвізам,— адказаў я.

Мігель сказаў яшчэ некалькі лозунгаў і плакатаў, якія трэба намаляваць, прыкурыў цыгарэту, азірнуўся, падаў мне карабок запалак, шапнуў: «Тут маршрут нашай калоны. Ну, бывай!» Мы развіталіся, пакіравалі ў розныя бакі.

І вось адвячоркам Хуаніта і Энрыке зайшлі да мяне. Меліся прыйсці Кармэн і яе брат Хасэ. Нецярплівая Хуаніта дапытвалася, што яна павінна рабіць, а я маўчаў, бо хацеў дачакацца ўсіх, каб адразу растлумачыць, што і як, і ў той час баяўся, што Хуаніта пакрыўдзіцца, можа падумаць, нібыта я не давяраю ёй.

— Пабла, ты скажы спачатку нам,— настойвала Хуаніта.— Я ніколі не была на дэманстрацыі. А страляць у нас могуць?

— Усё можа быць,— сказаў я, але ўбачыў, як спахмурнеў жывы смуглявы тварык Хуаніты, дадаў, каб супакоіць: — Страляць не павінны. Пабаяцца буржуі. У нас і так неспакойна. Докеры Новага порта аб'явілі

забастоўку. Вось ты, Хуаніта, разам з Кармэн паедзеш заўтра туды. Я дам лістоўкі. Раскідаеце іх там. Мы з Энрыке таксама паедзем. Будзем прыкрываць вас. Ці мала што можа здарыцца? Паліцыі туды нагналі. Беспрацоўныя заварушыліся. А іх там шэсць тысяч...

— Я гатовы. Пасля работы — адразу дамоў. Буду чакаць сігналу,— сказаў Энрыке.

— Добра, што і вы з намі. А то я ўжо спужалася,— Хуаніта зірнула ў акно.— Чаму ж іх няма? Мо на рабоце затрымалі? Кармэн заўсёды такая пунктуальная. Яна не падвядзе.

— Мы гэта ведаем не горш за цябе,— усміхнуўся Энрыке.

— Думаеш, калі ты з ёй цалуешся, дык у яе не можа быць сакрэтаў? Вось ад мяне яна нічога не ўтойвае,— пахвалілася Хуаніта.

— Ну й дурніца. Калі дзве бабы нешта ведаюць, то пра гэта можа дазнацца ўвесь Буэнас-Айрэс. Вось таму і Пабла вам не ўсё гаворыць.

— Калі так, то мне нечага тут рабіць,— успыхнула Хуаніта.— Я ўжо тры гады камсамолка. Пайду да таварыша Мігеля...

— Ну, Хуаніта, навошта ж так? Пра тое, што ты камсамолка, крычаць не трэба. Пачуе донна Луіза — будзе мора слёз... Я табе поўнасцю давяраю. Вось паслухайце, якія будуць лістоўкі...

Я дастаў з кішэні паперку.

— Дай мне зірнуць, калі ласка,— папрасіла Хуаніта.

Я падаў ёй лістоўку. У гэты момант дзверы ў пакой ціха адчыніліся, і на парозе, як здань, вырасла постаць донны Луізы. Хуаніта хуценька схавала паперку пад падушку.

— Пакажы-тка, што хаваеш ад маці? — строга спытала донна Луіза.

— Нічога я не хаваю,— тонам нявіннай авечкі адказала Хуаніта.— Гэта рэклама кіно. Паглядзі сама.

— А што, і пагляджу! — донна Луіза рашуча падышла да ложка, адсунула падушку, узяла паперку і паднесла да вачэй: «Грамадзяне! Таварышы! Камуністычная партыя Аргенціны звяртаецца да вас...» Голас донны Луізы перахапіла, яна збялела як палатно, рукі яе затрэсліся, і яна закрычала не сваім голасам: — Дзеці! Дзе вы ўзялі гэтае паскудства? Выкіньце з хаты гэтае ліха! Спаліце зараз жа!

Яна абрынула цэлы вадаспад праклёнаў на тых, хто такія паперкі піша.

— Мама, супакойся. Гэта выпадковасць. Недарэчнасць,— угаворвалі донну Луізу Энрыке і Хуаніта, але на яе гэта не дзейнічала. Яна крычала і пазірала на мяне з яўным падазрэннем.

— Гэта нехта ўкінуў мне ў фортку. Я гэтакіх паперак не нашу. Што вы, донна Луіза? Як вы маглі падумаць?! Зараз спалім яе, і ўся гаворка,— я чыркнуў запалку і спаліў лістоўку.

— За такія паперкі нас усіх упякуць у турму. За краты! Ой, мадонна! Сэрца замлела, як убачыла,— донна Луіза ўсё яшчэ ніяк не магла супакоіцца, як мора пасля шторму.— Днямі ў Маркада (галоўны рынак) я сустрэла Габрыэлу. Мы з ёй даўно знаёмы. Альберта працаваў некалі разам з яе Фернанда. Фернанда — наш зямляк. Залаты чалавек. Душу аддасць, калі трэба памагчы каму. А зараз у турме на Віля дэ Рома. Яго схапілі на мітынгу будаўнікоў. Альберта я не пусціла. Павісла на шыі, і ён вярнуўся дамоў. А Фернанда могуць выслаць на Вогненную Зямлю або дэпартыруюць у Італію. А там Мусаліні. Той чыкацца не будзе: да сценкі — і капцы. Бедная Габрыэла! Яны так добра жылі з Фернанда, ён усё гаварыў: «Мая маленькая Габрыэль». На руках насіў. А цяпер што? Ён у турме. Яго абвінавачваюць у сувязі з камуністамі. Во, да чаго гэта даводзіць!

— Мама, не трэба баяцца камуністаў, яны ж змагаюцца за лепшую долю для ўсіх людзей. Вось і Фернанда...— пачаў Энрыке. Але донна Луіза не дала яму дагаварыць:

— У тым-та і штука. Яны для ўсіх стараюцца, а самі перажываюць найбольшыя пакуты. Паслухайце мяне, дзеці, не лезьце вы ў палітыку...

Я разумеў, што размова заходзіць занадта далёка, пераконваць донну Луізу позна, яна, нібы квактуха, берагла сваіх дзяцей, цішыню і спакой свайго дома, сям'і, што гэтая дыскусія недарэчная і можа толькі пашкодзіць нам. Я думаў, як павярнуць гаворку ў другі бок, але тут Энрыке зрабіў ход канём:

— Мама, не хвалюйся. Ніякай палітыкай мы не цікавімся. Я думаю больш пра дзяўчат. Я хачу жаніцца, мама,— Энрыке падышоў да маці, абняў яе. Донна Луіза адразу павесялела, пасвятлела.

— Даўно пара, сынку,— сказала яна.— Кармэн — добрая дзяўчына. Жаніся, сынок. Вяселле справім. Усё як у людзей,— і раптам, спахапіўшыся: — Ой, там жа вячэра варыцца,— і таропка, спрытна крутнулася за парог. Хуаніта прычыніла за ёй дзверы, пастаяла трохі, прыслухалася, уздыхнула:

— Бедная мама. А каб яна ведала, што я хаваю ад яе камсамольскі білет...

— А каб яна ведала, што яе сын збіраецца ўступаць у камуністычную партыю,— Энрыке зірнуў на мяне: — Куды гэтак настойліва агітуе наш ціхманы кватарант.

— Ты яшчэ раздумваеш? — спытаў я, хоць па тым, як сказаў пра гэта Энрыке, было відаць, што нарэшце хлопец адважыўся.

— Не магу я быць убаку... Калі яны душаць нас... Трэба змагацца.

Я горача пацiснуў руку Энрыке, і дзіўнае пачуццё братняй радасці і, калі хочаце, шчасця ахапіла мяне. Хіба ж гэта не радасць, што побач будзе яшчэ адзін надзейны таварыш, што я не памыліўся ў ім, што тут, на краі свету, далёка ад роднага дому, у мяне будзе яшчэ адзін сябра, з якім разам будзем змагацца супраць буржуяў, якія пазбавілі мяне шчасця на радзіме, якія выціскаюць сокі з простага рабочага чалавека на ўсёй планеце, апроч далёкай, з дзяцінства мілай мне Савецкай Краіны.

— Скора ў нас будзе хатняя партячэйка,— я адчуў у голасе Хуаніты прыхаваную трывогу і падумаў, што мне трэба шукаць новую кватэру: нельга, каб адразу схапілі трох чалавек, навошта, каб донна Луіза бедавала і каб, не дай бог, здарылася што благое з Хуанітай. Я вырашыў не адкладваць і сказаць пра гэта зараз жа.

— Між іншым, у камітэце параілі мне змяніць кватэру...

Хуаніта пільна зірнула на мяне, і яе твар адразу спахмурнеў.

— Чаму, Пабла? Хіба ты не давяраеш нам? — спытаў Энрыке.

— Ну, што вы? Проста так трэба. Канспірацыя.

— Але ж ты будзеш заходзіць да нас? — зноў зірнула на мяне Хуаніта. «Мілае маё дзяўчо! Я хацеў бы ніколі з табой не разлучацца, каб заўсёды бачыць твае вочы, твой прывабны тварык, такую зграбную постаць...»

— Certamente[1]. І на дэманстрацыю пойдзем разам,— бадзёра сказаў я, быццам нічога не ўбачыў і не зразумеў.

У гэты час у дзверы пастукалі: увайшлі Кармэн і Хасэ з гітарай. Кармэн, смуглявая крэолка, рухавая, хоць і даволі поўная, Хасэ, каржакаваты, з тонкімі цёмнымі вусікамі.

— Салют, кампан'ерас! [2] — крыкнула ад парога Кармэн.— Што гэта вы такія сумныя?

Энрыке адразу расцвіў, як сланечнік, засвяціўся ад усмешкі, падышоў да Кармэн, пацалаваў ёй руку. Хасэ бокам праціснуўся да стала.

— Праўда, што гэта вы насы павесілі? Ні музыкі, ні спеваў не чуваць. Ці не варта трохі падвесяліцца? — паставіў на стол пляшку віна.— Тэлеграфіст Хасэ атрымаў сёння зарплату, дастаў з-пад крыса жакета яшчэ адну пляшку.

— Ого, віва Хасэ! — нягучна сказала Хуаніта.

Мы ўсе нягучна крычым: «Віва Хасэ! Віва!» Хуаніта прынесла шклянкі. Хасэ разліў віно. Выпілі. Хасэ адразу — за гітару, урэзаў такое танга, што ўседзець было проста немагчыма. Энрыке запрасіў Кармэн, а Хуаніта — мяне. У маленькім катуху не было дзе развярнуцца, каб не таўхацца, трэ было шчыльней прыхінацца танцорам, і я так блізка адчуваў Хуаніту, яе гарачае дыханне казытала мне шыю, мне хацелася падхапіць яе на рукі і несці на прастору, дзе можна было б кружыць як захочаш.

— О, гэта я разумею.— На парозе стаяла донна Луіза.— Калі ж і патанцаваць, як не ў маладыя гады.

Шыракаваты твар донны Луізы свяціўся ад радасці і замілавання: яна любавалася сваімі дзецьмі. Увайшоў дон Альберта, тупнуў нагой, прыгладзіў вусы:

— Cara mia[3], давай і мы тупнем! Дакажам маладым! — дон Альберта абняў жонку, але тая адхінулася ад яго, вывернулася з абдымкаў.

— Ты і малады на скокі быў не здатны. А цяпер дык і зусім нічога не варты.

— Порка мізэрыя, Луіза! Не наступай на мой любімы мазоль. Ты ведаеш, я страшны, як леў, калі мяне хто

---

[1] Канечне — *італ.*
[2] Прывітанне, таварышы! — *ісп.*
[3] Мая дарагая — *італ.*

раздражніць,— сказана гэта было жартам, але адчувалася, што дон Альберта пакрыўдзіўся на жонку і наспявала спрэчка. Але тут Хасэ адклаў убок гітару, падышоў да старога:

— Дон Альберта, не трэба гнявацца. Лепш кульніце з намі шкляначку.

— Шкляначку? — павесялеў дон Альберта.— З прыемнасцю. На добрае дзела я заўсёды гатовы.

— Калі ласка, і вы, донна Луіза,— Хасэ паднёс чарку гаспадыні, але тая пачала адмахвацца, аднеквацца:

— Но, но, Хасэ.

А той не адставаў: «Пуес но? (Чаму ж не?) Я атрымаў першую палучку».

— Ну, добра. За цябе, хлопча. За ўсіх вас, маладых,— яна змоўкла, пацерла левае вока.— Радавацца буду. Левае вока засвярбела... І каб ціха было на свеце,— выпіла з асалодай, паставіла чарку.

А дон Альберта яшчэ трымаў чарку, бо і яму хацелася нешта сказаць:

— Порка мізэрыя, Хасэ, дай бог табе добрую жонку. Лепей за добрую жонку нічога не бывае на свеце.

— Дзякуй, дон Альберта, за добрае пажаданне,— адказаў Хасэ і зірнуў на Хуаніту, а тая зірнула на мяне.

— От, стары, разгаварыўся! Быццам ён нешта разумее ў гэтым,— даймала мужа донна Луіза.

— Разумее, калі вас, донна Луіза, выбраў,— не стрымаўся я.

— Хіба ён выбіраў? — узбурылася донна Луіза.— Я выбрала яго. О мадонна! Ён мяне выбіраў!

— Порка мізэрыя! Калі хто і шкадуе, што так адбылося, дык толькі я,— сказаў дон Альберта.

Энрыке з Хуанітай рагаталі, госці таксама, смяяўся і я, бо старыя сапраўды былі пацешныя. Донна Луіза абняла мужа і лагодна сказала:

— Досыць малоць пустое. Пайшлі спаць. Хай дзеці весяляцца.

— Но біен (яшчэ не),— запярэчыў дон Альберта.— Яшчэ шкляначку!

Хасэ наліў яму віна і ўсім нам таксама, толькі донна Луіза была няўмольная — «нон», і ўсё тут.

Мы выпілі за буенавентура (шчасце), і донна Луіза зноў пацягнула мужа, але той быў не супраць кульнуць і яшчэ шкляначку.

— Вуен еста (годзе, досыць),— цвярдзіла сваё донна Луіза.— Хай дзеці весяляцца.

— Вы нам не замінаеце. Я з донам Альберта хацела патанцаваць! — раптам падышла да старога Кармэн.

— О, чуеш, Луіза! А ты кажаш, быццам я стары.

— Праўда, заставайцеся,— сказаў Энрыке, а сам выйшаў у калідор.

— Не, пойдзем. Усяму свой час,— Луіза таксама пасунулася за парог, а следам неахвотна пацягнуўся дон Альберта.

Энрыке вярнуўся, прычыніў дзверы.

— Ну, здаецца, старыя нічога не прыкмецілі. Пабла, чытай.

Я дастаў паперы, але, як толькі пачаў чытаць, за акном пачуўся тупат коней.

— Паліцыянты! Тушыце святло! — Хуаніта кінулася да акна, я схаваў паперку ў кішэнь, намацаў сярнічкі, і калі б паліцыянты спыніліся каля нашага дома, спаліў бы ці з'еў лістоўку. Энрыке выключыў святло, а Хасэ іграў на гітары, як і раней.

— Давайце ў цемры,— прапанавала Хуаніта.

Яна села побач са мной, ціхутка пацiснула маю руку — яе далонька была гарачая і злёгку шурпатая. Мяне ахапіла хваляванне, у горле быццам засеў камяк, але я пачаў гаварыць, імкнучыся быць як мага спакойным.

— Значыць, так, рабочыя раёна Віллі Крэспа ідуць па вуліцы Трыумвератар. Калону ўзначальваюць камуністы. Чырвоны сцяг нясе таварыш Мігель.

— А што мы будзем несці? Дзіцячыя шарыкі? — падала голас няўрымслівая Кармэн.

— Пачакай, сястрыца, не спяшайся,— перапыніў яе Хасэ.— Гавары далей, Пабла.

— Не хвалюйцеся, кожнаму ёсць заданне,— супакоіў іх я.— Хасэ даручана несці плакат «Няхай жыве Першамай — дзень салідарнасці працоўных свету!».

— Наш Хасэ — абандэрадо дэ ла пас [1],— хмыкнула Кармэн.

— А чаму не? — заступіўся за сябра Энрыке.

— Цішэй, кампан'ерас,— сказаў я строгім голасам і, калі яны супакоіліся, дадаў: — Энрыке і Кармэн нясуць лозунг «Працоўныя Аргенціны! Змагайцеся супроць фашызму і замежных манаполій!».

---

[1] Сцяганосец міру — *ісп.*

— Чула? Вось табе і дзіцячыя шарыкі! — упікнуў Энрыке сваю сяброўку.

— У нас з Хуанітай будзе плакат «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!».

— Пралетарыі ўсіх краін...— з хваляваннем паўтарыла за мной Хуаніта.— А дзе ж мы возьмем гэтыя плакаты?

— Мы зробім іх самі,— сказаў я.— Пэндзлі, і фарбы, і матэрыя ў мяне ёсць. Мы з Хасэ будзем маляваць...

— І я таксама ўмею маляваць. Мо сшыць іх трэба? — усхапілася Хуаніта.

— От, нецярпячкі, дайце вы сказаць! — не стрываў Энрыке.

Я бачыў, што мае тэмпераментныя слухачы ніяк не могуць супакоіцца, расказаў, каму што рабіць, пра далейшы маршрут нашай калоны, якая на вуліцы Трыумвератар выходзіць на вуліцу Кар'ентас, сустракаецца з калонай студэнтаў каледжа і кіруе на плошчу 11 верасня. Там выступіць з прамовай генеральны сакратар кампартыі Ганзалес.

— Віва Ганзалес! — нават у паўзмроку я бачыў, што Хасэ сціснуў кулак і падняў яго ўгору.

Мы ўсе напаўголаса выгукнулі «Віва Ганзалес!» і ціха заспявалі «Інтэрнацыянал». Потым доўга мы рабілі плакаты, добра, што Энрыке загадзя падрыхтаваў рэйкі і дрэўка для сцяга. Я міжволі прыгадаў першамайскую дэманстрацыю ў Ліпецку: мы, школьнікі, ішлі калонамі і спявалі песні, махалі чырвонымі папяровымі сцяжкамі. Было так весела, урачыста і хвалююча, так многа сонца, ветрык дзьмуў такі гарэзлівы, вясёлы. Мы крычалі да хрыпаты.

## VIII

Прыгадалася і другое — першамайская сходка ў лесе каля нашай вёскі. Сабраліся мы на ўзлеску ў бярозавым гайку. Бярозы танклявыя, бялюткія ствалы, а галінкі ружова-фіялетавыя — пупышкі набраклі, але яшчэ не раскрыліся, лісцікі драмалі, як сцягі ў чахлах. Завадатарам у нас быў Антось Іванюк. З Вільні яму перадавалі газеты, лістоўкі. Антосеў дзядзька быў у Саветах нейкім начальнікам. Гэта ўсе ведалі. Мусіць, таму выключылі з Віленскай гімназіі Антося. Быў ён малады,

русявы, светлавокі. Антось падбіваў мяне ўступіць у камсамол, маўляў, падгаворым яшчэ некалькі хлопцаў і дзяўчат, створым ячэйку, наладзім сувязь з Вільняй, а то і з Мінскам, пяройдзем граніцу — і да Саветаў.

Мяне цягнула перайсці граніцу, хоць і добра помніла спіна гумовыя палкі жандараў, але душа прагнула волі.

У той першамайскі дзень мы цішком, па загуменні, агародамі, прыйшлі ў бярозавы гай. Раніца была хмурная, ветраная, а потым выбліснула яркае, сляпучае сонца. Антось ускараскаўся на тоўсты пень — тут некалі стаяў таўшчэзны дуб з выгаралым дуплом. Год назад пан загадаў дуб зваліць. Доўга грызлі яго піламі і сякерамі, пакуль нарэшце адолелі. Увесну вакол пня дружна палезлі ўгору атожылкі — маладыя дубкі, і цяпер яны тырчалі вакол пня, нібы нехта паўтыкаў голыя пруткі. Я слухаў Антося і гладзіў адзін такі дубок з набраклымі пупышкамі. Дрэўца было халоднае, настылае пасля ночы, і мне хацелася яго сагрэць сваёй далоняй, дыханнем, і таму я вельмі ўзрадаваўся, калі выбліснула сонца. Але ў мяне пабеглі дрыжыкі, калі Антось загаварыў:

— Хлопцы і дзяўчаты! Дзецюкі! Гэтак некалі звяртаўся да беларускага народа Кастусь Каліноўскі. У сваёй «Мужыцкай праўдзе» ён клікаў народ на паўстанне за свабоду і волю. Тады наш край стагнаў пад ботам царскіх сатрапаў. Цяпер нашу зямлю топчуць пілсудчыкі. Яны не лічаць нас за людзей. Для іх усе мы — «быдла» — так гавораць яны пра беларусаў. Яны зачыняюць беларускія школы, не даюць вучыцца ў інстытутах, забіваюць лепшых сыноў беларускага народа. Летась у Косаве пілсудчыкі расстралялі мірную дэманстрацыю, забілі шэсць чалавек. Зараз у Вільні ідзе судовы працэс. Паны і падпанкі судзяць кіраўнікоў Беларускай сялянска-рабочай грамады... На лаве падсудных пяцьдзесят шэсць патрыётаў. Сярод іх Браніслаў Тарашкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі...

Я слухаў, лавіў кожнае слова Антося. Ён быў прыгожы тады: вецер раскудлаціў залацісты, як восеньскае бярозавае лісце, чуб, твар палаў чырванню, нібы дзікі мак на бульбяным палетку.

— Але пілсудчыкі рана святкуюць перамогу. Яны не задушаць нас. У беларускай грамадзе больш як сто тысяч чалавек. Нам дапамогуць Саветы. У Мінску ство-

раны камітэт дапамогі грамадзе на чале з Янкам Купалам...

Імя Янкі Купалы было добра вядома ўсім. Яго вершы мы чыталі на памяць, мы спявалі іх, як песні. А тут мы грымнулі «Ад веку мы спалі». За спіною Антося чырванню гарэў лозунг: «Далоў фашысцкую дыктатуру Пілсудскага!». Лозунг пісалі мы ўтрох: Антось, Стась Шостак і я. Мы са Стасем і прывязалі яго між дзвюх бярозак. Усе разам дружна праспявалі «Інтэрнацыянал» — запявалі мы з Антосем. Але ніхто не разыходзіўся.

— Дзецюкі! — зноў усхапіўся на сваю трыбуну Антось.— Я сказаў яшчэ не ўсе навіны. Нядаўна пачаўся судовы працэс у Беластоку. Там судзяць 133 камуністаў і камсамольцаў...

— Чуеш, Павел, што робіцца? — таўхануў мяне пад бок Стась.— Перадушаць яны ўсіх нас, нібы куранят. Аднымі прамовамі нічога не зробіш...

Стась пасеяў у маёй душы зерне сумнення.

Пасля абеду мы з братам Пятром вазілі на поле гной. Пятро быў сярдзіты, што выкідаў гной паўдня без мяне. Я сказаў яму, што ў нас будзе сходка, запрашаў яго ісці разам, але ён скептычна ўсміхнуўся ў рудаватыя, абкураныя вусы:

— Не, браток, нікуды я не пайду. Зямля сохне. Заўтра вывезем гной. Бульбу трэба садзіць ужо. Маці і Чэся будуць перабіраць, а мы з табой выкінем гной ад каровы. А тады і ад парсюкоў. Свінчо перагонім у каровін хлеў на дзень. Зараз самая работа, а ты пойдзеш языкі часаць. Дзеля чаго? У турму захацеў? Мяне туды не цягне... Табе не так сходка трэба, як Марысьчына спадніца.

Тут я не стрываў, схапіў брата загрудкі і гэтак трасянуў, што вілы выпалі з яго рук, затрашчаў каўнер кашулі. Пятрок сіліўся вырвацца, твар пачырванеў ад натугі.

— Пусці... Ты што, звар'яцеў? — хрыпеў ён.

— А што ты плявузгаеш? Мне твая Марыська трэба, як папу гармоня,— штурхнуў Петрака, і ён выцяўся спіною аб калёсы, яшчэ болей узлаваўся, з перакошаным ад злосці тварам схапіўся за вілы...

Невядома, чым бы ўсё скончылася, але з хаты выбегла маці і павісла на руках у Петруся.

— Дзеткі мае!.. Апамятайцеся, любыя... Сыночкі мае...

— Гэта ўсё ён, пястун твой,— задыхаючыся, крыкнуў Пятрусь.— Прыб'ю, гада,— ірвануўся ён да мяне, але маці не адпускала яго. Я павярнуўся і моўчкі пайшоў у садок за хату. Праз нейкі час Пятрок з маці павезлі гной на поле, а я вярнуўся ў хлеў, папляваў на далоні і ўзяўся за вілы — з лютасцю кідаў зляжалую, мокрую салому...

З Пятром мы ўсё болей разыходзіліся. На яго, як на старэйшага, леглі гаспадарчыя клопаты. І ён поўнасцю аддаў сябе ім: араў зямлю, касіў сенажаць, будаваў новы хляўчук. Я дапамагаў яму. Але ён часта пакрыкваў на мяне, быў злосны і хмуры. У душы я разумеў, што Пятру трэба жаніцца. А куды нявесту прывядзеш, калі я дома, Чэська падрастае, ужо на дзеўку бярэцца. Аленка выйшла замуж у Максімаўку, нарадзіла дачку і да нас цяпер рэдка заглядвала. Маці часцяком бегала да яе ў адведкі. Ды і пра Марыську Пятрок сказаў не так сабе. Мусіць, ён даўно меў на яе вока, але яна чамусьці гарнулася да мяне.

Неяк напрадвесні мы сабраліся ў Антося пачытаць газеты, прыйшла туды і Марыська разам з Юзяй. Ну, Юзя прыходзіла і раней: у іх з Антосем даўно было сяброўства. І мо нават болей чым сяброўства. Калі мы разыходзіліся ў той вечар, то Юзя затрымалася з Антосем каля хаты, а Марыська ўзяла мяне і Стася пад рукі: «От, кавалеры! Самі дзеўку правесці да хаты не адважваюцца». Мы ішлі па вуліцы. У небе бліскалі зоркі, пад нагамі хрупаў тонкі лядок, і такая звонкая ціша стаяла вакол, што хацелася заспяваць на ўсю моц або падхапіць Марыську на рукі і несці далёка, аж да Віліі, дзе цямнеліся прыбярэжныя кусты. Калі падышлі да Стасевай хаты, Марыська адпусціла яго: «Аднаго кавалера давяла дамоў. Цяпер другога правяду»,— і звонка зарагатала. Стась неахвотна павярнуў на свой падворак, Марыська мацней прыціснулася да мяне, аж гарача зрабілася ад такой блізкасці, сэрца мацней затахкала ў грудзях. Я злаўчыўся і падхапіў-такі Марыську на рукі. «Ой, што ты, здурнеў?! Пусці мяне, мядзведзь ты гэтакі!» — а сама мацней ашчапервала мяне за шыю і раптам нібы апякла — прыліпла да маіх вуснаў.

Так і пачалося ў нас каханне. Жаніцца я не думаў. Ды і як жаніцца: я бедны і Марыська — таксама. У яе

старэйшы брат яшчэ халасцяком гойсаў. Бацька бедны, зямлі — кот наплакаў, адкуль там пасаг возьмеш. Пятрок дачуўся пра мае заляцанні і яшчэ болей пачаў на мяне касавурыцца. А чым я быў вінаваты?

Дзень другога мая выдаўся надзіва цёплы, ціхі. Пятрок успароўся, раскатурхаў мяне: «Уставай! Паедзем араць». Ох, як не хацелася паднімацца! Плечы і паясніца балелі ад учарашняга: выкідаць з хлява гной — цяжкая работа, за зіму рагуля ого як утопча, трэба ўзрываць віламі, браць на пуп. Помню, як бацька некалі гаварыў, кідаючы гной: «Мілая работа, ды дзень малы!» А ўсё якраз наадварот: і дзень з год, і пот вочы залівае, і «арамат» нос набок верне... Затое араць я любіў: ідзеш басанож услед за плугам па свежай разоры, мяккая, лагодна-халаднаватая зямля казыча пяткі, у твар свеціць сонца, у небе заліваецца жаўрук, вакол лётаюць чорныя, як вугаль, гракі. Душа поўніцца шчасцем і радасцю існавання.

Прыцемкам вярнуліся мы з поля. Не паспеў я пасёрбаць вячэру, як у хату ўвайшоў Стась. Зірнуўшы на яго ўстрывожаны, разгублены твар, я адразу зразумеў: нешта здарылася, лыжка пацяжэла ў маіх руках і есці расхацелася. «Выйдзі на хвілінку»,— кіўнуў Стась. «Куды ж вы? Даў бы паесці чалавеку»,— азвалася маці. «Там дзеўкі чакаюць»,— з усмешкай сказаў Стась, але ўсмешка ягоная была невясёлая. «Ты яшчэ не ведаеш?» — «Што здарылася? Кажы хутчэй!» — «Антося арыштавалі. Адвячоркам прыехалі паліцыянты з солтысам і павезлі... Начаваць дома нельга. Могуць і нас зацапаць. Апранайся цяплей. Мо ў лесе дзе схаваемся».— «А болей нікога не шукалі?» — «Ды не. Нехта данёс пра нашу сходку. Але яны, мусіць, вырашылі пакуль нікога больш не чапаць. Бо дзе ж мы падзенемся. У любы час могуць забраць...» — Стась аблізнуў сасмяглыя губы, вочы спалохана забегалі пад бялёсымі бровамі. «Але занадта ж ты перапалохаўся,— міжволі падумаў я,— хоць і дубінак паліцэйскіх яшчэ не паспытаў». Стась чакаў майго рашэння, бо адзін у лес ён не пойдзе. «Ну вось што, ідзі да грушы-дзічкі, што на кургане. Пойдзем да Віліі». Стась кіўнуў у знак згоды. «А іншых ты не папярэдзіў?» — спахапіўся я. «А каго іншых? Дзяўчат браць не будуць. Яны нічога не рабілі. Астатніх хлопцаў таксама. Мы закапёршчыкі...» Так, Стась меў рацыю: калі арыштоўваць, то нас пасля Анто-

ся. Хуценька апрануў я світку, падперазаўся, засунуў за пояс маленькую сякерку, узяў запалкі, скварку і акрайчык хлеба, агародамі падаўся за ваколіцу, кіруючы на Маладзечанскі гасцінец, той самы, па якім некалі ехалі мы ў бежанства.

Груша стаяла ў баку ад гасцінца, на кургане, сярод балоцістага прырэчнага поплаву. Гаварылі ў вёсцы, што некалі нехта жыў на гэтым кургане, але хата і двор даўно згарэлі, засталася толькі груша і трохі воддаль зарослая глыбокая ямка, дзе некалі быў калодзеж. Я прыйшоў першы, агледзеўся, прыслухаўся. На другім канцы нашай невялікай вёскі спявалі дзяўчаты. «Бронік!» — клікаў жаночы голас гарэзу-хлапчука, што недзе яшчэ гойсаў па вуліцы. Ад Віліі напаўзаў туман, засцілаючы ўвесь поплаў белым тоўстым сеннікам. Неўзабаве прыбег задыханы Стась. «Ну, куды пойдзем?» — адразу спытаў ён, нібыта за ім ужо гналіся. «Пойдзем паўз Вілію, тады павернем да Баўтруковага хутара...» — «Там пад таполяй можна пасядзець,— адразу змікіціў Стась.— Туман каля ракі. Вада толькі ў берагі ўвайшла. Сыра. Там не пройдзем. Лепей па дарожцы паўз поплаў». Я не пярэчыў, і мы пайшлі.

Да Баўтруковага хутара было вярсты тры, не болей. Але за гэты час, паўгадзіны, што мы ішлі, усё маё жыццё прамільгнула перад вачамі — усе няпоўныя дваццаць год, пражытыя на белым свеце; як ехалі ў бежанцы, школа ў Ліпецку, як спяваў разам з Лідкай Кавалёвай, настаўніца... Зноў варухнулася думка, якая сядзела ўва мне нібы стрэмка: перайсці граніцу да Саветаў, у Мінск, адшукаць там Янку Купалу. Павінен жа ён дапамагчы беднаму хлопцу, братку-беларусу, які ўцёк ад пілсудчыкаў. Пра гэта я сказаў Стасю, калі мы сядзелі пад таполяй. Стась доўга маўчаў, абдумваў маю прапанову.

— У Мінск дапяць, канечне, было б добра. А куды там дзенешся? Адтуль ужо дамоў дарогі не будзе. А тут жа маці, бацька. Ды як мы збяжым, дык іх пачнуць цягаць. Яшчэ ў турму пасадзяць...

Я ўявіў, як маці вядуць жандары ў турму, яна ідзе з белым вузельчыкам, дзе ўвесь яе скарб, у вачах маці стаяць слёзы... Або жандары гоняць дубінкамі Пятра, лупцуюць яго: «Дзе твой брат Павел? Адказвай, пся крэў!» Шкада стала і Пятра — як-ніяк, родны брат, ра-

зам гадаваліся, пад адной коўдрай спалі. І Чэську шкада.

— Чытаў я ў адной газетцы, што можна паехаць у Аргенціну. На параходзе. Кампанія вярбуе. У горадзе ёсць агент. Трэба запісацца і ехаць у Гдыню. А там на параход. Напісана ў той газетцы, што ў Аргенціне ўсім хапае работы. Краіна багатая. Зямлі колькі хочаш. Уся Еўропа купляе ў яе мяса. Папрацуем там гады тры, заробім грошай, прыедзем сюды, ажэнімся. Любая пойдзе, калі грошы ёсць...

Стась быў здаровы, ладны хлопец, але твар яго задужа абсыпаны рабаціннем, як перапёлчына яйка, і нават на руках былі рудаватыя плямкі і бялявыя кароткія, як у маладога свінчаці, валаскі. Вейкі ў яго былі таксама белыя. Мусіць, хлопец у душы перажываў сваё рабаціннне, бо не надта карыстаўся поспехам у дзяўчат... Ды і мянушку меў «Рудзік», якая таксама не давала яму спакойна спаць. І таму ён, мабыць, марыў мець шмат грошай, каб пайшла любая дзеўка, нават самая прыгажуня, як Марыська ці бялявая Юзя. Ды ці мала прыгожых дзевак у вакольных вёсках! Абы ў хлопца быў надзел зямлі і хата — любая згодзіцца быць у ёй за гаспадыню, абдымаць цябе, дзяцей нараджаць.

І хоць я даўно збіраўся пакінуць вёску, а як прыспела папраўдзе рашацца, галава распухала ад цяжкіх думак. Прыхінуўся я да шурпатага халоднага ствала таполі, пагʼлядзеў угору: высокае, ціхамірна-яснае неба, зорак, нібы маку насыпана. А там, у той Аргенціне, якія зоркі, якія дрэвы там растуць, якія людзі? Усё ж там не гэтакае, і мова не такая.

— А ведаеш, колькі гэтай таполі гадоў? — спытаў раптам Стась.

Дрэва было вялізнае, таўшчэзны ствол як абхапіць утрох і магутная, выносістая крона — на добрых сорак метраў узнесла ў неба сваё голле таполя.

— Ці абхопім удвух,— замест адказу на Стасева пытанне я ўзяў яго за руку, і мы прыліплі да дрэва: як ні цягнуў я сваю далонь, як ні лапаў па кары — Стасевай далоні там, на другім баку дрэва, не было.

— Не, братка, удвух не абхапіць. Утрох трэба. Вось каб Антося сюды, або Марыську, ці Юзю,— уздыхнуў Стась.— А таполю гэту пасадзіў Баўтрукоў прадзед пасля Касцюшкавага паўстання. Гэта было ў 1794 годзе. Вось лічы: там шэсць гадоў, тады сотню прыкінь і тут,

у нашым стагоддзі — дваццаць восем. Сто трыццаць чатыры гадкі. Таполя расце хутка. Во, якая вымахала... Бацька расказваў мне пра тое паўстанне. А яму дзед гаварыў. Ён, дзед, а мне ўжо, значыць, прадзед, таксама ваяваў. Быў у атрадзе Агінскага. І Баўтрук гэты, што таполю пасадзіў. І Антосеў прадзед. Яго тады ў Сібір выслалі. Здаецца, бацька гаварыў, што і твой быў у атрадзе...

— Не ведаю. Відаць, быў. Раз усе, дык і ён,— бацька мне пра гэта не паспеў расказаць, але я не мог згадзіцца, што мой прадзед адседжваўся ў кустах, калі ўсе людзі змагаліся за волю і шчасце.

— У Касцюшкі быў лозунг: «Свабода, роўнасць і братэрства». Гэта ён ад французаў пераняў. І ў іх у рэвалюцыю быў такі дэвіз. Касцюшка камандаваў усімі. Ён генералам быў... Ён раней у Амерыцы ваяваў. За незалежнасць Злучаных Штатаў. Добраахвотнікам пайшоў.

Слухаў я Стася і ўяўляў сабе карціну: стары Баўтрук, магчыма, ён быў малады, саджае танюсенькую таполю, і вось цяпер тут высіцца вялізнае дрэва. Можа, сапраўды і мой бацька ведаў гісторыю гэтай таполі, мо таму і пасадзіў пад акном таксама тапольку, якая цяпер ужо ладнае, моцнае дрэўца. Думкі міжволі перанесліся ў далёкую, невядомую краіну — Аргенціну. Ехаць туды было боязна, невядомасць тачыла сэрца, і ў той жа час хацелася зведаць, як людзі жывуць там, пабачыць свету, бо ўся мая істота поўнілася маладой сілай, і яна шукала выйсця, рукі прасілі работы.

## IX

Карацей кажучы, у тую ноч пад таполяй мы цвёрда вырашылі са Стасем ехаць у Аргенціну, зарабіць там грошай і вярнуцца дамоў. Як рашылі, так і зрабілі. Плылі мы туды на параходзе пад французскім сцягам. Гэта было даволі старое судна, на якім перавозілі розныя грузы і людзей. Багатыя турысты на такім параходзе не падарожнічаюць, а толькі бедныя гаротнікі або шукальнікі прыгод і заробкаў, як мы са Стасем. Было гэтакіх, як мы, некалькі соцень — з усёй Заходняй Беларусі, з Польшчы і з іншых краін. Плылі доўга. Каля берагоў Паўднёвай Амерыкі, ужо каля Бразіліі, нас моцна пакалашмаціў шторм — першы ў маім жыцці.

Нарэшце наша судна стала на якар на рэйдзе Буэнас-Айрэса. Адразу на катэры прыбылі вярбоўшчыкі. На бераг нас не пусцілі, аб'явілі, што гэты самы параход пойдзе далей па рацэ Парана ў горад Санта-Фе. Мы са Стасем падзівіліся: як гэта марскі параход пойдзе па рацэ? Перад вачамі была наша Вілія, па якой толькі на лодках плавалі. Але Парана аказалася гэтакаю шырокаю, што яе берагі нельга было сцягнуць вокам: добрых дзесяць кіламетраў мутна-жоўтай вады. Адзін з вярбоўшчыкаў, тоўсценькі кароценькі чалавек у пенснэ адабраў нас — ну, бачыць, хлопцы здаровыя, маладыя — на будаўніцтва чыгункі ў правінцыі Чака. Абяцаў залатыя горы: праз два гады мы станем багатымі людзьмі, і ўсе радасці жыцця будуць перад намі як на далоні: бяры ад жыцця ўсё, што захочаш.

У Санта-Фе была перасадка. Мы чакалі поезда, хадзілі са Стасем каля вакзала, глядзелі на ўсё як баран на новыя вароты. І раптам падыходзіць да нас сталага веку мужчына ў шыкоўным клятчастым касцюме: «Хлопцы, адкуль вы? Ці не з Беларусі?» Мы сталі, як слупы, ад здзіўлення. «Так, з Беларусі». Давай ён нас абдымаць і прыгаворваць: «Землячкі вы мае дарагія. Я ж таксама з Беларусі». Распытаў ён у нас пра ўсё, тады і кажа: «Ведаеце што, браткі. Чака — гэта пекла. Гарачыня там, бы ў печы. Сонца смаліць, як у пустыні. Зямля што патэльня награваецца. Рабіць будзеце з цёмнага да цёмнага...» — «Мы ж не на курорты сюды прыехалі. Нам абы зарабіць грошай»,— запярэчыў Стась. «Зарабіць-то вы, можа, і заробіце, толькі ці вернецеся адтуль жывымі. Ад трапічнай ліхаманкі паміраюць там еўрапейцы, як мухі... Пакуль не позна — уцякайце. Я вас тут у горадзе ўладкую на працу. Жыць будзеце пакуль у мяне». Схапілі мы цішком свае рэчы і пашыбавалі ўслед за Кандратам, так звалі земляка.

Прывёў Кандрат нас да сябе. Хата ў яго была вялізная, бы стадола, печ, як у нашых вёсках, нават з ляжанкаю. Трымаў ён некалькіх кватарантаў і нам выдзеліў месцы, дзе былі двухпавярховыя нары, у агульным вялікім пакоі, а на другі дзень павёў нас у дэпо. Там нас агледзелі, абмацалі — так на рынку каня купляюць ці карову. Вусаты цёмнавалосы чалавек, не вымаючы з рота тоўстую цыгару, мацаў мае рукі каля плячэй, загадаў сціснуць кулакі. «Буэна, буэна,— паўтараў ён.— Буэна эста!» Я так і зразумеў, што я застаюся, што мяне

бяруць. Узялі і Стася. Вусаты падняў палец угару, паківаў ім строга і з пафасам сказаў: «Травахо а ло буэно!» Кандрат пераклаў нам: працаваць чэсна, добрасумленна. Мы кіўнулі ў знак згоды. Так і стаў я працаваць малатабойцам у дэпо.

Даволі хутка я ўцягнуўся ў работу, трохі асвойтаўся і зразумеў, што раз мы прыехалі не на дзень і не на два, то трэба вучыць мову. Словы я запамінаў лёгка, памалу вучыўся чытаць — іспанскі алфавіт падобны на польскі — тая самая лацінка. Ды і на кожным кроку чуеш іспанскую гаворку, хоць між сабой землячкі гаварылі па-свойму: палякі, італьянцы, французы. Каго там толькі не было! Але дзяржаўная мова іспанская, і ўсе імкнуліся з ёй паладзіць, насабачыцца хоць трохі гаварыць — без мовы, як без рук. Ну, тое, што б'ен — добра, а буэна — добры, буэнас дзіас, буэнас ночэс, ясна — дзень і ноч — гэта засела адразу. Адразу запомнілася, што маль — кепскі, што гэтае самае «маль» — і бяда, і гора, і хвароба. Я сабе падумаў, мо адсюль пайшло наша слова — мала. Бо кепска, калі мала хлеба, мала зямлі, грошай.

Улезла ў душу маль дэ ла ціера — туга па радзіме. Кандрат гаварыў: настальгія — хачу дамоў, а слова гэта грэцкае — грачанікаў паесці ці дранікаў са скваркаю. Кандрат моршчыўся, чухаў свой даволі доўгі і даволі чырвоны ад віна і тытуню нос, маленькія вочкі яго туманіліся, і ён гатовы быў расплакацца. Лёгка запомніў я эль охо — вока, я прыкінуў: охо-око-вока. Як тут не запомніць? А лос охос — гэта ўжо вочы.

Я нават рабіў адкрыцці. Аднойчы кажу Стасю: «Ты ведаеш, што азначае слова рэпенціна?» Той паплюскаў сваімі бялёсымі вейкамі: «Мусіць, рэпетыцыя».— «Карамба, Стась! Рэпенціна — гэта раптоўны. А дэ рэпентэ — раптоўна. Чуеш, гэта ж наша беларускае слова!»— «І праўда»,— гаворыць ён.— «Кара — твар. А ў Расіі ў народзе гавораць — харя. Хіба ж не тое? А каро — ужо зусім іншае. Каро — дарагі, любімы». Стась вытарашчыў на мяне вочы ад здзіўлення. А я яшчэ болей яму падкідаю: «Ведаеш, зямеля, што значыць лентаментэ?» — «Ведаю. Павольна, марудна».— «Так, праўду кажаш. А па-руску — медленно. А па-іспанску — лентаментэ. А давай перавернем — менталентэ — медленно. Чуеш?» — «Карамба, Паўлюк,— зарагатаў Стась.— Ты скора мясцовым дзяўчатам будзеш у каханні прызна-

ваціца па-іспанску. Ад цябе і я троху наваструсяся». І каб канчаткова здзівіць Стася, я дадаў: «А лос буэнос і серас уно дэ элос. Па-руску гэта азначае: с кем поведешься, от того и наберешься. З цябе літр кебрача — буду вучыць».

Што такое кебрача, Стась ужо ведаў. Як мы атрымалі першую палучку, Кандрат павёў нас у італьянскі шынок — невялічкае кафэ, заказаў адразу тры літры віна кебрача. Мы са Стасем пераглянуліся: ці не замнога, ці хопіць нам расплаціцца? За другім столікам сядзелі італьянцы, пазіралі на нас. «Трэба іх таксама пачаставаць. Такі звычай». Пярэчыць не выпадала, звычаі трэба паважаць. Італьянцы ахвотна выпілі з намі па шклянцы віна, Кандрат сказаў ім, што прыехалі яго землякі з Польшчы, замочваем першы заробак. Італьянцы паляпалі нас па плячах і зноў узяліся за свае макароны, загаварылі яшчэ гучней, энергічней замахалі рукамі, а пра нас і забыліся.

Неўзабаве мы і апрануліся, як усе тут рабочыя людзі: белыя штаны, шэрае мультовае понча, гэта калі халаднавата, а так — тэніска, хусцінку на шыю, на ногі альпаргаты — пяньковыя пасталы — прыдбалі і сталі сапраўдныя лінжэра — чужаземцы. Шмат іх было тады ў Аргенціне: грэкі, туркі, іспанцы, італьянцы, а больш за ўсё палякаў, таму што палякамі называлі і ўкраінцаў, і беларусаў. З Расіі ехалі сюды яшчэ да першай сусветнай вайны, уцякалі недабітыя белагвардзейцы і розная поскудзь, а пасля Кастрычніка сыпанулі сюды хлопцы з Заходняй Беларусі і Украіны. Узімку лінжэра збіваюцца ў гарады, спяць у начлежках, як у нашага Кандрата, удзень бадзяюцца, шукаюць, дзе б зарабіць якую капейчыну. Улетку яны распаўзаюцца, як саранча па пампе: аруць зямлю, барануюць, косяць сена, снапы вяжуць. Зведаў і я такога хлеба. Але пра гэта потым.

Пакуль што мы са Стасем працавалі ў дэпо. Лайдакамі мы не былі, беларучкамі — таксама. Пачалі трохі болей зарабляць: спачатку па два песа ў дзень, тады па тры, бывала, і па чатыры. Кожную суботу атрымлівалі палучку. Грошы нібы пяклі далоні, шамацелі таямніча ў кішэні.

Ох, цяжка было данесці гэтыя грошы да дому ў суботу. Вакол столькі спакусы: дзяўчаты з нафарбаванымі роцікамі, з якіх тырчаць цыгарэткі, проста хапаюць за

руку: «Пойдзем, хлопча, са мной. Дорага не вазьму...» Адкараскаешся ад гэтых блудніц, хлопчык-газетчык падлятае: «Купіце «Карэра». «Карэра дэ ла ночэ». Забойства ў ванным пакоі». Хоцькі-няхоцькі лезеш у кішэнь па манетку. Газеты трэба праглядаць, мову адольваць ды і ведаць, што дзеецца на свеце. Што пішуць пра Гітлера, пра Пілсудскага. Ідзеш далей, а тут тлусценькі панок у жоўтым касцюме крычыць табе ледзь не ў самае вуха: «Паўднёваамерыканская любоў... Зайдзіце ў наш самы лепшы ў свеце бар. Дваццаць дам танцуюць і спяваюць...» Адмахнешся ад гэтага прыліпалы, зірнеш на вітрыну — стаяць голыя манекеншы ў карунках. У кіёску здалёк відна крыклівая вокладка: «36 спосабаў кахання мужчыны і жанчыны». Хоць ты ідзі заплюшчыўшы вочы.

А яшчэ цяжэй не распусціць зарobленыя грошы за выхадны дзень, дажыць да панядзелка, каб пасля работы аднесці іх у банк. Рабіць гэта параіў нам Кандрат, бо калі не здаваць, абавязкова аблапошаць, а то і заб'юць дзе-небудзь. А банк усё-такі пяць працэнтаў будзе плаціць. У Стася аж рукі трэсліся, калі грошы лічыў, ён гатовы быў не есці, не піць, каб толькі болей грошай назбіраць.

Праўда, аднойчы і ён не вытрымаў. Неяк ішлі ў суботу з палучкай. Вечар цудоўны — вясна пачыналася. Між іншым, вясна па-іспанску прыгожа называецца — прымавера! І кветкі вясеннія — таксама — прымавера, і шоўк у кветы — тое самае. Мы ўжо больш года пражылі ў Санта-Фе, другую вясну сустракалі на чужыне. Прыехалі мы ў чэрвені, акурат на пачатку зімы. Нам пашанцавала, што трапілі да Кандрата — у яго была адзіная начлежка з печкай. Астатнія не абаграваліся, самі лінжэра ўласным духам грэліся, і паветра там было такое, што хоць тапор вешай. У Аргенціне няма ні печаў, ні батарэй з гарачай вадой, маўляў, і так цёпла. А ў чэрвені, асабліва ў ліпені, як падзьме пампера — ледзяны вецер з поўдня, халадэча, аж зубы клацаюць. Там усё наадварот: на поўдні — лядоўня Антарктыды, на поўначы — гарачыя тропікі. І калі на Беларусі лета, дык у Аргенціне зіма, халодны дождж і люты пампера.

Дык вось ішлі мы са Стасем у суботу. У той тыдзень няблага зарабілі. «Мо па шклянцы кебрачы кульнем, га? А то нешта сумна»,— уздыхнуў Стась. Сказана —

зроблена. Выпілі, з'елі па порцыі соусу з перцам, павесялелі трохі. Пацягнула нас да Параны. На ніжніх вуліцах, што цягнуцца паўз бераг ракі, шмат невялікіх катухоў налеплена — там самая танная любоў. Стаяць размаляваныя кралі, так і ліпнуць. Стась загаварыў з адной, да мяне таксама падляцела красуня, далёка не першай свежасці, танканогая, плоская, як дошка. Стась падміргвае: давай застанемся. Мусіць, ад віна разамлеў і я, а гэтая шлюндра прыльнула: «Вы мне так падабаецеся. Усяго два песа... Два песа за любоў». Зрэшты, два песа невялікія грошы. З матросаў яны дзяруць паболей, а з нас, бедных лінжэра,— самы мінімум.

Тым часам Стась ужо нырнуў у катух са сваёй дамай. І мяне краля пацягнула. Іду як не сваімі нагамі, як у сне ўсё роўна. Завяла ў бакоўку, завешаную бруднай жоўтай шторай, спрытна скінула халацік з карункамі і стаіць перада мной, у чым маці нарадзіла... Ускінула мне рукі на плечы, давай абдымаць, цалавацца лезе. Ударыў у нос пах танных духоў і цыгарэтнага дыму... Стаю, як абвялы, а яна мяне абдымае:

— Такі малады. Здаровы мужчына...

І так мне зрабілася брыдка. І яе шкада, жанчыну гэту, бо не ад салодкага жыцця прадае яна сябе.

— Не крыўдуй, не магу я так...

Яна села на ложак, закрыла твар далонямі. Я кінуў ёй на калені два песа і даў дзёру.

Іду нібы пабіты сабака. Галава як чыгунная, пра Марыську падумаў. І не тое каб моцна любіў яе, і пісем ад яе даўнавата не было, ды і з дому пісалі рэдка. І такі настрой быў паганы. Выйшаў на шырокую авеніду. Дамы тут прыгожыя, белыя, чыстыя, як новыя, пальмы стаяць, прысадзістыя, тоўстыя, а кроны нібы веера, выразаныя з бляхі. Як падзьме вецер, лісты загайдаюцца, і такое ўражанне, быццам стаяць жанчыны і веерамі абмахваюцца. Паўз тратуары падстрыжаныя кусты самшыту, цвёрдыя, моцныя, як жалеза, сям-там кактусы свае калючкі навастрылі, быццам вожыкі. Зрэдку прабідалася высокае тоўстае дрэва — кебраха, цвёрдае, як наш дуб, і чырвонае, нібы медзь. І ўсё тут падалося гэтакім чужым, ненатуральным, усё з калючкамі і шыпамі.

Прыгадалася родная вёска, Вілія з яе чыстай вадой — хіба параўнаеш з гэтай мутнай Паранай,— таполя пад акном, што з бацькам пасадзілі, успомнілася старая

таполя на Баўтруковым хутары, якую мы са Стасем абдымалі і пад якой рашылі ехаць на пошукі шчасця. І так мяне пацягнула дамоў, што, здаецца, пехатой бы пайшоў, на каленях бы поўз, дзень і ноч бы ішоў, каб толькі дамоў, у сваю вёску. Забяру свае грошы з банка — назбіралася трыста песа,— на дарогу хопіць, паеду дамоў.

Прыцягнуўся ў начлежку, а там ужо Стась, вясёлы, расчырванелы, расказвае, як я збег ад кабеты. Рагочуць усе, заліваюцца.

— Га, з'явіўся нецалованы. Ты яшчэ сасунок, аказваецца,— рагоча Кандрат.— Голай бабы не бачыў...

Каб хто другі гэта сказаў, я даў бы аплявуху, а Кандрата чапаць не адважыўся. Залез на свой ложак, накрыўся з галавой, каб не чуць рогату і кпін. А палове дванаццатай Кандрат звычайна выключаў святло, і ўсе распаўзаліся па сваіх ложках. У той вечар у цемры мяне яшчэ доўга даймалі кпінамі суседзі, нарэшце ім надакучыла, ды і сон іх змарыў.

Заснуў я позна, і прысніўся мне сон. Нібыта ідзём мы з Марысяй полем. Вечарэе. Сонца чырвонае, нізкае. Вакол — жыта, высокае, роўнае, сцяною стаіць. У жыце васількоў процьма, аж сіне. Давай Марыся васількі рваць і вянкі плясці. Яна пляце, а я кветкі зрываю і падаю ёй. У васілька сцябло моцнае, аж палец рэжа. Спляла Марыся два вянкі, адзін надзела на галаву, другі дае мне, а сама спявае:

Сягоння купалле, а заўтра Ян.
Зайграй, сонейка, зайграй нам,
Каб у ясным небе звінела,
Каб сырая зямліца стагнала
Ад дзявоцкага гуляння,
Ад жаноцкага спявання...

Гляджу на Марысю — гэтакая яна прыгожая, вачэй не адвесці, і так ёй васількі да твару. Пойдзем, кажа, да Віліі, пусцім вянкі на ваду, калі яны сыдуцца і кветачкі-лісточкі сплятуцца, тады добра, будзе вяселле. А калі не сыдуцца, то з нашага кахання нічога не будзе. Адны сардэчныя мукі, пакуты... Падхапіў я Марыську на рукі, яна абняла мяне, цалуе. І так мне хараша, радасна, лёгка. Здаецца, іду, нібы на крыллі лячу, век бы нёс яе на руках. Выйшлі мы каля таполі, што на Баўтруковым хутары. Апусціў я Марысю на зямлю, узяў за руку і па-

вёў да таполі. Кажу, вось тут мы са Стасем рашылі ехаць на край свету, у Аргенціну, спрабавалі абхапіць дрэва ўдвух. «Паспрабуем мы з табой»,— гаворыць Марыся. Прыніклі мы да дрэва, у маёй левай руцэ гарачая Марысіна далонька, а правай далоняй я жартам лапаю па дрэве, спрабую дацягнуцца, і раптам нехта цап мяне за пальцы і сціснуў, быццам рак кляшнёй, і голас брата, Петруся: «Я вам дапамагу. Удваіх не абхопіце». Самога яго не бачу, а толькі голас чую. Тут Марыська войкнула, нібы ад болю, і адпусціла маю руку. Гляджу, Пятрусь цягне яе ў жыта. Я схапіў яго за каўнер: «Ты што гэта робіш? Адпусці яе, а то я цябе прыб'ю!» А Марыся як кінецца яму на шыю, як заплача: «Не чапай Петруся! Ён жа твой брат». І яны пайшлі. А я сеў пад таполяй ды як заплачу... А таполя ўся чырвоная, барвовая, недалёка вогнішча гарыць. Дзяўчаты, а сярод іх Юзя, Чэська, малодшая мая сястра, водзяць карагод і спяваюць:

Купала, Купала,
Што ў цябе прапала:
Ці мёд, ці гарэлка,
Ці красная дзеўка?
— Не мёд, не гарэлка,
А красная дзеўка...

Тут я прачнуўся. Падушка была мокрая. Відаць, я сапраўды плакаў у сне. Ляжу і думаю: што за сон такі? Чаму раптам купалле? Цяпер жа на Беларусі зіма самая. І песень я, здаецца, не ведаў гэтых. Чуў іх некалі, думалася, што забыў іх даўно, аказваецца, помню. Думкі розныя ў галаву палезлі: ці не здарылася там дома што? Марыся даўно не піша, і маці маўчыць. Пятрок толькі адзін раз напісаў: грошы прасіў, каб купіць лесу на прыбудову да хаты. Адаслаў я тады сорак долараў, пазычыў у Кандрата, бо сам ледзь зводзіў канцы з канцамі. Адказу не атрымаў ад яго, затое маці надта ўжо дзякавала, бо прыбудова атрымалася ладная, і ў хаце месца паболела, а то было не павярнуцца.

Увесь дзень сон не выходзіў з галавы, я ўсё думаў пра Марысю і Пятра. Марысьцы наспеў час замуж, у сваіх пісьмах я нічога ёй не абяцаў, і невядома, калі адсюль выберуся. Словам, думаў я, думаў і ўвечары накатаў ліст маці і, як бы між іншым, заікнуўся, чаму Пятрок не жэніцца, што добрая дзеўка Марыся і не бедная, што я нагледзеў сабе тут нявесту, дачку ўладаль-

ніка фрыгарыфіка (мясакамбіната) і буду жыць як сыр у масле. І адаслаў ліст.

Тыдні праз тры-чатыры сон мой разгадаўся — Стасю прыслалі пісьмо, сярод вясковых навін: ураджай быў кепскі, падаткі няма чым плаціць, што Антося як забралі ў паліцыю, так ён і не вярнуўся. Была і яшчэ адна навіна: Пятрок ажаніўся з Марысяй. Стась сказаў мне пра гэта з ухмылкаю: «А ты, дурыла, вернасць ёй беражэш. Думаў, яна цябе чакаць будзе, слёзы ліць...» — «Я нічога ёй не абяцаў. У каханні мы не кляліся,— сказаў я спакойна.— Дзеўцы даўно замуж час. Чаго яна будзе сохнуць?» — «Але Пятрусь адкалоў нумар. На твае грошыкі зрабіў прыбудову і прывёў туды тваю нявесту»,— пацвельваўся Стась. «Якую нявесту? Глупства гародзіш»,— адбіваўся я. «Не бядуй. Тут столькі дзевак. Абы грошы. Кажуць, з Францыі, з горада Бардо новы бардзель прыехаў. Бабкі — люксік. Пальцы абліжаш. Пайшлі, га?» — «Ідзі ты...» — я загнуў такога мацюка, што Стась адразу адскочыў ад мяне, спужаўся, што магу гваздануць між вачэй.

Стась болей пра Марысю не гаварыў ні слова, затое другім расказаў. Усе жыхары начлежкі і сам Кандрат, гаспадар яе, глядзелі на мяне са шкадобай, не насміхаліся. Мусіць, бачылі, што хаджу як цень, ды і сілу маіх кулакоў ведалі.

## X

У суботу ішоў я з палучкаю, хоць і зарабіў тады малавата — пацягнула ў пульперыю (сталоўку), захацелася выпіць. Галава ад гэтых думак была цяжкая, як бязмен. Есці ані не хацелася. Узяў літр кебрачы і апрастаў яго як сапраўдны мужчына — мачо. Між іншым, мачо — гэта і кузнечны молат, і слуп, і дурань, і здаровы, дужы мужык. Шмат чаго азначае гэтае слова. Выжлукціў я літр віна і павесялеў. Ногі самі панеслі ўніз да Параны. Іду, азіраюся, а перад вачмі стаіць тая самая краля, ад якой так уцякаў. Мне і сорамна яе ўбачыць, і ў той жа час хочацца даказаць, што я — мачо. Бачу, стаіць у дзвярах хаціны танклявае, маладзенькае дзяўчо, не размаляваная «каратоння» — старая, непрыгожая кабета, якая маладзіцца,— а сімпатычная дзяўчына. Падышоў бліжэй, спыніўся, моўчкі пазіраю: язык прымёрз у роце. І яна маўчыць, утаропіла на мяне вочы.

У мяне ўсе словы вылецелі з галавы, стаю як слуп, а не мачо-мужчына.

Нарэшце яна ўсміхнулася куточкамі ружовых поўных вуснаў, на правай шчацэ ямачка ўтварылася, і так захацелася пацалаваць гэтую ямачку, я дастаў з кішэні два песа, паказаў ёй, яна кіўнула, узяла мяне за руку, і я паслухмяна, як цялё на бойню, пайшоў за ёй. Быў я малады, здаровы. Жана, так звалі дзяўчыну, даволі вопытная, хутка абудзіла маю мужчынскую сілу. Жана была надзіва ласкавая, пяшчотная, у маіх абдымках яна гучна смяялася, спявала ад радасці... А колькі пяшчотных слоў шаптала мне на вуха! Потым расплакалася, горача пацалавала мяне і сказала: «Каб мне такога мужа! Ты такі прыгожы, дужы. Я б цябе так любіла. Я была б самай вернай жонкай...»

Калі сцямнела, яна прапанавала пайсці пагуляць, бо скора вернецца яе маці. Вечар быў цёплы, нават душны. Мы доўга блукалі па беразе Параны. У яе цёмнай роўнядзі люстраваліся агні ліхтароў, зрэдку праплывалі ярка асветленыя параходы, там чулася музыка, песні. Вакол аглушальна стракаталі цыкады. Ад вады павяваў свежы ветрык, і хмель мой памалу выветрыўся. Жана расказала пра сваё жыццё: родам яна з Югаславіі, бацька прыехаў сюды, уладкаваўся працаваць на фрыгарыфіку, потым яна з маці таксама прыехала ў Санта-Фе. Пакуль бацька працаваў, сяк-так перабіваліся, а як пачалася забастоўка, бацьку звольнілі, бо ён быў членам прафсаюза. Разам з іншымі забастоўшчыкамі ён амаль штодня стаяў пікетчыкам — не пускалі на фрыгарыфік штрэйкбрэхераў. Аднойчы бацька ўвечары не вярнуўся дамоў. Назаўтра яго знайшлі ў канаве з праламаным чэрапам. Для Жаны і яе маці пачаліся чорныя дні. На работу іх нідзе не прымалі, гаспадар прагнаў з кватэры, і, каб не памерці з голаду, Жане давялося сваё хараство і маладосць прадаваць.

— Маё сапраўднае імя — Іванка. Ты першы мужчына, які не выклікае ў мяне агіды... Ты будзеш заходзіць да мяне, Мішэль? — я спачатку назваўся французам Мішэлем.— Ты не забудзеш бедную Іванку?

— Я не Мішэль, Іванка. Мяне завуць — Павел. І ніякі я не француз. Я — беларус. Чула пра Беларусь?

— Не, не чула. Я кепска чытаю. Толькі магу распісацца. У нас дома дзяўчаты з бедных сем'яў не вучыліся...

У парыве нейкай шчырасці і адкрытасці я расказаў пра Марысю, што мой брат ажаніўся з ёй... Іванка горача абняла мяне, пагладзіла па валасах, і гэтак пяшчотна, ласкава, што я забыў пра ўсё на свеце.

Пад раніцу прыцягнуўся ў начлежку Кандрата. Я быў страшэнна стомлены, калені дрыжалі, ногі падкошваліся. На душы і ў кішэнях было пуста: дваццаць песа — увесь заробак за тыдзень я аддаў Іванцы. Яна не хацела браць, але я сілай усунуў ёй грошы ў руку і цвёрда сказаў: «Бяры! У мяне ў банку цэлых пяцьсот песа...» — «Ого, дык ты не бедны, омбрэ акомададо (забяспечаны чалавек)»,— здзівілася Іванка і прасіла мяне не забываць пра яе. Яна будзе чакаць і не зірне болей ні на аднаго мужчыну.

Ля паўдня праваляўся ў ложку, потым наскроб у кішэні некалькі сентава, пасёрбаў у пульперыі талерку супу, які называецца тут — пучэра, у ім бручка, перац, батата — салодкая бульба — і тушонае мяса. Вярнуўся ў начлежку і зноў лёг. Адчуваў сябе пагана, быццам за адну ноч пастарэў на дзесяць гадоў. Падвечар, калі ў начлежцы, апроч мяне, нікога не было, зайшоў Кандрат, патупаў каля майго ложка.

Я ляжаў, заплюшчыўшы вочы, сашчапіўшы рукі за галавой, як сціскаў яе, каб не лопнула ад цяжкіх дума. «Што ты заваліўся рана, га? Можа, захварэў?» — пытаецца Кандрат. Не, кажу, не захварэў, проста стаміўся. «Мо грошай няма? Магу пазычыць колькі песа. Потым аддасі. Схадзі прагуляйся. Працэнтаў я з цябе не вазьму». Я адмовіўся ад яго грошай. Кандрат здзівіўся, бо начлежнікі-лінжэра ўсяляк спрабавалі выпрасіць у яго капейку, давалі свае сундукі ў заклад, каб толькі пазычыў. «Ты, хлопча, не бядуй,— дакрануўся ён да майго локця.— Малады, здаровы. Усё яшчэ ў цябе будзе. І на брата не злуй. Мусіць, моцна ён палюбіў, раз на такое пайшоў. І яна дзеўка адважная. Не пабаялася, што языкамі абмываць будуць... Хай жывуць. Ты сабе знойдзеш. І зла не таі. Цяжка жыць, калі камень на сэрцы будзеш трымаць...»

Моцна кранулі мяне гэтыя словы Кандрата. Я прыўзняўся на ложку. «Дзякуй вам, дзядзька Кандрат, на добрым слове. Мне ўжо лягчэй стала».— «То-та ж, сынку, Кандрат — не дурань. Увесь свет аб'ездзіў. Круціўся бы шкурат на агні... Усяго нагледзеўся. Рэдка, браце, чалавек бывае шчаслівы. Каб сыты быў, задаволены

і каб душа не смылела. Бывае, хлеб ёсць, квасу — няма, квас ёсць — хлеба няма. Калі жратва ёсць, на жонку не пашанцуе. А бывае, і баба добрая, і хлеб ёсць, і дом вялікі. А непрытульна ў ім. То дзеці не радуюць, то душа баліць па радзіме. У чужым краі толькі вецер зжаліцца. Адзін аднаго людзі ядуць, што ваўкі».

Згадаўшы пра Антося, я падумаў, што мая мара назбіраць грошай і купіць сабе зямлі, хутар — гэта здрада, кулацкая задума. Разварушыў мяне Кандрат. І ў яго, аказваецца, душа баліць па радзіме. Я ведаў, што ён аднекуль з-пад Віцебска, быў дзеншчыком белагвардзейскага палкоўніка і той угаварыў яго ўцячы за мяжу. Палкоўнік асеў дзесьці ў Парыжы, а дзеншчыку давялося ехаць за акіян. Праўда, не галадае тут Кандрат, пуп не рве ў працы, а шчасця не мае. І выходзіла так, што толькі на радзіме можна жыць па-людску, вольна і шчасліва. Заснуў я тады супакоены, быццам вырашыў для сябе нешта надзвычай важнае, нібы адкрыўся для мяне новы свет.

## XI

У панядзелак я зняў з рахунку ў банку дзесятак песа, каб дацягнуць да палучкі. Працаваў з усяе сілы: трэба ж памагчы Іванцы — не ісці ж да яе з пустымі рукамі.

Настрой трохі палепшыўся, я зноў убачыў неба над галавой. Але ў пятніцу раніцай мяне выклікалі ў кантору. Хмуры чыноўнік у чорных акулярах аб'явіў, што заўтра я працую апошні дзень: гаспадар звальняе мяне з работы.

— За што? Хіба я кепска працую? Майстар заўсёды мяне хваліць. Я ні разу не спазніўся. Можа, гэта памылка?

— Не, гэта не памылка,— чыноўнік зняў акуляры, пацёр шкельцы бялюткай насоўкай, уссадзіў зноў акуляры на нос і ўважліва паглядзеў на мяне, быццам бачыў упершыню.— Вы — небяспечны чалавек. Ун локо асе сіенто,— ухмыльнуўся, уткнуў нос у паперы, не зважаючы на мяне. Я сціснуў кулакі і ледзь стрымаўся, каб не ўрэзаць яму па акулярах за апошнія словы: паршывая авечка ўсю чараду псуе. Але што паробіш? Адзін у полі не воін. Я пастаяў моўчкі, канторшчыкі па-

дазрона касавурыліся на мяне. «Нехта нагаварыў. Няўжо Кандрат накляпаў?» — падумаў я і пайшоў з канторы. Потым выклікалі Стася і звольнілі таксама.

— Што ж нам рабіць? Паміраць з голаду? — гугнявіў ледзь не праз слёзы Стась.— Гэта ўсё праз цябе. Ты ўсё расхвальваў на ўсе лады Савецкую Расію. А Каплуноў данёс.

Стась гаварыў праўду. Даўно я адчуваў, што недабіты белагвардзеец Каплуноў ненавідзіць мяне. На першым часе ён падлізваўся, усё выпытваў, называў мяне земляком — ён родам з Тамбоўшчыны. Іншыя рабочыя таксама часта пыталіся ў мяне пра жыццё ў Расіі, прасілі расказваць. А цяпер Каплуноў накляпаў, ён зеленеў ад зайздрасці, чарнеў ад нянавісці, калі я гаварыў, як вучыўся ў Ліпецку ў школе, як жывуць там рабочыя, што яны любяць Савецкую ўладу, не мог даравацъ, што я працую які-небудзь год, а майстар даручае мне газаэлектразварачныя работы, а ён, стары хрыч, ужо шэсць гадоў тут і ўсё падсобным рабочым. Майстар быў не дурань: які сэнс вучыць спецыяльнасці старога пня, які да гэтага часу не запомніў і паўсотні іспанскіх слоў.

Шкада было траціць работу, дзе ўжо асвойтаўся і прывык, перад Стасем чуў сябе вінаватым. Колькі дзён хадзілі мы з ім па горадзе — шукалі работу. Нідзе нас не ўзялі, нават у порт грузчыкамі не ўбіліся. Стась зусім раскіс. Як мог, суцяшаў яго.

— Стась, не бядуй. Зараз лета. Паедзем на правінцыю. У пампе сенакос пачынаецца. Не прападзем. Гаварыць трохі можам. Рукі і ногі ёсць. Адэланто, аміга! (Наперад, дружа!)

Вырашылі мы ехаць у Тукуман, дзе ў пампе ў разгары былі летнія работы. Перад ад'ездам мне хацелася развітацца з Іванкай — хоцькі-няхоцькі я ўсё часцеў думаў пра яе. І яшчэ была адна справа, яшчэ адно развітанне.

— Паслухай, Стась, а што, калі перад ад'ездам аддзячыць гэтаму белагвардзейцу? Ён — правакатар са стажам. Колькі чалавек ён выдаў! Некаторых нават арыштавалі па яго даносах.

— Варта б з ім разлічыцца. Толькі як? — зірнуў на мяне Стась.

Мы тут жа распрацавалі план аперацыі: даведацца, дзе ён жыве, высачыць, як ён ходзіць дамоў з работы, перастрэць яго. Тым часам самім падрыхтавацца ў даро-

гу, рэчы — а якія ў лінжэра рэчы: вузялкі ды пончa — здаць на вакзале, каб адразу на цягнік.

Пакуль Стась — а ён выклікаў у Каплунова менш падазрэнняў — займаўся разведкай, я ў адзін з вечароў пайшоў на ніжнюю вуліцу, да Параны. Ногі самі прынеслі да хаціны Іванкі. Дзяўчыны ля парога не было, дзверы зачыненыя знутры. Я наблізіўся да акенца, з хаты пачулася вясёлая гамана: мужчынскі і жаночы галасы, вясёлы гучны смех. Гулліва і бесклапотна смяялася Іванка. Мяне быццам абухом па галаве стукнулі, скаланула ўсяго ад гэтага смеху, і я подбегам кінуўся прэч. Ішоў паўз раку, дзе мы тады гулялі з Іванкай. Памалу супакоіўся, ушчуваў самога сябе:

«Які дурань! Захацеў вернасці ад прастытуткі. Здраджваюць каханыя, жонкі, а чаго патрабаваць ад жанчыны лёгкіх паводзін, якая з гэтага занятку жыве...— Але ў душы паднімаўся пратэст супраць такой развагі.— Іванка не вінаватая. Жыццё прымусіла яе... Не паміраць жа ёй і маці галоднай смерцю...»

І зноў я прыходзіў да высновы: ва ўсім вінаваты капіталісты, багацеі, яны ўладараць у гэтым несправядлівым, бесчалавечным свеце. Яны ўсё захапілі ў свае рукі і душаць простых людзей, рабочых. І чаму гэтак заведзена, што працуюць усе разам, а пажынае плён нехта адзін, які палец аб палец не ўдарыў, каб нешта зрабіць? Так жыве ўладальнік дэпо, фабрыкант, банкір, гандляр. І пасабляе ім цэлая гайня жандараў, паліцыянтаў, легіянераў і такіх слімакоў, як белагвардзеец Каплуноў.

Надышоў апошні дзень перад ад'ездам. Зайшлі мы са Стасем у пульперыю, добра падсілкаваліся, бо невядома калі давядзецца абедаць. Грошай у нас троху было. Мы ўзялі з сабой па паўсотні песа, пад пахай я прышыў да кашулі кішэню, схаваў туды банкаўскую кніжку. Потым мы хадзілі па вуліцах, назіркам сачылі за домам, дзе жыў Каплуноў. Лепей за ўсё перастрэць яго на скрыжаванні, непадалёк ад трамвайнага прыпынку. Каплуноў або прыедзе трамваем, або будзе ісці пехатой, але гэтай павароткі яму не мінуць. Стась пайшоў да прыпынку, а я за павароткай хадзіў па тратуары, цікуючы за домам, невысокай, прысадзістай мураванкай, дзе здымаў кватэру Каплуноў. Паўз тратуар раслі пальмы, таўставатыя, як агаленыя бручкі ці карані хрэну. Ужо бралася на вечар. Я падумаў, што мы праваронілі «землячка», як раптам з-за павароткі высунуліся дзве

постаці: Стась і Каплуноў. Я схаваўся за дрэва, здалёк пачуў, што Стась просіць земляка пазычыць грошай на дарогу, бо хоча ехаць дамоў, у Польшчу.

— Што ты, пабойся бога! Адкуль у мяне грошы? Вы ж маладыя, здаровыя, маглі зарабіць. А я толькі на пахлёбку...

Гаварыў ён з лёгкім заіканнем, расцягваў словы — выпіў дзесьці кебрачы, нягоднік, мусіць, падачку атрымаў ад гаспадара.

Кулакі мае міжволі сціснуліся. І ў той жа час стала шкада яго, па сутнасці, няшчаснага чалавека, які заблытаўся ў жыцці, страціў зямлю, радзіму, гонар, сумленне. Стась з Каплуновым падыходзілі бліжэй, спыніліся метры за тры ад мяне: Стась папрасіў закурыць, Каплуноў палез у кішэню галіфэ — так, ён насіў галіфэ, шыў на заказ. Вокамгненна я адштурхнуўся ад дрэва, як баксёр ад канатаў рынга, кінуўся на яго. Стась закрыў далоняй Каплунову рот, а я з лёту садануў кулаком у скіўцу, аж храснула костка. Удар быў настолькі моцны, што Стась, які трымаў Каплунова, ледзь устаяў на нагах, а «бяляк» з хрыпам у горле пачаў асядаць на зямлю. Стась урэзаў яму пад дых. Ад болю і страху Каплуноў дзіка вытарашчыў вочы, твар яго перакрывіўся, мусіць, я звярнуў санкі, падаючы, ён выцяўся галавою аб дрэва. Стась даў яму яшчэ нагой, і мы кінуліся за паваротку. Насустрач з цяжкой сумкай плялася бабулька, спалохана адступіла ўбок. На прыпынку стаяў трамвай, мы ўскочылі ў яго і праз паўгадзіны былі на вакзале. У той жа вечар цягнік памчаў нас у Тукуман.

Праўда, да самога горада мы не даехалі: пабаяліся, раптам белагвардзеец заявіў у паліцыю і нас шукаюць па гарадах, а ў пампе ніхто не знойдзе — гэта ўсё роўна што шукаць іголку ў стозе сена. Пра Тукуман я шмат чуў. Мясцовыя жыхары, так званыя крыажо, патомкі выхадцаў з Іспаніі, Італіі, Францыі, бацькі якіх прыехалі сюды сто, а то і дзвесце год назад, вельмі паважаюць Тукуман. І вось чаму: у 1816 годзе кангрэс аб'явіў у гэтым горадзе незалежнасць Ла-Платы — гэтак называлася тады дзяржава. Аргенцінай — ад лацінскага слова аргентум (серабро) — яна стала называцца праз дзесяць гадоў пасля заваявання незалежнасці.

Пачаліся нашы вандраванні па бяскрайняй пампе.

Што такое аргенцінскі стэп-пампа? Гэта бясконцая роўнядзь, гэта трава па пахі, густая крапіва і яркія

белыя рамонкі, калючыя дзяды і быльнёг, незлічоныя статкі кароў, авечак, коней, гэта царства гадзюк, ядавітых павукоў, розных птушак. Пампа — гэта залацістыя пшанічныя палі, плантацыі кукурузы, якая расце там высозная, нібы лес, а пачаткі па таўкачу. Сонца над пампай амаль заўсёды гарачае, жоўта-ружовае, акурат апельсін, месяц чырвоны, як медны таз. Неба плоскае, воку няма за што зачапіцца — нідзе ні кусціка, ні дрэўца. Здаецца, усё застыла. І толькі ўсход і заход сонца выдае рух часу. Можна ісці цалюткі дзень і не сустрэць ніводнага чалавека. Зрэдку пранізліва крыкне кабурэ, птушка, пер'е якой нібыта валодае магічнай сілай, праляцяць на конях пастухі-гаўча.

Глядзець на гаўча — адна любата. Сядзяць яны на кані, як улітыя ці прырослыя да сядла, на галаве шыразнае самбрэра, каляровая кашуля, скураныя фартухі: ні то спадніца, ні то штаны. А паясы ў гаўча дзівосныя: шырокія, як нашы слуцкія, моцныя, на іх кручкі, кішэні, на кручках ласо целяпаецца, плётка, за поясам вялізны нож, да пояса прымацавана і пончa, скручанае ў скатку, як салдацкі шынель. Шпоры вялізныя, блішчаць на сонцы, нібы люстэрка. Аднойчы бачыў гаўча ў горадзе — было нейкае свята, эстансіера-памешчык выдаваў замуж дачку, прыгнаў для пацехі сотні гаўча, каб усіх здзівіць. І вось яны гоцалі на конях па вуліцах. Коні не падкаваныя, капыты высока задзіраюць, як у цырку, яны прывыклі да высокай травы, мяккай зямлі, а тут асфальт. Мусіць, балюча ім было, а гараджане тарашчылі вочы, рагаталі. А гаўча сядзелі з каменнымі тварамі — ніводзін мускул не здрыганецца. Твары ў іх папраўдзе нібы высечаны з граніту — мужныя, выдубленыя ветрам і сонцам.

## XII

Усё лета вандравалі мы са Стасем ад аднаго арандатара да другога. На першым часе касілі сена. Дапялі аж да гор. Горы ў Аргенціне і ўвогуле ў Паўднёвай Амерыцы называюцца с'ера. Піла таксама — с'ера, ну, і частка горнага ланцуга. Дык вось, калі ў пампе ўсё сена было скошана, палезлі мы вышэй, у горы. У гарах арандатары — іспанцы ды італьянцы. Яны да гор звыклыя, не баяцца вышыні.

Аднойчы працавалі мы ў іспанца дона Педра. Прысадзісты, жылісты, прагны да працы, але і вялікі аматар паспяваць пад гітару. Вечарам не раз мы слухалі яго песні, расказы пра Іспанію, якую ён пакінуў гадоў дваццаць назад. Пасялішчы ў гарах сустракаліся рэдка, і нам тут былі рады, абыходзіліся па-людску. У пампе некаторыя арандатары, хоць і самі былі невялікія багатыры, глядзелі на нас звысоку, гаварылі, закапыліўшы губы: маўляў, лінжэра-валацугі. І, між іншым, асабліва ганарыстымі былі іспанцы — іх у Аргенціне завуць галісійцы. Яны і суседзяў-арандатараў пыхліва называюць грынга: чужаземец, які гаворыць па-іспанску. Дык вось дон Педра адвячоркам, пасля песень адкладаў убок гітару, пачынаў гаварыць:

— Калі я прыехаў сюды, ніхто тут, у пампе, а тым больш у гарах, сена не касіў. Жывёла гуляла, дзе хацела. Затым панаехалі грынга — італьянцы, палякі, чэхі. Пачалі арандаваць зямлю ў латыфундыстаў. Вольныя пастухі з пагардай глядзелі на грынга, што калупаліся ў зямлі. А гэтых самых грынга таму і везлі сюды, што мясцовыя жыхары не хацелі, ды і не ўмелі араць зямлю. Пасяленні сталі расці як грыбы. Табуны ў грынга маленькія, у пампу іх пускаць баяцца. Ды і пастуха не ноймеш дзеля трох авечак. Лепей нарыхтаваць сена, карміць зімой дома. Тады і зазвінелі косы ў пампе. І ў нас у гарах. Лінжэра так і ходзяць касякамі. Толькі давай работу.

Слухалі гутарку жонка Альдонса, мажная, але рухавая кабета, дачка Даратэя, семнаццацігадовая прыгажуня, белазубая, цёмная каса ледзь не да каленяў, вочы вялізныя, як у ламы. Ламы — гэта горныя жывёлы, падобныя на вярблюдаў, толькі меншыя і без горба, поўсць у іх вельмі густая і доўгая, а вочы круглыя, вялікія і спакойныя, бы маленькія азёры. Стась заглядаўся на Даратэю, ды і я часам пазіраў. Касілі мы там па схілах і нават у цяснінах. Трава пахучая, што чай, кветкі яркія, духмяныя. Калі абкошвалі цясніны, Даратэя з маці стаялі над намі ўгары, мы ў сетку складвалі траву, і яны цягнулі за вяроўку, паднімалі. Аднаго разу захварэў Рабэрта, дзесяцігадовы сын. І пасля абеду прыйшла Даратэя адна. Стась давай з ёй усё заігрываць, а я стараўся як вышэй падштурхнуць сетку, каб дзяўчыне лягчэй было паднімаць. А Стась усё зубы скаліць. Неяк ён знарок моцна пацягнуў за вяроўку, і Даратэя скацілася

да нас. Мусіць, яна балюча выцяла нагу аб камень, бо пачала войкаць і скакаць на аднойназе. Стась рагатаў:

— Давай масаж зраблю. Прылашчу трохі,— памкнуўся быў абняць Даратэю, але тая адхілілася і з размаху заляпіла яму аплявуху. Ад нечаканасці Стась аслупянеў і зяваў ротам, як рыбіна на пяску. Тут ужо я зарагатаў. Стасеў твар, і без таго чырвоны, зрабіўся зусім барвовым.

— Бабон! Карамба! — лаялася Даратэя.

— Чаго ты ржэш? — накінуўся ён на мяне.— Ну, пачакай! Я абламаю гэту крыўляку. Я табе пакажу «бабон»... Падумаеш, важная птушка.

А Даратэя спакойна ўскараскалася на гару, я наклаў у сетку травы і падштурхнуў. Стась пастаяў надзьмуўшыся, як мыш на крупы, і таксама ўзяўся пасабляць.

— А што такое «бабон»? — спытаў у мяне Стась, калі трохі астыў.

— Ласкавае слова. У перакладзе азначае «набіты дурань».

— Сама яна дурніца...

Даратэя пасміхалася, толькі зубы паблісквалі. Стась угару не глядзеў, адно сярдзіта соп і цягаў траву. Даратэя кіўнула на Стася: «Се ле асе ла бока!» Я павярнуўся да Стася: мо і праўда ў яго сліна цячэ з рота? Стась, відаць, таксама зразумеў, што сказала дзяўчына, і пагразіў ёй кулаком. Тая зарагатала, пакруціла пальцам ля вуха: «Аста ла віста!» (Да пабачэння) — і пайшла дамоў, бо ўжо вечарэла.

Стомленыя, мы цягнуліся ўслед. Ногі ўпрэлі ў высокіх гумовых ботах: тут, у гарах, як і ўсюды ў пампе, процьма гадзюк, басанож ці ў альпаргатах дужа не паходзіш.

— Агонь дзеўка, гэтая Даратэя,— сказаў Стась і правёў далоняй па шчацэ.

— Я думаю, гэтак смалянула.

Але Стась не звярнуў увагі на мае кпіны і сур'ёзна сказаў:

— Каб узяў мяне дон Педра ў зяці, я б застаўся тут. А ты?

— Што — я? Яму патрэбен адзін зяць, а не два.

— Дык не аддасць ён дачку за лінжэра. Эх, чорт пабяры, доля наша сабачая... Слухай, Паўлюк, паедзем у Чака. Там зямлю прадаюць. Купім участак. Збудуем

дом. Наймем лінжэра. Хай зямлю абрабляюць. Сеюць, косяць. Абрыдла па свеце цягацца...

Пра гэта Стась ужо заводзіў размову і раней. Але ў нас было мала грошай, каб купіць зямлі, ды мяне ўсё-ткі цягнула на радзіму.

— Няўжо ты не хочаш вярнуцца дамоў, у Беларусь?

— А што там рабіць? Што такое дом? Радзіма? Дзе добра — там і дом. Там і жыві.

— А маці, бацька? А твой прадзед, які быў паўстанцам? Няўжо цябе нішто не трымае?

— Што ты мне душу вярэдзіш? Трымае, трымае. Магілкі продкаў, бацька, маці. Усё гэта я разумею. А з чаго там жыць? Паміраць, і каб паклалі побач? Я жыць хачу, бабу мець, дзяцей гадаваць. Працаваць хачу. У мяне рукі свярбяць. Але абрыдла рабіць на гэтых кляшчоў-арандатараў.

— Сам жа хочаш стаць гэтакім кляшчом?

— Не, не такім. Але гэта адзіны выхад. А што ты прапануеш?

— Павандруем тут. А як захаладае — паедзем у Байрэс,— так скарочана называюць аргенцінцы сваю сталіцу Буэнас-Айрэс.— Пашукаем работу на заводзе. Мы ж умеем сёе-тое. Не прападзем. Падзаробім грошай — і дадому. Там, глядзіш, прагоняць пілсудчыкаў. Зажывем, як у Саветах. Навошта і зямлю купляць? Пры Саветах дадуць.

— Толькі калі гэта будзе. Калі рак на гарэ свісне? Не, Паўлюк, не веру я ў гэта. Уся ўлада ў багацеяў. Што яны хочуць, тое і робяць. Савецкі Саюз — маленькі астравок. І яны могуць яго задушыць. Ім гэта як плюнуць.

— Дарэмна, Стась, так думаеш. Багацеі баяцца камуністаў як агню. Каб дружней былі рабочыя, каб разам маглі ўзняцца, дык бы змялі, нібы мятлой, усіх буржуяў. І гэта будзе.

— Калі і будзе, то надта далёка яшчэ да гэтага. Мы з табой паспеем адысці ў рай. Але перад гэтым я хачу паспаць з Даратэяй. Гарыць зуб на яе.

— І шчака таксама?..

— Добра ўрэзала, каб яе ліха. Цяжкая рука ў яе. Але некаму дастанецца жонка будзь здароў.

Праз два дні мы скончылі работу. Дон Педра адлічыў нам восемдзесят песа, падзякаваў за добрую пра-

цу, запрасіў праз тыдзень-два зноў прыйсці да яго — паспее пшаніца, будзе работа.

— Дзякуй, дон Педра... Пастараемся вярнуцца. Дарогу ведаем,— сказаў я. Даратэя кіўнула мне, усміхнулася. Стась адмоўчаўся. Калі мы ўжо далёка адышліся ад сялібы дона Педра, Стась плюнуў, мацюкнуўся.

— Нагі маёй тут болей не будзе,— сказаў ён.

Я зразумеў, што перагаворы Стася з Даратэяй адбыліся і завязаны палец на левай руцэ сведчыў, што былі яны не зусім мірныя. Мусіць, давялося майму сябруку зведаць вастрыню белых зубак Даратэі. Я не стаў вярэдзіць Стасеву рану і прыбавіў крок.

Мы спускаліся з гор усё ніжэй, сям-там падрабляючы ў небагатых гаспадароў па цяслярскай справе. А тым часам на раўніне ў пампе зажаўцелася пшаніца. Запрасіў нас на жніво грэк-арандатар Мірапулас, сутулы, з сівой галавой і доўгай, як у бусла, шыяй. Даволі хутка мы скасілі ў яго пшаніцу, павязалі ў снапы, пачалі звозіць бліжэй да хаты, дзе быў ток. Амаль штодня прыязджала на поле жонка Мірапуласа, гадоў на дзесяць маладзейшая за мужа і надта жвавая. Усё рабіла хутка, хадзіла борзда, нібы лётала, каня ўсё ганяла ў галоп. Я прыкмеціў, што яна часта пазірае на Стася, мусіць, агністы ягоны чуб прыйшоўся даспадобы. Аднаго разу яна вазіла снапы, мы накладвалі іх, увязвалі, яна ўзбіралася на воз, «чао!» — махала нам рукой і паганяла каня, толькі пыл курэў услед.

Апоўдні яна прыехала зноў, саскочыла з калёс, войкнула і села. Я падбег да яе, падаў руку, дапамог падняцца, кульгаючы, яна зрабіла колькі крокаў, паклікала Стася. Той падбег, яна ўчапілася за яго руку, павісла на плячы, а мне сказала, каб патрымаў каня і крыкнуў, калі на дарозе пакажацца сеньёр Мірапулас. Я выпраг каня, пусціў яго паўз дарогу, дзе была густая зялёная трава, азірнуўшыся, убачыў рыжы чуб Стася ля кустоў, што раслі ў нізінцы. Паперадзе Стася борзда крочыла гаспадыня. Я наматаў лейцы на руку і прылёг у гарачай духмянай траве. Нада мной было высокае бязвоблачнае неба, зацягнутае бялёсай смугой. Вакол было ціха, толькі конь задаволена фыркаў, смачна скуб траву, жвава махаў хвастом, адганяючы заедзь. З-за кустоў пачуўся задаволены смех гаспадыні. Па дарозе ніхто не ішоў і не ехаў, крычаць мне не давялося.

Праз паўгадзіны гаспадыня выйшла з-за кустоў. Сле-

дам за ёй, выціраючы рукавом пот, стомлены цягнуўся Стась. Утраіх — раней гаспадыня ніколі нават не ўзялася за сноп — мы хутка накідалі воз, увязалі, Стась падсадзіў гаспадыню, яна ўзлахмаціла яго чуб, войкнула, мусіць, у адказ Стась ушчыкнуў яе за мяккае месца, памахала нам з воза і наўскач пагнала каня.

— Ну, баба, Паўлюк! Агонь! З роду такой не бачыў,— задаволена ўхмыльнуўся Стась, выціраючы падолам кашулі лоб, які спрэс свяціўся кропелькамі поту.

На вячэру гаспадыня цішком падсунула нам жбанок віна, сапраўднага, вінаграднага, не тое, што кебрача. І на другі дзень, і на трэці давялося мне трымаць каня, а Стась вадзіў гаспадыню за кусты.

— Ці ведаеш, чаму Мірапулас згорбіўся, га? Жонка настаўляла яму столькі рагоў, што цяжка насіць галаву! — рагатаў Стась.— Між іншым, ты ёй таксама падабаешся. Яна б не супраць схадзіць з табой за кусцікі. А я дзянёк перадыхну. Хоць і прыемная гэта работа, але перадышка трэба.

Я моцна, па-мужчынску, мацюкнуўся, думаючы, як бы хутчэй адсюль уцячы. Але ўсё вырашылася не так, як я таго хацеў. Завіталі неяк трое лінжэра-палякаў, прасілі даць ім работу.

— Наш сусед шукае людзей на ўборку кукурузы,— сказала гаспадыня.— У нас ужо мала работы. Хіба на аднаго чалавека... Вы, сеньёр Пабла, можаце ісці таксама з імі. А сеньёр Станіслаў можа застацца.

— Стась, ты што, з глузду з'ехаў? — памкнуўся я да яго.

— Дзе добра, там і дом. Зімой сустрэнемся ў Кандрата.

Так нечакана мы і развіталіся.

## XIII

Разам з палякамі я вандраваў да позняй восені, потым паехаў у Байрэс з надзеяй дзе-небудзь знайсці работу. Цэлы месяц бадзяўся па гэтым вялізным горадзе, але сталай работы нідзе не было. Амаль усе грошыкі, што зарабіў у пампе, разляцеліся. Адчуў я сябе страшэнна адзінокім. І так пацягнула дамоў, у Беларусь. Але нават на білет не было грошай. Ды і не паедзеш жа з пустымі рукамі. Не хацелася бачыць, як жыве Пят-

ро з жонкаю. Хай жывуць. Я ж сам напісаў, каб жаніліся. Вінаваціць Марысю я не мог, на Петруся ўсё ж крыўда была, але і яна памалу аслабла, прытупілася, а мо і не зусім, як рачулка зімой пакрываецца лёдам, але пад ім бруіць вада... Навошта варушыць былое.

Словам, не знайшоўшы прытулку ў Байрасе, вырашыў з'ездзіць у разведку ў Санта-фе. У поездзе спаў без задніх ног, бо меў білет, а значыць, меў права на спакойны сон. А дзе знайду начлег у Санта-Фе, не ведаў. Выйшаў на вакзале, агледзеўся: тут усё было без аніякіх змен. Па пыльнай вуліцы, амаль бязлюднай, пайшоў у цэнтр. Адвячоркам прыцягнуўся да хаціны Кандрата, зайсці не адважыўся, разважыў, што лепей сустрэць каго са знаёмых і распытаць пра ўсё, і самае галоўнае: ці шукала каго з пастаяльцаў паліцыя? Я адыйшоў трохі далей і адтуль цікаваў за «гатэлем». Яшчэ добра не acцямнела, і вуліца праглядвалася далёка.

Раптам удалечыні мільганула рыжая чупрына. Прыгледзеўся: ішлі тры мужчыны, сярэдні з іх быў Стась, ён размахваў рукамі, нешта гучна расказваў, і яго спадарожнікі не менш гучна рагаталі. У мяне нібы камень з душы зваліўся: раз ён гэтак смела разгульвае, значыць, няма ніякай небяспекі. Я рушыў насустрач. Мо таму, што Стась быў захоплены размовай, а мо вусы, што я адгадаваў, перайначылі мой твар, але Стась мяне не пазнаў: яго вочы каўзануліся міма, а язык не змаўкаў. Калі яны прайшлі, я паклікаў: «Стась!» Ён крута павярнуўся, нават штурхануў неспадзеўкі плечуком мужчыну, што ішоў справа, і кінуўся да мяне з абдымкамі:

— Паўлюк?! Каб ты скіс! Ну, як ты? Адкуль?

— Што ты мяне ціскаеш? Пагаварыць трэба.— Мужчыны нас чакалі.— Скажы ім, хай ідуць.

Стась махнуў рукой: «Чао!», незнаёмцы пайшлі.

— Ды ты не палохайся, Паўлюк. Усё ціха, спакойна. «Белячок» пайшоў у рай. Тры месяцы пакырхаў і загнуўся. У дэпо сказаў, што сам упаў і стукнуўся аб асфальт... Дэпо нам з табой трэба абыходзіць за вярсту. У Кандрата ёсць месца на верхніх нарах. Можна сагнаць каго з навічкоў знізу.

— Нічога, і на вярху пасплю,— сказаў я, рады сустрэчы, рады, што будзе начлег, а мо і работа.

Стась працаваў на невялічкім ліцейным заводзіку. Паабяцаў пагаварыць з майстрам наконт мяне.

— Паўлюк, вось што, каб пра Савецкую Расію ты тут не заікайся. Зразумеў? Выганяць адсюль, з голаду сканаем,— хмура сказаў Стась.

На завод мяне ўзялі, Кандрат прыняў з ахвотаю ў начлежку, не забыў, што заўсёды наперад плаціў яму грошы. Зіма праляцела хутка, а напрадвесні мяне вытурылі з работы, і сказана мне было амаль тое самае: паршывая авечка ўсю чараду псуе. Дайшлі, значыць, чуткі з дэпо. Стася на гэты раз не зачапілі. Мусіць, таму, што ён уладкаваўся раней за мяне, разам мы рэдка хадзілі, хіба што ў выхадныя дні.

Грошай я зарабіў мала — якіх-небудзь паўтараста песа. Ехаць дамоў не было з чым. А тут якраз маці прыслала ліст: у Пятра нарадзіўся сын, Чэська збіраецца замуж у Максімаўку, няма чаго даць на пасаг, нават падушкі людскай не нажылі, ды і на ногі дзе што ёй знайсці. Не пойдзе ж маладая ў касцёл басанож. Грошай маці не прасіла, але між радкоў адчувалася, як цяжка жывецца ў галечы, што сэрца маё сціснулася ад жалю. Зняў я з рахунку сотню песа і адаслаў маці. А сам зноў падаўся ў пампу ў пошуках работы, рахунак у банку зусім закрыў: паўсотню прыхапіў з сабой. Ехалі мы ўчатырох: яшчэ адзін зямляк з-пад Навагрудка і два палякі з Беластока. Яны ўжо год тут у Аргенціне, клюнулі на прыгожыя карцінкі французскай кампаніі, пагналіся за багаццем. Зіму працавалі ў порце грузчыкамі, а зараз апынуліся без работы. Я ўжо два гады пражыў у Аргенціне, лета вандраваў у пампе, па-іспанску мог часаць, як мясцовы крыажо або нават галісіец.

Хлопцы самі вылучылі мяне за старэйшага. Завіталі мы да аднаго арандатара. Ён кажа, у яго работы няма, а вось ад суседа прыязджаў учора чалавек: касцы яму патрэбны. Мы туды. Загарэлы вусаты мужчына сустракае нас з радасцю, ледзьве не з абдымкамі, заводзіць у кватэру, частуе віном. Хлопцы мае разамлелі, як цялята. А гаспадар тым часам вядзе гутарку: ён заарандаваў у багатага латыфундыста ўчастак зямлі, зараз яму трэба скасіць луг. Ён дае коней, касілкі, граблі конныя. Наша задача: скасіць і згрэбці ў копны. Аплата — тысяча песа, і каб за дваццаць пяць дзён усё было зроблена. Вочы ў маіх хлопцаў заблішчэлі. У мяне мільгануў недавер: чаму ён гэтакі добры? Ці няма тут пасткі якой?

— Калі вы згодны, зараз падпісваем дагавор і за работу.

Вядома, дагавор — дакумент, і гэтым гаспадар пераканаў. Ну, узяліся мы працаваць. Трава — альфа-альфа: так называюць тут люцэрну або іспанскую канюшыну — вымахала ў пояс. Касілі мы з цёмнага да цёмнага, мяняліся, двое сушаць, двое косяць, падварушваюць, у копы складваюць. Нават у месячныя ночы працавалі. За дванаццаць дзён убралі адзін участак, пераехалі на другі. І там працавалі люта. Ну, нарэшце, канчаем работу. У думках ужо лічым грошы — па дзве сотні з паловай на брата. А тут прыязджае арандатар і яшчэ здалёк пачынае крычаць, аж захліпаецца:

— Што гэта за работа? Хіба ж так косяць? Толькі макаўкі пазразалі на тым участку, а трава стаіць. Латыфундыст з мяне няўстойку патрабуе. Гэтакіх касцоў, кажа, травой за ядры можна звязваць. Няўстойку я з вас вылічу, і зараз жа трэба выкасіць як след.

Кінуліся на той участак, а гэта кіламетраў за дванаццаць, прыязджаем і вачам не верым — стаіць трава, як лес. Новая парасла. Дзявацца няма куды. Узяліся зноў касіць. Дзён за дзесяць скончылі. Харчы мы ўсе паелі, грошай у хлопцаў няма. Давялося мне патрэсці кішэні. Прыязджае арандатар і здалёк гарлапаніць: я вас у турму ўпяку, паперу падпісвалі, а зрабіць не зрабілі. Трава стаіць. Мы яго разарылі. Каравул!

Карамба! Каб ты скіс, нягоднік. Пачалі зноў касіць і другі луг. Настрой зусім сапсаваўся. Хлопцы злыя, як чэрці, касавурацца на мяне. А я і так гатовы скрозь зямлю праваліцца. Во, трапілі ў нерат, ні ўзад ні ўперад. І такая лютая нянавісць да гэтага нягодніка ўспыхнула. Здаецца, задушыў бы голымі рукамі. І чаму гэты свет такі: кожны імкнецца цябе абдурыць, кожны, нібы воўк, ірве толькі сабе. Жыць не хацелася на гэтым бесчалавечным, мярзотным свеце.

Гэтак раздумваў я, лежачы ў палатцы. Стомленыя хлопцы спалі як забітыя. Я нічога і не падазраваў. А раніцай прачынаюся, гляджу — няма палякаў і вузялкоў іх — таксама. Далі дзёру. Разбудзіў я свайго землячка: так і так, маўляў, засталіся мы ўдвух. Трэба драпаць і нам, пакуль яшчэ штрафу не ўлупіў арандатар або ў турму не пасадзіў. Узялі мы вузялкі і пайшлі ў другі бок пампы. Вось і зарабілі мы, як Хама на воўне: кажух абстрыг, а шэрсці не прадаў.

Тым часам паспела пшаніца. Ну, тут ужо, думаю, нас не абдураць: пшаніца другі раз не вырастае. Тут мы

трохі пачалі зарабляць. І к зіме зноў вярнуліся ў Санта-Фе. Месца ў Кандратавай начлежцы знайшлося.

— Ну, як жыццё, Павел? Ці многа заробіў? — пытаецца Кандрат.

— Ды не. Якія тут заробкі? Не пашанцавала,— і расказаў, як арцеллю касілі люцэрну. Зарагатаў Кандрат, аж за бакі ўзяўся.

— А вы як тут жывяце? Якія навіны? Дзе Стась? Мо ажаніўся?

Спахмурнеў Кандрат, падсунуў мне буэнас-айрэскую «Ла Прэнса» — друк, значыць. Пачаў я чытаць, а літары так і скачуць перад вачамі, разы тры прачытаў, пакуль уцяміў. А напісана было вось што: знойдзены труп лінжэра-паляка Станіслава Шостака, у поясе яго было зашыта дзвесце долараў. Матывы забойства невядомыя. Магчыма, п'яная бойка, а мо і за дзяўчыну, маўляў, хлопец малады і не бедны. А тры гады назад ён прыехаў без граша ў кішэні. Гэта яшчэ раз сведчыць, што, хто сумленна працуе, той добра зарабляе, што Аргенціна — краіна, роўная для ўсіх.

— Вось так, браце. Ажаніўся Стась з сырою зямелькай,— уздыхнуў Кандрат.— Ён чакаў цябе, каб ехаць дамоў. Грошы забраў у банку. Баяўся, што банк лопне. На заводзе рабочыя аб'явілі забастоўку. А Стась выйшаў на работу. Ну, яго як штрэйкбрэхера і саданулі нажом пад лапатку. Знайшлі раніцай у канаве. Нікога не затрымалі. Палову грошай паслалі бацькам, астатнія паліцыя заграбастала як выдаткі на пахаванне.

Я сядзеў нібы аглушаны. Бедны Стась! Вось дзе знайшоў ты сваё шчасце і лепшую долю. Ці варта было ехаць на край свету, каб загінуць тут, загінуць сабачаю смерцю штрэйкбрэхера?

На другі дзень купіў я букет кветак, узяў таксі.

— Масье едзе на рандэву? — спытаў шафёр таксі, з грасіраваным французскім «р».

— Так, на спатканне з магілай сябра,— адказаў па-іспанску.— Едзем на Чыкарыта.

— Пардон, камарада,— шафёр уважліва зірнуў на мяне, паклаў сваю далонь на маю: прасіў прабачэння.

Шафёр быў ужо ў гадах, твар пасечаны глыбокімі маршчынамі, сівыя скроні, стомленыя, сумныя вочы. Ён спытаў, колькі гадоў пражыў сябра, і калі пачуў, што ўсяго дваццаць тры, уздыхнуў:

— Шкада. Толькі б жыць. А як гэта здарылася?

Слова па слове я разгаварыўся і расказаў гісторыю Стася, а заадно і сваю.

— А яшчэ ў вас ёсць сябры, знаёмыя? — спытаў шафёр.

— Сяброў няма. Знаёмыя — ёсць.

— У Аргенціне чалавек адзінокі, самотны. Аргенцінцы не маюць бацькоўскіх магіл. У іх за плячыма — няма гісторыі. Адзін гаўча, тры гаўча, трыццаць тры гаўча... Гэта не іх спрадвечная зямля. Не спадчына продкаў. Вазьміце маю Францыю або вашу — Польшчу...

— Дакладней, мая радзіма — Беларусь.

— Хай так. І Францыя, і Польшча, і ваша Белая Русь маюць гісторыю, маюць традыцыі. Там у чалавека ёсць карэнне. А тут ён, як віскача... Бачылі мясцовага зайца віскача?

— Бачыў,— кіўнуў я.

— Дык вось, чалавек у Аргенціне лётае з месца на месца, як заяц. А паляўнічых на яго хапае. І памешчык, і фабрыкант, і заводчык, і гандляр. Зрэшты, ён сам да іх ідзе. Сам просіць работы. А ўжо калі трапіў да іх у лапы — выцісnуць усе сокі. Вось вам дыялектыка жыцця,— сумна ўсміхнуўся ён, падаў руку на развітанне: — Жадаю вам вярнуцца на радзіму. Хай будзе ваш лёс шчаслівейшы.

Ці мог я падумаць тады, што неўзабаве сустрэнуся з Жоржам, так звалі шафёра, і што потым буду помніць яго ўсё жыццё.

Магілкі Чыкарыта былі абнесены высокай агароджай, дрэў расло мала, у большасці вечназялёныя кусты. Вартаўнік доўга шукаў па кнізе магілу Стася і не знаходзіў. Давялося сунуць яму манету. Гэта зрабіла яго вочы больш пільнымі, і магіла адразу знайшлася. Я паклаў кветкі ля пацямнелага ўжо драўлянага крыжа, пастаяў у маўчанні. Ніяк не мог паверыць, што пад гэтым курганом зямлі на векі вечныя заснуў Стась, няўрымслівы жыццялюб, весялун і здаравяка. Здавалася, што яму адпушчана сіла на добрую сотню гадоў, а ён і чвэрці гэтага не пражыў. Мусіць, ні разу не падумаў пра смерць, і так нечакана яна падкасіла яго. А ці доўга мне яшчэ хадзіць па зямлі? І дзе я знайду свой канец? Але жывому — пра жывое. Я пакланіўся Стасевай магіле і рушыў да выхаду.

## XIV

Зіма ўваходзіла ў сілу. Усё часцей дзьмуў халодны пампера. З ранку да вечара брындаў я па горадзе ў пошуках работы. На тры дні ўзялі ў порт грузчыкам, насіў бочкі, мяшкі. Стамляўся страшэнна, ледзь прыцягваўся да начлежкі і, як сноп, валіўся на нары. Потым цэлы тыдзень быў без работы. З раніцы з'ядаў порцыю кашы ў буфеце Кандрата, выходзіў па газеты. Купляў цэлы жмут, вяртаўся ў начлежку і чытаў. Газет у Аргенціне выходзіць процьма. Найстарэйшая з іх «Ла Прэнса» і найтаўсцейшая. Яна пісала, што Гітлер ірвецца да ўлады, што ў Савецкай Расіі людзі ходзяць у намордніках.

Прачытаўшы такое, я скамячыў заляпаную фарбай паперу і са злосцю шпурнуў пад ложак. «Ла Насьён» («Нацыя») таксама газета старая, пачала выходзіць яшчэ ў мінулым стагоддзі, паведамляла пра забастоўку трамвайшчыкаў Буэнас-Айрэса. «Эль Мунда» («Сусвет») — гэта свежаспечаная пляткарка — ёй тры гады ад роду — спявала з чужога голасу: спрэс былі паведамленні агенцтваў «Рэйтэр», «Асошыэйтэд Прэс», дробненькім цёмным шрыфтам пісалася, што ў Буэнас-Айрэсе пачала выходзіць новая незалежная вячэрняя газета «Націсіас графікас» («Друкаванае слова»). Незалежная. Такая ж незалежная, як прастытутка не залежыць ад таго, хто ёй плаціць грошы. І ў кожнай газеце — крыклівая рэклама, амаль голыя жанчыны.

Неяк з раніцы паплёўся да ліцейнага заводзіка, дзе працаваў раней. Каля прахадной стаяў натоўп людзей — беспрацоўныя лінжэра чакалі: раптам некага паклічуць. Бывае, што выходзіць майстар і чалавек пяцьсем выбера на розныя дапаможныя работы. Стаў і я. Праз нейкі час сапраўды выйшаў майстар, аб'явіў, што трэба пяць чалавек. Усе абступілі яго. А ён выбіраў самых здаровых, рослых, дужых. Але мяне абмінуў — пазнаў, падлюка. Пацягнуўся я, як пабіты сабака, у сваю начлежку. Назаўтра яшчэ поначы пайшоў да фрыгарыфіка. Каля канторы ўжо стаялі некалькі лінжэра, курылі, перагаворваліся. Людзі ўсё падыходзілі, і неўзабаве назбіраўся цэлы натоўп. Я ўбачыў знаёмага Казіміра-паляка, праціснуўся да яго.

— Куды лезеш? — немалады, невысокі, каржакаваты турак у камбінезоне пачаў даказваць, што ён прыйшоў раней, што ў яго трое дзяцей і хворая жонка.

Ён размахваў рукамі перад маім носам, гаварыў хутка, выскаляючы рэдкія, як частакол, зубы, і аж пырскаў слінай. Я сказаў, што таксама прыйшоў даўно, а гэта мой таварыш, ён заняў чаргу. Турак не мог супакоіцца і ўсё махаў рукамі перад маім тварам. Тут выйшлі двое служачых канторы, пачалі адбіраць грузчыкаў. Турак кінуўся да іх, але яны адмахнуліся ад яго, як ад надакучлівай мухі. Яны ўзялі восем чалавек, у тым ліку мяне і Казіміра. Турак пагразіў услед кулаком і крыкнуў: «Карамба!» — «Ахмед! Ахмед!» — яго сябар нешта гаварыў яму, таксама размахваючы рукамі.

Працавалі мы ўвесь дзень, канторшчык сказаў, каб прыходзілі і заўтра, бо некаторыя грузчыкі, члены прафсаюза, аб'явілі забастоўку.

На другі дзень я зноў пакіраваў да фрыгарыфіка. Казімір ужо чакаў мяне. Але да канторы мы не дайшлі — пікетчыкі перагарадзілі вуліцу. Ахмед таксама круціўся сярод іх. Усе восем чалавек, што рабілі ўчора, прыйшлі. І пікетчыкаў было таксама восем.

— А мо прарвемся? Яны не ўтрымаюць нас,— сказаў Казімір.

— Так-то так, ды забастоўка ж. А мы як штрэйкбрэхеры,— запярэчыў я.

— А што нам дасць забастоўка? Тым, хто тут працуе, могуць павялічыць зарплату, а нам нічога,— сказаў малады чарнявы галісіец.— Пайшлі. Пікеты нам нічога не зробяць. Мы іх разгонім.

Тут пад'ехаў грузавік, побач з шафёрам сядзела прыгожая маладая дзяўчына. Пікетчыкі спынілі машыну, акружылі яе, пачалі высвятляць адносіны з шафёрам.

— А мы тым часам і праскочым,— Казімір ірвануўся наперад.

Напярэймы нам кінуліся пікетчыкі. Перада мной, раскінуўшы ў бакі рукі, паўстаў, як здань, Ахмед. Я адпіхнуў яго з дарогі, штурхануў лёгенька, нямоцна, каб ён не ўпаў. Я падбягаў да варот, якія былі адчынены. Казімір праскочыў ужо на тэрыторыю. Нехта тупаў следам за мной і цяжка дыхаў, я думаў, што гэта хтосьці з нашай васьмёркі, азірнуўся, і ў гэты момант нешта халоднае пеканула пад левую лапатку. Я ўбачыў перакошаны ад злосці і страху твар Ахмеда, выскаленыя жоўтыя зубы і круглыя, з вар'яцкім бляскам, вочы. Ледзяны холад і востры боль працяў спіну і разліўся па

ўсім целе, ногі зрабіліся нібы ватныя і цяжкія. З разгону я ступіў колькі крокаў, выцяўся лбом аб металічныя вароты і асеў на асфальт.

## XV

Ачуняў я ў бальніцы. Спачатку нічога не мог зразумець. Адкрыў вочы, бачу ўсё вакол белае і жоўтае, як вада, калі ў сонечны дзень дасі нырца. І такое было адчуванне, што я сапраўды толькі што плаваў у Віліі, глыбока нырнуў, плыў паўз дно, пясчанае, чыстае, выпускаў з рота памалу паветра, потым пачаў задыхацца, галава налілася цяжарам, як свінцом, я адштурхнуўся ад пясчанага дна, каб хутчэй усплыць, грабаю рукамі, нібы караскаюся на гару, а вада ўсё не канчаецца, нарэшце, узнырнуў, хапянуў паветра і тут прачнуўся, адкрыў вочы. Ляжаў я на правым баку, грудзі былі пераматаны бінтом, калі паспрабаваў варухнуцца, закалола ў бок, стала горача, лоб адразу ўзмакрэў, а ў горле ўсё сасмягла.

— Піць,— прастагнаў я.

— Прачнуўся, камарада,— пачуў я глухаваты старэчы голас.— Моцна ты спаў, як пасля добрай п'янкі.

— Дзе я? Пасля якой п'янкі?

— Ты, камарад, у бальніцы. Тры дні ты спаў як нежывы. Тут ужо ўсе думалі, што табе капцы. А ты ім патрэбен.

Да мяне даходзілі гэтыя словы як праз вату, якой, здавалася, напхана ў мае вушы.

— Каму патрэбен? — ледзь павярнуў я сухі язык.

— Табе яшчэ нельга гаварыць. Набірайся сілы. Вунь доктар сюды чэша. Пачнуць цябе трэсці.

Я зноў заплюшчыў вочы і нібы праваліўся ў яму, потым зноў караскаўся з яе, быццам выплываў з глыбокага віру. Падалося, што мяне нехта цягне за руку, а гэта доктар слухаў пульс, нешта некаму гаварыў, далящела фраза: «тэнэр ла відаен ун хіла...» Гэта значыць, я быў у вялікай небяспецы, маё жыццё вісела на валасінцы,— уцяміў я і зноў праваліўся ў забыццё. Надвечар прачнуўся і адчуў, што вельмі хачу есці, хоць бы кавалачак чураска — смажанага мяса. Нада мной нахілілася маладая, з круглым, як месячык, тварам манашка.

— Я хачу есці,— не вытрываў я.

Манашка прыклала мяккую, халаднаватую далоньку

да майго лба, ад яе халацiка пахла камфарай i духамi, аж закружылася галава: цi то ад паху, цi то ад дотыку халаднаватай далонькi. Манашка выйшла, неўзабаве вярнулася з талеркай i пачала з лыжачкi карміць мяне лiпкай кашкай. Я праглынуў гэтую кашку i яшчэ болей захацеў есцi.

— Эх, каб кавалачак чураска. У мяне ж былi грошы. Вазьмiце iх i купiце мяса цi каўбасы,— прасiў я.

— Нельга. Я вам прынясу ананасавага кампоту.

— Давайце хоць кампот.

Манашка цiхутка выйшла.

— Ну, будзеш жыць, камарада. Раз чураска захацеў,— голас мне падаўся дужа знаёмы. Гаварыў чалавек, якi ляжаў каля сцяны — насупраць. Я скасiў вочы, галаву падняць не мог, прыгледзеўся — чалавек быў ужо сталага веку, аброслы сiвым шчэццем твар. Ён таксама паглядзеў на мяне, усмiхнуўся:

— Ну што, пазнаеш, камарада Поль? Не паслухаўся ты мяне. Вось ледзь i не адправiўся да свайго землячка...

Тут я адразу ўспомнiў, як ехаў на магiлу да Стася, прыгадаў шафёра таксi, з якiм тады добра пагаманiлi.

— Пазнаў, камарада Жорж.

Тут увайшла манашка з кампотам, якi я выпiў не смакуючы. Калi яна выйшла, паспрабаваў павярнуцца, але востры боль пад лапаткай адкiнуў мяне назад.

— Ляжы i не рыпайся,— сказаў Жорж.— Набiрайся сiлы. Заўтра пачнуць дапытваць, хто садануў нажом. Палiцыя даўно чакае, калi ты зможаш гаварыць.

— А хiба яны не ведаюць? Там жа было людзей багата. Усе бачылi.

— Бачыць бачылi, ды нiхто не гаворыць. А ты ведаеш хто? — спытаў нейчы iншы голас.

Цёмныя вочы пiльна глядзелi на мяне, падалося, што камарада Жорж падмiргнуў. «Чаго яны хочуць ад мяне? Што iм трэба?»

— Адкуль я ведаю? Ён жа ў спiну стукнуў. Было яшчэ цемнавата. Каб я ўбачыў, дык бы так урэзаў, што яго мазгаўня трэснула б, як арэх.

— Але, такiм кулаком можна быка звалiць,— сказаў Жорж.— Шкада, што ты не бачыў — хто. Палiцыi гэта вельмi трэба.

У мяне зноў закружылася галава, я заплюшчыў вочы. Назаўтра адразу пасля сняданку разам з доктарам прыйшоў яшчэ адзiн чалавек — у пенснэ, кучаравы,

гарбаносы. Сказаў, што ён следчы з Буэнас-Айрэса, што яму трэба са мной пагаварыць і што я павінен адказваць на ўсе пытанні. Спачатку ён спытаў, чаму я прыехаў у Аргенціну, хто мае бацькі — католікі ці праваслаўныя, якая была сям'я, дзе працаваў тут. Я адказваў. Гаварыць мне было яшчэ цяжка, галава балела, нібы на ёй ячмень змалацілі. Следчы ўбачыў, што я гэтакі стомлены, слабы, і пайшоў напрамкі:

— Скажыце, сеньёр Варанецкі... Гэта вельмі важна для вас саміх. Хто ўдарыў вас нажом? Яго прозвішча? Паўтараю, гэта важна для вас.

— На жаль, я не ведаю. Было яшчэ цёмна. І ён жа ў спіну ўдарыў, а не ў грудзі. Я не мог бачыць.

— Вы ўспомніце. Пастарайцеся ўспомніць. У каго з пікетчыкаў быў нож? Можа, хто з іх пагражаў вам?

— Яны ўсе крычалі, усе пагражалі. Я нікога з іх не ведаў раней.

— А калі я вам пакажу фатаграфію, вы пазнаеце? — следчы пакорпаўся ў партфелі, выцягнуў канверт, а з яго дастаў некалькі здымкаў. Першым паказаў мне здымак, на якім быў таварыш Ахмеда. Я пазнаў яго адразу. А што адказваць? Не ведаю, не бачыў. Але не можа быць, каб я нікога не запомніў.

— Здаецца, гэты быў. Так, гэтага я бачыў.

— О, о, малайчына, сеньёр Варанецкі,— узрадаваўся следчы.— А гэтага ведаеце? — І ён паказаў здымак Ахмеда.

— Гэтага? — я памаўчаў, следчы стаіў дых, толькі здымак дробненька ўздрыгваў у яго руцэ.— Гэтага не бачыў. Не прыкмеціў.

— Не можа быць. Гэта турак Ахмед Хусейнаў, а гэта яго таварыш. Яны былі разам. Абодва закапёршчыкі, члены прафсаюза. А гэты Ахмед,— следчы прыцішыў голас,— камуніст. Ён ваш вораг. І наш вораг. Навошта яго шкадаваць? Успомніце. Падумайце добра...

Тут я сапраўды задумаўся, лоб мой узмакрэў, я заплюшчыў вочы і ціха застагнаў. Адразу, як па камандзе, прыбег доктар, а следчы выкаціўся за парог.

Астатнія дні помню нібы ў тумане. Рана загойвалася, я дужэў, тым мацней на мяне насядаў следчы, угаворваў доктар, падаслалі да мяне старую манашку, якая прымушала паўтараць за ёй малітвы. Аднойчы ў пакой набілася цэлая зграя рэпарцёраў. Яны накінуліся на мяне:

— Сеньёр Варанецкі, вы ведалі, чаго дамагаюцца прафсаюзы?

— Як вы ставіцеся да камуністаў?

— Як вы думаеце, чаму вас хацелі забіць?

Я задумаўся, што мне гаварыць, і тут раптам пачуў:

— Колькі гадоў вы пражылі ў Савецкай Расіі?

Прызнацца, гэтага я не чакаў. А зрэшты, чаму б ім не разнюхаць усё пра мяне? Яны ўсё ведалі. Бо ў газетах пісалі пра мяне як чалавека, які хоча працаваць, зарабіць грошай, каб у сваёй Польшчы купіць зямлі, адкрыць свой шынок, стаць багатым.

— Пяць гадоў я пражыў у Расіі.

— Вы былі членам партыі камуністаў?

— Не, я меў тады ўсяго дзесяць гадоў. А дзяцей у Расіі ў партыю не прымаюць.

Некаторыя заўсміхаліся, некаторыя пачалі нешта запісваць у блакноты.

— Значыць, вы былі камсамольцам?

— На жаль, не. Па малалецтву не прынялі.

— Ну, а піянерам вы былі?

— Не. І ў піянеры мяне не ўзялі. Бацька не дазволіў.

— Чаму вас хацелі забіць прафсаюзнікі, ведаеце?

— Я ведаю адно — ніхто мяне не хацеў забіваць. Я хацеў...

Следчы не даў мне скончыць. Разам з доктарам ён пачаў выганяць рэпарцёраў, а тыя ўчапіліся за мой ложак і не хацелі выходзіць.

Я заплюшчыў вочы, адкінуў галаву. Доктар залямантаваў:

— Сеньёры, хворы страціў прытомнасць. Зараз жа пакіньце памяшканне!

Следчы крычаў сваё:

— Хворы быў тры дні беспрытомны. Ён яшчэ не акрыяў. Яго паказанні яшчэ не сапраўдныя.

«Зарэжуць яны без нажа,— міжволі падумалася тады.— Што рабіць?»

Увечары я доўга не мог заснуць. Чуў, што не спіць Жорж Куртад. Ён ужо хадзіў, рана на галаве загаілася: яго стукнулі каменем, калі падвозіў пікетчыкаў у порт. Я чуў, як Жорж падняўся, ціха падышоў да майго ложка, прашаптаў:

— Не спіш, камарада?

— Не, не сплю.

— Можна прысесці на ложак?

— Калі ласка.

Жорж прымасціўся ля ног на ложку, потым падсунуўся бліжэй, нахіліўся да майго твару. У пакоі было ціха, два другія хворыя храплі на ўсе застаўкі.

— Нам трэба пагаварыць, камарада Поль. Вас хочуць перавесці ў асобны пакой. Доктар раней не дазваляў. А пасля сённяшняга паліцыя пачне дзейнічаць. Могуць нас адсюль выгнаць. Каб вас пакінуць аднаго. Мяне на днях выпішуць. Ім патрэбна ваша прызнанне. Арыштавалі некалькіх лідэраў прафсаюзаў. Хочуць даказаць, што прафсаюзы займаюцца тэрорам. Разумееце?

— Разумею, камарада Жорж.

— Вы яшчэ не ўсё разумееце. Я ўжо стары. Мне скора шэсцьдзесят. Можна паміраць. Я ўсё, што мог, зрабіў. Але пажыць яшчэ хочацца. Наспяваюць вялікія падзеі. Цяпер нас Урыбуру загнаў у падполле. Спужаўся камуністаў. Усе багацеі перапалохаліся. Таму зрабілі гэты ваенны пераварот. Яны ўстанавілі рэжым тэрору. І камуністы пра гэта гавораць народу. Таму багацеям гэтак карціць паказаць, што тэрарысты — прафсаюзнікі. Вось яны за вас і ўчапіліся. Газеты распісалі — польскі лінжэра хоча працаваць, ірвецца на працу міма пікетчыкаў. А забастоўка вельмі шырокая. Хай не думае Урыбуру, што ён задушыў нас. Мы будзем змагацца. Нас многа.

— А вы даўно ў партыі, камарада Жорж?

— Ды ўжо дваццаць гадоў. Я прыехаў у Аргенціну яшчэ ў мінулым стагоддзі. Прыехаў без капіталу. Бацька рабочы, працаваў докерам у Марселі. Таварышы ехалі сюды, ну і я адважыўся. Тады і праўда жылося тут лепей. Я адзін працаваў у парту і сям'ю карміў. Калі ў Расіі адбылася рэвалюцыя, мы так радаваліся. Усе рабочыя радаваліся. У Еўропе моцна пахла рэвалюцыяй. Вось тады ў васемнаццатым годзе ўтварылася ў нас кампартыя. Спачатку яна называлася Інтэрнацыянальная сацыялістычная партыя. Ну, у Аргенціну ж людзі з усяго свету панаехалі. Праз год я стаў камуністам.

Жорж памаўчаў, прыслухаўся. У калідоры было ціха, суседзі нашы храплі сабе, у акно пазіраў жоўта-белы месячык, і ў яго няпэўным святле твар камарада здаваўся размытым, мяккім, задуменным, нават нейкім нерэальным, і ўся гэтая размова нагадвала мне нейкі

дзіўны сон. Але вось камарада Жорж загаварыў зноў глухаватым, прыцішаным голасам, дакрануўся, як тады ў машыне, да маёй рукі, і я мімаволі з удзячнасцю пацiснуў яго сухарлявую, шурпатую далонь з цвёрдымі ўзгорачкамі рабочых мазалёў — яны не сышлі за час хваробы, адно трохі памякчэлі.

— Я падумаў, што ты заснуў,— сказаў ён, пераходзячы на «ты».— Вось ты, камарада... Не крыўдуеш, што гавару «ты»? Я старэйшы. Дык вось, я думаю, ты ведаеш, хто цябе садануў нажом. Але правільна зрабіў, што не прызнаўся. Тут, брат, палітыка. Капіталісты ўсё робяць, каб нацкаваць адзін народ на другі. Каб французы не любілі палякаў. Каб палякі ненавідзелі туркаў, а туркі не любілі армян. Тады ім лягчэй з намі змагацца, трымаць просты народ, пралетарыят, у беднасці і галечы. Гэта асабліва важна ў нас, у Аргенціне, дзе ў любым горадзе, на любым заводзе працуюць людзі дзесяткаў нацыянальнасцей...

— У Расіі ж таксама шмат нацыянальнасцей, але ўсе жывуць дружна,— сказаў я, каб падтрымаць гаворку, у душы я быў вельмі ўдзячны Жоржу за шчырасць і адкрытасць.

— Ведаю. Я чытаў Леніна. Яго ідэі мне вельмі падабаюцца. А ідэі — гэта сіла. «Ідэі забіць нельга». Гэта сказаў аргенцінецАмінга Сарм'ента. Ты чытаў яго што-небудзь?

— Не, не чытаў. Чуў пра яго.

— Трэба пачытаць. Аргенцінцы яго вельмі шануюць. Бацькам нацыі называюць. А гэтую фразу «Ідэі забіць нельга» напісаў ён пад аргенцінскім гербам, калі пераходзіў граніцу Чылі. Ён сядзеў у турме, рэакцыйныя фанатыкі хацелі яго лінчаваць. Маці, сёстры выратавалі Сарм'ента. І ён уцёк за граніцу. Пачытай яго кнігу «Факунда, або Цывілізацыя і варварства». Факунда — гэта быў гаўча. Звычайны пастух. Але авантурыст па характару, жорсткі і смелы. Стварыў банду. Зрабіўся фактычным дыктатарам некалькіх правінцый. Генерал Росас, які быў тады прэзідэнтам, таксама тыран і дэспат, толькі з большай уладай, не мог цярпець яго. Яны былі як два павукі ў слоіку. Росас заманіў Факунду ў пастку і забіў. Было гэта каля сотні гадоў назад. Сёння гэты жыццёпіс Факунды асабліва цікавы. Разумееш, Сарм'ента паказвае, што спарадзіла Факунду. На якой глебе вырастаюць фюрэры, розныя там дучэ. Словам,

камарад, абавязкова пачытай. Я папрашу таварышаў, каб яны прынеслі кнігу. Жывучы ў Аргенціне, Сарм'енту трэба ведаць. Гаворыш жа ты па-іспанску добра. Чытаць можаш. Газеты чытаеш.

— Дзякуй за добрую параду. За гутарку,— я пацiснуў руку старога.

— Калі застанешся адзін, не бядуй. Болей чытай, вучыся. Ты яшчэ зусім малады. Маеш характар, волю, здароўем бог не пакрыўдзіў. Трымайся. Думаю, што ты зразумееш і прыйдзеш да нас. Да камуністаў. I будзеш змагацца за брацтва ўсіх людзей. Між іншым, Сарм'ента перад смерцю адмовіўся ад прычасці. Яго труну, паводле запавету, пакрылі сцягамі Аргенціны, Чылі, Уругвая і Парагвая. З гэтымі краінамі было звязана яго жыццё. А цяпер будзем спаць, а то ўжо скора развідне. Буэнас ночас, камарада!

— Буэнас ночас,— прашаптаў я. Каб мог падняцца, я абняў бы і пацалаваў старога. Заснуў я са светлым пачуццём, з упэўненасцю, што я цяпер не адзін, што нас многа, што нам, рабочым, трэба моцна ўзяцца за рукі і гэта будзе самы моцны ў свеце ланцуг.

Камарада Жорж не памыліўся. Раніцой прыйшоў у палату доктар, агледзеў мяне, абслухаў і сказаў, што маё становішча пагоршылася, хоць на самой справе я адчуваў сябе куды лепей, і што мне патрэбны спакой, цішыня, загадаў ложкі астатніх хворых выставіць у калідор. Я застаўся адзін, акурат у адзіночнай камеры. Кармілі добра: каша рысавая з мясам, фрукты розныя, кампоты. Цела маё налівалася сілай — маладосць і здаровы арганізм бралі сваё.

На трэці дзень маёй адзіноты прыйшоў следчы. Ён ласкава ўсміхаўся, жмурыў вочкі, як кот на сонцы. Спытаў пра настрой, пагладзіў па плячы:

— Усё будзе добра, аміга [1]. У вас жалезнае здароўе. Вы будзеце жыць. Ажэніцеся, жонка народзіць вам кучу дзяцей.

— А чым жа я буду іх карміць?

— Аргенціна — багатая краіна. Працаваць вы ўмееце, маеце добрую спецыяльнасць. А калі вы нам паможаце, атрымаеце цёплае месцейка... Трэба толькі сказаць праўду. Вас заблыталі. Вы трапілі ў бальшавіцкую пастку. Яны вас падкупілі.

---

[1] Сябра — *ісп.*

— Хто мяне падкупіў?

— Хто? Камуністы, бальшавікі. Вось і раскажвайце, як вы прыехалі ў Аргенціну, з кім устанавілі сувязі. Усё па парадачку. Так будзе лепей. Нам усё вядома. Раю не прыкідвацца дурнем.

Чаго, чаго, а гэтага я не чакаў. Ах ты, мярзотнік. От бы ўрэзаў табе між вушэй. Але тут вы нічога не даб'ецеся. На гэтым вы не сыграеце. Ніколі мяне ніхто не падкупляў. Нічога не дакажаце... А калі пашлюць запытанне ў Польшчу? Даведаюцца, што быў на падазрэнні. Успомнілася маёўка... Кепскія справы. Могуць кокнуць. Уцячы б адсюль. Хутчэй бы паздаравець... Думкі блыталіся ў галаве.

— Усё гэта мана, шаноўны сеньёр. Я магу паўтарыць толькі тое, што гаварыў раней. Болей сказаць няма чаго.

— Раскажыце, як вы працавалі ў дэпо. Як падбівалі рабочых баставаць. Расказвалі пра савецкіх камуністаў. Вы пабілі рабочага Каплунова. Ён памёр пасля вашых кулакоў.

— Няпраўда. Паклёп, сеньёр следчы. У вас няма доказаў.

— Ёсць доказы! — на ўсю глотку крычаў следчы.— Вы павінны самі прызнацца.

— Калі вы будзеце крычаць, мне стане млосна. Я магу зусім звіхнуцца... І вас за гэта па галоўцы не пагладзяць,— я заплюшчыў вочы і застагнаў.

Следчы скрыгатнуў зубамі і выкаціўся за парог. А я моцна задумаўся: могуць, гады, сфабрыкаваць любую справу, упякуць у турму або вышлюць на Вогненную Зямлю. Падвечар маладая манашка прынесла кнігу Сарм'енты пра Факунду. У кніжцы была запіска: «Мы цябе помнім. Трымайся. Скора вызвалім». О, як дарэчы была гэта пісулька і кніга! Я адразу акрыяў, да мяне вярнулася весялосць, цвёрдае жаданне перамагчы і вырвацца адсюль жывым. Кнігу я чытаў, аж пакуль зрабілася зусім цёмна — электрычнасці не было, баставалі рабочыя электрастанцыі. Добра, што дні былі даволі доўгія — пачыналася вясна.

Уранні прачнуўся, як толькі пасвятлела неба. Пакратаўся на ложку, сціснуў кулакі і адчуў гэтакі прыліў сілы і бадзёрасці, што не ўтрываў — асцярожна прыўзняўся на ложку, пад лыжачкай нешта заныла, у галаве неяк памутнела, але зноў не лёг, пасядзеў, а по-

тым спусціў на падлогу ногі, трымаючыся за спінку ложка, зрабіў крок, другі, трэці і дапяў да акна. Сэрца ў грудзях тахкала як апантанае, лоб узмакрэў, але я стаяў, прыхіліўшыся да падаконніка, удыхаў на ўсе грудзі свежае ранішняе паветра, што лілося праз фортку. Палата знаходзілася на другім паверсе, пад акном раслі пальмы, зелянела трава. Жыць! Гэтак хацелася жыць, што ледзь не выскачыў за акно.

Тым часам у пакоі зусім пасвятлела, я лёг і ўзяўся за кнігу. Разумеў я ўсё, Сарм'ента пісаў проста, даступна, як пішуць у газеце. Ён не ганяўся за незвычайным словам. Ён хацеў, каб яго зразумеў кожны просты чалавек і стаў яго прыхільнікам, аднадумцам. Потым манашка перадала новую кнігу — «Дон Кіхот» Сервантэса. Я не раз чуў пра Дон Кіхота яшчэ ў Беларусі. У Аргенціне Дон Кіхот, мусіць, самы папулярны літаратурны герой. І вось, нарэшце, я мог прачытаць пра яго. Над гэтай кнігай я плакаў і смяяўся, чытаў з цёмнага да цёмнага. На допытах лаяў следчага, даводзіў яго ледзь не да істэрыкі, а потым сам прыкідваўся беспрытомным, прыбягаў доктар, «ратаваў» мяне. Доктар усё добра разумеў і, відаць, у душы ўхваляў маю тактыку, бо дакараў следчага, які давёў мяне да такога стану.

Неяк у нядзелю пад акном пачуўся шум, галасы. Я выглянуў — унізе стаяў цэлы натоўп людзей, сярод іх Казімір, хлопцы, з якімі працаваў, некалькі незнаёмых маладых лінжэра.

— Як здароўе? Трымайся! Бастуе ўвесь горад. Губернатар выклікаў заводчыкаў. Ламаюць галовы, як выкруціцца. Яны вымушаны пайсці на ўступкі...

Казімір хацеў яшчэ нешта сказаць, але паявіліся паліцыянты з карабінамі. Рабочыя адышлі. Здалёк яны махалі мне рукамі, а потым заспявалі песню. Яны спявалі «Інтэрнацыянал».

Назаўтра следчы да мяне не заходзіў, доктар таксама не паказваўся. Старая манашка прабурчала, што я ўжо здаровы і што па мне турма плача. «Прэч адсюль, старая карга!» — манашка хоць і не разумела па-беларуску, але, мусіць, твар у мяне быў такі страшны, што яна куляй вылецела ў калідор.

Адвячоркам я пачуў галасы за акном, гучныя сігналы машын. У пакоі гусцеў вячэрні змрок, і раптам лямпачка пад столлю злёгку заружавелася, а потым успых-

нула яркім святлом. У калідоры пачуліся нечыя рашучыя крокі, шум, валтузня. Дзверы ў палату рэзка расчыніліся. На парозе стаяў камарада Жорж і яшчэ два маладыя здаровыя хлопцы. За іх спіной нешта кудахталі манашкі, але хлопцы ў палату іх не пусцілі.

— Салют, камарада Поль. Збірайся, паедзеш з намі,— пацiснуў маю руку, з радасцю дадаў: — Забастоўка перамагла. Буржуі прынялі патрабаванні забастовачнага камітэта.

Спалоханыя манашкі борздзенька прынеслі мае рэчы — штаны, пончa, і я, не чуючы ног ад радасці і хвалявання, пад ручку з Жоржам пакінуў абрыдлую мне бясплатную бальніцу для бедных.

Праз тры дні я быў ужо ў Буэнас-Айрэсе з пісьмом за пазухай і адрасам да аднаго таварыша.

Пачыналася новая старонка майго жыцця.

## XVI

— У вас жыве сеньёр Мігель? — спытаў я ў гаспадыні дома.

Сталага веку кабета пільна зірнула на мяне, пацiснула плячамі:

— Не, сеньёр, такога ў нас няма. Вы, мусіць, памыліліся.

Я ветліва пакланіўся і павярнуў на вуліцу, а сам сабе думаю: можа, і праўда я памыліўся, але чаму яна гэтак зірнула на мяне? Тут нешта не так. Мабыць, яна пабаялася прызнацца. У Аргенціне ўсе тады былі напалоханы арыштамі. Кампартыя была ў падполлі, большасць яе кіраўнікоў у турмах. Усе прагрэсіўныя, культурныя і прафсаюзныя арганізацыі забаронены. Дыктатар Урыбуру пад мятлу вымятаў лепшых людзей краіны.

Здалёк я цікаваў за домам, чакаў, калі гэты таямнічы, невядомы мне Мігель прыйдзе з работы. Адвячоркам у дом зайшоў мужчына. Праз нейкі час ён выйшаў, паглядзеў у абодва бакі вуліцы. Я памалу рушыў да яго. Наблізіўшыся, ціха сказаў:

— Антонія з Санта-Фе.

— Мігель,— адказаў чалавек, падаючы мне руку. Я непрыкметна сунуў яму пісьмо.

Мігель запрасіў мяне ў дом. Гаспадыня сустрэла надзвычай ветліва, пачаставала чаем. У той жа вечар

Мігель прывёў мяне на кватэру дона Альберта. У калідоры нас сустрэла танклявая смуглаватая дзяўчынка. Яна запрасіла ў пакой, яе вялікія цёмныя вочы дапытліва, неяк здзіўлена зірнулі на мяне, як сонца бывае бліснe з-за хмары. Той пагляд Хуаніты я помню і зараз і буду помніць да скону, помню, як чамусьці пачырванеў тады і не ведаў, куды падзець свае рукі, і ўвогуле адчуў сябе, нібы слон у клетцы.

Праз колькі дзён новыя сябры ўладкавалі мяне газаэлектразваршчыкам на фабрыку, дзе выраблялі трубы невялікага калібру. Рэкамендацыя падпольшчыкаў Санта-Фе адчыніла мне дзверы ў камсамольскую ячэйку. І тут, як толькі даведаліся, што я жыў у Савецкай Расіі, мяне засыпалі пытаннямі. Расказваў, не думаючы пра тое, што зноў магу застацца без работы і нават больш таго: як камсамольца, маглі ўпячы за краты. Але ніхто мяне не выдаў.

Усё гэта ўсплыло на памяць у тую ноч напярэдадні першамайскай дэманстрацыі.

Раніцай на вуліцы Трыумверата, недалёка ад рэстарана «Аўтамат», сабраліся рабочыя раёна Вілля Крэспа. Адсюль дэманстранты рушылі на плошчу Адзінаццатага верасня. Калону вялі камуністы. Наперадзе з чырвоным сцягам ішоў таварыш Мігель. Побач з ім некалькі дужых маладых хлапцоў-камсамольцаў — яны аберагалі сцяг, бо ад паліцыі ўсяго можна было чакаць. За імі ішлі Кармэн, Хасэ і Энрыке, потым я з Хуанітай — над намі чырванеўся плакат «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!».

Калона выкіравала на вуліцу Кар'ентас, прамінула Гран Маркада (вялікі рынак), сустрэлася са студэнтамі, якія ішлі ад каледжа з вуліцы Кардоба. На плошчы Адзінаццатага верасня на скорую руку была збіта трыбуна для прамоўцаў. Такую назву плошчы далі ў гонар паўстання, якое пачалося 11 верасня 1852 года супраць правіцеля Уркісы. Паўстанне перайшло ва ўпартую барацьбу паміж правінцыямі і Буэнас-Айрэсам. Тры гады доўжылася змаганне. Абодва бакі імкнуліся перацягнуць да сябе Сарм'енту, які быў у эміграцыі ў Чылі і выступіў за прымірэнне, за нацыянальнае з'яднанне. Ён сказаў тады крылатыя словы, якія ведаюць усе аргенцінцы: я — правінцыял у Буэнас-Айрэсе, буэнасайрэсец — у правінцыі, але аргенцінец заўсёды і паўсюдна.

Дык вось на гэтай плошчы сабралася мора людзей. З трыбуны выступаў генеральны сакратар кампартыі Аргенціны Альбердзі Ганзалес. Я стаяў даволі блізка, усё чуў і бачыў. Ганзалес гаварыў пра цяжкое жыццё рабочых, што ў краіне пануе беспрацоўе, людзі канаюць з голаду, у той час калі тысячы тон адборнай пшаніцы выкідваюцца ў акіян, сотні гектараў спелай кукурузы спальваюцца на палях. Усё гэта робіцца пад дыктоўку замежных манаполій, якія баяцца канкурэнцыі і дбаюць толькі пра сваю машну...

Не паспеў ён скончыць прамову, як з усіх вуліц да плошчы рынуліся конныя паліцыянты, пачуліся стрэлы, людзі разбягаліся хто куды.

## XVII

Дні праз тры, адвячоркам да мяне зайшла Хуаніта. Твар яе быў хмуры, у вачах стаялі слёзы.

— Што здарылася, Хуаніта?

— Нічога асаблівага. З мамай пасварылася.

«Такой бяды»,— падумаў я і сказаў з усмешкаю:

— Нічога, Хуаніта. Гэта бывае. Памірыцеся...

— Сам вінаваты і яшчэ ўсміхаецца,— надзьмулася Хуаніта.

— Я вінаваты? У чым жа я правініўся?

— У тым, што кепска хаваеш свой партбілет. Мама прыбірала ў тваім пакоі, зазірнула ў партфель і ўбачыла партбілет. Каб ты ведаў, як яна перапалохалася. На мяне накрычала, каб я з табой і не размаўляла, а то нас усіх пасадзяць у турму. Я кажу: лепей у турму, чым так жыць, нікога не кахаць, усяго баяцца. А яна гаворыць: «Чаму не кахаць? На тое мы і жанчыны, каб кахаць, дзяцей нараджаць. Але з розумам. Ведаць, каго кахаць». І давай расхвальваць Раберта, майстра нашага атэлье. Ён прыходзіў да нас. Ты ж бачыў?

Я сядзеў нібы аглушаны. Хуаніта ўсё больш падабалася мне. Калі я гаварыў з ёй ці проста хадзілі па горадзе, я адчуваў сябе самым шчаслівым чалавекам. І вось на табе: са мной нельга ёй гаварыць, донна Луіза хоча выдаць замуж за гэтага п'янтоса Раберта.

— Што мне рабіць, Пабла? Чаму ты маўчыш?

— А што ты адказала маці?

— Я сказала, што лепей пайду ў манастыр, чым за Раберта. Ненавіджу яго. Ён гідкі, як п'яўка. Гатовы на

любую подласць, абы набіць сабе бруха. Мама сваё: з ім будзеш жыць спакойна, гаспадар яго не звольніць. А Пабла могуць заўтра арыштаваць, выгнаць з работы. І нас усіх пасадзяць у турму...

За дзвярыма пачуўся голас донны Луізы: яна клікала Хуаніту.

— Зноў пачынаецца,— уздыхнула Хуаніта, апусціла галаву і моўчкі, з вялікай неахвотай, як не сваімі нагамі, пасунулася з пакоя.

Што я мог сказаць Хуаніце? Так, мяне ў любы дзень могуць арыштаваць, ды і яе ж таксама, і Энрыке. Яго прынялі нядаўна ў партыю, і ён хавае ад маці свой партыйны білет. Я зразумеў, што болей мне тут заставацца нельга.

На другі дзень я перайшоў на новую кватэру. А потым успыхнула забастоўка трамвайшчыкаў. Пачалі яе вадзіцелі прыватных аўтобусаў «калектывас». Улады забаранілі іх, бо гэтыя маленькія аўтобусы шмат перавозілі людзей, забіралі пасажыраў метро і трамваяў, якія належалі англійскай кампаніі. Англічане адмовіліся купляць мяса, а гэта ўдар па кішэні мясцовых багацеяў, і тыя вырашылі забараніць «калектывас».

Пра гэта я дачуўся ад Мігеля, які перадаў рашэнне камуністычнай партыі: забастоўку падтрымаць, памагаць пікетчыкам.

У нядзелю раніцай да мяне зайшлі Энрыке і Хасэ.

— Пабла, хадзем з намі. Трэба лавіць штрэйкбрэхераў. Некаторыя трамваі выйшлі на лінію,— з парога пачаў Энрыке.— Я ўжо трэці дзень не працую. Стаіць мой грузавік, адпачывае.

Пачуўшы «штрэйкбрэхер», я аж здрыгануўся: некалі гэтае слова адрасавалі мне. Мусіць, на маім твары адбілася нейкая ўзрушанасць і разгубленасць, бо Хасэ раптам спытаў:

— Ты што, не здароў? Ці проста не выспаўся?

— Угадаў. Сапраўды кепска спаў сёння. Дзеўкі сніліся,— пажартаваў я.

— Аголеныя і вясёлыя, так? — рагатнуў Хасэ.

— Голыя, ды не зусім. Чамусьці ўсе былі ў купальніках, але з паходнямі, і ўсе крычалі: «Віва, Хасэ! Бой штрэйкбрэхерам!» — прыдумаў я.

— Ну, мастак ты выдумляць, Пабла! — смяяўся Хасэ.

Я тым часам сабраўся, і мы пайшлі. На цэнтральных

вуліцах густымі натоўпамі стаялі забастоўшчыкі. Машын нідзе не было відаць, толькі час ад часу на конях праязджалі карыентасы-паліцыянты. З-за павароту выпаўз, як чарапаха, трамвай. На прыпынку спыніўся, з яго выйшла некалькі пасажыраў. Але далей трамвай не пайшоў: рэйкі былі разабраны, каменне разварушана. З усіх бакоў трамвай абляпілі забастоўшчыкі, вадзіцеля выцягнулі з кабіны, пасажыры ўсе разбягаліся. Мы ўтрох таксама падаспелі сюды.

— Кемар! Кемар! — пачуліся галасы.

Але перш чым паліць, трэ было разбіць, наталіць злосць. У чалавеку жыве дух стварэння і разбурэння, знішчэння. Дастаткова было аднаго клічу «кемар», як аднекуль з'явілася каністра бензіну. Учэпістыя рабочыя рукі абхапілі цяжкі груваcткі карабок трамвая і кульнулі яго з рэек з такой лёгкасцю, нібы дзіцячую цацку. Мабыць, з самалёта гэта было падобна, як мурашы цягнуць карабок запалак. І вось ужо ўспыхнула барвовае дымнае полымя.

— Эх, асада б тут зрабіць,— паціраючы рукі, сказаў Хасэ.

— Давай быка. Асадор знойдзем,— падміргнуў пажылы рабочы з чырвоным, маршчакаватым тварам.

Вакол засмяяліся. Асада — смажанае мяса, любімы наедак аргенцінцаў. Дзе б аргенцінец ні быў, калі ў яго ёсць кавалак мяса, ён абавязкова раскладзе цяпельца і падсмажыць. У пампе я назіраў, калі на вогнішчы смажылі цэлага быка. Не раз бачыў, як рабочыя, што рамантавалі трамвайны шлях, у час абедзеннага перапынку распальвалі на асфальце цяпельца і смажылі мяса. Таму не дзіва, што словы Хасэ прыйшліся даспадобы. Магчыма, і над палаючым трамваем з'явілася б туша быка ці барана, але тут пачуўся цокат капытоў — размахваючы нагайкамі, імчалі карыентасы.

Забастоўшчыкі сыпанулі хто куды, хаваючыся ў пад'ездах дамоў. А больш рашучыя ўзяліся за булыжнік. Энрыке, Хасэ і я апынуліся за палаючым трамваем і адтуль пачалі шпурляць каменне. Я бачыў, як карыентас схапіўся за галаву, заківаўся ў сядле і, нібы мяшок, зваліўся на брук. Конь узвіўся на дыбкі, памчаў назад. Каменне паляцела гусцей. Агульны ўздым, трэск высокага вогнішча абуджалі ў душы нейкую першабытную весялосць. Хацелася крычаць, спяваць і скакаць цераз вогнішча, акурат як у купалаўскую ноч.

Трамвай дагараў, полымя ападала, калі прымчалі дзве пажарныя машыны. Нехта трапна кінуў камень, і шкло першай машыны разбілася на дробныя друзачкі, вадзіцель схапіўся за твар і прыгнуў галаву. Спынілася і другая машына. І тады ў раптоўнай цішы гучна і звонка затрашчалі стрэлы, быццам гаўча-пастухі ляскаталі бізунамі.

— Хлопцы, бяжым! — крыкнуў Энрыке і сігануў у бліжэйшы пад'езд, я рвануў за ім. Стрэлы пагусцелі, хоць каля трамвая, які цяпер моцна дыміўся, нібы нехта раздзімаў пчаліны курэль, ужо нікога не было.

— Дзе ж Хасэ? — я высунуўся на вуліцу. Хасэ, прыгнуўшыся, паўз дом бег да нас. Задыханы, ён убег у пад'езд, і мы рушылі далей. Толькі на вуліцы Рыа-дэ-Жанейра спыніліся, перавялі дых. Я ўбачыў на рукаве Хасэ чырвоную пляму крыві.

— Цябе параніла, Хасэ?

Той закасаў рукаў сарочкі, і мы ўбачылі невялікую чырвоную драпіну.

— Гэта як трамвай кулялі. Нават і болю не пачуў. Глупства, загоіцца,— Хасэ падзьмуў на рану.

— Зойдзем да нас. Перавяжам,— сказаў Энрыке.

Хасэ не пярэчыў, а я тым больш. Ішоў я з прадчуваннем радасці, што ўбачу Хуаніту. На маё шчасце яна была дома, адчыніла нам дзверы. Мы ўвайшлі ў былы мой пакойчык, які займала цяпер Хуаніта, пахла тут кветкавымі духамі, было чыста прыбрана, сціпла і ўтульна — адчувалася, што жыве дзяўчына. Па вачах Хуаніты я заўважыў, што яна рада нам.

— А дзе гэта стралялі? Цябе паранілі? — спытала яна ў Хасэ.

— Ды не. Проста драпіна. Пакуль жаніцца — загоіцца.

— Я зараз перавяжу.— Хуаніта выбегла ў калідор.

— Што здарылася? — пачуўся голас донны Луізы.

— Ну, зараз будзе прачуханка,— усміхнуўся Энрыке.

Донна Луіза памкнулася да сына, як квахтуха кідаецца да заблукаўшага і знойдзенага куранняці.

— О, мадонна, дзе ты ходзіш? Страляюць вакол. Маё ўжо сэрцайка зайшлося,— кудахтала донна Луіза.

— Нічога, мама, са мной не здарылася. Дарэмна ты хвалюешся.

— Як жа мне не хваляваццa? Ты ж маё дзіця роднае.

Хуаніта прынесла бінт, пачала перавязваць руку Хасэ. Тонкія пальцы пяшчотна, асцярожна дакраналіся да валасатай, тоўстай рукі Хасэ. Я глядзеў, як Хуаніта перавязвае Хасэ, і зайздросціў яму. Як хацелася мне быць на яго месцы!

— А цябе што, параніла? — устрывожылася донна Луіза.

— Не. Гэта мы кулялі трамвай. Драпанула трохі.

— Навошта вы трамвай кулялі? Сышоў з рэек?

— Мама, якая ты смешная! У горадзе забастоўка трамвайшчыкаў. Але знаходзяцца штрэйкбрэхеры. Выязджаюць на лінію. Гэтыя трамваі куляюць, абліваюць бензінам і паляць,— усхвалявана тлумачыў Энрыке.

— Мадрэ дэ дыяс (матка боска)! І ты там быў? — пляснула ў далоні донна Луіза.

— Ну, а як жа! Хапілі трамвай, перакулілі, нібы дзіцячую цацку, і падпалілі...

— Ніколі не думаў, што трамваі могуць гэтак гарэць,— пакратаўшы пальцамі забінтаванай рукі, сказаў Хасэ.— Поўны парадак. Можна ісці.

Я таксама падняўся, устаў і Энрыке.

— Куды? Не пушчу,— донна Луіза абхапіла сына за плечы.— Страляюць вакол. У турму захацеў?

— Мама, мы да Кармэн сходзім. Гэта блізка. Мы ў цэнтр не пойдзем.

Донна Луіза ніяк не магла дачакацца, калі ажэніцца сын, і таму пры ўпамінанні пра Кармэн адышла, супакоілася.

На вуліцы Хуаніта ўзяла мяне і Хасэ пад руку. Я ішоў з левага боку, Хуаніта прыхінулася да мяне, і мне падалося, што я чую, як б'ецца яе сэрца. Шкада, што дарога да дому Кармэн была кароткая.

## XVIII

Неяк, ідучы з работы, купіў вячорку «Націсіас графікас». У вочы кінуўся буйны загаловак «Мяцеж у Іспаніі». Паведамлялася, што ў ноч на 18 ліпеня радыё маленькага гарадка Сеута перадало ў эфір бяскрыўдныя звычайныя словы: над усёй Іспаніяй бязвоблачнае неба. А гэта быў сігнал для мяцежнікаў. Пра падзеі на Пірэнейскім паўвостраве з кожным днём пісалі ўсё

болей. Усё часцей пачалі мільгаць паведамленні пра «ўмяшанне» савецкіх камуністаў, аб стварэнні інтэрнацыянальных брыгад. На вуліцах Мадрыда, Барселоны, Більбао ідуць кровапралітныя баі. Рабочы клас Іспаніі выступіў на абарону рэспублікі. Іспанскія камуністы заявілі на ўвесь голас: «Но пасаран!» (Не пройдуць!) У Аргенціне, як і ў іншых краінах, пачалі збіраць сродкі на падмогу рэспубліканскай Іспаніі. На сходзе нашай ячэйкі мы таксама збіралі грошы. Я гатовы быў аддаць усё, што ў мяне ёсць, каб памагчы іспанскім таварышам.

Тым часам у Буэнас-Айрэсе пачыналася лета. Сонца прыпякала ўсё мацней. Аднаго дня мне давялося зварваць вялізную станіну. Зацягнуць у цэх яе не змаглі, і таму я працаваў на двары, пад адкрытым небам. Сонца смаліла, як у тропіках, гарачыня была страшэнная. Я намочваў берэт у халоднай вадзе, нацягваў яго на галаву і працаваў без пярэдыху: грошы за мінулы тыдзень усе аддаў у фонд дапамогі Іспаніі, і ў кішэні гуляў вецер, а тут майстар абяцаў добра заплаціць. Ну, я і шчыраваў. К канцу змены галава як налілася свінцом, а твар палаў агнём.

Увечары, прыйшоўшы з работы, я зірнуў на сябе ў люстэрка і жахнуўся: твар быў чырвоны, акурат спечаны, адно пад вачамі, дзе закрывалі акуляры, белыя кругі, як ліхтары. Памыўся халоднай вадой, трохі акрыяў, успомніў, што меўся зайсці да Хасэ, але куды ты пойдзеш з гэтакімі ліхтарамі, узяў газету, што ляжала на падлозе ля дзвярэй,— я папрасіў хлапчука-газетчыка, каб ён пакідаў яе тут,— пачаў шукаць паведамленняў з Іспаніі. У дзверы раптам пастукалі. «Пор фавор!» [1] — крыкнуў я, не адрываючыся ад газеты. Дзверы адчыніліся — на парозе стаяла Хуаніта. Ад нечаканасці я разгубіўся, забыў, што трэба запрасіць увайсці, сустрэць яе. Сядзеў і талопіў вочы. Хуаніта першая апамяталася, увайшла ў пакой.

— Што з табой? Чаму ў цябе гэтакія кругі? — спалохана спытала.

— Нічога страшнага. Гэта ад сонца... Сядай, Хуаніта. Ты ж у мяне першы раз... Цяпер я спытаю: што здарылася? Без дай прычыны ты б не прыйшла.

— Чаму я не магу да цябе прыйсці? — хітравата

---

[1] Калі ласка! — *ісп.*

прыжмурыліся цёмныя вочы. Перш чым сесці, хуткім паглядам дзяўчына акінула пакой, у якім нічога не было, апроч маленькага століка, тумбачкі, халасцяцкага ложка, засланага пакрывалам. На століку ў рамачцы стаяла фотакартка маці, знаёмая Хуаніце: гэта картка была са мной і на іх кватэры. Хуаніта прысела на стул ля століка і сказала:

— У цябе тут утульна, Пабла.

— Утульна, але не зусім.

— Чаму?

— Ну, сяго-таго не хапае. Думаю, што ты разумееш. Лепей скажы, чаму ты прыйшла.

— Ты мяне здзіўляеш, Пабла. Няўжо ёсць такі закон, які забараняе дзяўчыне зайсці да хлопца?

Я моўчкі глядзеў на яе. Мы так даўно знаёмыя, часта раней сустракаліся, хадзілі ў кіно, асабліва калі паказвалі фільмы пра жыццё ў Расіі: «Рэнасімента» («Уваскрэсенне»), «Ганна Карэніна», «Акуросада (Браняносец) «Пацёмкін», «Каміна асіа ла віда» («Пуцёўка ў жыццё») і інш. Але быць сам-насам і далёка ад іх дома не выпадала, заўсёды з намі нехта быў яшчэ, нібы клін. Цяпер мы сядзелі насупраць і абое хваляваліся, не знаходзілі слоў.

— Пабла, ты, мусіць, ведаеш, заўтра ў восем вечара ў салоне «Гарыбальдзі» сацыялісты праводзяць нейкі вечар?

Я хітнуў галавой, бо пра гэты вечар мне гаварыў Мігель.

— Кармэн і мне даручана раскідаць там лістоўкі. Што ў іх, ты таксама павінен ведаць. Кампартыя заклікае да адзінства народнага фронту. Магчыма, там будуць танцы. Ва ўсякім разе, было б добра, каб ты з намі пайшоў. Энрыке абяцаў...

— Хіба я калі адмаўляўся? — з радасцю сказаў я, бо яшчэ ніяк не мог апамятацца, не мог даць веры, што Хуаніта сядзіць у маім пакоі, што мы з ёй удваіх. Гэтага моманту я чакаў даўно, а цяпер у мяне не было слоў, я не ведаў, з чаго пачаць гаворку, а сказаць хацелася шмат. Баючыся, што Хуаніта ўжо зараз пойдзе, я спытаў:

— Хуаніта, колькі мы з табой знаёмы?

Дзяўчына, не ведаючы, навошта я гэта пытаю, разгубілася:

— Колькі? Гады чатыры ці пяць.

— Прабач за такое пытанне: колькі табе гадоў?

— Мне? Ужо шмат. Па-аргенцінску, дык я ўжо старая. Бабуля. Мне дваццаць год.

— Якая ж ты бабуля! Самае дзяўчо...

— Ты забываешся, Пабла. У Аргенціне дзяўчаты хутка растуць і рана старэюць. Італьянкі асабліва... А колькі табе, Пабла?

— Куды болей, чым табе.

— Помню, як ты прыйшоў тады да нас з Мігелем. Тады, па маіх падліках, табе было гады дваццаць два. Цяпер, мусіць, дваццаць шэсць.

— Ты не ўгадваеш. Мне ўжо дваццаць восем. Вось ты кажаш — старая. А чаму не выходзіш замуж?

— Няма добрага хлопца, які б мяне пакахаў і ўзяў.

— Няпраўда.

— Не, Пабла, праўда. Скажы, а чаму ты не жэнішся?

— Няма дзяўчыны, якая сур'ёзна магла б мяне пакахаць.

— Вось і няпраўда.

— Ты кажаш — няпраўда. А ці магла б ты пакахаць мяне?

Хуаніта сумелася, пачырванела. Хвіліну памаўчала — для мяне гэтая хвіліна здалася вечнасцю — і сказала:

— Ты нічога не ведаеш, Пабла...

— Як не ведаю?

— Каб ведаў, не задаваў бы такіх пытанняў... Вось наш Энрыке. Колькі год сябруе з Кармэн! Мама і тата кажуць яму: жаніся, не муч сябе і дзяўчыну. А ён усё не можа адважыцца. Нечага чакае.

— А чаго ён чакае?

— Не ведаю. Аднойчы ён пытаецца ў мяне: «Што рабіць? Кармэн хоча, каб мы ажаніліся». Даўно час, кажу я, яна слаўная дзяўчына. А Энрыке і гаворыць: «Добра ты раіш. Ажаніцца прасцей за ўсё. Бацькі ў яе няма. Айчым гэтакі нанду (страус), нічога не хоча рабіць, нідзе не працуе. Дзе капейчыну падловіць, адразу прап'е. Сядзіць на шыі маці і Кармэн. А нашы бацькі? Тата і мама ўжо не могуць працаваць. Жывуць з нашага заробку. Ну, добра, я ажанюся. Займею сям'ю. Табе час выходзіць замуж. А хто будзе глядзець за старымі? Што ж іх, жыўцом пахаваць?» — Хуаніта глыбока ўздыхнула, зірнула на сябе і ціха сказала: — Калі мы

дачакаемся шчаслівага дня, каб жыць, як моладзь у Савецкім Саюзе?! Колькі яшчэ трэба аддаць жыццяў, каб свет палепшаў?

Усхваляванасць Хуаніты перадалася і мне, я ўскочыў са стула, пачаў хадзіць узад-уперад.

— Так, Хуаніта, яшчэ шмат будзе ахвяр. Без барацьбы само з неба нічога не зваліцца. Руская моладзь заваявала сабе лепшую долю ў 1917 годзе. Нам ёсць з каго браць прыклад. І мы будзем змагацца да перамогі...

Цяпер нехта можа сказаць, што гэта — занадта гучныя словы. Не. Мы гаварылі гэтак, і думалі гэтак, і змагаліся, і жылі гэтак.

Разважаючы, я спыніўся напроці Хуаніты. Яна сядзела, апусціўшы галаву, каштанавыя пасмачкі валасоў спадалі на яе смуглявы, сімпатычны і вельмі мілы тварык. Я падышоў бліжэй, нахіліўся над ёй, абедзвюма рукамі паправіў угору яе валасы, паглядзеў у яе сумныя чорныя, як вугольчыкі, вочы і нечакана пацалаваў у абедзве шчакі. Хуаніта ўстрапянулася, спалохалася, адкінулася на спінку стула, на якім сядзела, схапіла мяне за рукі, прыўзнялася, абняла мяне, моцна прыхінула да сябе і горача пацалавала ў вусны.

— Болей не трэба, Пабла. Я ведаю, ты вельмі добры. За гэта я цябе і кахаю,— яна абцягнула сваю блузку, падала руку і моцна паціснула маю далонь.

— Да пабачэння. На вечар пойдзем разам, так?

— Добра. Заходзьце па мяне.

Хуаніта выйшла. Я правёў яе позіркам. «Якая ж ты мілая і слаўная. От была б верная сяброўка ў жыцці»,— падумаў я.

## XIX

Весткі з Іспаніі былі трывожныя. На партыйным сходзе, дзе ішла гаворка аб адпраўцы ў Іспанію добраахвотнікаў, я выступіў адным з першых і прасіў, каб мяне ўключылі ў спіс. Ніхто не запярэчыў. І я памалу пачаў рыхтавацца да ад'езду. Пакуль не атрымаў на рукі ўсіх патрэбных дакументаў, я нікому пра гэта не гаварыў.

Неяк на пачатку студзеня 1937 года таварыш Мігель, з якім я тады часта сустракаўся, сказаў: «Скора

ад'езд. Дзевятага прынясу табе яшчэ адну паперу. Рэкамендацыя да іспанскіх таварышаў. Там спатрэбіцца... Будзь асцярожны».

Апошнія дні я рыхтаваўся да ад'езду. Звольніўся з фабрыкі, забраў у банку рэшту грошай, адаслаў частку маці, астатнія ўзяў з сабой на дарогу. Калі ўсё было падрыхтавана, вырашыў прызнацца Хуаніце. Дамоў да іх я хадзіў цяпер рэдка: не хацелася турбаваць яе бацькоў. Каб пагаварыць з Хуанітай, пільнаваў яе каля атэлье, стоячы ў засені дрэў, на другім баку вуліцы. На фабрыках зараўлі гудкі — скончыўся працоўны дзень. Адчыніліся дзверы атэлье, пачалі выходзіць швачкі — жанчыны і дзяўчаты, былі і мужчыны. Раптам выйшла Хуаніта і таропкім крокам пакіравала дадому. Я кінуўся напярэймы. Яна ўбачыла мяне, прыцішыла хаду.

— Прывітанне, Хуаніта! — сказаў я, калі мы параўняліся.— Хачу пагаварыць з табой,— мусіць, у голасе адбілася мая ўсхваляванасць, бо Хуаніта пільна зірнула на мяне, і ў яе цёмных вачах прамільгнуў цень трывогі.— На вуліцы няёмка... Мо зайшлі б у сквярык? Ці ты дужа спяшаешся?

— Давай зойдзем,— яна ўзяла мяне за руку, ад ласкавага дотыку яе пальцаў мяне быццам ударыла токам.

У скверы ў гэты час людзей амаль што не было. Звычайна адвячоркам, троху пазней, сюды прыходзяць жанчыны з дзецьмі. Мы селі на лаўцы пад высокім, купчастым дрэвам у дальнім кутку, дзе ніхто не мог замінаць нам.

— Ну, што здарылася? — спытала Хуаніта.

Я не ведаў, з чаго пачаць, і яшчэ мацней захваляваўся.

— Ці чула ты, што запісваюць добраахвотнікаў у Іспанію?

— У нас у групе пра гэта гаварылі. Скажу па сакрэту, Хасэ таксама запісаўся.

— А ты як глядзіш на гэта?

— Я лічу, што трэба ехаць. Хто мае магчымасць...

— А мне можна ехаць, як ты думаеш?

— Гэтага ніхто не можа ведаць, апроч цябе самога.

— Даруй, Хуаніта, што не сказаў табе раней. Ведаеш, усё рабілася цішком. Я не меў права нікому гаварыць... Я таксама еду неўзабаве. Усё падрыхтавана ўжо. Сёння паведамілі. Дзевятага студзеня ад'езд...—

Я змоўк, быццам перахапіла дыханне. Маўчала і Хуаніта.

— Усё-такі нядобра гэта, Пабла. Ты гаворыш мне цяпер, калі ў цябе ўсе дакументы на руках. Мне ты мог бы сказаць і раней...

— Я не хацеў трывожыць цябе. Нічога невядома было. Я не думаў, што гэтак хутка ўсё атрымаецца.

— Калі б раней сказаў, можа б мы вырашылі іначай...

— Як можа быць іначай? Дзяўчат туды не бяруць... Я павінен ехаць. Вось у ЗША пакаралі тваіх земляко̂ў — Сака і Ванцэці. Хіба яны не ведалі, што з імі можа здарыцца? Ведалі. Аднак змагаліся да канца. А што ў Аргенціне? Усе турмы забіты камуністамі. І мяне, і цябе могуць схапіць у любы момант. Дык што, сядзець і чакаць?

Хуаніта нічога не адказала. Яна была пахмурная, ве сумная, як ніколі. Я асцярожна абняў яе за плечы і весела сказаў:

— А ведаеш, як будзе добра, калі ў Іспаніі скруцім шыю фашысцкім генералам. Тады і ў нас, у Аргенціне, сёе-тое пераменіцца. Я вярнуся сюды... Перад выездам у Буэнас-Айрэс дам тэлеграму: едзем такім-та парахо дам. Ты прыйдзеш сустракаць, га?

Хуаніта ўсміхнулася, паглядзела на мяне, як на блазна, паківала галавой:

— Які ты фантазёр, Пабла! Наіўны, што дзіця.

— А хіба так не можа быць? Што тут нерэальнага? Калі не верыць у перамогу, то яе ніколі не дамагчыся. Але хопіць пра гэта. Давай дамовімся, як нам весці перапіску? — Хуаніта нічога не адказвала.— Ды не бядуй ты гэтак! Ты яшчэ маладая. Усё жыццё наперадзе. Я буду часта пісаць. Першы ліст прышлю з Парыжа. Згода?

Хуаніта моўчкі кіўнула галавой з такім выглядам, быццам нічога не чула, што я гаварыў.

— Пісаць буду на мой адрас, на які маці дасылала пісьмы. Зойдзеш, спытаеш, табе заўсёды аддадуць. Вось і ўсё, пайшлі дамоў. Вечарам, калі хочаш, можам схадзіць у тэатр. Запрасі Энрыке і Кармэн. Я вазьму самыя лепшыя білеты...

Хуаніта паднялася, паглядзела мне ў вочы:

— Вось не думала, што ты гэтакі рашучы...

Мы прайшлі па вуліцы Рыа-дэ-Жанейра, не даходзячы да Хуаніцінага дома, развіталіся. Дзяўчына шпарка пакіравала дамоў, а я павярнуў у свой завулак. Троху перакусіўшы, узяўся чытаць кнігу, якую напярэдадні купіў. Называлася яна: «Што я бачыў у Савецкай Расіі?» Напісаў яе тутэйшы аргенцінскі журналіст, які пабываў у Савецкім Саюзе. На вокладцы была намалявана маладая жанчына ў скуранай куртцы. Кінулася ў вочы старонка з буйным загалоўкам: «Сексуальнае жыццё і свабоднае каханне ў СССР». Але чытаў я механічна, думкі мае былі далёка. Мяне цягнула на вуліцу, каб сустрэць Хуаніту і сяброў. Толькі выйшаў з дому і адразу сустрэў... адну Хуаніту.

— Дзе ж Энрыке і Кармэн?

— Яны не прыйдуць. Я таксама нікуды не пайду. Прыйшла сказаць, каб не чакаў.

— Тады я таксама нікуды не пайду. Мо зойдзем да мяне на хвіліну?

— Хіба што на хвіліну...

Мы ўвайшлі ў пакой.

— А ў цябе як і было,— сказала Хуаніта.

— Сядай, калі ласка,— я падаў ёй стул.— Хочаш, пачастую матэ?

— Хачу. Толькі давай я цябе буду частаваць. Быццам ты мой госць. Дзе чайны посуд?

— У століку на палічцы ўсё што трэба.

Хуаніта дастала прымус, уліла спірту, запаліла агеньчык, узяла ручнік, што вісеў на спінцы ложка, прышпіліла сабе замест фартушка, пачала заварваць матэ, як сапраўдная гаспадыня. Я хуценька збегаў у магазін, купіў пірожныя «медыя люна» (поўны месяц, поўня), добрых цукерак да чаю. Тым часам вада ў чайніку закіпела, Хуаніта заварыла першы кубачак матэ і з мілай, ласкавай усмешкай падала мне. Рабіла яна ўсё так натуральна, звыкла, нібы мы даўно жывём разам. І чай з яе рук падаўся надзвычай смачным, як ніколі. Аргенцінцы вельмі любяць чай-матэ. Ён грэе ў холад, наталяе смагу ў спёку. Матэ — гэта і коўдра, і мяса. Матэ разганяе сум, весяліць душу і цешыць сэрца. Я выпіў некалькі кубачкаў, падзякаваў і неяк міжвольна паказаў рукой на чамадан, які стаяў пры ложку, быццам пацвярджаў, што ў мяне ўсё падрыхтавана. Потым адчыніў чамадан, дастаў картку, якая ляжала зверху.

— Калі хочаш, Хуаніта, магу падараваць на памяць. Маці ўжо адаслаў такі здымак.

— Ты яшчэ пытаеш? Падпішы, калі ласка.

Я напісаў на картцы: «На памяць любай Хуаніце. Павел. 7 студзеня 1937 года». Яна ўзяла картку, доўга ўглядалася, потым зірнула на мяне:

— Папраўдзе, толькі сёння разгледзела, што ў цябе сінія вочы.

— А яшчэ чаго ты не заўважала? — я падсунуў сваё крэсла бліжэй да яе.— Дазволь паглядзець на цябе. Мо і знайду я што, чаго раней не бачыў... А ты глядзі мне проста ў вочы. Я — таксама. Хто даўжэй будзе глядзець, той ні ў чым не вінаваты...

Мы доўга ўзіраліся вочы ў вочы, аж пакуль не зайшліся ад смеху. Потым твар Хуаніты спахмурнеў, яна ціха спытала:

— Калі ты ад'язджаеш?

— Дзевятага студзеня. А сёння ў нас сёмае. Значыць, паслязаўтра. У трынаццаць гадзін параход пачне прымаць пасажыраў.

— Добра, што паслязаўтра нядзеля. Выхадны дзень. Я прыйду цябе праводзіць.

— Уранні я зайду да вас. Развітаюся з тваімі бацькамі. Скажу, што еду ў Еўропу, да сябе дамоў. Але вярнуся назад. У 14 гадзін прыедзе таксі. Я дамовіўся са знаёмым вадзіцелем, падкіне да прыстані. Калі ён не зможа, паедзем у метро...

— Ты гэтак спакойна пра ўсё гаворыш... Не хачу, каб ты ехаў,— Хуаніта падышла да мяне, прыгладзіла мае валасы, абшчапіла за шыю, моцна пацалавала.— Я хачу ўсё жыццё быць з табою... Давай патанцуем.

— А музыка?

— Ты ціха праспявай што-небудзь. Пра Зорку Венеру. У цябе такі прыгожы голас...

Ад хвалявання, блізкасці Хуаніты ў мяне перахапіла дыханне, перасохла ў роце. Хрыплаватым голасам я пачаў:

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прывяла...
Помніш, калі я спаткаўся з табою,
Зорка Венера ўзышла.

— Дзе ты навучыўся так спяваць? — рукі Хуаніты ляжалі на маіх плячах, яе вусны былі так блізка, цёмныя вочы ласкава, задуменна глядзелі на мяне.

— Дзе? На тваёй радзіме. У Мілане, у тэатры Ла Скала... Не крыўдуй, я жартую. А гэта даўняя гісторыя,— я непрыкметна зірнуў на гадзіннік.

— Ты некага чакаеш? — устрапянулася Хуаніта.

— Не. Табе позна будзе дадому...

— Я не хачу дамоў,— яна прыхінулася, зноў пацалавала.

Тут ужо я не стрымаўся і сціснуў яе ў абдымках.

— Ой, задушыш. Давай лепей танцаваць. А ты спявай.

Я зноў напаўголаса зацягнуў:

З гэтай пары я пачаў углядацца
У неба начное і зорку шукаў.
Ціхім каханнем к табе разгарацца
З гэтай пары я пачаў.

— Дык дзе ж ты вучыўся спяваць? — спытала Хуаніта.— Раскажы. Я гатова слухаць усю ноч...

— У чатырнаццатым годзе, калі пачалася вайна, уся наша вёска падалася на ўсход. Ратаваліся ад немцаў. Ехалі доўга і дабраліся да горада Ліпецка. Гэта — Расія.

— Якая назва — Лі-пецк! Як добра гучыць!

— Дык вось у Ліпецку я вучыўся ў школе...

Хуаніта слухала ўважліва, галаву яна паклала на маё плячо. Мы танцавалі без музыкі, як у нейкім зачараваным забыцці або ў сне. Я расказаў, як зубрылі малітвы, а потым поп перастаў хадзіць у школу, бо адбылася рэвалюцыя, мы спявалі «Інтэрнацыянал», выступалі разам з Лідай Кавалёвай...

— Ты кахаў гэтую Ліду? — адразу наструнілася Хуаніта.

— Ну што ты, мілая. Мне было тады якіх дзесяць гадоў. Проста дзіцячая дружба.

— А яна прыгожая?

— Так. Яна была русявая, беленькая, нібы мятлушка. І вочы сінія. У маёй маці таксама сінія вочы, як пралескі. Гэта першыя кветкі вясны. Або як лён, калі зацвіце. На Беларусі, як і ў Аргенціне, сеюць шмат ільну. З яго ткуць палатно, адзенне шыюць...

— І што з гэтай дзяўчынай? Дзе яна?

— А ты, аказваецца, раўнівая, Хуаніта.

— Хто моцна кахае, той моцна раўнуе. Улічы гэта.

Я ўлічыў — горача пацалаваў Хуаніту. Яна мякка,

але настойліва выбавілася з маіх абдымкаў, пахіснулася, як п'яная, села да стала і закрыла твар далонямі. Я сеў побач, асцярожна гладзіў яе валасы. Калі яна адняла рукі, я ўбачыў мокрыя ад слёз вочы.

— Ну, вось яшчэ. Не трэба плакаць, любая... Усё будзе добра,— пачаў я.

— Пабла, мілы, навошта табе гэта Іспанія? Далёкая, невядомая краіна. У цябе там нікога няма. Ні родных, ні блізкіх, ні знаёмых...

— Я павінен ехаць. Няўжо ты не можаш зразумець?

— Што робіцца на свеце? — уздыхнула Хуаніта.— Адны поўзаюць, як слімакі. Гатовы на любую подласць, абы толькі набіць бруха. А іншыя гатовы жыццё аддаць за шчасце ўсіх людзей... Чаму ты гэтакі, Пабла? Энрыке ты завербаваў у партыю, Хасэ зацягнуў у камсамол. А цяпер едзеш бог ведае куды... У чужую Іспанію, дзе забіваюць...

— Іспанія не чужая. У Іспаніі пралетарыят дае першы бой фашызму,— нібы маломy дзіцяці, даводзіў я дзяўчыне.— Гэта бой і за маю радзіму. За свабоду маёй Беларусі.

Тут я злавіў сябе на думцы, што імкнуся пераканаць не толькі Хуаніту, але і самога сябе, бо хоць і рашыўся ехаць, у душы жыло і сумненне, і шкадаванне Хуаніты, і розныя думкі: не можа жывы чалавек бяздумна ісці на смерць. Я шмат аб чым перадумаў і гатовы быў пераканаць сваю каханую, а гэта ах як нялёгка — каханне не даруе добраахвотнай разлукі.

— Я ж табе гаварыў пра тваіх землякоў Сака і Ванцэці. І раней было, што людзі з адной краіны гінулі за волю другой, чужой, як ты кажаш. Паляк Яраслаў Дамброўскі быў генералам Парыжскай камуны, загінуў на барыкадах... Англічанін Байран аддаў жыццё за свабоду Грэцыі. А які быў талент! Сарм'ента лічыў сябе грамадзянінам чатырох краін...

— Пабла, мілы, я ўсё разумею,— глытаючы слёзы, сказала Хуаніта.— Але я не хачу, каб ты ехаў. Не хачу! Або кіну ўсё і паеду за табой. Хай забіваюць нас разам... Мілы мой, любы,— Хуаніта кінулася мне на шыю, цалавала і гаварыла безупынку:— Навошта мне гэта жыццё без цябе? Я таксама хачу ў Іспанію... Нарадзілася ў Італіі. А ты ў далёкай Беларусі. Сустрэліся ў Аргенціне. А загінем у Іспаніі. Дзеці ўсёй планеты. І на ўсёй планеце няма куточка для нашага шчасця...

— Ёсць такі куточак. Ёсць такая краіна. Разаб'ём фашыстаў у Іспаніі і паедзем у Савецкі Саюз... Трэба толькі пачакаць. Будзь мужнай, любая... Табе пара ісці. Донна Луіза хвалюецца...

Хуаніта спахмурнела, на нейкую хвіліну задумалася, потым зірнула на мяне — у яе цёмных вачах бліснула невядомая раней рашучасць.

— Не хачу дамоў. Давай танцаваць. А ты спявай пра зорку. Добра?

Яна абняла мяне, зноў паклала рукі на плечы. І я заспяваў:

Але расстацца нам час наступае:
Пэўна, ўжо доля такая ў нас.
Моцна кахаў я цябе, дарагая,
Але расстацца нам час.

— Каханне — гэта любоў? Амор? — спытала Хуаніта.

— Так. У гэтай песні пяецца пра каханне, расстанне, што такая іх доля. І што ў далёкім краі ён будзе глядзець на зорку і ўспамінаць пра яе, сваю любоў.

— Усё роўна як пра нас з табой. Мабыць, ён сам любіў, гэты паэт?

— Ён вельмі мала жыў. Усяго дваццаць шэсць год. Яго звалі — Максім Багдановіч. І зрабіў ён для Беларусі дужа багата. Ды за адзін гэты верш трэба ставіць помнік... Я перажыў яго. А што зрабіў?

— Што ты мог зрабіць? Мы з табой — беднякі. Голад і галеча загналі нас сюды, адарвалі ад радзімы. Але ж мы не скарыліся. Мы змагаемся! Я ганаруся табой, Пабла! Ты прыгожы і мужны. О, мадонна, як я люблю! Людзі не прыдумалі такіх слоў, каб можна было выказаць маю любоў. Я люблю мацней, чым шэкспіраўская Джульета. Што ёй, спешчанай і залізанай дачушцы? Рамэо не трэ было ехаць у чужую краіну пад кулі. Ну, бацькі іх варагавалі. Два лагеры... А цяпер увесь свет раскалоўся на два лагеры. Нам з табой цяжэй, Пабла. Мы нібы два зерняткі між камянямі млына. Нам трэ болей мужнасці... Каб не проста памерці, а каб жыць і змагацца...— расчырванелая, усхваляваная Хуаніта горача пацалавала мяне. Я не пазнаваў яе, сэрца маё калацілася ад радасці і смутку, што з гэтакай дарагой і любай дзяўчынай давядзецца развітацца.— Я ніколі цябе не забуду, Пабла. Што б ні здарылася на

гэтым свеце, помні — я чакаю цябе,— Хуаніта ўзяла са стала картку, прыціснула да грудзей.

— Веру табе, мая любая. Я вярнуся. І мы паедзем да мяне на Беларусь. У нас так хораша. Рака з чыстай, крынічнай вадой. Лес, луг зялёны. А колькі красак цвіце там! А як спяваюць птушкі!

— Я згодна ехаць за табой куды хочаш. А цяпер... Пабла, у нас з табой два дні. Два дні шчасця. Гэта багата і так мала. Бяры мяне, любы. Я твая...

## XX

Цёмна-зялёнага колеру таксі падкаціла да прыстані, дзе ля прычала стаяў параход пад бельгійскім сцягам. З машыны выйшлі тры хлопцы і дзве дзяўчыны. Сярод хлопцаў быў я, праводзілі мяне Мігель, Энрыке, Хуаніта і Кармэн. На вежы прабіла шаснаццаць гадзін. Трап з парахода быў яшчэ спушчаны, але па ім ніхто ўжо не падымаўся на палубу.

— Ну што, Пабла. Табе пара ісці, а то спознішся. Хасэ ўжо на параходзе,— Мігель моцна, па-мужчынску абняў мяне.— Бывай здароў! Вяртайся жывым.

Я абняў Энрыке, чмокнуў у шчаку Кармэн. Я стараўся быць вясёлым, але гэта мне не ўдавалася. Хуаніта трымалася малайцом — вясёлая, рухавая, і толькі вочы, глыбокія, цёмныя, былі сумныя і маркотныя.

— Шчасліва, Пабла,— яна абняла мяне, пацалавала ў вусны.— Пішы пры першай магчымасці. Я буду чакаць.

— Аста ла віста, кампан'ерас! — я падхапіў свой невялічкі чамаданчык і па трапе падняўся на параход. Азірнуўся — сябры махалі мне.

Дзяжурны прыдзірліва агледзеў мой білет, дакументы, паклікаў матроса і загадаў адвесці мяне ў каюту. У каюце матрос паказаў мой ложак і подбегам кінуўся назад. Я паставіў чамадан каля ложка і таксама выбег на палубу: хацеў убачыць Хуаніту, сяброў, але іх ужо нідзе не было відно. Я стаяў і пазіраў на бясконцы людскі паток на вуліцы, што ішла да прыстані. Вочы мае шукалі белую блузку Хуаніты, але ні Хуаніты, ні Энрыке з Мігелем не знайшоў. Міжволі падумалася: яны зніклі ў гэтым бясконцым, вірлівым натоўпе і, магчыма, назаўсёды, і я ніколі больш не стрэнуся з імі.

Сэрца агарнуў шчымлівы сум, пуста, журботна і тужліва стала на душы.

На палубе было невыносна горача, душна. За дзень усё нагрэлася так, што ні да чаго не дакрануцца. Нават падлога была гарачая, хоць яе і палівалі вадой. Усе пасажыры пазашываліся ў каюты, некаторыя ўжо заселі ў буфеце — там дыхалася лягчэй, на ўсю моц працавалі вентылятары. Я спусціўся ў сваю каюту. За сталом сядзелі пяцёра маладых мужчын. Яны гаварылі па-іспанску. Апошнія іх словы: Астурыяс, Більбао. Убачыўшы мяне, яны адразу перамянілі гаворку: адзін сказаў, што сёння надта горача, другі падтакнуў, маўляў, як у катле варыць... Я зразумеў, што гэтыя хлопцы, відаць, такія ж турысты, як і я, таксама едуць у Іспанію, але загаварыць з імі пра гэта не адважыўся. А мо яны проста абмяркоўвалі газетнае паведамленне? Я зняў пінжак, прылёг на свой ложак. Думкі блыталіся ў галаве, невядомасць наводзіла самоту.

Пачуўся параходны гудок, усе пасажыры сыпанулі на палубу. Параход павольна адыходзіў ад прычала — яго цягнулі два порсткія, як мурашы, буксіры. Пасажыры махалі хусцінкамі, хоць на прыстані нікога ўжо не было. Я таксама памахаў на развітанне гораду, у якім пражыў пяць гадоў. Параход выйшаў з гавані, пачаў набіраць хуткасць.

Зазвінеў званок на вячэру. Я пакіраваў у салон — невялікае памяшканне, дзе за кожным сталом ужо сядзелі людзі, афіцыянты подбегам разносілі страву. Прыпыніўшыся ля ўваходу, я акінуў вокам салон, шукаючы Хасэ, і заўважыў яго за столікам у кутку. Ля Хасэ было вольнае месца, і я рушыў туды. Побач з Хасэ сядзеў знаёмы хлопец — Леандра, якога я не бачыў з часу першамайскай дэманстрацыі. Пазнаў я і астатніх: іспанец Педра, родам з Більбао, і два хлопцы, з якімі сустракаўся ў клубе імя Тараса Шаўчэнкі. Усе былі вясёлыя, у добрым гуморы, чуліся жарты, рогат. Можна было падумаць, што хлопцы едуць куды-небудзь на пікнік.

— Пабла, у нашай каюце ёсць вольны ложак. Перабірайся да нас,— сказаў Хасэ.

— Весялей будзе,— дадаў Леандра.

— Я не супраць. Пасля вячэры адразу перасяляюся...— адказаў я.— А дзе вы жылі ў Буэнас-Айрэсе? — спытаў я ў землякоў.

— На Авельянеда. Мяне завуць Максім. Родам з-пад Брэста,— падаў руку русявы хударлявы хлопец.

— Васіль,— назваўся другі, смуглявы, цёмнавалосы.— Я з Украіны. Жыў таксама на Авельянеда.

— Ведаю ваш раён. Даводзілася часта бываць,— сказаў я.

Хасэ, Леандра і Педра былі са мной у адной партячэйцы, жылі ў раёне Віля Крэспа.

— А помніце, хлопцы,— звярнуўся я да Леандра і Педра,— як мы ноччу расклейвалі плакаты?..

— Гэта як паліцыянты нас накрылі? — перапытаў Педра.— А мы схаваліся на могілках Чыкарыта. Да раніцы сядзелі там.

— І як вам было ў кампаніі нябожчыкаў? — рагатнуў Хасэ.

— Весела. Як рыбцы на кручку. Праўда, нябожчыкі не ўзялі нас да сябе. Мы засталіся жыць,— адказаў Леандра.

Так, нам было што прыгадаць. І ў мяне настрой палепшыўся — вакол былі свае хлопцы, а сярод сваіх і паміраць не страшна.

Позна ўвечары параход падышоў да порта Мантэвідэа, сталіцы Уругвая. У порт мы не заходзілі. Падплыў невялікі куртаты кацярок, спусцілі трап, на параход падняліся некалькі маладых мужчын з маленькімі чамаданчыкамі. Відаць, і гэтыя хлопцы ехалі ў Іспанію.

Да глыбокай ночы сядзеў я з сябрамі на палубе. Было свежа, нават зябка, лёгка дыхалася пасля дзённай спёкі, якая звычайна бывае тут улетку.

Праз колькі дзён параход зайшоў у порт Пернамбука — буйны горад на поўначы Бразіліі. Судна дагружалі нейкімі скрынкамі, стаялі мы цэлыя суткі. Горад з мора выглядае вельмі прыгожа — з трох бакоў яго акружаюць горы, парослыя зелянінай. Дамы патанаюць у засені магутных купчастых дрэў: ім тут хапае і цяпла, і вільгаці.

— Браткі, давайце сходзім у горад,— прапанаваў няўрымслівы Хасэ.— А то да самай Еўропы зямлі болей не ўбачым.

І вось ушасцярых мы крочым па вуліцах незнаёмага горада. У цэнтры высозныя дамы, шыкоўныя магазіны. Потым звярнулі мы з галоўнай вуліцы, выйшлі да набярэжнай. Тут была зусім іншая карціна. Паступова зніклі прыгожыя дамы і магазіны, усё часцей траляліся хі-

баркі, злепленыя — пабудаваныя пра іх не скажаш — з усялякага ламачча, кавалкаў фанеры, бляхі.

— Падобна, што мы трапілі ў раён Новага порта,— азіраўся па баках Хасэ.

— Акурат усё такое, як у нашым Буэнас-Айрэсе,— сказаў Педра.

— Беднасць і галеча, браткі, усюды падобная,— пафіласофску зазначыў Максім, успомніў, мабыць, сваё гаротнае маленства ў беднай вёсцы пад Брэстам.

Хлапчукі і дзяўчынкі, чорныя і белыя, але гэтакія засмугленыя ад сонца, што не адрозніваліся ад сваіх чарнаскурых сябрукоў, поркаліся ў кучах смецця. Убачыўшы незнаёмых людзей, адарваліся ад свайго занятку, як па камандзе, сталі шарэнгай, утаропілі вочы.

— От, бісавы душы, вочы ў іх галодныя, як у шчанюкоў,— Васіль дастаў з кішэні цукерку, падаў мурзатаму карапузу.

Мы ўсё роўна як ведалі, што сустрэнем маленькіх грамадзян Пернамбука: амаль у кожнага з нас знайшліся цукеркі ці аргенцінскія манеты. Якой удзячнасцю і шчырасцю заблішчэлі вочы дзятвы! Доўга малеча глядзела нам услед. Мужчын у гэты час дня тут не было відно, зрэдку, няцвёрдым, расслабленым крокам праходзілі падгулялыя матросы з параходаў, што стаялі ў порце. Многія з іх тут не першы раз. Бывалыя маракі добра ведаюць, дзе можна купіць танную любоў ва ўсіх портах і гаванях буржуазнага цывілізаванага свету. І купляюць яны не толькі любоў, як бясплатны дадатак набываюць і хваробу на ўсё жыццё.

Чым далей мы ішлі, тым усё часцей і ўсё больш настойліва запрашалі нас зайсці ў халупы маладыя чорныя і белыя іх жыхаркі. Я міжволі прыгадаў Санта-Фе, свой паход на ніжнія вуліцы паўз Параны, Іванку, і так захацелася драпануць адсюль, што не вытрываў:

— Хлопцы, павернем назад, га? Пакуль штаны з нас не сцягнулі.

— Пабла баіцца, каб разам са штанамі не адарвалі і яшчэ што-небудзь,— зарагатаў Хасэ.

— Гэтым красуням трэба тое, што ў кішэні, а не «што-небудзь»,— пасмейваўся Максім.

— А раз кішэні пустыя, дык і няма чаго ўводзіць дзевак у зман,— падтрымаў мяне Васіль.

— Пайшлі назад,— павярнуў Хасэ.

— Раз не хочаш кусаць, дык не паказвай зубы,— смяяўся Педра.

— А сам чаму выскаляешся? — даймаў яго Хасэ, калі ішлі назад.— Нябось, каб грошыкі былі, не адмовіўся б ад кралі...

Усе смяяліся, а я злавіў сябе на думцы: няўжо хлопцы забылі, куды яны едуць? А зрэшты, няўжо ўвесь час думаць: што нас чакае? Мы былі маладыя, вясёлыя, здаровыя дзецюкі, і ўсё падарожжа на параходзе рагаталі, спявалі, як ніколі. Пасябравалі з іншымі пасажырамі. Сярод іх былі аргенцінцы, уругвайцы, бразільцы, іспанцы, італьянцы, украінцы і беларусы. Былі адукаваныя людзі. Яны не прызнаваліся, куды едуць, але, пэўна, кожны здагадваўся. Толькі ў Парыжы, калі сабраліся ў Камітэце дапамогі рэспубліканскай Іспаніі, мы ўсе назвалі адзін аднаго — таварыш.

## Частка другая

### I

У Парыжы, як толькі выйшлі з вакзала, адразу кінулася ў вочы вялізная, круглая, нібы цыферблат гадзінніка, карта горада. Усе вуліцы і плошчы пазначаны на ёй. Нам дужа карцела паблукаць па горадзе, пра які кожны гэтулькі чуў, але часу было ў аблізачку, і таму перш за ўсё мы вырашылі паехаць на Сусветную выстаўку. Там нас асабліва вабіў савецкі павільён. Яшчэ здалёк была відаць скульптура: мужчына і жанчына высока ўзнімалі серп і молат.

Васіль, Максім і я так і застылі ля ўваходу — не маглі адарваць вачэй ад гэтай скульптуры. Хасэ пайшоў быў уперад, але вярнуўся, стаў побач з намі. Узнятая на вышыню добрых трыццаць метраў, асветленая чырвоным зімовым сонцам, яна зіхацела, як залатая. У Буэнас-Айрэсе розных помнікаў багата, але нічога падобнага бачыць не даводзілася. Вакол тоўпіліся людзі, чуліся словы ці не на ўсіх мовах свету. Хасэ першым дазнаўся, што скульптура называецца «Рабочы і калгасніца».

— А што значыць калгасніца? — дапытваўся ў мяне Хасэ.

— Ну, як табе сказаць? Калгас — гэта калектыўная гаспадарка. Працуюць там калгаснікі і калгасніцы. Усё ў іх калектыўнае...

— І жанчыны агульныя? Спяць усе разам? — ухмыльнуўся Хасэ.

— Ты што плявузгаеш? — узбурыўся Максім.

— Пісалі ж нашы газеты... Што ў Савецкім Саюзе людзі ходзяць у намордніках, дзеці і бацькі спяць пад адной коўдрай, жонкі ва ўсіх агульныя. Я ж не сам выдумаў,— апраўдваўся Хасэ.

— Вашы газеты брахлівыя, як сучкі. А ты і паверыў. Глядзі, якія машыны, трактары! Разуй свае глядзелкі,— не стрываў і Васіль.

Стомленыя, але радасныя і шчаслівыя, пакідалі мы савецкі павільён. Я чуў, як вохкалі, дзівіліся людзі на выстаўцы, не маглі даць веры, што цёмныя, непісьменныя бальшавікі паспелі гэтулькі зрабіць. З цеплынёй, гонарам і надзеяй думаў я пра Савецкі Саюз. Максім нібы падслухаў мае думкі:

— А што, браткі, разаб'ём тут мяцежнікаў ды рванем да Саветаў, га!

— Каб твае словы ды богу ў вушы,— ціха сказаў Васіль.

Мы ўзбуджана гаманілі, абмяркоўвалі, як будзем дабірацца да Масквы: самалётам, на параходзе ці чыгункаю. Толькі Хасэ маўчаў, сярдзіта чмыхаў носам, мабыць, крыўдуючы на Васіля, а мо і на ўсіх нас. Я загаварыў па-іспанску, прапанаваў з'ездзіць на плошчу Бастыліі. Там, ля Сцяны камунараў, мы моўчкі пакляліся змагацца з фашыстамі да апошняга дыхання.

З Парыжа я адаслаў першы ліст Хуаніце, зваротны адрас не мог паведаміць, бо сам не ведаў, дзе апынуся, таму адказу чакаць не выпадала, паабяцаў напісаць ёй ужо з Іспаніі.

Назаўтра нашу групу адправілі ў горад Бардо. Тут мы прабылі некалькі дзён, жылі ў шыкоўным атэлі «Этуаль» (Зорка). Маючы дакументы турыстаў, мы свабодна хадзілі па вуліцах, іншы раз узыходзілі на высокую гару — адтуль увесь горад быў добра відзён, як на макеце. Я вывучаў горад, нібы прадчуваў, што мне давядзецца не раз сюды вяртацца...

Далей нас павезлі турысцкім аўтобусам. У лесе каля горада Перпіньяна мы праседзелі цалюткі дзень. З высокай паляны, дзе было гала, добра праглядваліся

горныя хрыбты Пірынеяў. Уранку прайшоў дождж, у гарах грукатаў гром, быццам нехта ездзіў там на жалезнай калясцы або вазіў тачкамі каменне. Як толькі сцямнела і вячэрняя смуга ахутала горы, французскія таварышы па крутой, вузкай сцежцы павялі нас цераз Пірынеі. Замест чаравікаў нам выдалі альпаргаты на вераўчанай падэшве, каб ішлі бясшумна, па лусце белага хлеба і па шакаладцы. У праваднікоў мелася па бутэльцы каньяку для сугрэву.

Ішлі мы адзін за адным, гуськом. Размаўляць і курыць было нельга. Выбліснуў месяц. У яго мутна-жоўтым святле мы, як здані, рухаліся па звілістай сцежцы. Скалы віселі над намі, і здавалася, што вось-вось яны абрынуцца на нас. Чым вышэй мы падніmaліся, тым рабілася халадней, цяжэлі ногі, бы наліваліся свінцом, часцей хацелася прыпыніцца, перадыхнуць. А сцежка, быццам вужака, паўзла ўсё вышэй і вышэй. Чапляючыся за каменне, карані дрэў, мы караскаліся ўгару, туды, дзе ў месячным святле цямнеліся вострыя вяршыні. Здавалася, не будзе канца гэтаму шляху, мы ўжо выбіліся з сіл, а вяршыні не набліжаліся. І ўсё ж пад раніцу дапялі да пераваЛу. Праваднік прывязаў за скалу вяроўку, і мы пачалі спускацца ў цёмную, як прадонне, даліну. Дзесьці ўнізе шумела рака. Цячэнне яе было гэтакае бурнае, што збівала з ног. Ішлі, трымаючыся за канат. Хасэ пакаўзнуўся і даў нырца, я паспеў падхапіць яго. Калі выбраліся на бераг, аказалася, што Хасэ згубіў альпаргат. Праваднік даў яму глынуць каньяку, але запасных чаравікаў не было, і Хасэ шкандыбаў у адным, другую нагу абматалі анучай.

Раптам унізе пачуліся стрэлы. Калона спынілася, навастрыла вушы.

— Хана будзе нам. Мусіць, заўважылі,— прашаптаў Максім.

— Ужо блізка граніца. Вунь за той вяршыняй,— падбадзёрыў праваднік.

Цёмная скала, нібы зуб нейкай жывёліны, здавалася зусім блізка, але гэта — горны міраж, бо давялося нам яшчэ тэпаць ды тэпаць. А ногі ўжо ледзь не падкошваліся, аж паджылкі трэсліся; кружылася галава, перахоплівала дых, а сэрца калацілася, як не выскачыць. Некаторыя ўжо не маглі ісці — іх неслі на руках. Хасэ збіў да крыві нагу, мы з Максімам вялі яго пад рукі.

Ужо развіднела, калі мы ўбачылі белы пагранічны слуп. За ім цямнеліся піраміды гор, парослыя дрэвамі, белыя вяршыні зіхацелі серабром у промнях сонца. Як толькі ступілі на іспанскую зямлю, усе заспявалі «Інтэрнацыянал». Адкуль узялася сіла! І ногі перасталі балець.

Потым доўга спускаліся ў даліну і нарэшце апынуліся ў пагранічным гарадку Фігерас. Тут нашу групу сустрэлі мілісіянас-пагранічнікі, якія даўно нас чакалі. Гарадок адразу нібы ажыў, з усіх бакоў да нас беглі людзі, ціснулі рукі, абдымалі: «Волюнтарыас. Віва волюнтарыас!» (Добраахвотнікі. Вітаем добраахвотнікаў!) А мы падалі з ног ад стомы. Нас добра накармілі, усім, хто згубіў у дарозе чаравікі, выдалі новы абутак.

Раніца была ціхая, паветра дыхала вясной, у садах зацвіў міндаль — на голых галінках аж бела кветак, і гэтыя дрэвы нагадвалі родныя беларускія вішні. Упершыню я адчуў, што бліжэй перабраўся да сваёй радзімы — тут ужо Еўропа.

Так думаў я па дарозе ў Альбасетэ, дзе знаходзіўся штаб інтэрнацыянальных брыгад. Наш аўтобус доўга блукаў па вузкіх вуліцах гарадка. У вочы кінуліся высозныя вострыя шпілі касцёлаў. Стракаты натоўп сабраўся каля рэпрадуктара: мабыць, слухалі паведамленне з фронту. Нарэшце мы выехалі на вялікі пляц. Смуглявы цёмнавалосы мілісіянас, наш праваднік з Фігераса, сказаў, што гэты пляц называецца — Плаца дэ Торэс. Тут звычайна адбываецца іспанская карыда — бой быкоў. Але зараз прафесійныя матадоры ўцяклі да фашыстаў: людзі яны не бедныя, пабаяліся за свае грошы.

Сям-там цераз вуліцу віселі вялізныя лозунгі, рознакаляровыя сцягі шматлікіх партый. У цэнтры горада сярод людзей багата было вайскоўцаў у берэтах і пілотках.

— Тут хапае і анархістаў. У іх чырвона-чорныя гальштукі,— зазначыў наш гід.

Неўзабаве я ўбачыў на тратуары здаравеннага мардастага боўдзілу — на тоўстай шыі мясніка матляўся чырвона-чорны гальштук.

У Альбасетэ нашу групу расфарміравалі. Максіма, Васіля, Хасэ і мяне залічылі ў польскі батальён імя Яраслава Дамброўскага. Навічкоў назбіралася больш як сто чалавек — пазней, у чэрвені 37-га, мы і сталі

ядром шостай роты, якая вырасце потым у батальён імя Палафокса.

Пакуль нас фарміравалі, апраналі ў новую форму, прамінула некалькі тыдняў. У вольны час мы ўчацвярых хадзілі па вуліцах горада. Удзень ужо моцна прыгравала, вочы рэзала сляпучае святло. У цэнтры з раніцы да позняй ночы працавалі кінатэатры — стужкі круцілі без перапынку: можаш у любы час заходзіць і сядзець, пакуль не надакучыць. У зале панавалі гамана, смех, тупат нагамі, калі на экране паяўлялася амаль голая прыгажуня.

— Што ў нас у Буэнас-Айрэсе, тое і тут. Абы адурманіць чалавека, злупіць з яго грошыкі. Пайшлі, кампаньерас,— пачынаў звычайна Хасэ, і мы выкульваліся з кінатэатра.

Разносчыкі газет на ўсю глотку абвяшчалі назвы газет і абяцалі за два цэнты ўсе навіны свету. Уладальнікі магазінаў ледзь не за рукаво цягнулі да сябе, каб спіхнуць які-небудзь заляжалы тавар. На скрыжаваннях прадаўцы цытрусавых совалі апельсіны, лімоны, арахіс — бяры ды не хачу. З душных залаў шматлікіх рэстаранаў даносілася музыка. І ўсё ж, нягледзячы на ўвесь гэты гармідар, на ўсю какафонію гукаў, весялосці не адчувалася — у паветры пахла вайной. Сям-там кідаліся ў вочы разбураныя будынкі, удзень налятаалі італьянскія бамбардзіроўшчыкі «капроні». Аднойчы мы толькі выйшлі з кіно, як пачуўся гул самалётаў, дзесьці блізка грымотна вухнула бомба. Мы ўбеглі ў паўцёмны галантарэйны магазінчык. Калі скончыўся налёт, гаспадар ветліва прапанаваў нам купіць... чырвона-чорныя гальштукі анархістаў. Вось табе і маеш!

— Эх, даць бы яму ў тоўстае рыла! — мацюкнуўся Васіль.

Я непрыкметна тузануў яго, маўляў, не дуры, а Хасэ падкрэслена ветліва сказаў:

— Грацыяс, сеньёр. Аста ла віста! [1]

## II

Неяк адвячоркам пастроілі наш батальён. Камандзір Ян Ткачоў, немалады, падцягнуты, з вусамі, прайшоў паўз строй, углядаючыся ў нашы твары. Я ўжо ведаў,

---

[1] Дзякуй, сеньёр. Да пабачэння! — *ісп.*

што Ткачоў — кадравы ваенны, афіцэр аўстрыйскай, потым польскай арміі, паўгода ўжо ваюе ў Іспаніі.

— Таварышы, пад Мадрыдам ідуць жорсткія баі. Фашысты хочуць перарэзаць дарогу Валенсія — Мадрыд,— сказаў ён, памаўчаў, нібы падбіраў больш дакладныя словы, а нам даваў час лепей абдумаць пачутае.— Рэспубліканская армія, інтэрнацыянальныя брыгады змагаюцца за кожны метр зямлі. Дарога — гэта артэрыя, якая сілкуе сталіцу. Наша задача — любой цаной не прапусціць фашыстаў. А зараз слова камісару таварышу Тамашэвічу.

Пачаў гаварыць невысокі каржакаваты чалавек у новай вайсковай форме. Гімнасцёрка неяк моршчылася на ім, нямоцна зацягнуты рэмень, планшэтка, што боўталася ля бока,— усё выдавала ў ім глыбока цывільнага чалавека. Загаварыў ён ціха, глухаватым голасам, з прыхаваным хваляваннем. Памалу голас яго мацнеў, сіла ўнутранай перакананасці, вера ў тое, што гаварыў, напаўняла кожнае яго слова. Поплеч са мной стаяў Хасэ, я перакладаў яму выступленні Ткачова і Тамашэвіча — абодва яны гаварылі па-польску. Тамашэвіч яшчэ і з моцным беларускім акцэнтам.

— Мы прыехалі сюды з розных краін, каб даць бой фашызму, міжнароднай рэакцыі. Правадыр рускай рэвалюцыі Ленін пісаў, што капітал ёсць сіла міжнародная. Каб яе перамагчы, патрэбен міжнародны саюз рабочых, міжнароднае брацтва іх... Вельмі добра сказана. Таварышы, браты мае, кожны з нас павінен быць мужным і стойкім. Тады фашысты не пройдуць. Но пасаран! — Тамашэвіч падняў угору сціснуты кулак. І мы ўсе, нібы клятву, выгукнулі: «Но пасаран!» Гэтыя словы не трэба было перакладаць — іх ведаў тады ўвесь свет. Краем вока я бачыў усхваляваныя твары сяброў: мы рваліся ў бой.

У Альбасетэ нам выдалі зброю, паказалі, як трэба зараджаць, прыцэльвацца, страляць. Інструктар, вясёлы рухавы іспанец з цёмнымі вусікамі, тлумачыў больш жэстамі, чым словамі: «Камарада, давай фуэга (агонь), піф-паф...» Разоў па колькі мы бабахнулі, больш не далі: шкадавалі патроны. І вось такіх, зялёных, неабучаных, нас пагрузілі ў эшалоны — і ў Мадрыд.

Сталіца Іспаніі ў тыя дні 1937 года была франтавым горадам, нагадвала развярушаны мурашнік: на вуліцах

поўна ўзброеных людзей, калонамі маршыравалі рабочыя з вінтоўкамі, у парку Каса дэль Кампа каля гармат завіхаліся артылерысты. Статуі Дон Кіхота і Санча Пансы былі абкладзены мяшкамі з пяском, сям-там дарогу перагароджвалі барыкады. На высозным гмаху — чатырнаццаць паверхаў — тэлефоннай станцыі вісеў пасечаны асколкамі, зрашочаны кулямі вялізны плакат «Но пасаран!». А на сцяне шыкоўнага асабняка, разбуранага выбухамі, былі напісаны чырвонай фарбай нейкія словы. Пакуль я спрабаваў разабраць, Хасэ прачытаў: «Лепш памерці стоячы, чым жыць на каленях». Ужо больш як паўгода горад змагаўся супраць мяцежнікаў. Яшчэ летась Франка крычаў на ўвесь свет, што 7 лістапада на белым кані праедзе па вуліцах Мадрыда і прыме парад сваіх войск. «Но пасаран!» — такі быў адказ мадрыдскіх камуністаў. Усе гараджане, хто мог трымаць у руках зброю, узняліся на абарону сталіцы рэспублікі.

Баі пад Мадрыдам... Удзень і ўначы не сціхалі выбухі, ірваліся бомбы, гулі самалёты. Асабліва запомніўся адзін бой на ўскраіне горада. Нечакана перад лініяй нашай абароны паявіліся італьянскія танкі «ансальда». Іх было многа, яны паўзлі сабе, узнімаючы воблакі пылу. Нашы гарматы чамусьці заціхлі. Танкі набліжаліся, сёй-той баец, стрэліўшы раз-другі з вінтоўкі, а гэта ім, танкам, што пугай па вадзе, адпаўзаў назад.

— Пабла, назад! — крыкнуў Хасэ і кулём пакаціўся да бліжэйшых кустоў, за якімі бялелі дамы.

Я адчуў, што спіна мая пахаладзела, рукі адразу зрабіліся потнымі, да болю ў суставах сціснулі вінтоўку, але што зробіш з такой зброяй супраць танкаў. Зубамі яго не ўгрызеш. Маланкаю мільганула думка: вось і адваяваўся. І такая злосць і лютая нянавісць успыхнулі ўва мне. Загінуць дарэмна... Хоць бы аднаго фашыста знішчыў! Ногі быццам самі, насуперак маёй волі, панеслі мяне ўслед за Хасэ. Вакол беглі іншыя байцы. Гарматы маўчалі, затое за камяніцамі дамоў пачуўся рокат матораў. Ён мацнеў, набліжаўся, і раптам над галавой пранесліся тры самалёты з чырвонымі зоркамі. Яны былі не падобныя на «капроні». Хуткія, вёрткія, нібы ластаўкі, яны бліснулі чырваназорнымі крыламі і зніклі.

Неўзабаве з-за кустоў імкліва выкаціліся зялёныя савецкія танкі. На хаду яны стралялі з гармат. Я ўпаў,

азірнуўся — над першым «ансальда» ўспыхнуў слуп агню. Астатнія італьянскія танкі драпанулі назад. «Віва Русія! Віва савецкіа!» — Хасэ здзёр з галавы берэт і шпурнуў яго ўгору. Ашалелы ад радасці, крычаў я, махаў кулаком і падскокваў Максім, а Васіль пайшоў гапака.

— Глядзіце, браткі, савецкі танк ідзе на таран! — крыкнуў Максім.

Мы ўсе застылі ў здзіўленні. Савецкі танк дагнаў «ансальда», зайшоў збоку і кульнуў фашыста з дарогі. «Ансальда» перакуліўся, задраў капыты і ахутаўся чорным дымам.

— Ось гэта карыда! — усклікнуў Васіль.— Так іх, макароннікаў! Хай ведаюць, як ваююць савецкія танкісты.

Праз некалькі дзён нашу брыгаду, парадзелую, змучаную баямі, адвялі ў тыл. Але адпачываць доўга не давялося. Не паспелі мы як след адмыцца, адаспацца, нас кінулі на Арагонскі фронт, пад Уэску. Абарону трымалі тут падраздзяленні, у якіх моцны ўплыў мелі анархісты. Гэты ўчастак фронту называлі «мёртвым»: анархісты не чапалі фашыстаў, а тыя не чапалі іх. Хадзілі чуткі, нібыта анархісты з фашыстамі гулялі ў футбол паміж лініяй фронту.

Інтэрбрыгады з ходу атакавалі пазіцыі фашыстаў. Магчыма, ім паведамілі аб нашым з'яўленні, бо атакуючых сустрэла сцяна агню з усіх відаў зброі. Шмат палягло байцоў-інтэрнацыяналістаў, але ўмацаваным пунктам авалодаць не ўдалося.

Увечары мы пачулі сумную вестку: загінуў камандзір 12-й інтэрбрыгады генерал Лукач. Ён ехаў на перадавую, машына трапіла пад артылерыйскі абстрэл. Выбухам снарада перакуліла легкавік, на месцы быў забіты шафёр, смяртэльна паранены Лукач. Па дарозе на санітарны пункт ён памёр. Адзін толькі раз мне давялося яго бачыць. Калі нашу брыгаду адвялі ад Мадрыда, неяк у штаб прыехалі на легкавіку афіцэры. Сярод прыезджых вылучаўся дужы, прысадзісты чалавек з кароткімі густымі вусікамі, у высокіх ботах, якія шчыгульна аблягалі лыткі, фарсістай замшавай куртцы. «Генерал Лукач, генерал Лукач»,— панеслася між байцоў. Мы ўсе з цікавасцю глядзелі на яго. Лукач быў у добрым гуморы, нешта весела расказваў, смяяўся. Разам з ім хадзіў камандзір нашай брыгады генерал

4*

Вальтэр. Мяне здзівіла, што гаварылі яны між сабой па-руску. Многа пазней я даведаўся, што і Лукач (Матэ Залка) і Вальтэр (Кароль Свярчэўскі) пасля Кастрычніка служылі ў Чырвонай Арміі... Адзін раз бачыў Лукача, а як пачуў пра яго смерць, у душы было такое адчуванне, быццам страціў блізкага і вельмі дарагога чалавека.

Пасля няўдачы пад Уэскай нас адвялі ў тыл, перафарміравалі, з батальёна імя Дамброўскага стварылі брыгаду, а з шостай роты новы батальён. Камандзір Ян Ткачоў сказаў, што ёсць прапанова назваць батальён імем Хасэ Палафокса. «Хто ён такі?» — пачулася з усіх бакоў. А Хасэ штурхнуў мяне пад бок: «Ого, мой цёзка». Ткачоў расказаў, што Палафокс у час барацьбы з Напалеонам узначальваў гераічную абарону Сарагосы. Быў ён тады капітанам і меў усяго дваццаць восем год. Потым ён стаў генералам іспанскай арміі.

— Не трэба генералаў! Мы супраць іх змагаемся,— пачуліся галасы.

— Таварышы! Генералы бываюць розныя. Не хочаце генерала Палафокса, забудзьце, што ён быў ім. Батальён будзе насіць імя капітана Палафокса — кіраўніка народнага супраціўлення. Ён нацыянальны герой Іспаніі,— сказаў камісар Тамашэвіч.

Гэта ўсіх пераканала, болей ніхто не пярэчыў. Так і нарадзіўся батальён імя Хасэ Палафокса, які адразу накіравалі на Мадрыдскі фронт.

## III

На золку, як толькі заружавелася неба, некалькі танкаў на поўным хаду праскочылі лінію абароны фашыстаў. Мы беглі ўслед за танкамі. Калі фашысты апамяталіся, адкрылі бязладны агонь, было позна: мы ўжо дапялі да іх траншэяў. Зусім блізка ад мяне ляскатаў кулямёт, я кінуўся туды. Фашыст адарваўся ад кулямёта, схапіўся за пісталет, але не паспеў стрэліць — руляй вінтоўкі я выцяў яго па руцэ. Кулямётчык заверашчаў ад болю і страху, адхіснуўся, кінуў наган і — наўцёкі. Але я дагнаў яго, вінтоўкай, як абухом, ламануў па круглай, нібы каструля, касцы. Фашыст зваліўся быццам падкошаны.

— Паўлюк, гэта ты? — пазнаў я голас Максіма.— Ты малоціш, як цэпам. Што з кулямётам будзем рабіць?

— Трэба прыхапіць з сабой. Спатрэбіцца.

Удвух падхапілі кулямёт, я засунуў за рэмень пісталет, і памчалі наперад. Танкі былі ўжо далёка. Зрэдку яны стралялі, і тады над імі ўспыхвалі клубы дыму. У дымным ранішнім тумане паказаліся белыя домікі гарадка Брунетэ. Танкі ўжо ўварваліся на яго вуліцы. Фашысты драпалі без аглядкі. Шырокім фронтам, бы лавіна, што абрынулася з гор, наступалі інтэрбрыгады.

— Наперад, браткі! — хрыплым, сарваным голасам крычаў камісар Тамашэвіч і бег, размахваючы рэвальверам.

— Во дае наш камісар! Гарны мужык,— пахваліў яго Васіль, які бег побач са мной.

Азірнуўшыся, я ўбачыў Хасэ. Расчырванелы, з растрапанымі валасамі, ён стомлена хаўкаў. Я прыцішыў крок, бо таксама страшэнна стаміўся — адзін цягнуў на плячах кулямёт, а Максіму аддаў сваю вінтоўку. У вышыні раптам загулі самалёты. Дзевяць двухматорных «юнкерсаў» зачарнеліся ў высокім блакітным небе. Вухнулі першыя бомбы, цёмна-бурыя слупы зямлі ўзняліся ўгору, чад і дым папаўзлі над роснай травой. Адкрылі агонь нашы зенітныя батарэі. Белыя воблачкі разрываў успыхваюць каля бамбардзіроўшчыкаў, нібы раскрываюцца белыя кветкі. Вось першы «юнкерс», ахоплены чырвоным полымем, быццам вялізная сігнальная ракета, паляцеў уніз. Тым часам з паўднёвага ўсходу, асветленыя промнямі сонца, бліскуча-ружовыя, набліжаліся нашы знішчальнікі.

— Чатос! Віва, чатос! — закрычаў Хасэ.

— Хутчэй, курносыя,— крычу я: чатос — курносымі — называлі ў Іспаніі савецкія знішчальнікі «І-15».— Дайце дыхту, дайце жару!

Вакол ірвуцца бомбы, мы ляжым і, не звяртаючы ўвагі на выбухі, глядзім у неба, дзе разгараецца паядынак жалезных птахаў, бо паявіліся і фашысцкія знішчальнікі. Але нашы апярэдзілі, і вось тоўсты, чорны «юнкерс» успыхнуў, як дымная махнытка, упаў на зямлю. Услед за ім развaліўся ў паветры ад выбуху другі бамбардзіроўшчык, а потым загарэўся і фашысцкі знішчальнік. Аднак ахутаўся полымем адзін «чатос».

— У, гады, каб вам...— моцна вылаяўся Васіль.

Фашысцкія самалёты драпалі, нібы перапалоханыя груганы. Неба ачысцілася, мы пабеглі далей і неўзабаве былі каля першых белых домікаў. «Ла каса бланка — дом белы»,— прыгадаў, як вучыў іспанскую мову ашчэ ў Санта-Фе. Як даўно гэта было і як далёка адсюль Санта-Фе, Буэнас-Айрэс, мая любая Хуаніта! Ліст ёй так і не паспеў адаслаць — не да гэтага...

Фашыстаў у гарадку не было. Жыхароў таксама не відно. Вуліцы нібы вымерлі. Чыстыя белыя домікі здаваліся ненатуральнымі, быццам тэатральная дэкарацыя, а цішыня нагадала цішыню на сцэне ў антракце, вось прагучыць званок, і ўсё пачнецца зноў — грукат выбухаў, гул матораў, жалезны лямант зенітных батарэй. Зеніткі і сапраўды зноў загаманілі, але дзесьці далей. Мы ішлі па бязлюдных, пустэльных вуліцах. З агародаў свежа і моцна пахла сырой зелянінай, кропам, вінаградам. Спыніліся на ўскрайку.

— Перакур з драматой,— сказаў Максім.

— Драмаць, таварышы, няма калі. Наш батальён павінен заняць вунь тую вышыню,— камісар Тамашэвіч паказаў на руды ланцуг курганоў.— Трэба не даць фашыстам умацавацца там...

Байцы таропка перакусвалі, запіваючы віном з фляжак, курылі, сцішана гаманілі. Я пазіраў на курганы, і здавалася мне, што бачу жэрлы гармат, рулі кулямётаў і вінтовак за цёмнымі кустамі, якія сям-там раслі на курганах, бачу франкістаў, якія цікуюць за намі, і варта нам толькі падняцца, яны лупянуць снарадамі і кулямі, як было пад Уэскай. І адна куля,— а іх жа будзе ляцець тысячы,— усяго адна, трапіць у мяне, і я ўпаду на гэтай патрэсканай ад спёкі чужой зямлі і ніколі ўжо не ўбачу Хуаніты, не пабываю дома, не пачую голасу маці, і яна ніколі не дазнаецца, дзе магіла яе сына.

Я прылёг, заклаўшы рукі пад галаву. У высокім, палетняму бляклa-сінім небе сям-там бялелі рэдзенькія, быццам лапічкі марлі, лёгкія аблачынкі. Сонца прыгравала ўсё мацней, звонка спяваў жаўрук. Не хацелася верыць, што з гэтага неба толькі што сыпалася смерць, лётчыкі вялі жорсткі бой, і многія з іх ужо ніколі не пачуюць жаўранка.

Не хацелася верыць, што ідзе вайна, на кожным кроку падсцерагае смерць. Чаму? Навошта? Няўжо чалавек не можа без вайны? Усё ліха ідзе ад таго, што адзін — багаты, а другі — бедны, у аднаго ўжо з горла

прэ, а другі канае з голаду. Прыгадаўся Жорж, тая ноч у бальніцы Санта-Фе. Як жывы паўстаў Стась — вясёлы, з агністай чупрынай. Ці паехаў бы ён у Іспанію, калі б застаўся жывым? Мусіць, не. А раптам? Бо і я ж адзін час дбаў толькі про тое, каб назбіраць паболей грошай, вярнуцца дамоў, купіць надзел зямлі і стаць культурным гаспадаром, вясковым багацеем... Цяжка чалавеку пераламаць самога сябе, і ўсё ж круціць, перакручвае яго жыццё, і розным ён можа быць — і героем, і штрэйкбрэхерам, можа выкінуць гэтакае, што потым усё жыццё будзе пячы яго сорам.

Спякотны летні дзень разгараўся. Сонца прыпякала ў твар, вочы зліпаліся, стомленае цела прасіла спачыну. Але пачуўся рокат матораў: з горада выходзілі танкі, зрэдчас яны стралялі па вышыні. Падхапіліся байцы нашага батальёна, і вакол замільгалі цёмныя берэты. Кароткімі перабежкамі мы пакіравалі да вышыні. Вось ужо і падножжа курганоў, купкі кустоў. Падмінаючы кусты, караскаліся ўгору танкі, мы за імі, усё вышэй і вышэй. А стрэлаў не было, толькі стракаталі конікі, спявалі птушкі. Чэрвень — макаўка лета, прырода брала сваё. Што ёй да нашых людскіх спраў? Ці гора, ці радасць — яна буяе. На вышыні зусім горача: у спіну смаліць сонца, праўда, у твар павяваў свежы ветрык, нават смурод ад танкавых матораў не мог заглушыць усеабдымнага водару чэрвеньскага разнатраўя.

На вышыні фашыстаў не было. Зноў — наперад! Танкі ўжо ляскаталі ўнізе. Я пашкадаваў, што ў час перадышкі не ўдалося схадзіць да танкістаў: гаварылі, што яны з Савецкага Саюза, хацелася пазнаёміцца. З кустоў ля падножжа гары вынырнулі тры коннікі — мараканскія кавалерысты, мабыць, ехалі ў разведку. Цяпер яны апынуліся навідавоку, павярнулі назад. Услед ім паляцела столькі куль, што яны адразу грымнуліся з коней. Двое ўпалі разам з коньмі, а трэці конь без седака лётаў па полі, дзіка ржаў, але ніхто болей не страляў, конь павярнуў убок і знік за кустамі.

Батальён імкліва скаціўся з вышыні на роўнае, чыстае, як більярдны стол, толькі не зялёнае, а бурае, поле — не было нават кусціка нідзе. І тут сустрэлі нас франкісты артылерыйскім агнём. Снарады бухалі адзін за адным. У паветры, нібы чорныя чмялі, загулі самалёты. Дзесьці каля Брунетэ загаманілі зеніткі. Мы імча-

лі наперад. Я бег з кулямётам ад варонкі да варонкі, хаваючыся ў ямах, ведаючы, што два разы ў адно месца бомбы не трапляюць.

Выбухі грукаталі вакол. Гарэла сухая трава, густы бялёсы дым засцілаў стэп, сям-там успыхвала чырвонае полымя. Гарэлі і плавіліся тэлефонныя правады, за пылам і дымам нічога не было відаць. Светлы, ясны дзень пацямнеў, напоўніўся грукатам, лязгатам металу, свістам куль, енкамі і стогнамі параненых. На зямлі і ў паветры віравала, нібы ў катле з кіпнем. Побач і следам за мной беглі таварышы: прыгнуўшыся, сігаў цыбатымі нагамі Максім, страляў на хаду Хасэ, мацюкаўся, выціраючы запэцканы твар, Васіль. Я бег, не чуючы цяжару ўласнага цела, вагі кулямёта. Пот заліваў вочы, казытала ад гары і дыму ў горле, страшэнна хацелася піць, але я імчаў наперад, падхоплены адзіным парывам, як трэска вясенняй паводкай.

Раптам затрашчала, быццам раскалолася неба, слуп зямлі вырас перада мной, я ўпаў, нібы маланка аперазала мае ногі. Болей я нічога не чуў і не бачыў.

## IV

Ачнуўся ў палявым шпіталі — урач асцярожна адрываў з твару бінты.

— Моцна цябе дзеўбанула, камарада,— гаварыў ён.— Асколак раскроіў лабаціну. Але ты — шчаслівчык. Рана неглыбокая. Вочы не пашкодзіла. Будзеш бачыць і сонца, і неба. Будзеш кніжкі чытаць...

Супакоены, я заснуў. Прачнуўся ад стогнаў. На суседнім ложку трызніў баец, твар яго быў бледны, бяскроўны, галава і грудзі перабінтаваны. Сасмяглыя вусны нешта шапталі па-іспанску, потым ён пачаў крычаць:

— ...Санта Марыя! Камааці... Дэме мачэце! Дэме мачэце... Масьега... Арара, арара,— задыхаючыся, хаўкаючы ротам, крычаў ён, сутаргава сціскаў кулакі.

Не адразу да мяне дайшло, што гэта Хасэ.

— Хасэ! — паклікаў я.— Пацярпі, дружа.

Паспрабаваў падняцца, але галава закружылася, і я, нібы сноп, бухнуўся на ложак. Калі расплюшчыў вочы, над Хасэ стаяў смуглявы, з цёмнымі кучаравымі валасамі баец з параненай правай рукой, падвешанай бінтам да шыі, у левай руцэ трымаў флягу, спрабаваў

уліць у рот Хасэ віна, але галава ў таго павярнулася набок, віно чырвоным струменьчыкам лілося на падушку.

— Пачакай, камарада! Я памагу,— трымаючыся за спінку ложка, я прыўзняўся, спусціў ногі на падлогу, але яны не трымалі — падгіналіся, як ватныя, я апусціўся на калені, падсунуў руку пад галаву Хасэ, прыўзняў яе:

— Цяпер давай, камарада.

Віно палілося ў рот, Хасэ каўтануў раз, другі, у горле забулькала, захрыпела.

— Трохі папала. Віно не пашкодзіць. На, глыні, камарада,— падаў ён мне флягу.

Я адпіў пару глыткоў — адчуў, як пакацілася віно, цёплай прыемнай хваляй разлілося ў жываце, аж злёгку закружылася галава.

— Дзякуй, камарада.

— Няма за што,— паранены ўзяў флягу, зноў паднёс яе да вуснаў Хасэ. На гэты раз мы больш удала напаілі. Хасэ адкрыў вочы, пазнаў мяне:

— Пабла, напішы маці... Я жывы, б'ю фашыстаў. Сын гаўча ваюе за праўду. Но пасаран! — Хасэ зноў застагнаў.— Кармэн... Дон Альберта, порка мізэрыя... Камааці... Мачэце... Арара... Дэме мачэце!..

— Што ён гаворыць? — спытаў баец з параненай рукой.

— Просіць, каб яму далі мачэце. Гэта — вялікі нож, цясак. Гадзюку забіць — арара. Страшная, ядавітая гадзюка. Жыве ў зараслях. У іх поўна гадзюк. А камааці — гэта пчолы такія ў Аргенціне,— я ўскараскаўся на свой ложак, бо ногі зусім не трымалі.

— Ты адкуль? З Аргенціны?

— Так. Родам-то я з Беларусі. Быў там, у Аргенціне.

— Дык мы з табой землякі! Я з Балгарыі. Любамір мяне завуць,— ён падаў левую, здаровую руку.

— Пабла... Павел. Адвык ад свайго імя...

Хасэ зноў застагнаў, расплюшчыў вочы.

— Скажы яму, Пабла, балгарскую прымаўку: калі табе кішкі выпусцяць, гавары, што гэта твой пояс.

— Яго ў грудзі параніла. Хоць бы выжыў...

Увайшоў доктар, высокі, з невялікай рыжаватай бародкай, прысеў на край ложка, доўгімі тонкімі пальцамі абшчапіў рукv Хасэ — слухаў пульс.

— Пацярпі, камарада. Фашысты блакіравалі дарогу. Як толькі нашы выб'юць іх, адправім у шпіталь. Усё будзе добра.

— У які шпіталь, доктар? У чэхаславацкі? — спытаў я.

— Так, у шпіталь імя Яна Каменскага. Быў такі славуты чэшскі педагог. Ён вельмі любіў дзяцей. Царкоўнікі ненавідзелі яго. Каменскаму давялося сорак гадоў пражыць на чужыне,— доктар змоўк, на яго заклапочаным, стомленым твары адбіўся вялікі смутак.

— Цяжкая была яго доля. Я пражыў дзевяць гадоў без радзімы. Гэты час здаўся мне вечнасцю...— болей я гаварыць не мог — горла сціснула, і калі б нікога не было побач, мусіць, развёў бы сырасць...

Доктар падышоў да мяне, паклаў руку на плячо.

— Дзе ваша радзіма?

— Далёка. За Варшаваю. Беларусь. Яе падзялілі. Большая частка ў Савецкім Саюзе. А на маёй радзіме яшчэ польскія буржуі ўладараць.

— Хто ў вас там ёсць?

— Маці, брат, сёстры. Сваякоў багата...

— Вы пішаце ім?

— Пішу цераз Аргенціну. Дасылаю на свой ранейшы адрас. Адтуль сябры перасылаюць лісты ў Беларусь.

— Пішыце часцей. Трэба, каб людзі ведалі праўду пра Іспанію. Пра ўсё, што тут дзееццa.

— А вы, доктар, адкуль родам? — спытаў Любамір.

— З Канады. Маё прозвішча Аксельберг. Там жывуць бацька і маці. Яны вельмі багатыя. Бацька ў мяне яўрэй, маці — датчанка. Дык вось мае старыя прыслалі пісьмо камандаванню, каб мяне адпусцілі. Я ў бацькоў адзін. Выклікалі мяне ў штаб брыгады. «Можаце ехаць дамоў». А тут пачалося наступленне на Брунетэ. Хіба мог я кінуць таварышаў?

— Канечне. Як тут паедзеш? — падтрымаў гаворку Любамір.— У батальёне «Чапаеў» быў кулямётчык Імрэ Тар з Венгрыі...

— Я чуў, што ў гэтым батальёне ваююць поплеч байцы дваццаці нацыянальнасцей. Поўны інтэрнацыянал,— сказаў доктар.

— Так, праўда. Дык вось гэты Імрэ Тар атрымаў спадчыну — мільён долараў. Запрасілі яго ў Парыж,

ну, каб аформіць паперы. Адмовіўся. Чаго, кажа, я паеду? Жонка сама разбярэцца. Дасць рады грошам,— Любамір зарагатаў, паказаўшы здаровыя, буйныя зубы. І доктар засмяяўся, аж затрэслася яго бародка. Мусіць, і я вымучыў усмешку, хоць твару я не адчуваў, быццам нацягнулі мне маску.

— Жанкі грошы любяць. Бывае што болей, чым таго, хто іх прыносіць,— яшчэ смеючыся, сказаў доктар.

— Вось таму я і не ажаніўся,— падхапіў Любамір.— Дык, значыць, Імрэ Тар і кажа: не магу пакінуць таварышаў. Таксама як і вы, доктар. Потым ён стаў камісарам венгерскага батальёна. Загінуў пад Уэскай...— уздыхнуў Любамір.

— Шкада. Верны быў таварыш,— доктар падняўся, падышоў да Хасэ, паслухаў пульс.— Здаецца, лепей. Моцнае сэрца ў яго.

— Мы віна яму трохі далі. Не пашкодзіць? — сказаў я.

— Не. Глыток добрага віна — лепшае лякарства. Ён страціў багата крыві... Але больш не давайце. Хай спіць. Зробім аперацыю — будзе жыць назло ўсім ворагам.

У палату ўбегла медсястра Анхеліта, маладая, надзвычай прыгожая: бровы як сярпочкі, губы як малінкі, белы халат і белая касынка адцянялі смуглявасць твару і глыбіню цёмных вачэй.

— Камарада доктар! Хутчэй на дапамогу...

Аксельберг адразу крутнуўся за дзверы. Медсястра — за ім.

— Прыгожая дзяўчына,— задуменна сказаў Любамір.— Яна кахае доктара... Па вачах бачу. Ды і ён, мусіць, таксама. Такую дзяўчыну — грэх не пакахаць...

Мне адразу прыгадалася Хуаніта — яны з Анхелітай былі вельмі падобныя, нібы сёстры.

Ноччу нас перавезлі ў шпіталь. Хасэ адразу паклалі на аперацыйны стол, мяне перабінтавалі, ушпілілі два ўколы. Памалу я пачаў папраўляцца. Праз некалькі дзён, як толькі змог сядзець і трымаць ручку, узяўся пісаць ліст Хуаніце:

«Родная, любая Хуаніта! Даруй, што гэтак доўга не пісаў — не меў часу. Спадзяюся, ты не крыўдуеш на мяне за маўчанне. Ведаеш, не на экскурсію мы сюды прыехалі. У газетах, мусіць, чытала пра падзеі ў Іспа-

ніі. Наша брыгада абараняла Мадрыд, потым вызваляла горад Брунетэ. Фашысты трохі падстрэлілі мяне, але рукі і ногі цэлыя, неўзабаве зноў буду ў страі. Хасэ паранілі ў грудзі, зрабілі яму аперацыю, дасталі два асколкі, ён таксама папраўляецца. Хасэ і тут быў сувязістам, гэтакі ж весялун і гарэза. Яшчэ з намі ехалі Педра і Леандра — мо ты іх і ведала, яны былі тады на першамайскай дэманстрацыі. У Іспаніі іх адразу накіравалі ў батальён імя Карласа Прэстэса. Вось і ўсё, што я магу табе напісаць. Калі атрымаю адказ, напішу болей. Прывітанне тваім бацькам, Энрыке, Кармэн. Жадаю табе багата шчасця...»

Я не ведаў, ці дойдзе маё пісьмо, ды і не пра ўсё можна было паведамляць, бо ліст мог трапіць у чужыя рукі. А хацелася расказаць Хуаніце пра новых сяброў, пра камісара Тамашэвіча, Любаміра, доктара Аксельберга, якога ўжо няма на белым свеце.

Вось як гэта здарылася. У палявы шпіталь прывезлі цяжкапараненага. Далей яго нельга было адправіць. Шпіталь месціўся ў невялікім мураваным будынку. Доктар Аксельберг узяўся сам рабіць аперацыю. У гэты час наляцелі самалёты, пачалі бамбіць. Усе, хто мог хадзіць, кінуліся ў сховішча, каго можна было кратаць — таксама вынеслі. А доктар працягваў аперацыю. Патухла электрычнасць. Медсястра Анхеліта свяціла кішэнным ліхтарыкам. Параненыя чулі, як доктар праганяў Анхеліту ў сховішча. Яна не адышла ад яго ні на крок, свяціла ліхтарыкам, падавала інструменты. Доктар рабіў аперацыю, ён бы выратаваў параненага: чалавек можа здзейсніць цуд, калі поруч з ім каханая. Тады гэты чалавек усё можа. Толькі не мог ён адхіліць прамое пападанне бомбы. Так і загінулі доктар Аксельберг з Канады і дзяўчына з Мадрыда, міласэрная сястра Анхеліта.

Я даў сабе зарок: напісаць Хуаніце пра іх. Абавязкова. Як толькі атрымаю адказ, як толькі падужэе рука і перастануць балець вочы.

## V

Тры месяцы пралежаў я ў шпіталі, пакуль загаілася рана. Адказу ад Хуаніты не было. Можа, не дайшоў да яе мой ліст? А можа, яе пісьмо не адшукала мяне? Як-ніяк ідзе вайна, маглі збіць паштовы самалёт, заха-

ціць паштовую машыну. Ці мала што можа здарыцца ваенным часам? Так раздумваў я. Хацеў напісаць яшчэ, але які зваротны адрас — на вёску дзядулі ці ў Іспанію Пабла?.. Лепей напісаць адразу, як знайду сваіх дамброўшчыкаў.

З Любамірам мы пасябравалі: я вучыў яго гаварыць па-іспанску, а ён мяне — па-балгарску. Ведаючы беларускую мову, я хутка пачаў разумець мову Любаміра. Гаварыць самому было цяжэй, а зразумець, што да чаго, ужо мог.

— Паедзем у Балгарыю, братушка. Мову ведаеш, з дзяўчынай ты зможаш дамовіцца...— бліскаў белымі зубамі Любамір і ляпаў мяне па плячы.

— Без слоў з дзяўчынай можна дамовіцца яшчэ лепей,— падсміхваў Хасэ. Рана яго загойвалася. Хасэ прасіўся з намі на фронт, але яго не адпусцілі.

Выпісалі нас разам з Любамірам. Ён маладзейшы за мяне гадоў на пяць. Нарадзіўся ў беднай сям'і, быў пастушком з маленства, служкаю ў шынку, потым слесарам, манцёрам на розных заводах у Сафіі. Уступіў у прафсаюз металістаў. Рукі залатыя, усё ўмеў рабіць, але гаспадарам не даспадобы быў прафсаюзны актывіст, і таму яго адусюль звальнялі. Калі дачуўся аб падзеях у Іспаніі, уцёк у Югаславію, адтуль у труме грузавога парахода дабраўся да Францыі, перайшоў цераз Пірэнеі. Ён таксама быў у Альбасетэ. Аказалася, што ваявалі мы ў адной інтэрбрыгадзе, толькі Любамір быў у французскім батальёне імя Парыжскай камуны.

— Я б хацеў быць разам з табой, Пабла. А што, калі папрасіцца ў ваш батальён, га? Я ж славянін. Цягне да сваіх,— пераконваў мяне Любамір.

Мне таксама не хацелася з ім разлучацца.

— Паспрабую ўгаварыць камісара Тамашэвіча,— паабяцаў я.

Наш батальён быў на Арагонскім фронце каля Бельчытэ. У штабе я знайшоў камісара Тамашэвіча, мы абняліся па-зямляцку.

— А хто гэта з табой? Дайчынаў Любамір,— зірнуў ён у паперы майго сябра.— Ну, здароў, браце! Балгарын, значыць?

— Так, камарада камісар.

Тамашэвіч уважліва выслухаў нашу просьбу, яшчэ раз пераглядзеў паперы Любаміра, запісаў нешта ў свой блакноцік.

— Рука не баліць? Дрыжаць не будзе, калі пойдзем у наступленне? — сінія вочы Тамашэвіча прыязна пазіралі на Любаміра, як бы вывучалі новага байца.

— Не, не баліць. Страляць я ўмею,— з гонарам адказаў Любамір.

— У гэтым не сумняваюся. Куды ж вас накіраваць? — задумаўся Тамашэвіч, нахмурыўся, на пераноссі між густых прамых броваў заляглі дзве маршчынкі.

— Максім Рокач і Васіль Корань жывыя? — спытаў я.

— Жывыя. Добрыя байцы. Ну, так і быць, ідзіце да іх у трэцюю роту. Там зараз шмат іспанскіх таварышаў. Ты ж кумекаеш па-іспанску. А сябра? — павярнуўся Тамашэвіч да Любаміра.

— Таксама трохі разумею. Павел навучыў,— пахваліўся Любамір.

— Ну, то добра. Я пазваню ў штаб брыгады і скажу наконт вас.

Тамашэвіч паклікаў пасыльнага і загадаў адвесці нас у падраздзяленне. Пасыльны, маладзенькі баец, амаль падлетак, павёў нас па траншэі.

— Далёка ісці? — спытаў я, калі мы прайшлі метраў трыста.

— Ды не. Вунь за тым кусцікам,— паказаў ён.— Можаце ісці самі. А я — назад.

Дзень быў сонечны, гарачы, хоць і бралася ўжо на восень. Але восень у Іспаніі цёплая, удзень яшчэ добра прыпякае сонца, праўда, ночы дыхаюць холадам. Прыгінаючыся, мы ішлі па траншэі, і раптам я ўбачыў Васіля — той сядзеў на кукішках, чысціў кулямёт і мармытаў пад нос:

Взяв бы я бандуру,
Та й заграв, што знав...

— Хіба кулямёта мала табе? Яшчэ і бандуру хочаш? — не стрываў я.

Васіль падняў галаву і няўцямна пазіраў на нас, потым падхапіўся:

— Паўло? Няўжо ты? Не веру вачам,— Васіль сціснуў мяне ў абдымках, мы тройчы пацалаваліся.— Каб цябе камар убрыкнуў! Дай табе божа добрую жонку і сямёра дзетак.

— Ну й мядзведзь. Зломіш мне шыю. Зноў давядзецца трапіць у шпіталь...

— Калі снарад не адолеў, жыць табе сто гадоў,— Васіль зноў абняў.— Як добра, што ты вярнуўся! Мы з Максімам ужо былі выпілі за ўпакой тваёй душы. Давай цяпер вып'ем за ўваскрэсенне.

Васіль дастаў з рэчмяшка флягу і ўрачыстым жэстам падаў мне. Я адпіў глыток і перадаў Любаміру, які нерашуча стаяў побач: ад радасці мы і забыліся на яго.

— Васіль, пазнаёмся. Гэта наш новы баец — Любамір.

— Рады цябе бачыць, браток,— Васіль паціснуў руку Любаміру.— Выпі за знаёмства. Гэта іспанскі херас. Моцнае вінцо.

— Такую работу я люблю,— Любамір шырока ўсміхнуўся, прыклаў флягу да вуснаў, зрабіў пару глыткоў.— Дзякуй, братушка, добрае віно.

— То-та ж. Віно ў Іспаніі — будзь здароў! — Васіль прыклаўся да флягі, потым баўтануў ёю.— Яшчэ і Максіму засталося.

— Дзе ж ён? — мне даўно карцела запытацца пра яго.

— Да камандзіра выклікалі. Вунь ён чэша сюды. Хавайцеся.

Мы з Любамірам прыселі ў траншэі, Васіль як ні ў чым не бывала ўзяўся чысціць кулямёт, ціха заспяваў.

— Васіль, ты чуў? Павел жывы,— яшчэ здалёк гукнуў Максім.

— Павел? Ды ну? Не чуў і не бачыў. І дзе ён, не ведаю.

— А мне камандзір роты загадаў перадаць Паўлу, каб ён ішоў да камандзіра. І новы баец таксама...

— Што такое? У чым справа? — высунуўся я з траншэі.

— Ах вы, чэрці паласатыя. У жмуркі гуляць надумаліся пад кулямі,— Максім згроб мяне ў абдымкі.— Ну, з вяртаннем, дружа!

Я пазнаёміў Максіма з Любамірам, выпілі па глытку за нашу перамогу і за вяртанне на радзіму.

— Хутчэй бы. Зусім я замаркоціўся па сваёй Украіне,— уздыхнуў Васіль, і твар яго спахмурнеў.

— Нездарма ты сёння спяваў пра бандуру. Гэта ж ідзем мы з Любамірам, чуем, нехта спявае. Знаёмы голас. Гляджу — Васіль,— расказваў я Максіму, радуючыся стрэчы з сябрамі.

— Вечарамі мы цябе ўспаміналі і спявалі тваю лю-

бімую песню. Ну, гэту — пра зорку. Сумна было нам без цябе. У нашым узводзе шмат новых людзей. Нават гімн дамброўшчыкаў запяваць няма каму. Васіль пачынае, я падцягваю. Праўда, у Васіля нешта на ўкраінскі манер атрымліваецца,— рагатаў Максім.— Дісь, можэ, пшыдзе нам згынуць...

— Як умею, так і спяваю,— буркнуў Васіль, ці то пакрыўджаны, ці то па-новаму ўражаны сэнсам гэтай фразы.

Мяне дык сапраўды моцна ўразілі гэтыя словы: сёння, можа, давядзецца нам загінуць... Жорсткая, няўмольная праўда была ў гэтых словах з нашага гімна. Усе змоўклі, прыціхлі. Мусіць, і Любамір збольшага зразумеў сэнс фразы.

— Як там Хасэ? — парушыў маўчанне Максім.

— Усё нармальна. Прасіўся з намі. Пакуль што не адпусцілі. Неўзабаве выпішуць,— знарок бадзёра сказаў я.— Мо да нас накіруюць...

— Хлопец ён неблагі. Вясёлы, як жаўранак. Без яго сумна. А ён бы на гітары ўрэзаў,— Васіль зірнуў на гадзіннік.— Зараз абед падвязуць. У нас цяпер іспанская кухня. Пакуль прывыкнеш, давядзецца пабегаць за кусцікі,— ухмыльнуўся ён.

Мы з Любамірам няўцямна пераглянуліся. Тады Максім расказаў, што іхнія кулінары, цяперашнія, гатуюць страву не на тлушчы, як раней палякі, а ўсё на алеі, і напачатку ва ўсіх байцоў, неіспанцаў, балелі жываты.

— Ну, гэта не самае страшнае. Лепей на алеі, чым на нішчымнай вадзіцы. Гэтым нас не напалохаеш. Прывыкнем. Калі да пасвісту куль прывыклі, то да алею тым больш,— пажартаваў я.

## VI

У трэцяй роце сапраўды было шмат новых байцоў — іспанскіх добраахвотнікаў. У баях пад Брунетэ рота панесла вялікія страты. Маладых байцоў не было часу абучаць вайсковай справе — абы ўмеў трымаць вінтоўку, усяму астатняму навучыць вайна, калі не загінеш у першым баі. Мы з Любамірам прыбылі акурат перад наступленнем. Назаўтра адвячоркам байцы батальёнаў імя Палафокса і імя Дамброўскага па вузкай сцежцы між гор, па цяснінах, гуськом, адзін за другім

прайшлі франкісцкую лінію абароны. Ішлі мы ўсю ноч. Ахутаныя цемрай стромыя скалы навісалі над сцежкай. Курыць і гаварыць было забаронена. Зрэдчас з-пад нечай нагі зрываўся каменьчык, з трэскам і шоргатам каціўся ўніз — тады здавалася, што гэты трэск чуцен далёка-далёка, і сэрца застывала ў чаканні: зараз затрашчаць стрэлы. Апоўначы праз воблакі прабіўся месячык і жаўтаватым святлом абліў наваколле. Сцежка часам вілася між калючых кустоў — ці то шыпшына, ці глог, не ведаю, але калоліся галінкі балюча. Мы з Максімам неслі кулямёт Дзегцярова. За намі ішоў Любамір, за ім — Васіль. Я непакоіўся, ці вытрымае Любамір цяжкі марш па гарах, і ціха спытаў:

— Ну як, Любамір?

— Нармальна. У гарах я свой чалавек. З дзяцінства лазіў па кручах.

— Тады табе сам чорт не страшны.

Калі на небе зачырванелася ранішняя зара, мы спусціліся ў даліну. Тут ісці было лягчэй, смялей ступалі збітыя, стомленыя начным паходам ногі. Але неўзабаве даліну зацягнула густым зябкім туманам, нібы заліло сінявата-шэрым малаком. Адзенне адразу адсырэла, нібы нас усіх, як шчанюкоў, выкупалі. З даліны выбраліся на курган і ўбачылі чырвоны дыск узыходзячага сонца. Акурат перад намі стаяў тэлеграфны слуп. Уміг звалілі яго, абрэзалі правады. Аб'явілі перадышку. Да нас падышоў Тамашэвіч, бадзёры, рухавы, быццам ён толькі што прачнуўся, прыняў халодны душ, быццам не было знясільваючага начнога паходу.

— Нікога не згубілі? Усе цэлыя?

— Усе цэлыя, таварыш камісар,— адказаў Максім.

— От перадыхнём — і далей. Мы павінны злучыцца з батальёнам імя Міцкевіча. Наша задача перарэзаць дарогу Уэска — Сарагоса,— Тамашэвіч прысеў на камень, дастаў планшэтку, схіліўся над картай. Мы абступілі яго. З усіх нас толькі Максім разбіраўся ў картах, удвух з камісарам яны хутка вызначылі, дзе мы знаходзімся.

— Максім, пойдзеш са мной. Нам якраз патрэбен сувязны,— сказаў Тамашэвіч.— Дарогаю хоць на роднай мове пагамонім...

Максім развітаўся з намі і па жоўта-рудай, сівой ад расы, выгарэлай траве засігаў услед за Тамашэвічам.

Я пашкадаваў, што слаба разбіраюся ў тапаграфіі, і

пазайздросціў Максіму. Але затое нашай роце неўзабаве пашанцавала. Мы пераадолелі яшчэ некалькі курганоў, і раптам перад намі адкрылася, як на далоні, пазіцыя франкісцкіх мінамётчыкаў: мірна дымілася кухня, кулінары раздавалі сняданак, чуліся вясёлыя, ажыўленыя галасы, маўклівыя ствалы мінамётаў недарэчна тырчалі ўгору, быццам таксама прасілі есці. Без адзінага стрэлу захапілі мінамётчыкаў, дапамаглі ім управіцца са сняданнем, прыхапілі з сабой і мінамёты.

Неўзабаве мы выйшлі на дарогу, абрэзалі правады, занялі пазіцыю з абодвух бакоў, а ля дарогі пакінулі заставу. Раптам у ранішняй цішы пачулася тарахценне матора, быццам нехта палкай правёў па штыкетніку. З-за павароту выскачыў матацыкліст. Яго затрымалі. Гэта быў варожы сувязны. Малады, перапалоханы, аж губы пасінелі, зубы дробна клацалі ад страху,— ён, заікаючыся, расказаў, што з Сарагосы рухаецца калона аўтамашын з пяхотай, ён абагнаў калону на выездзе з горада. З-за паваротк тым часам высунуўся цёмна-шэры, нібы пацук, легкавік-«опель». Байцы перагарадзілі яму дарогу.

— Карамба! Хто даў вам права спыняць машыну? — грозна высунуўся з «опеля» тоўсты, з шырокім, як блін, тварам, афіцэр. Але пад рулямі вінтовак яго ваяўнічасць адразу выветрылася, трасучы адкормленым азадкам, ён падняў угору тоўстыя рукі. З машыны выцягнулі яшчэ аднаго афіцэра і двух дзеншчыкоў, адабралі зброю, пад канвоем павялі далей ад дарогі: дапытваць іх тут не было калі, бо здалёк чуўся ўжо гул матораў — набліжалася калона аўтамашын.

— Падрыхтавацца да бою! — перадалі па ланцугу.

Як толькі першая машына наблізілася да заставы, мы ўсчалі агонь. Што там рабілася! Аўтамабілі з разгону наляталі адзін на другі, лямант, крыкі. Франкісты ніяк не маглі ачомацца і зразумець: адкуль хто страляе? Некаторыя кінуліся ў горы, і тут майму кулямёту было работы. Ад стрэлаў ён раскаліўся да чырвані. Поплеч ляжаў Любамір, страляў і страляў з вінтоўкі. Васіль раўняў кулямётную стужку і прыгаворваў:

— От вам, бісавы душы, за Уэску і за Брунетэ.

Салдат на машынах было багата, некаторыя, хаваючыся за пагоркі, драпанулі назад у Сарагосу. Праз паўгадзіны стрэлы сціхлі, толькі дыміліся, дагаралі на дарозе абвугленыя шкілеты машын.

Аперацыя прайшла бліскуча. Варожае падраздзяленне рухалася ў раён Бельчытэ, дзе меркавалася наступленне рэспубліканскіх войск. Падмацаванне да франкістаў не дайшло.

Далей падзеі разгортваліся так. Камісар Тамашэвіч загадаў палонным франкістам зрабіць перавязку параненым, потым аб'явіў перад строем:

— Хто хоча быць салдатам рэспубліканскай Іспаніі, хто хоча змагацца за яе свабоду, хай далучаецца да нашага інтэрнацыянальнага батальёна імя Хасэ Палафокса. Вы, напэўна, ведаеце, хто такі быў Палафокс. Ведаеце?

Палонныя маўчалі. Што яны маглі адказаць? Большасць з іх былі непісьменныя людзі. Адкуль ім было ведаць? І тут Станіслаў Тамашэвіч паказаў сябе сапраўдным камісарам: нягучным хрыплаватым голасам ён пачаў расказваць палонным пра маладога капітана Хасэ Палафокса, які падняў жыхароў Сарагосы на абарону горада супраць армады Напалеона.

— Мы з вамі якраз стаім ля горада Сарагосы. Мы прыехалі сюды з усяго свету, каб дапамагчы вам, іспанскім беднякам, рабочым, сялянам, абараніць сваю свабоду, прагнаць капіталістаў, фабрыкантаў, усіх багацеяў. Каб вы жылі свабодна, а вашы дзеці маглі вучыцца, каб не былі яны гэтакімі цёмнымі, непісьменнымі, як вы... У нас няма часу доўга мітынгаваць. Я заклікаю вас далучыцца да нашага батальёна імя нацыянальнага героя Іспаніі Хасэ Палафокса. Хто не хоча — можа ісці дамоў. Ясна ўсім? Пытанняў няма?

Я пераклаў словы камісара. Маўклівая шарэнга палонных, аглушаная нечаканым боем і нечаканай прапановай, пільна ўглядалася ў гэтага каржакаватага, ладнага, з такой добрай прыязнай усмешкай чалавека ў камандзірскай форме. Франкісцкія афіцэры далдонілі ім, салдатам, што ў першую чаргу трэба на мушку браць камісараў, камандзіраў,— камісары, камуністы віноўнікі вайны, ад іх усё ліха на свеце. А тут перад імі стаяў гэты чалавек, з нягучным хрыплаватым голасам, і замест таго, каб скамандаваць расстраляць палонных, няма калі з імі чыкацца, ён гутарыць з імі, адкрывае ім вочы, хто за што змагаецца, і сам ён не падобны на заўзятага кадравага ваяку: няма камандзірскай выпраўкі, афіцэрскага шыку і бляску, мусіць, нядаўна апрануў ваенную форму і не можа да яе прывыкнуць —

вунь, зняў фуражку, выцер даланёй узмакрэлы лоб, так і стаяў з непакрытай галавой. Падзьмуў гарачы вецер, падняў вапнавы пыл, сыпануў ім у вочы. Камісар надзеў фуражку з чырвонай зорачкай і цвёрдым, спакойным голасам сказаў:

— Паўтараю. Хто хоча далучыцца да нас, уступіць у войска рэспубліканскай Іспаніі, тры крокі наперад!

Шарэнга загойдалася, спачатку выйшлі чалавекі чатыры, за імі яшчэ і яшчэ. Кінуўся мне ў вочы адзін немалады ўжо салдат, які ўсё азіраўся па баках, а потым неахвотна, як не сваімі нагамі, ступіў наперад. Мабыць, яму вельмі карцела кінуць-рынуць усё і бегчы дадому, да сям'і, але ў душы, відаць, не верыў, што гэта дазволяць напраўдзе, мо, думаў, прыстрэляць, і ўсё тут, хто не пяройдзе на бок рэспубліканцаў. Засталося стаяць на месцы чалавек сем з шасцідзесяці — пажылыя ваякі, з лёгкімі раненнямі.

Камісар Тамашэвіч падышоў да іх, паглядзеў кожнаму ў твар, быццам стараўся запомніць. Салдаты стаялі, унурыўшы галовы ў плечы, уталопіўшы вочы долу.

— Значыць, вы не хочаце змагацца за свабоду свайго народа?

— Наваяваліся ўжо. Дома дзеці,— разняў сасмяглыя вусны высокі гарбаносы мужчына з перабінтаванай рукой.

— Ну што ж, можаце ісці дамоў. Вы свабодныя. Раю вам не браць болей у рукі зброю, не паднімаць яе супраць сваіх братоў і таварышаў. Гадуйце дзяцей. Хай растуць патрыётамі свабоднай Іспаніі.

Як толькі я пераклаў словы камісара, салдаты загаманілі:

— Мучас грацыяс, мучас грацыяс...

А высокі, з перабінтаванай рукой, нізка пакланіўся:

— Усім раскажу, што інтэрнацыяналісты — самыя добрыя і справядлівыя людзі.

Амаль усе, хто далучыўся да нас пасля гэтай аперацыі, змагаліся да канца, рашэнне камісара Тамашэвіча было мудрае. Батальёны папоўніліся людзьмі — іх размеркавалі ва ўсе роты, багата захапілі боепрыпасаў, а мы не мелі ніводнага забітага. Афіцэры з «опеля» павадзілі сябе на допыце ганарыста: апамяталіся ад першага страху. Былі гэта мацёрыя фашысты, і прысуд ім вынеслі кароткі: расстраляць.

Камісар паклікаў на кароткую нараду камандзіраў рот. Яго закідалі пытаннямі: дзе камандзір батальёна Ткачоў? Чаму маўчаць на другіх участках фронту? Што рабіць далей? Аказалася, што камбат Ткачоў увечары пайшоў наперад з разведкай, але раніцай у прызначаным месцы яго не было. Вось чаму камісар усё вырашаў сам, бо ўся адказнасць легла на яго плечы.

— З камандзірам і разведчыкамі нешта здарылася. Магчыма, іх захапілі ў палон. Мо збіліся з дарогі ўначы. Але здрады тут быць не можа,— цвёрда і ўпэўнена сказаў Тамашэвіч.— Мы павінны выканаць сваю задачу...

У баявым парадку два батальёны рушылі ў кірунку Сарагосы. Мы пераадолелі некалькі ўзвышшаў, ускараскаліся на даволі высокі хрыбет гары, і перад намі ў густой зеляніне дрэў адкрыўся невялікі белакаменны гарадок Вільямаер, адтуль даносіўся меладычны перазвон царкоўных званоў. Франкісты, якім удалося ўцячы, мусіць, паведамілі сваім пра гэты бой на дарозе, бо неўзабаве над намі загулі самалёты-разведчыкі. Яны нізка кружылі, нібы драпежныя каранчы ў пампе, выбіжоўваючы здабычу.

Самалёты пакружыліся і зніклі. А праз нейкі час на дарозе з боку Сарагосы паявіліся танкі, у небе загулі бамбардзіроўшчыкі. Мы чакалі атакі рэспубліканцаў у лоб франкісцкай абароны, як і меркавалася паводле плану наступлення, тады нашы два батальёны ўдарылі б з тылу. Але франтальнай атакі чамусьці не адбылося. Самалёты бамбілі, грозна гулі «юнкерсы». Раптам над шасцёркай «юнкерсаў» паявіліся нашы «ястрабкі». «Чатос, чатос!» — закрычалі ажыўленыя байцы. «Чатос» смела і адчайна рынуліся ў атаку, строй фашысцкіх бамбардзіроўшчыкаў парушыўся, яны скідвалі бомбы абы-куды, разварочваліся — і наўцёкі. Але не ўсе ўратаваліся — два з іх успыхнулі дымным полымем і грымнуліся аб зямлю.

Танкі тым часам набліжаліся, страляючы на хаду з кулямётаў. Гармат у нас не было, толькі тыя мінамёты, што захапілі ў франкістаў. Адзін танк удалося падбіць, астатнія паўзлі наперад. Міны скончыліся, ды і танкі былі занадта блізка. Трэ было адыходзіць. Камандзір узвода загадаў нам тром: Васілю, Любаміру і мне, прыкрыць адход. Лязгаючы гусеніцамі, танкі набліжаліся. Пярэдні ўжо быў добра відзён.

— От падбіць бы яго, сабаку,— сціскаючы гранату, сказаў Васіль.

— Паўзі назад,— шапнуў я Любаміру, бо з параненай рукой не надта кінеш гранату.— Мы цябе дагонім.

Я таксама падрыхтаваў гранату. У маленстве любіў кідаць каменьчыкі цераз Вілію, мог шпурнуць пляскаты дзічок ледзь не на сотню метраў. Танк высунуўся з-за невысокага курганка, валюхаючыся на калдобінах, набліжаўся да нас. Зямля дрыжала пад сталёвымі гусеніцамі. Да танка заставалася метраў сорак, я прыўзняўся, адвёў руку назад і з усяе сілы шпурнуў гранату. Жоўта-буры слуп агню і пылу падняўся перад жалезнай чарапахай, услед за маёй паляцела граната Васіля. Танк крутнуўся на месцы, як спутаны конь, ахутаўся чорным дымам і заціх, толькі дзелавіта і весела патрэскваў агонь. Астатнія танкі спыніліся і стралялі з кулямётаў. Вецер падзьмуў у наш бок, узгорак зацягнула смуродам. Мы адпаўзлі назад, скора дагналі Любаміра і далучыліся да нашага батальёна.

## VII

Апоўдні франкісты зноў пайшлі ў атаку, лезлі цяпер ужо з другога боку, з-пад Уэскі. Мы фактычна апынуліся ў акружэнні. Гарачыня стаяла неміласэрная, страшэнна хацелася піць, а вады не было. Атаку адбілі. Патронаў заставалася мала. Але і франкісты пасля паўдня прыціхлі: ці яны чакалі падмацаванняў, каб сціснуць кулак і захапіць нас усіх, ці дужа стаміліся і зрабілі сабе с'есту — пасляабедзенны адпачынак. Мы выкарысталі перадышку, перавязалі параненых, падрыхтавалі насілкі: высякалі ў кустах жэрдкі, пераплыталі галінкамі, звязвалі рамянямі. Усе чакалі ночы, каб у цемры прарвацца назад у горы — гэта быў адзіны шлях да выратавання.

Надвячоркам франкісты заварушыліся, усчалі стральбу, лупілі з гармат. Вакол стагналі параненыя. Я перавязваў нямецкага таварыша Курта Шлегеля. Гэта быў немалады ўжо чалавек. Асколак трапіў яму ў жывот, адарвала пальцы на правай руцэ. Курт стагнаў, усё нешта выкрыкваў, торгаўся ўсім целам. Зноў непадалёку разарваўся снарад. Васіль схапіўся за плячо.

— От, гады... От, бісавы душы, такую вашу маць...— Васіль моцна вылаяўся.

Рукаў ягоны ўвачавідкі набрыняў чырванню. Нажом я разрэзаў матэрыю, узяўся перавязваць. Нечакана з-за кустоў вынырнуў Тамашэвіч, за ім, як цень, сунуўся Максім.

— Моцна параніла? — падышоў Тамашэвіч да Васіля.

— Ды не. Трохі драпанула. Пакуль жаніцца, усё загаіцца,— пажартаваў Васіль.

— Нам бы дачакацца цемры. Тады будзем прабівацца ў горы... А што з ім? — схіліўся Тамашэвіч над немцам.

— Гэта — Курт Шлегель. Яго цяжка параніла,— сказаў я.

Курт адкрыў вочы, прастагнаў:

— Геносэ камісар... Геносэ Тамашэвіч! Іх кан нікс шысэн...[1] Меня оставляйт. Его забірайт,— паказвае на Васіля.

— Ты будзеш жыць Курт. Будзеш змагацца. Разаб'ём фашыстаў, адправім фатэрлянд,— Тамашэвіч прыўзняў галаву параненага, прысеў ля яго.

— Нікс фатэрлянд. Там фашыст Гітлер. Іх бін камуніст. Іх бін арбайтэр...

— Вынесем і цябе, Курт. Пакладзіце яго на насілкі,— загадаў Тамашэвіч і дадаў:— Паспрабуйце падняць, ці зручна будзе?

Мы з Максімам асцярожна паклалі Курта на насілкі, паднялі, патрымалі, быў ён даволі грузны мужчына, цяжкі. Курт застагнаў, тарГануўся, нібы хацеў спаўзці з насілак, мы апусцілі яго на дол.

— Данясём. Любамір падсобіць. Утрох дацягнем,— сказаў я.

— Ну, а ты, Васіль, дойдзеш? — Тамашэвіч пільна зірнуў на Васіля.

— Павінен дайсці,— адказаў ён.

Мы ўсе павярнуліся да Васіля, а немец тым часам левай рукой выхапіў з кішэні пісталет, скаціўся з насілак, крыкнуў «Рот фронт!», стрэліў у скроню. Кінуліся да яго, зноў паклалі на насілкі. Ён усё шаптаў з хрыпам «Рот фронт, фронт...», сутаргава сціскаў кулак. Да нас збегліся іншыя байцы, абступілі. Курт быў мёртвы. Тамашэвіч зняў фуражку, ціха сказаў:

---

[1] Я не змагу страляць...— *ням.*

— Іспанія не забудзе цябе, Курт. Ты загінуў за шчасце працоўных усяго свету. І мы ніколі цябе не забудзем, сваім дзецям і ўнукам раскажам... Фашысты не пройдуць. Но пасаран!

Байцы паднялі ўгору сціснутыя кулакі: «Но пасаран!» — нібы рэха пакацілася над гарамі. Тым часам ужо змяркалася. Франкісты болей не стралялі: мабыць, вырашылі, што мала хто застаўся жывы і заўтра з намі пакончаць. А мы не збіраліся спаць у шапку, усе разумелі, што выратаваць нас могуць толькі горы. На флангах было зацішша, значыць, наступленне чамусьці не адбылося.

Камісар Тамашэвіч растлумачыў нам сітуацыю: паводле плана італьянская брыгада імя Гарыбальдзі павінна была наступаць справа ад нас, а злева — венгерскі і балгарскі батальёны. Пазней мы даведаліся, што камбат Ян Ткачоў і разведчыкі заблудзіліся ў гарах і праз суткі вярнуліся назад у сваю брыгаду, гарыбальдзійцы, а таксама венгерскі і балгарскі батальёны наткнуліся на моцную абарону франкістаў і не змаглі яе прарваць. Тады мы пра гэта не ведалі, і таму некаторыя байцы гаварылі: не трэба адыходзіць, трэба даць людзям адпачыць за ноч, а раніцай пачнецца наступленне на флангах, мы ўдарым з тылу. Тамашэвіч усіх выслухаў, ціха сказаў:

— Адпачывайце. Чакайце каманды.

Ён знік у цемры, і следам за ім пасунуўся Максім.

Апоўначы пайшлі на прарыў кальца акружэння. У начной цемрадзі бясшумна знялі часавых. Штыкамі, нажамі пракладвалі дарогу. І ўсё ж такая калона людзей з параненымі, якіх неслі, вялі пад рукі, не магла прайсці незаўважанай, усчалася страляніна, успыхнулі асвятляльныя ракеты. Адстрэльвацца нам не было чым: патроны бераглі, наперадзе быў далёкі шлях да сваіх, ды і ў цемры можна пэўна страляць толькі ва ўпор, зблізку. Прыкладамі, штыкамі, гранатамі прабіваліся з акружэння.

Па горных стромых сцежках ішлі ўсю ноч. Галодныя, стомленыя, неслі параненых, зброю. Удзень прыпякло сонца, ад неспатоленай смагі пакутавалі ўсе, стагналі параненыя, прасілі піць. А вады ні грама не было. Апоўдні, у самую спёку, спусціліся ў даліну, убачылі рачулку. Вада была чыстая, але надзвычай салёная, піць яе нельга. Некаторыя байцы кінуліся да ракі.

— Назад! Нельга піць ваду,— крычаў Тамашэвіч і схапіўся за пісталет.— Буду страляць...

Некаторыя ўсё-такі глынулі, адзін баец, які выпіў больш, ужо курчыўся ад болю, хапаўся за жывот.

— Забараняю піць ваду. Буду страляць,— цвёрда сказаў камісар.

І тут пачалося... Ля гэтай чыстай горкай рачулкі ледзь не разыгралася крывавая драма. Сёй-той не вытрымаў. Адзін паранены істэрычна крыкнуў:

— Здрада! Нас завялі ў пастку! Дзе камандзір Ткачоў?

— Дзе брыгада Гарыбальдзі? Дзе другія батальёны? Вакол здраднікі. Судзіць камісара!

Сціскаючы ў руках кулямёт, у якім яшчэ мелася два дзесяткі патронаў, я рвануўся да Тамашэвіча, гатовы закрыць яго сваім целам. Побач з камісарам стаяў Максім, падышлі Васіль і Любамір, ціснуліся бліжэй іншыя байцы-палякі.

— Адкрывай мітынг, камісар!

— Мы павінны ведаць праўду. Чаму гінем дарэмна? Хто вінаваты? Адказвай!

Стомлены, як і ўсе, з чырвонымі ад пылу і бяссонніцы вачамі, з чорнымі губамі — запяклася кроў, няголеныя, худыя шэрыя шчокі, але вочы пазіралі строга, у іх свяцілася ўпэўненасць і цвёрдая нязломная воля.

— Таварышы! Браты мае! На вайне бывае living рознае. Трапляюцца і здраднікі, і падасланыя шпіёны, і дыверсанты. Бывае, што зрываюцца добра распрацаваныя планы. Мы выканалі сваё заданне. Мы зрабілі ўсё што маглі. Шмат нашых таварышаў загінула. Мы павінны адпомсціць франкістам за іх смерць. Наша задача — прабіцца да сваіх. Давайце возьмемся моцна за рукі і зробім апошні рывок. Не пакінем ніводнага параненага, ніводнай вінтоўкі...

Гаварыў ён ціха, асіплым голасам, але ўсе пачулі яго. І зноў калона пацягнулася па стромых камяністых сцежках.

Пад раніцу выйшлі да лініі фронту. У Арагоніі не было суцэльнай лініі акопаў, арміі не стаялі адна проці другой, як ля Мадрыда, тут абодва бакі ўмацаваліся на больш зручных вышынях і адтуль кантралявалі мясцовасць. Але за час нашага начнога паходу франкісты сям-там умацавалі пасты. На адзін з іх мы і напароліся, калі прабіваліся да сваіх. Абыходзіць, шукаць болей

зручны праход не было ўжо сіл ды і часу: вось-вось узыдзе сонца і мы акажамся навідавоку. Вакол плаваў рэдзенькі туманок, было зябка і холадна.

— Падрыхтаваць гранаты! — шэптам перадалі каманду.

Мы з Любамірам, як найбольш дужыя, паўзлі паперадзе. Траншэі ўжо недалёка, на брустверы сядзелі і гаварылі між сабой два вартавыя: мусіць, ім было сумна тырчаць паасобку на сваіх месцах, яны сышліся, курылі, гаманілі. Ніхто з іх не думаў, канечне, што гэтая ноч апошняя ў іх жыцці. Але навошта было збірацца разам? Мяне здзіўляла і злавала звычка салдат-іспанцаў: падчас бамбёжкі збягацца ў гурт, маўляў, паміраць — дык разам. І гэтыя двое сышліся, сядзяць сабе, кураць, як на прызбе ля сваёй хаты. Дзіўны народ, іспанцы: гордыя, смелыя, нават пыхлівыя, і даверлівыя, як дзеці. Іспанскі салдат можа пайсці на яўную смерць з высока ўзнятай галавой і драпаць, як заяц, здаля ўгледзеўшы танк, збаяцца адзіноты, начной цемры... Думка пра гэта прамільгнула, як успышка бліскавіцы, у маёй атупелай ад стомы, выбухаў галаве. Зрэшты, калі не мы гэтых франкістаў, дык яны нас. Убачаць, паднімуць гвалт, прабіцца тады будзе цяжэй.

Услед за намі паўзлі Тамашэвіч, Максім, іншыя байцы нашага ўзвода. Да вартавых заставалася менш за паўсотню метраў.

— Гранатамі, агонь!

Нягучная каманда Тамашэвіча скаланула звонкую, асабліва звонкую і празрыстую ў гарах, ранішнюю цішу грымотнымі выбухамі, і гэтыя выбухі падаліся нечувана магутнымі. Нібы сціснутая спружына, якую раптам адпусцілі, ірвануўся атрад наперад з апошніх сіл. З флангаў, з вышынь ударылі кулямёты: спрасонку франкісты лупілі ва ўсе бакі, проста ў паветра.

— Лупіце, бісавы душы, богу ў вокны,— цяжка дыхаючы, але з радасцю ў голасе сказаў Васіль.— Цяпер вы нам ні храна не зробіце... Солі на хвіст пасыпце...

— Чаму солі? У іх куль хапае. І снарадаў могуць падкінуць,— сказаў я.

Але стрэлы сціхлі, ніводная гармата не азвалася. Калі ўзышло сонца, мы ўжо былі на пазіцыі нашай брыгады. Усе лічылі, што батальёны трапілі ў акружэнне і загінулі, і таму радасць сустрэчы была незвычайная. Усё, што ў каго мелася ў флягах, імгненна асушы-

лі. Гэтая радасць дапамагла дацягнуцца да казармы — праўда, некаторых вялі пад рукі,— дзе мы, як падкошаныя, валіліся на каменныя пліты і засыналі.

Пазней мы даведаліся, што ў загадзе камандзіра дывізіі адзначаліся баявыя дзеянні батальёнаў імя Дамброўскага і Палафокса. Пра наш начны паход апавядала спецыяльная лістоўка, якую падпісаў галоўны камісар інтэрбрыгад Гала.

## VIII

Пасля рэйду батальёны адвялі на адпачынак.

Аднойчы мяне выклікаў камісар Тамашэвіч.

— Ну, як справы, зямляк? На здароўе не скардзішся? — камісар пацісnуў мне руку, прыязна ўсміхнуўся. Невысокі, ладны, з пасвяжэлым тварам, ён выглядаў памаладзелым, бадзёрым.

— Дзякуй, таварыш камісар. Адчуваю сябе добра. Гатовы на любое заданне.

— Малайчына... Але Брунетэ запомніцца табе. Там паранілі?

— Брунетэ ніколі не забуду.

— Мне яна таксама ўрэзалася ў памяць...— Тамашэвіч уздыхнуў, памаўчаў.— І цяпер спаць не дае. Сядай, Павел... Дык вось я часта думаю пра Брунетэ. Гэта было магутнае наступленне. Дзёрзкае, рашучае. Эх, каб захапіўшы Брунетэ, рэспубліканскія войскі пайшлі далей!.. На штурм Навалькарнеры. Там быў штаб франкістаў. Маглі б узяць іх цёпленькіх. А то чакалі два дні, пакуль 18-ты корпус выйдзе на фланг,— Тамашэвіч правёў лінію на карце, зноў зірнуў на мяне, быццам запрашаў да роздуму.— Франкісты не драмалі, падцягнулі рэзервы. Наступленне захлынулася... Або вазьмі прарыў пад Бельчытэ, начны наш паход. Калі б ударылі галоўныя сілы па ўсёй лініі, а мы б з тылу, паніка б узнялася страшэнная. Драпалі б фашысты без аглядкі... Канечне, ўсё не так проста. Але дужа шкодзіць нам няўзгодненасць. Хто ў лес, хто па дровы... Вайна зацягваецца, Паўлюк. І ў Беларусь мы вернемся не скора...

— Ну што ж, будзем змагацца, пакуль не разаб'ём фашыстаў,— тонам бравага ваякі сказаў я.

— Так, браце, тут пярэдні край барацьбы з сусветнай рэакцыяй,— і нечакана, па-сяброўску шчыра абняў

мяне.— Як ты трапіў сюды? А то мы землякі, а нічога не ведаем адзін пра аднаго. Хто ёсць у Беларусі?

— Не ведаю. Ужо два гады не маю вестак з дому. Бацька памёр даўно... Маці, сёстры, брат засталіся... Павінны яшчэ жыць.

— А як цябе занесла ў Аргенціну?

— Уцякаў ад польскай дэфензівы.

— Ого, так далёка! А чым правініўся?

Я расказаў, што ў мяне былі складаныя адносіны з белапольскай уладай, што яшчэ падлеткам хацеў уцячы да Саветаў. Злавілі каля граніцы, далі прачуханкі, па этапу прыгналі дамоў, пасля гэтага я вырашыў уступіць у камсамол...

— Дык мы з табой паплечнікі,— узрадаваўся Тамашэвіч.— Табе, як земляку і камуністу, магу прызнацца: я быў сакратаром ЦК камсамола Заходняй Беларусі. Сапраўднае маё прозвішча — Мікалай Дворнікаў. Стах Тамашэвіч — мой партыйны псеўданім. Ну, і што вы рабілі там, на радзіме?

— Нічога асаблівага зрабіць мы не паспелі. Збіраліся на сходкі. Спявалі беларускія песні. Адзначалі Першамай... Пра гэта дачуліся пілсудчыкі... Мяне не паспелі зацапаць. І я апынуўся на краі свету...

Не часта сустракаюцца людзі, якія ўмеюць слухаць. Тамашэвіч умеў. На яго твары была гэтакая ўвага і прыязнасць, што хацелася гаварыць, нібы на споведзі. І я расказаў пра жыццё ў Аргенціне, як ледзь не зрабіўся куркулём — усё збіраў грошы, як цягнула мяне дамоў, штоночы снілася родная вёска, маці...

— Дарагі мой Паўлюк! Мільёны людзей сумуюць па сваёй радзіме. Сумуюць па чэсным жыцці, прагнуць справядлівасці, чысціні. Настальгія — светлая і чорная хвароба. Усеабдымная і пякучая. Усё чалавецтва, апроч савецкіх людзей, у якіх ёсць свая айчына, хварэе цяпер на гэтую самую настальгію. І мяне яна гняце тут... Ну, але досыць пра яе. Дык ты, кажаш, ледзь не зрабіўся куркулём?

— Мабыць, усё-такі не мог я ім стаць. Не тая закваска...

Расказаў я, як вучыўся ў школе ў Савецкай Расіі, як у Аргенціне ўсе пыталіся пра жыццё ў Савецкім Саюзе, даносчыкі ахрысцілі мяне чырвоным агітатарам, як апынуўся на вуліцы без работы і тады зразу-

меў, што ў пралетарыята ёсць адзіная дарога да светлай долі — барацьба.

— Праўду кажаш, Паўлюк,— Тамашэвіч паляпаў мяне па плячы.— Іншай дарогі ў нас няма... А ведаеш, чаму я паклікаў цябе? Ёсць прапанова накіраваць цябе на курсы малодшых камандзіраў. Магу сказаць па сакрэту: мяркуем стварыць беларускае падраздзяленне імя Кастуся Каліноўскага. Патрэбны будуць камандзіры. Вось і мяне выклікаў генерал Вальтэр і сказаў: «З украінцаў і беларусаў створана новая рота імя Тараса Шаўчэнкі. Вы ведаеце польскую, украінскую, не кажучы пра беларускую, мовы. Будзеце камандаваць ротай. У перспектыве яна павінна вырасці да батальёна...» І я згадзіўся. Ну, а ты, Паўлюк, згодзен паехаць на курсы?

Разважаць доўга не выпадала.

— Згодзен, таварыш камандзір.

— Дзякуй, зямляк,— Тамашэвіч моцна паціснуў руку.— Заўсёды радасна, калі не памыляешся ў чалавеку. І як бывае балюча, калі трапляюцца людзі ненадзейныя, якія толькі прыкідваюцца сябрамі, змагарамі. А потым выдаюць, здраджваюць. Колькі загінула падпольшчыкаў у Беларусі праз падлюг, правакатараў...— Тамашэвіч памаўчаў і ціха сказаў: — Ёсць адна просьба. Мо пасля курсаў не ўбачымся... Калі вернешся ў Беларусь, з'ездзі ў Гомель. Там жыве мая маці — Дворнікава Марыя Антонаўна. Запомніў?

— Запомніў, таварыш камандзір.

— У Гомелі жыве і мая жонка з сынам. Раскажаш ім, дапаможаш, калі што трэба будзе...

— Добра. Усё зраблю. Але, я думаю, мы паедзем разам.

— Я думаю пра гэта ж. Ну, бывай. Рыхтуйся да ад'езду,— Тамашэвіч правёў мяне да дзвярэй, падаў руку на развітанне, затрымаў маю далонь у сваёй.— Эх, як хочацца дамоў! Паплаваць у Сажы... Паўлюк, праспявай што-небудзь пра Беларусь, га...

Хвалюючыся, хрыплаватым, бы з прастуды, голасам я зацягнуў «Зорку Венеру».

«...З гэтай пары я пачаў углядацца...»,— мяккім прыемным барытонам падцягнуў Тамашэвіч.

У неба начное і зорку шукаў.
Ціхім каханнем к табе разгарацца
З гэтай пары я пачаў.

Раптам зазваніў тэлефон. Тамашэвіч зняў трубку:

— Так, слухаю. Разумею. Добра. Усё будзе зроблена,— паклаў трубку, павярнуўся да мяне.— Да нас едзе таварыш Гала, галоўны камісар інтэрбрыгад. Між намі, таварыш Гала — гэта італьянскі антыфашыст Луіджы Лонга.

— Я гэтулькі чуў пра яго, але ні разу не бачыў.

— Сёння пабачыш. Можа, мітынг будзем праводзіць...

Не думаў я тады, што праз некалькі гадоў давядзецца зноў сустрэцца з таварышам Гала.

## IX

У сакавіку 1938 года інтэрбрыгады пераводзіліся на паўднёвы фронт да Эстрамадуры. Як і іншыя выпускнікі школы, я далучыўся да свайго батальёна ў дарозе. Наша брыгада імя Дамброўскага ўваходзіла цяпер у склад інтэрнацыянальнай дывізіі. Камандаваў дывізіяй генерал Вальтэр. Пра яго смеласць хадзілі легенды. «Чалавек, які не кланяецца кулям» — так гаварылі байцы пра генерала Вальтэра. Першая рота цяпер насіла імя Тараса Шаўчэнкі, камандаваў ёй Тамашэвіч. Ён якраз быў у штабе батальёна, сустрэў мяне з радасцю і сардэчнасцю, доўга цiскаў у абдымках.

— Слухай, Ян,— звярнуўся ён да камбата Ткачова,— дай мне земляка ў роту.

— Не магу, браце. У цябе камандзіраў хапае. А ў трэцяй роце паранілі камандзіра першага ўзвода. Вось туды і накіруем сержанта Варанецкага.

— А Васіль Корань у вашай роце? — спытаў я ў Тамашэвіча, калі мы выйшлі.

— Так. Васіль камандуе ўзводам. Смелы, рашучы камандзір... Шкада, Паўлюк, што ты не да мяне трапіў. Ну, але нічога. Дысцыпліна ёсць дысцыпліна. Усё роўна мы ў адным батальёне. Будзем часта бачыцца.

Мы цёпла развіталіся, я пакіраваў у сваю роту, дзе мяне чакала сустрэча з Максімам, Любамірам і Хасэ. Мы так даўно не бачыліся з Хасэ! Засыпалі адзін аднаго пытаннямі. Я спадзяваўся пачуць ад яго навіны з Буэнас-Айрэса, мо ён ведае што пра Хуаніту. Але — не, вестак з Аргенціны ён не атрымаў, хоць сам адаслаў некалькі лістоў.

— Пабла, жывы! — углядаўся ў мяне Хасэ.

— Як бачыш, жывы.

— А я ўжо думаў, што болей не сустрэнемся. Штодня гінуць сябры. Помніш Леандра? Ехалі разам на параходзе?

— Пытаеш. Канечне, помню.

— Загінуў Леандра... Як ты паехаў, у шпіталь прывезлі Педра. Паранілі ў нагу. Аднялі вышэй калена. Хацеў застрэліцца. Мы адабралі пісталет. А ён усё крычаў: «Не хачу жыць. Каму я патрэбен такі? На радзіме ў Більбао — фашысты. Дарога мне туды закрыта...» Ён не спаў, не еў. І чым бы гэта скончылася, невядома, каб не закахаўся. Папраўдзе, каб яго не пакахала санітарка Расалія. Яна з Валенсіі родам, адна ў бацькоў. У іх свой дом, сад. Ажаніліся. І яна павезла Педра дамоў. Прыгожая дзяўчына — хоць вады напіся з твару.

— Ну што ж, хай жыве чалавек. З добрай жонкай не прападзе,— азваўся Максім.

— Пойдуць дзеці. Яна не кіне,— дадаў Любамір.— Вядома, калі яму аднялі толькі нагу...

— Факт. Сіла не ў нагах...— ухмыльнуўся Максім.

Мы ўсе зарагаталі. Настрой быў вясёлы, радаваліся сустрэчы, у кожнага ў фляжцы знайшлося па кроплі віна. Радасць на вайне асаблівая. У акопах, пад кулямі, усё ўспрымаецца іначай, бо ў кожнага сядзіць у душы, як стрэмка: сёння ты жывы, а заўтра цябе можа не быць, нават не заўтра, а праз гадзіну альбо нават хвіліну снарад ці ашалелая куля абарве нітку твайго жыцця. Пра гэта мы рэдка гаварылі, як у доме вісельніка не кажуць пра вяроўку, так і мы пазбягалі размоў пра смерць, але думка пра яе вярэдзіла сэрца кожнага, як у кожнага дзесьці цеплілася надзея, што ён застанецца жыць. І дзіўна, з якім ліхацтвам і безразважнасцю ставіліся некаторыя інтэрбрыгадаўцы да жыцця. Мо таму, што ехалі сюды сапраўды адчайныя, мужныя людзі, якія мацней за іншых ненавідзелі буржуяў.

Шмат гінула таварышаў і праз няўменне ваяваць, праз неарганізаванасць і нязладжанасць у часе баявых аперацый. Першыя дні, яшчэ пад Уэскай, калі загінула багата нашых байцоў, я падумаў, што жывым адсюль вярнуцца наўрад каб удалося, і таму ваяваў з бяздумнай ліхасцю, нішчыў фашыстаў з лютасцю: калі ўжо гінуць, дык недарэмна, паміраць — дык з музыкай. У шпіталі адзін танкіст-іспанец неяк прызнаўся: да гэтага ваяваў смела, а цяпер баюся, стаміўся, бо метал

і той стамляецца, не вытрымлівае. Танкіст трохі абгарэў, параніла ў ягадзіцу, рана неўзабаве загаілася, а страх узмацнеў. Як зараз помню яго сумныя вочы і нервовыя тонкія пальцы з рудымі пазногцямі і чырвонымі плямамі ад апёкаў. Пазней я даведаўся, што ў першым баі пасля шпіталя ён загінуў у танку, не змог выбрацца з яго, хоць астатнія члены экіпажа выратаваліся.

Цяпер, вярнуўшыся пасля курсаў і стаўшы ўжо камандзірам узвода, я пачаў болей шанаваць сваё жыццё. Так, я павінен быць наперадзе, весці людзей за сабой, але я павінен і берагчы іх і сваё жыццё, бо і маіх байцоў чакаюць маці, каханыя, таксама, як і мяне. Я ўсё часцей успамінаў Хуаніту, усё часцей яна прыходзіла ў мае сны: мы пілі з ёй чай-матэ, цалаваліся. І я зноў напісаў ёй ліст:

«Дарагая Хуаніта! Што ж ты не пішаш? Можа, мае лісты не даходзяць да цябе? Але я ўсё роўна буду пасылаць. Пішу табе з фронту Эстрамадуры. Я вучыўся на курсах, прызначылі мяне камандзірам узвода. Сустрэў тут Хасэ: ён вярнуўся са шпіталя, як і раней, служыць сувязістам. Максім, той самы зямляк, што быў у Буэнас-Айрэсе, таксама ў маім узводзе. Ёсць і новы сябар — балгарын Любамір... Каб ты ведала, любая Хуаніта, як хочацца мне цябе пабачыць! Ну, хоць бы не пабачыць, дык атрымаць ліст... Мы рыхтуемся да наступлення. Наша брыгада імя Дамброўскага будзе ў першых радах наступаючых войск... Пісаць болей няма калі. Дасылаю вестку для маці — адашлі ў Беларусь. Можа, і дойдзе. Бывай, мая любая!»

Пісаў я ліст, лежачы на жываце, планшэтку паклаў на плоскі камень. Не паспеў скончыць, як Максім пачаў пацвельвацца:

— Паўлюк, няўжо ў цябе гэтак багата нявест? Усё пішаш і пішаш. Ім патрэбен ты, а не папера. Бабе трэба мужык, ласка,— Максім пачухаў патыліцу, усміхнуўся.— Вось ажанюся пасля вайны... Дзяцей настругаю цэлую хату. Любамір, табе падабаюцца іспанкі?

— Дзяўчаты тут прыгожыя, каб іх камар убрыкнуў. Але ў Балгарыі лепшыя.

— Надта ўжо танюсенькія тут дзеўкі. Абняць боязна. От у Беларусі дзяўчаты,— Максім прыжмурыў вочы, падміргнуў.— Будзь здароў! Маладзіцы як брусніцы... Але калі аплявуху залепіць — адразу з капытоў,—

Максім дастаў скураную флягу.— Затое віно ў Іспаніі цудоўнае! — адпіў глыток, пацмокаў губамі.

— Віно тутэйшае ты ўпадабаў. Ды і я таксама,— я ўзяў ягоную флягу, прыклаўся раз-другі, віно было прыемнае, халаднаватае. У скураных флягах яно нават у гарачыню не награвалася, а каб піць з яе, трэ было націскаць.

— Ну, Паўлюк, ты ціскаеш, як немаўля цыцку,— зарагатаў Максім.

— Ох і зубаскал мой землячок,— я не стаў болей ціскаць флягу і перадаў яе Любаміру. Той выпіў, памаўчаў, задуменна сказаў:

— Добрае віно. Ды ў нас у Балгарыі не горшае. Калі я паспрабую нашага вінца...— Любамір уздыхнуў, адышоўся ўбок, мусіць, каб не бачылі мы ягонай тугі, а мо і мужчынскай слязы.

Наступленне пачалося дужа рана, калі на небе ледзь заружавелася ранішняя зара. Байцы роты імя Шаўчэнкі паўзком падкраліся да фашысцкай лініі абароны. Ціха, без шуму знялі перадавыя дазоры. Сонца асвяціла вяршыні С'еры Марэны, калі ўсе роты падцягнуліся бліжэй. Камбат маёр Ткачоў падаў каманду: закідаць гранатамі траншэі, штурмам авалодаць вышынёй. Моцныя выбухі скаланулі наваколле, рэха пакацілася па гарах, яно шырылася і мацнела, бо ў атаку пайшлі іншыя батальёны. Фашысты не чакалі такой прачуханкі, іх ніхто не турбаваў тут. Яны амаль не аказвалі супраціўлення: тыя, што ацалелі, драпалі з усіх ног. За траншэямі, на лясістым пагорку, стаялі іх гарматы, з якіх яны не паспелі даць ніводнага залпу. Гарматы тут жа развярнулі ў другі бок і лупянулі фашыстам наўздагон.

Камбат Ян Ткачоў быў на левым флангу нашай роты. Ткачоў моцна сябраваў з Тамашэвічам, і яны заўсёды імкнуліся быць разам. Рота вырвалася далёка ўперад. Нечакана з тылу, з-за гары, выскачыла мараканская кавалерыя. Наперадзе імчаў коннік з чорным сцягам, на якім жудасна бялеў чэрап. Размахваючы шашкамі, з галёканнем і віскам, з крыкамі «Алах! Алах!» мараканцы наляцелі на шаўчэнкаўцаў. Інтэрбрыгадаўцы не разгубіліся, прынялі бой. З правага флангу мы секанулі з кулямётаў. Мараканцы сыпаліся з коней, нібы падрэзаныя касой. Мільгануў і знік чорны сцяг, сціхлі гартанныя крыкі. Ацалелыя кавалеры-

сты драпанулі ў горы. Вакол стагналі параненыя, дзіка ржалі коні без седакоў.

Бой быў кароткі. Але мараканцы паспелі пасячы шашкамі многа нашых байцоў. У гэтым баі загінулі камбат Ян Ткачоў і камандзір роты імя Тараса Шаўчэнкі Стах Тамашэвіч — Мікалай Дворнікаў. Разам прыехалі яны ў Іспанію, поплеч змагаліся, разам і загінулі — адважныя сыны польскага і беларускага народаў. Пахавалі іх у брацкай магіле.

## X

Як развіваліся палітычныя падзеі, якая барацьба вялася ў дыпламатычных колах, а не толькі ў акопах вінтоўкай і гранатай? Іншы раз мне траплялі газеты, часцей за ўсё орган іспанскай кампартыі «Мундо обрэра» («Рабочы свет»), на польскай мове выдаваўся часопіс «Ахотнік вальносці» («Добраахвотнік свабоды»). На курсах малодшых камандзіраў нам чыталі лекцыі на міжнародныя тэмы. Карацей, пакрысе ў мяне склалася выразнае ўяўленне аб палітычнай барацьбе вакол рэспубліканскай Іспаніі. Было ясна як божы дзень, што з самага пачатку за спіной мяцежнікаў стаялі Германія і Італія, яны давалі самалёты, танкі, гарматы, на баку франкістаў ваявалі дывізіі італьянскіх «чорнарубашачнікаў». Тым часам у Камітэце неўмяшання вяліся бясконцыя дэбаты аб дапамозе Іспаніі. Урад Ларга Кабальера, у які ўваходзілі прадстаўнікі ўсіх партый народнага фронту — сацыялісты, камуністы, баскі, каталонцы і нават анархісты, не мог выпрацаваць адзіную палітычную платформу. Яго міністры грызліся між сабой. Анархісты выступалі супраць стварэння рэгулярнай Арміі. У Барселоне ў верасні 1936 года на шматтысячным мітынгу яны прынялі лозунг: «Народная міліцыя — так, салдаты рэгулярнай арміі — не». Усё гэта не спрыяла нараджэнню і сталенню рэспубліканскай арміі.

І толькі Кампартыя Іспаніі дзейнічала смела і рашуча. Адразу пасля бунту мяцежнікаў у ліпені 1936-га камуністы арганізавалі Пяты полк, які стаў кузняй кадраў для рэспубліканскай арміі, а праз год зрабіўся ядром узброеных сіл рэспублікі. У гэты час інтэрбрыгады адыгралі вялікую ролю — яны дапамаглі выстаяць пад

Мадрыдам, на Хараме, перамагчы пад Гвадалахарай і Брунетэ.

У пачатку 1938 года Іспанская рэспубліка на васемнаццатым месяцы барацьбы з фашызмам мела моцную армію і магла смела глядзець у будучыню. Франка (рэспубліканцы іранічна называлі яго «Франка-пекеньё» — значыць, кароткі, мы называлі яго па-беларуску курдупы), дык вось, курдупы дыктатар ужо некалькі разоў прызначаў парад сваіх войск у Мадрыдзе. Але планы яго не збываліся: рэспубліканская армія і інтэрбрыгады так давалі яму ў зубы, што было не да парадаў. Між тым над Еўропай гусцелі чорныя хмары новай сусветнай бойні, пахла вайной, як здалёку пахне дымам і свеціцца водблiскамі пажар. Гітлер захапіў Аўстрыю і замахнуўся на Чэхаславакію. Англійскі прэм'ер Чэмберлен падпісаў з Мусаліні дамову аб дружбе і супрацоўніцтве і падліў масла ў агонь. Фашызм усё вышэй узнімаў галаву, як пачварная арара перад нападам на ахвяру. Германія і Італія накіроўвалі новыя дывізіі за Пірэнеі, нямецкія і італьянскія штабісты распрацоўвалі планы ваенных аперацый. Фашысты пачалі шырокае наступленне. 21 лютага трыццаць восьмага года яны захапілі Тэруэль, які два месяцы назад у снежаньскую завею штурмам узялі рэспубліканцы, але ўтрымаць не змаглі.

Пасля Тэруэля фашысты ўсе сілы кінулі на Арагонскі фронт. Рэспубліканскія часці, у якіх было шмат анархістаў, разбегліся хто куды. На падмогу сюды накіравалі інтэрнацыянальныя брыгады і армейскія злучэнні, якімі камандавалі славутыя камандзіры Энрыке Лістэр, Хуан Мадэста, генерал Вальтэр. У цяжкіх баях фашыстаў затрымалі, але ім удалося прарвацца да ўзбярэжжа Міжземнага мора каля Валенсіі і разрэзаць Іспанскую рэспубліку на дзве часткі.

Усе разумелі, што адзін з віноўнікаў арагонскай драмы — міністр абароны Прыета. Ён даўно перастаў верыць у перамогу, даўно марыў пра заключэнне міру з курдупым Франка. Пазней Прыета прызнаваўся, што калі пераможа фашызм — гэта кепска, але калі пераможа рэспубліка, то ўмацуюцца камуністы, а гэта таксама кепска. Прыета не прызнаваў ваенных камісараў, нічога не зрабіў, каб абясшкодзіць анархістаў. Народ Іспаніі зразумеў, што такога міністра абароны трэба гнаць у каршэнь, а разам з ім і яго заступнікаў і пама-

гатых. У красавіку 1938-га быў створаны новы ўрад. Прэм'ерскае крэсла заняў сацыяліст Негрын. Ён абвясціў, што вайну трэба весці да канчатковай перамогі, што Іспанія — народная рэспубліка, што патрэбна аграрная рэформа: зямлю раздаць беднякам-сялянам, рабочым — гарантаваць людскія ўмовы жыцця.

Помню, як усхвалявала нас прамова Далорас Ібаруры на пленуме ЦК Кампартыі Іспаніі. У звонкай цішы майскага адвячорку, калі яшчэ спявалі птахі, я чытаў уголас выступленне Пасіянарыі. Запалі ў душу яе словы: праграма новага ўрада — самая канкрэтная, самая шырокая і гістарычна правільная. Зноў замільгалі ў газетах паведамленні аб мітынгах і дэманстрацыях у падтрымку Іспанскай рэспублікі. Вайна працягвалася, мы чакалі новых падзей. Франкісты імкнуліся пашырыць калідор, якім яны валодалі, пачалі штурмаваць Валенсію. На вузкіх горных дарогах рэспубліканцы затрымалі іх, а ў канцы ліпеня інтэрбрыгады і 45-я дывізія фарсіравалі раку Эбра.

## XI

Помніцца сырая халодная ноч. Пад раніцу апаў туман, ён плыў над вадой, быццам касмылі ваты. Рака шырокая — больш як сто метраў. На золку пачалася пераправа. На лодках, па хісткіх часовых мастках ірвануліся мы на другі бераг, які цямнеўся густой сцяной чароту, цьмяна шарэў пясчанымі выспамі. Мутна-жоўтая вада пасля нядаўніх дажджоў віравала, нават ля берага збівала з ног. Мы былі на сярэдзіне ракі, калі пачалася страляніна, падняліся слупы вады. Наляглі мацней на вёслы, але раптам снарад бухнуў блізка ад нас, мутна-буры вал вады абрынуўся ў лодку, дык яна і перакулілася, і мы, усе восем чалавек, апынуліся ў вадзе. Побач ляснуў выбух, аж заклала вушы, секанулі ў твар пырскі, і тут жа я адчуў пад нагамі зямлю. Азірнуўся назад, услед плылі, хто як мог, байцы майго ўзвода, ля перакуленай лодкі захлёбваўся вадой Любамір, адной рукой ён трымаўся за лодку, а ў другой была вінтоўка, якую ён не хацеў кінуць у ваду.

— Хасэ, трымай кулямёт! — крыкнуў я.

Хасэ быў ужо ля берага, падхапіў кулямёт, а я рвануўся да Любаміра. Імклівае цячэнне несла лодку ўніз. Галава Любаміра схавалася ў вадзе, але пальцы

сутаргава сціскалі край лодкі. Задыхаючыся, ліхаманкава махаючы рукамі, я дагнаў лодку, але Любаміравай рукі ўжо не было. Зноў раздаўся выбух, мяне адкінула ўбок, ачомаўся каля лодкі, ледзь не стукнуўся аб яе лбом, нырнуў, шнырачы рукамі паўз дно, наткнуўся на чалавечае цела — бязвольна распластанае,— яго несла вада. Я схапіў чалавека за валасы і пацягнуў да берага. Потым узваліў Любаміра на плечы і, сёрбаючы ваду, хаваючыся з галавой, папоўз. Дзесьці блізка яшчэ грымнуў выбух, але я ўжо плюхнуўся на сыры прыбярэжны пясок. З апошніх сіл перавярнуў Любаміра, усцягнуў на сваё калена. Цела яго курчылася, з рота хлынула бура-зялёная вада. Пасінелы твар памалу пачаў ружавець. Падпоўз Хасэ, удвух адцягнулі Любаміра далей у кусты, я абмацаў яго, ці не паранены ён, але раны нідзе не знайшоў — мусіць, аглушыла выбухам. Любамір расплюшчыў вочы, пакратаў галавой, глуха і хрыпла прастагнаў, быццам нехта душыў яго за горла. Я паляпаў яго па шчоках, расцёр грудзі.

— Жывы, Любамір. Жывы, дружа,— узрадаваўся.— Хасэ, давай флягу...

У небе тым часам загулі самалёты, адна за адной з агідным свістам і стогнам паляцелі ўніз бомбы. Магутныя выбухі скаланулі зямлю, нас абсыпала сырым пяском, абляпіла мокрымі камякамі гліны. Не раз даводзілася быць пад бамбёжкай, але такога пекла, як на беразе Эбры, не ведаў. Паўгадзіны гуло і стагнала вакол: зямля, вада і неба змяшаліся, ператварыліся ў смуродлівае бруднае месіва. Мокрыя да рубінкі, атупелыя ад грукату і стрэлаў, утрох мы сядзелі пад кустом. Кулі ціўкалі над галавой, зрываючы лісце, уздымаючы фантанчыкі пяску. Самалёты праносіліся нізка над берагам, касілі ўсё жывое з кулямётаў. Як трохі пацішэла, я спусціўся да ракі, з чароту сям-там выпаўзалі байцы. Па ўцалелых мастках ланцужком пацягнулася рэспубліканская пяхота. Пераправа працягвалася.

За ноч сапёры наладзілі моцныя масты, пераправілі тэхніку, і на другі дзень армія «Эбра» пад камандаваннем Хуана Мадэста нястрымнай лавінай рушыла ў наступленне. Франкісты ў паніцы адступалі. За пяць дзён мы прасунуліся амаль на паўсотню кіламетраў і падышлі да горада Гандэса. Батальёны рэспубліканцаў некалькі разоў атакавалі горад, але ўзяць не змаглі: франкісты ператварылі яго ў крэпасць. У баі пад Ган-

дэсай загінуў Хасэ. Камбат загадаў яму наладзіць сувязь з флангам, дзе наступаў батальён імя Міцкевіча. Хасэ ўскінуў на плечы шпульку дроту, узяў вінтоўку і кароткімі перабежкамі пакіраваў паўз лінію фронту ў горы.

Бой разгараўся. Узвод заняў абарону на горным хрыбце. Я абыходзіў пазіцыі і раптам убачыў на кучы камення Хасэ, ён ляжаў, быццам падрыхтаваўся страляць. Я тузануў яго за нагу, а сам схаваўся за вялікі камень — Хасэ не зварухнуўся. Сэрца маё адразу пахаладзела. Асцярожна перавярнуў Хасэ — з рота сачыўся тонкі струменьчык крыві, цела было ўжо халоднае: куля прабіла грудзі, твар быў спакойны, па-дзіцячы прыпухлыя вусны адкрывалі роўныя белыя зубы, быццам усміхаўся... Такі ён быў заўсёды, да апошняга ўздыху. Памёр, мусіць, без асаблівых пакут. Светла жыў, гераічна і светла загінуў. Я ўкленчыў над ім, не мог адарваць вачэй, слёзы засцілалі іх гарачым туманам. Потым узяў яго дакументы, накрыў твар берэтам, абклаў каменнем з усіх бакоў.

— Я выканаю тваё заданне, Хасэ. Устанаўлю сувязь... Напішу бацькам, Хуаніце, каб усе ведалі, як ты змагаўся тут...

Ускінуўшы на плечы шпульку дроту, прыгінаючыся, подбегам рушыў па сцежцы. За пераваламі, у ляску, былі пазіцыі батальёна імя Міцкевіча. Я расшукаў штабны бліндаж, адрапартаваў дзяжурнаму афіцэру, што прыбыў, каб наладзіць з імі сувязь. Стомлены, з глыбока запалымі вачамі, афіцэр уважліва зірнуў на мяне, папрасіў дакументы.

— Як у вас справы, таварыш Пабла? Агрызаюцца фашысты?

— Лезуць на злом галавы.

— Страты вялікія?

— Ёсць,— адказаў я, адразу ўспомніў Хасэ.

— От гады, растуды их мать...— нечакана па-руску вылаяўся афіцэр.

— Ругаться мы все мастера,— сказаў я.

У гэты час у бліндаж прывялі запыленага, з перабінтаванай рукой сувязіста з дывізіі. Той зірнуў на афіцэра, перавёў позірк на мяне.

— Дакладвайце, таварыш Збігнеў. Гэта сувязны з батальёна імя Палафокса таварыш Пабла.

Сувязны падаў мне руку. Хіба мог я тады падумаць,

што праз некалькі месяцаў у другой краіне лёс звядзе мяне са Збігневым, а потым зусім неспадзявана сустрэну гэтага дзяжурнага афіцэра.

— Справы кепскія,— ціха сказаў Збігнеў.— Фашысты абстралялі штаб дывізіі. Загінуў начальнік сувязі, некалькі афіцэраў, сувязных...

Здарылася вось як. Разбітыя групоўкі фашыстаў у час імклівага наступлення прабіваліся да Гандэсы і якраз натрапілі на штаб дывізіі. Усчалася перастрэлка. На дапамогу падаспелі байцы-рэспубліканцы. Фашыстаў перабілі ўсіх, але і ў нас вялікія страты. Я прыгадаў, што днямі ў штаб дывізіі перавялі Максіма.

— Скажыце, вы часам не ведалі Максіма Рокача? Ён з нашага батальёна. Мы разам ваявалі...

— Чаму ж не? Ведаў.— Збігнеў памаўчаў, уздыхнуў.— Ведаў... Загінуў. Сам бачыў яго мёртвага...

Які жахлівы дзень! Загінулі адразу два сябры. А Тамашэвіч, Ян Ткачоў... Колькі крыві лепшых сыноў чалавецтва пралілося на зямлі Іспаніі.

Франкісты кінулі ў бой свежыя падмацаванні, падцягнулі войскі з іншых франтоў. Бесперапыннымі атакамі яны спрабавалі адцясніць рэспубліканцаў на левы бераг ракі, але гэта ім не ўдавалася. Больш як тры месяцы доўжылася бітва на Эбры. Тысячы франкістаў, мараканцаў, італьянцаў знайшлі сабе магілу на раўніне каля Гандэсы, на Пірэнейскіх адгор'ях. Але сілы былі няроўныя. У лістападзе армія Мадэста з баямі адышла на левы бераг Эбры.

## XII

Іспанская рэспубліка стагнала пад франкісцкім ботам. Чэмберлен і Даладзье ўсяляк спрыялі яе падзенню. Французскі ўрад адмовіўся адкрыць граніцу, каб перакінуць рэспубліканскія войскі ў Каталонію, дзе разгаралася апошняя бітва за свабоду Іспаніі. Акрыленыя гэтакай падтрымкай, фашысты рваліся наперад. На пачатку трыццаць дзевятага яны захапілі Барселону, за ёй — Жэрону. Нібы шагрэневая скура, усё менела і менела тэрыторыя, якая заставалася ў руках рэспубліканцаў.

Картэсы вымушаны былі прыняць рашэнне: пачаць мірныя перагаворы з Франка. Умовы такія: вывесці ўсіх іншаземцаў, што ваявалі ў яго арміі, даць магчы-

масць народу самому выбраць тую форму ўлады, якую ён пажадае, гарантаваць свабоду выезду за мяжу ўсім добраахвотнікам.

Сваім байцам я тлумачыў так: створана рэгулярная Народная армія, выраслі кадры камандзіраў. А інтэрбрыгады аслабелі, панеслі вялікія страты. На баку ж фашыстаў шмат немцаў, італьянцаў. Калі яны паедуць з Іспаніі, то будзе лягчэй змагацца. Але цешыў я сябе і таварышаў дарэмна. Справы на фронце былі кепскія.

Іншы раз я думаю: хто ведае, як бы павярнуліся падзеі, калі б рэспубліканская армія змагла перабрацца ў Каталонію, дзе ўзняўся ўвесь народ супраць франкістаў. Сілы яшчэ былі, меліся вопыт, зброя і энтузіязм змагацца да перамогі. Можа, лёс рэспубліканскай Іспаніі вырашыўся б зусім інакш.

Перад ад'ездам я напісаў ліст Хуаніце:

«Мілая Хуаніта! Пішу табе апошні ліст з Іспаніі. Нас вывозяць у Францыю, а потым — па дамах. Родная, любая Хуаніта! Неўзабаве мы сустрэнемся. Буду ехаць — дам тэлеграму. Сустракай...»

Наіўны я быў чалавек: думаў усё так проста — куды захацеў, туды і паляцеў. Але вернемся ў Іспанію. З апошніх дзён, пражытых там, урэзаліся ў памяць праводзіны інтэрнацыянальных брыгад. Сабралася нас яшчэ даволі шмат. Поплеч са мной стаяў Любамір. Васіль быў у іншай роце, я шукаў яго, але не знайшоў. «Няўжо і ён загінуў?» — білася думка, але не хацелася гэтаму верыць.

Тым часам на асветленае ўзвышэнне паднялася Далорэс Ібаруры — стройная, гордая постаць, цёмная сукенка з белым каўнерыкам. Нібы крылы дзіўных птахаў, трапяталіся падсвечаныя чырвоныя сцягі. Усхвалявана з энергічнымі жэстамі, загаварыла Пасіянарыя:

— Надзвычай цяжка развітвацца з героямі інтэрнацыянальных брыгад... Пачуццё смутку і нясцерпнага болю падымаецца ў нас, сціскаючы горла!..— я адчуў, як сапраўды ў горле ў мяне засеў камяк, па спіне быццам пабеглі мурашкі.— Смутак па тых, хто навекі застаўся ляжаць у нашай зямлі і жыць у нашых сэрцах...— моцны грудны голас Пасіянарыі ўздрыгнуў, яна змоўкла, нізка схіліла галаву, уздыхнула і гучна, нібы заклік, выгукнула:— Дзеці ўсіх народаў і ўсіх рас! Вы прыйшлі да нас, як браты, як сыны неўміручай Іспаніі. У самыя цяжкія дні нашай барацьбы, калі пагроза

навісла над сталіцай Іспанскай рэспублікі, вы, адважныя таварышы з інтэрнацыянальных брыгад, сваім баявым энтузіязмам і духам самаахвяравання дапамаглі адстаяць яе.

Мы стаілі дыханне, толькі вецер лапатаў палотнішчамі сцягоў. Усе позіркі былі скіраваны на гэтую жанчыну, прыгожую і велічную, і здавалася, што яна гаворыць з кожным паасобку, звяртаецца да сэрца кожнага, хто прыціх у маўклівых калонах байцоў. Гэтыя людзі не раз глядзелі ў твар смерці, хавалі сваіх сяброў і таварышаў, цяпер байцы зноў перажывалі душою і сэрцам усе дні і ночы змагання з фашызмам.

— Сцягі Іспаніі! Салютуйце гэтым героям, схіліцеся перад імі! — падалося, нават вецер пацішэў, стаіўся, нахіліліся кумачовыя флагі, і над імі лунаў высокі і чысты голас: — Таварышы інтэрнацыяналісты!.. Вы можаце ганарыцца сабой: вы — гісторыя, вы — легенда, вы — гераічны прыклад супольнасці і ўсеабдымнага духу дэмакратыі... Няхай жывуць героі інтэрнацыянальных брыгад! [1]

Крыкі «Віва Эспанья!», «Абахо эль фасізмо!» [2], магутныя акорды «Інтэрнацыянала» заглушылі ўсё. Спявалі на розных мовах, але гэта быў надзіва зладжаны і стройны хор, хор братэрства ўсіх народаў свету.

## XIII

Пясчаны пляж на беразе Міжземнага мора, як акінуць вокам, абгароджаны калючым дротам. Паўз агароджу з бліскучымі штыкамі гайсаюць на конях сенегальскія стралкі — вартуюць, каб ніхто не збег. На вышках стаяць кулямёты, увечары ўспыхваюць вялізныя пражэктары і халодным, мёртвым святлом заліваюць пясчаны бераг. Гэта канцэнтрацыйны лагер Сан-Сіпрыен. Тысячы галодных людзей, што прайшлі пехатой ад Эбры да Пірэнеяў, параненых, з бруднымі, гнілымі бінтамі кінуты на голыя дзюны. Байцы інтэрбрыгад, іспанскія бежанцы — жанчыны з дзецьмі, старыя і хворыя — усіх разам загналі сюды французскія ўлады.

Мора шумела, ззялі снежныя вяршыні Пірэнеяў.

---

[1] Цыт. па кн.: Д. Ибаррури. В борьбе. М., «Прогресс», 1968, стар. 354.

[2] Далоў фашызм! — *ісп.*

Адтуль дзьмуў халодны вецер. Часамі дзьмуў з такой сілай, што ўзнімаў пясок, быццам снежная завея лютавала тады над узбярэжжам, засыпаючы ўсё, што ляжала нерухома: хворыя, параненыя адразу аказваліся ў пясчанай магіле.

Нанач усе самі імкнуліся закапацца ў пясок — адзіны ратунак ад холаду. Ляжыш, бывала, зарыўшыся, што крот, у зямлю, толькі вочы і нос на волі, пазіраеш у неба. Нібы бліштасты ручнік, зіхаціць Млечны Шлях. У Аргенціне яго не відно, а тут вунь які... Зоркі буйныя, яркія, мігцяць, быццам падміргваюць, маўляў, мы ўсё бачым і разумеем. Мабыць, калі глядзець адтуль, з неба, наша Зямля — такая ж маленькая бліскучая зорка.

Калі я пазіраў на зоркі, мяне ахоплівала амаль такое ж пачуццё самоты і тугі, як і тое, калі думаў пра свой дом, радзіму. Можа, тысячагоддзі назад адтуль, з неба, трапілі на Зямлю жывыя істоты, рассяліліся, распаўзліся ва ўсе бакі. А яна ж такая невялічкая, наша планета... І ў той жа час — яна неабсяжная. Калі ехаць на возе, як мы ў Расію ўцякалі ад немцаў, або ісці пехатою па аргенцінскай пампе, ці плыць параходам цераз акіян — здаецца, няма канца і краю.

Вялікая наша Зямля. І месца хопіць на ёй усім. А людзі безупынку ваююць... Можа, дзесьці ў Сусвеце жывуць людзі, ну, хай не людзі, а нейкія жывыя істоты, і не ведаюць войнаў, прыгнёту. Жылі некалі індзейцы і знаць не зналі, што ёсць Еўропа з яе вялікімі гарадамі, агнястрэльнай зброяй, пакуль Калумб не адкрыў Амерыку, а еўрапейцы не ўзяліся «прыручаць» туземцаў.

Так і мы жывём і думаем, што мы адны на ўсім белым свеце. А зорак жа вунь колькі багата! І, мусіць жа, яны страшэнна далёка ад нас. Можа, на якой-небудзь планеце тамтэйшыя жыхары дасягнулі куды большага развіцця, чым мы, зямляне. І жывуць яны свабодна і шчасліва.

Усё жывое імкнецца на волю, як птушка з клеткі... Вось мы з усяго свету прыехалі ў Іспанію. Чаго? Змагацца за свабоду простага рабочага люду. Змагацца за праўду, справядлівасць. Мы прыехалі даць бой фашызму. Колькі загінула інтэрнацыяналістаў! Лепшых сыноў чалавецтва, смелых, сумленных. А баязліўцы, падлюгі, слімакі засталіся жыць і пладзіцца... Няўжо дарэмна

гінулі таварышы?! Не, недарэмна. Добра сказала пра інтэрнацыяналістаў Пасіянарыя: вы — гісторыя, вы — легенда, вы — гераічны прыклад супольнасці і ўсеабдымнага духу дэмакратыі...

І падумалася мне, што кроў валанцёраў свабоды, пралітая ў Іспаніі, ператворыцца ў велізарны чырвоны сцяг, пад які стануць новыя пакаленні змагароў... Прыгадаліся гутаркі з камарадам Жоржам у Санта-Фе. «Добрыя людзі раз'яднаны. Багацеі вярбуюць мярзотнікаў і падлюг, цкуюць адзін народ на другі»,— гаварыў мне Жорж. Так, гэта ёсць на свеце. Але і добрыя людзі, просты рабочы народ можа з'яднацца, можа выступіць адзінай магутнай сілай. А яго ж рукі твораць дабро на зямлі. Сяляне сеюць хлеб, рабочыя шыюць чаравікі і кашулі, будуюць дамы, робяць машыны і самалёты. А ўсё дзеля чаго? Каб чалавек мог жыць па-людску і быць шчаслівым. Каб шчаслівым быў балгарын Любамір, украінец Васіль, іспанец Педра... За гэта аддалі жыццё аргенцінец Хасэ, беларус Дворнікаў і паляк Ткачоў, іспанка Анхеліта і канадзец Аксельберг... А які лёс чакае мяне? Што чакае маіх сяброў? Я прыслухаўся — побач ціхамірна хроп Любамір, нешта мармытаў у сне Васіль: мы сустрэліся з ім у лагеры.

Байцы інтэрбрыгад, якія зрадніліся ў крывавых баях з фашызмам, трымаліся разам. Хто мог легальна, а хто нелегальна пасылалі ва ўсе канцы свету паведамленні аб сваім цяжкім становішчы, аб здзеках французскай паліцыі і сенегальскіх легіянераў. Любамір адаслаў ліст сябрам у Балгарыю, я напісаў Мігелю і Энрыке — скардзіцца Хуаніце на свой лёс не хацелася. Вярнуцца ў Аргенціну не мог: не было дакументаў, згубіліся пры фарсіраванні Эбры. Дамброўшчыкі, а іх было тут каля паўтысячы, пачалі думаць, як вярнуцца ў Польшчу.

— Гітлер пагражае Польшчы. У нас ёсць вопыт, веды, мы павінны выступіць на абарону Айчыны,— гаварылі адны.

— Каго абараняць? Паноў і буржуяў? Пілсудчыкаў? Не, дзякуй вам за такую ласку. Мы не згодны,— гаварылі другія.

Палякі былі за тое, каб абараняць Польшчу, а беларусы, украінцы не згаджаліся. Аднойчы сустрэў Збігнева, сувязнога са штаба дывізіі, што расказаў пра смерць Максіма. Разгаварыліся. Сувязны не пазнаў мяне.

— Вы памятаеце мяне? Мы сустракаліся ў штабе батальёна Міцкевіча пад Гандэсай?

Чалавек прыжмурыў шэрыя, мусіць, блізарукія вочы, доўга ўглядаўся.

— А, гэта вы пыталіся пра Максіма... Вы...— сіліўся ён успомніць,— вы, здаецца, таварыш Пабла? Вы — іспанец?

— Я не іспанец, але і не паляк. А вы з Польшчы? — спытаў я, хоць і чуў, што гаворыць былы сувязны па-польску з нейкім акцэнтам і доўга падбірае словы.

— Не, я з Чэхаславакіі. З Браціславы... Сапраўднае маё імя Францішак.

Расказаў Францішак сваю гісторыю. Бацька яго працаваў настаўнікам, у сям'і было двое дзяцей: Францішак і малодшы брат Іржык. Вучыўся Францішак вельмі добра, і бацька вырашыў паслаць яго ў Парыж, на матэматычны факультэт, але там не прынялі, параілі ехаць у Тулузу, дзе таксама ёсць такі факультэт, добрыя выкладчыкі, славутыя традыцыі: універсітэту больш як семсот гадоў. Словам, апынуўся Францішак у Тулузе. Вясною трыццаць восьмага разам з двума студэнтамі-камуністамі паехаў у Іспанію, быў артылерыстам, потым сувязным-перакладчыкам, бо ведаў французскую, нямецкую, іспанскую мовы, гаварыў па-польску, разумеў троху і па-руску. Рана загаілася, але быў ён худы, як трэска, і ледзь не валіўся ад ветру. На няголеным змарнелым твары сурова блішчалі вочы. Францішак далучыўся да нашай тройкі, абое яго сябры загінулі ў Іспаніі, і мы таксама, як і іншыя, да хрыпаты абмяркоўвалі, ці варта нам абараняць Польшчу.

— Камуністы супраць войнаў. Што мы забыліся ў той Польшчы? — гаварыў Васіль.

— Войны бываюць розныя. Ленін пісаў, што войны бываюць справядлівыя і захопніцкія, несправядлівыя. Калі Гітлер нападзе на Польшчу, то трэба ўсяму польскаму народу і камуністам змагацца за вызваленне,— тлумачыў нам Францішак.

Я падумаў, што ў польскіх турмах за кратамі сядзяць тысячы камуністаў і падпольшчыкаў з маёй Беларусі. Дзесьці ў Картуз-Бярозе зняволены Антось Іванюк, завадатар нашай вясковай моладзі, мой першы настаўнік і паплечнік.

— Трэба ехаць, браткі, у Польшчу. Трэба вызваліць з турмаў камуністаў. Тады рабочы клас, польскія бед-

някі-сяляне возьмуцца за зброю. Нельга аддаць краіну фашыстам,— пераконваў я сябе і таварышаў.

— Савецкі Саюз стварае адзіны фронт супраць фашызму. Таму трэба вам ехаць,— сказаў Любамір.— Мяне, канечне, не пусцяць. Я не паляк, хоць і быў у брыгадзе Дамброўскага.

— Ды і мяне не возьмуць,— уздыхнуў Францішак.— Маю радзіму ўжо Гітлер захапіў. Хоць бы ў Польшчу трапіць. Усё-такі бліжэй.

— Не бядуй, Францішак,— супакоіў Васіль.— Можа, польскі ўрад нікога не пусціць.

— Можа быць і так, але мы павінны ведаць, як трымацца на сходзе. Заўтра сход будзе прымаць рэзалюцыю,— я пачуў гэтую вестку ад камітэтчыка, знаёмага паляка.

І вось сабраліся на сход. Зачыталі рэзалюцыю. У ёй гаварылася, што пяцьсот былых добраахвотнікаў рэспубліканскай іспанскай арміі цяпер, калі незалежнасць Польшчы знаходзілася ў небяспецы, гатовы стаць на абарону граніц Польшчы. Далей гаварылася, што ў Іспаніі мы знішчалі нямецкія самалёты і танкі, вытрымлівалі абстрэл нямецкай артылерыі, падрывалі гранатамі пяхоту. Словам, мы ваякі з багатым вопытам, гатовы абараняць Польшчу. Прынялі рэзалюцыю дружна, падпісалі яе 23 чалавекі. Ад беларускай групы падпісваць даручылі мне. Паперу паслалі ў Парыж у польскае пасольства.

## XIV

Жыццё ў лагеры рабілася ўсё цяжэй. Праўда, баракі пабудавалі, але і ў іх была такая халадэча, хоць воўкоў ганяй. Людзі хварэлі, паміралі, як мухі. Кармілі нас пагана: трыста грамаў хлеба, фунт сырой гародніны, дзесяць грамаў штучнага тлушчу, раніцай кубак мутна-рудой бурды — так званай кавы невядома з чаго. На такіх харчах доўга не працягнеш. Польскі ўрад нічога не адказваў на наша пасланне. Аднойчы Францішак прыбег з газетай «Юманітэ».

— Браткі, наш зварот да польскага ўрада надрукаваны ў газеце! Палякі вунь спяваюць «Ешчэ Польска не згінэла». І яшчэ навіна. Савецкі ўрад адпусціў пяць мільёнаў франкаў для дапамогі іспанскім бежанцам.

— Дык дзе ж гэтыя грошы? — усхапіўся Васіль.

— Грошы перавялі ў распараджэнне іспанскага пасла ў Парыжы. Дзякуючы гэтаму нас хоць так кормяць. А то давалі б адну ваду.

Інтэрбрыгадаўцы зрэдку атрымлівалі пасылкі. Мы ўтварылі камуну, каб кожнаму нешта перападала. Прыйдзе пасылка — дзелім на ўсіх. Хоць есці не мелі чаго, затое часу ў нас было багата. Каб не звар'яцець ад галадухі і ад няма чаго рабіць, вучылі мовы, чыталі ўсё, што трапляла ў рукі. А траплялі нават кнігі на рускай мове. У лагеры я прачытаў «Маці» Горкага і «Разгром» Фадзеева.

Асабліва моцна ўразіла кніга пра маці. Цяпер усе дзеці чытаюць яе ў школьныя гады, я ж да яе дабраўся ў сталым узросце, калі ўжо добра зведаў, па чым фунт ліха і адкуль яно, гэтае ліха, бярэцца на свеце. Шлях да рэвалюцыйнай барацьбы, які выбралі Павел Уласаў і ягоная маці, я прымаў усёй душой. Перадавалі кнігі некаторыя вартаўнікі-французы. Відаць, яны мелі сувязь з Кампартыяй Францыі. Мы адчувалі пастаянную падтрымку: пасылкі з прадуктамі, кнігі ўзнімалі наш дух. І хоць буржуі загналі нас за калючы дрот, мы жылі, мы рыхтаваліся да новага змагання. Зрэшты, само жыццё ў лагеры было змаганнем, змаганнем не толькі каб выжыць, не апынуцца ў пясчанай магіле, а каб застацца чалавекам.

Французская лагерная адміністрацыя вербавала нас у замежны легіён для падаўлення афрыканскіх калоній. Штодня прыязджала машына, на якой быў устаноўлены вялізны рупар. Рэзкім металічным голасам гэты рупар абяцаў залатыя горы таму, хто запішацца ў французскі легіён. Барацьба за душы людзей ішла поўным ходам. Падпольны камітэт, а ён утварыўся ў лагеры ў першыя дні, раіў выпускаць рукапісныя часопісы і газеты. Палякі, немцы неўзабаве займелі свае «выданні». Рускія, украінцы і беларусы вырашылі выпускаць адзін часопіс на дзвюх мовах: рускай і ўкраінскай. Доўга шукалі назву.

Неяк мы сядзелі каля барака. Быў цёмны вечар. Несціхана шумела мора, узбярэжжа паласавалі святлом пражэктары. «Хлопцы, а што, калі назваць «Пражэктар», га? Часопіс наш павінен свяціць...» — прапанаваў я. «А што? Тут ёсць мысля»,— падтрымаў мяне Васіль. Растлумачылі Францішаку, Любаміру. Назаўтра на аркушы паперы намалявалі назву, слуп святла, калючы

дрот, у другім куце аркуша — чорны сенегалец з вінтоўкай. Пайшлі ў камітэт. Прапанову нашу ўхвалілі. Далі жмут паперы, бутэлечку тушы. У палякаў пазычылі «форму» — прамавугольную бляшанку, запоўненую густым, як студзень, растворам.

На лісце паперы буйнымі, выразнымі літарамі пісалі тэкст тушшу, затым гэты аркуш накладвалі на форму, прыціскалі валікам, здымалі, на форме заставаўся адбітак. Цяпер накладвай чыстую паперу, прыкатвай валікам — і старонка часопіса гатова. Фарбы хапала на два дзесяткі адбіткаў велічынёю з палову газетнай паласы. Адбіткі мы складвалі напалам: наш часопіс меў, здаецца, дзесяць старонак. Знайшліся здольныя людзі: малявалі, пісалі вершы, нават друкавалі аповесць з лагернага жыцця, з працягам у некалькіх нумарах, усё як мае быць. А галоўная задача — растлумачыць зняволеным сітуацыю, памагчы ім устояць супраць агітацыі вярбоўшчыкаў. «Пражэктар» пісаў, што пакуль мы ў лагеры, усе разам, дык за намі стаіць увесь прагрэсіўны свет, усе кампартыі, газеты. А варта толькі запісацца ў легіён, прыняць прысягу, і ты — безабаронны. Не спадабаецца ім тваё слова ці нават пагляд — могуць прыстрэліць, і ўсё.

Два-тры дзесяткі экземпляраў — такім тыражом выходзіў наш «Пражэктар». Але свяціў ён далёка. З дапамогай французскіх камуністаў пасылалі яго ва ўсе канцы свету: Парыж, Маскву, нават у Аргенціну, Канаду. І было радасці, калі з Канады нам прыслалі партатыўную друкарскую машынку. Цяпер не трэба было пісаць ад рукі. Знайшліся людзі, якія ўмелі друкаваць. Паспрабаваў неяк і я падвучыцца. Дзе там! Мае тоўстыя пальцы, якія спрытна і лёгка трымалі цяжкі молат, дужа марудна, неўпапад ціскалі клавішы машынкі. «Ты, Паўлюк, нібы клапоў давіш»,— рагатаў Васіль. Але я не здаваўся і памалу навучыўся-такі друкаваць.

А вярбоўшчыкі душ таксама не драмалі. Штодня групамі і па адным выклікалі інтэрбрыгадаўцаў у лагернае паліцэйскае аддзяленне. Аднойчы выклікалі мяне. Апрануты ў цывільнае афіцэр каланіяльных войск, лысаваты, з драбнаватым, бурым ад загару тварам, прыжмурыў маленькія вочкі, запрасіў сесці, падсунуў пачак цыгарэт, ад якіх я адмовіўся, і, не трацячы лішне часу, пачаў:

— Прапаную падпісаць кантракт на пяць гадоў. Ад-

служыш тэрмін у замежным легіёне — вольны, як птаха. І поўныя кішэні грошай,— афіцэр памаўчаў, пастукаў дагледжанымі, ружаватымі, як лакіраваныя, пазногцямі па стале.— Мы ўмеем цаніць храбрых салдат.

— Не магу падпісаць кантракт,— хрыпла выціснуў я.

— Чаму? — густыя бровы ўспаўзлі на лоб, гармонікам сабраліся маршчынкі.— Якая вам розніца, дзе ваяваць? У Іспаніі або ў Афрыцы.

«Ах, падлюка, ты здзекуешся з мяне»,— закіпала злосць, але я стрымаўся, толькі кулакі сціснуў пад сталом.

— Я не магу страляць нявінных людзей. У Іспаніі я змагаўся за свабоду...

— Маўчаць! — афіцэр кулаком урэзаў па стале, аж падскочыў пачак цыгарэт.— Дзе вы дзенецеся? Аргенціна вас не прыме — няма дакументаў. Польскі ўрад адмовіўся ад вас. Не пускае ніводнага інтэрбрыгадаўца. У вас ёсць адзіны шлях — замежны легіён.

— Гэты шлях не для мяне. Я не прадаюся.

Афіцэр падняўся, захадзіў па пакоі, нібы маятнік, соваўся з кута ў кут, спыніўся насупраць мяне.

— Паслухайце, сеньёр Варанецкі, ці як вас там. За такія размовы вас можна пасадзіць у турму. Мы не паробім гэтага. І не таму, што я добры дзядзя. Вы нам патрэбны... Храбры салдат. Малады, здаровы, прыгожы мужчына,— ляпнуў мяне па плячы, весела выскаліўся.— А якія жанчыны ў Афрыцы! Люкс! Тэмпераментныя, палкія. Грудзі — што какосавыя арэхі. І любая можа быць вашай... А тут што? Зараз вернецеся ў лагер, за калючы дрот. Голад, холад. Вунь як бакі падцягнула... А то новенькая форма, віно, грошы, жанчыны... Адслужыце, купіце дамок на беразе мора. Возьмеце маладую жонку. Бабы да грошай падкія. Ліпнуць, што п'яўкі. Словам, жыві прыпяваючы...

Слухаў я і думаў: добра ты спяваеш, а дзе сядзеш? І не шукай ты дурня. Мы самі пісалі ў «Пражэктары», што, калі хоць адзін згодзіцца, клюне на гэтую прынаду, праз дзень усе французскія газеты паднімуць лямант: іспанскі добраахвотнік — галаварэз, які за грошы гатовы ваяваць у любой краіне, у якога няма ні ідэалаў, ні сумлення.

— Ну, падпісваеце кантракт? — афіцэр падсунуў паперу.

— Не, пан афіцэр,— адказаў я.

— Сволач! Здохнеш з голаду! — крычаў афіцэр і тупаў нагамі.— Вывесці яго.

## XV

Надышла восень. Удзень яшчэ прыпякала сонца, мора было ціхае і ласкавае, але ночы ўсё халаднелі, на золку мы прадавалі дрыжыкі, з нецярпеннем чакалі сонца. Калі налятаў вецер з Пірэнеяў, нізкія густыя хмары зацягвалі неба, свінцова-чорнае мора з шыпеннем і шоргатам наступала на пляж. Жыццё мне здавалася гэтакім жа цёмным і беспрасветным, як бурлівае восеньскае мора.

Аднойчы даждлівым туманным днём мы сядзелі ў бараку, калі цішыню прарэзаў гнюсавы лямант рупара.

— Зноў зацяўкала, бісава душа. Заткнуць бы яму глотку, гарлапану,— Васіль вылаяўся і сплюнуў ад злосці.

— Трэба ладны камень,— я падняўся, памкнуўся да дзвярэй.

— Калі зловяць — пасадзяць у карцэр. Лагернае начальства ўмее цаніць подзвігі,— пакпіў Францішак.

— Хрэн з ім, з карцэрам. Але рупар заткну.

Такая лютая нянавісць успыхнула раптам ува мне, што аж закалацілася ўсё ўнутры. «Ах вы, падлюкі. Гніды праклятыя. За каго вы нас лічыце? Калі самі прадаліся, дык і тут вярбуеце сабе падобных...» Нават калі б мяне маглі расстраляць, усё роўна я б не спыніўся...

Услед за мной выйшаў з барака Васіль. Удвух мы пачалі шукаць камень. Сукаватай палкай корпаліся ў пяску, выкапваючы дробныя каменьчыкі. Нарэшце выкапалі камень з гусінае яйка.

— Ну, гэтым калі гвазДану, адразу захліпнецца,— задаволена падкінуў я мокры камень, абцёр з яго пясок.

— Затое здаля не кінеш. Трэба блізка падыходзіць. Ці паспееш уцячы? — занепакоена сказаў Васіль, атрэсваючы рукі ад пяску.

— Я пайду адзін. А ты пачакай тут. А лепей — ідзі ў барак. Чаго і табе мокнуць? Тады дасі сваю куртку. Пагрэцца.

— Ну, глядзі, не прамахніся. Каб недарэмна, ліха яго матары,— Васіль падштурхнуў мяне ў бок.

Заклаўшы рукі за спіну,— у правай сціснуў камень,— унурыўшы галаву, я пабрыў паўз мора. Вецер дзьмуў з мацерыка, сыпалася імжа, сцішанае мора адступіла, агаліўшы рабрысты, вылізаны хвалямі, мокры пляж, і ў цішыні яшчэ гучней грымеў рупар. Машына стаяла каля будынка лагернай канторы. Людзей каля яе не было відаць, нават вартавыя пахаваліся. Я падышоў да агароджы. Да машыны заставалася з паўсотні крокаў. Паўзком прасунуўся яшчэ наперад. Рупар грымеў на ўсё сваё нялюдскае горла. Было такое адчуванне, што гэты чорны, выгнуты, як нейкі атрутны грыб, рупар загарадзіў мне свет, нібы ён быў маім самым заклятым ворагам.

Машына была ўжо зусім блізка. Я прыўзняўся і з усяе сілы шпурнуў камень. У вочы секанулі дробныя пясчынкі, рупар захрыпеў, захрукаў, як парсюк, і сціх. Я адкаціўся ўбок, пабег паўз агароджу, тады павярнуў за вугал бліжэйшага барака. Але ўцячы не ўдалося. На сем дзён трапіў у карцэр. Калі праз тыдзень, хістаючыся ад слабасці, вярнуўся ў барак, мяне сустрэлі як героя.

А неўзабаве адбылася прыемная і радасная падзея. У лагер прыехала дэлегацыя Міжнароднага Чырвонага Крыжа. Важныя дзядзькі і цёткі ў акружэнні лагернага начальства хадзілі з барака ў барак. Дэлегацыя яшчэ не дайшла да нас, а мне перадалі цішком, што са мной хоча пагаварыць адна дама. І вось да мяне падышла пажылая, хударлявая кабета, зірнула на мяне яснымі, светлымі вачамі, прыязна і ласкава ўсміхнулася і пявучым галаском спытала па-руску: «Вы господин Воронецкий?» Я адказаў, што прозвішча маё Варанецкі, але я не «господин». Дама не пакрыўдзілася, узяла мяне пад руку і адвяла ўбок, далей ад чужых вушэй. Распытала ўсё пра мяне, тады дастала з сумачкі пісьмо і падала мне. Я тут жа схаваў пакет за пазуху. Дама яшчэ нешта распытвала, а я ўжо не мог слухаць, бо ўсе думкі былі пра пісьмо: ад каго яно, што ў ім?

На развітанне я набраўся смеласці і спытаў у гэтай жанчыны: хто яна і адкуль ведае рускую мову. Жанчына адказала, што яна руская эмігрантка, апынулася за мяжой пасля рэвалюцыі, але Расію забыць не можа і рада памагчы рускаму чалавеку.

Як толькі жанчына адышлася ад мяне, я зашыўся ў куток, дрыжачымі рукамі раскрыў канверт. Пісьмо бы-

ло з Мексіканскага консульства, у ім гаварылася, што на маё імя атрымана 3600 франкаў з адной лаціна-амерыканскай краіны, што я магу перавесці грошы на рахунак у банк, атрымаць частку іх ці нават усе адразу. Калі я вырашу атрымаць усе грошы, то консул раіў паведаміць ім некалькі прозвішчаў надзейных таварышаў і падзяліць усю сумму на часткі. У той жа вечар я напісаў адказ: паведаміў прозвішчы Васіля, Любаміра і Францішка, прасіў усе грошы падзяліць на чатыры роўныя часткі. Пісьмо праз нашу нелегальную пошту паляцела на волю.

На свеце было неспакойна. Фашысцкі бот таптаў польскую зямлю. Польскія ўлады нічога не адказалі на мемарандум, хоць пасля «Юманітэ» яго надрукавалі англійскія і амерыканскія газеты. У гітлераўскія драпежныя кіпці ўжо трапіла Чэхаславакія. Полымя вайны распаўзалася па ўсёй Еўропе, нібы лясны пажар, які з усё большай хуткасцю і пражэрлівасцю перакідваецца на суседнія дрэвы. І вось ужо дымам і полымем ахоплены ўвесь лес. Такой была Еўропа ў тую восень. Нездарма 1 верасня 1939 года гісторыкі прызналі днём пачатку другой сусветнай вайны.

Неяк адвячоркам да мяне падбег узрушаны Францішак.

— Пабла, чуў навіну? Чырвоная Армія вызваліла Заходнюю Беларусь. Твая радзіма стала савецкай.

— Дзе ты пачуў? — кінуўся я да яго.

— Адзін француз па сакрэту сказаў. Немцы занялі Варшаву, а Саветы вызвалілі Заходнюю Беларусь і Украіну.

— І Украіну? Значыць, і мой Драгобыч? — Васіль аж падскочыў.— Жывем, хлопцы! Ура! Паідымо дахаты! Гоп, гоп, грачанікі..— Васіль пайшоў у скокі.— А Лявоніху Лявон палюбіў, Лявонісе чаравічкі купіў... Скачы, Паўло, цэ ж твая пісня...

Пачаў і я прытопваць, не чуючы ног ад радасці. Толькі Любамір стаяў сумны і маркотны.

— Не бядуй, братушка,— абняў я дружбака.— І цябе прымуць таксама. Саветы прымаюць усіх антыфашыстаў.

Мы не ўгледзелі, як падышоў паліцыянт.

— Што за шум? — спытаў ён грозна.

— Дахаты паедзем, масье паліцыянт,— сказаў я.

— Што ест дахаты?

— То ест дом. Маці. Радзіма...— у голасе Васіля пачулася такая радасць, што паліцыянт усміхнуўся.

— Разумем, разумем. Хто есть масье Варанецкі?

— Варанецкі — гэта я,— здзіўлены, адказаў я.

Паліцыянт прыдзірліва агледзеў мяне з ног да галавы.

— Вы — шчаслівчык. Ідзіце за мной.

У канторы сказалі, што на маё імя прыслалі грошы, дзевяцьсот франкаў.

— Вы хочаце атрымаць іх усе адразу ці па частках? — спытаў тоўсты лысы чыноўнік.— Падумайце. Дзе вы іх дзенеце? Могуць украсці... Можна перавесці ў банк на рахунак...

«Ах ты, свіное рыла. Украсці... Хіба ж я адзін? У нас камуна. Кавалка хлеба ніхто ніколі не ўкраў...»

— Хачу атрымаць усе адразу,— сказаў я.

— Хай будзе так,— буркнуў чыноўнік і выдаў пачак грошай.

— А хто іх праслаў? Ад каго тыя грошы? — спытаў я.

— Гэта не мае значэння,— пачуў у адказ.

— Я павінен ведаць, каб падзякаваць яму. Сплаціць доўг.

— Не маю права гаварыць. Забаронена,— памуліўся чыноўнік.

Не доўга думаючы, я сунуў яму дзесяць франкаў. Таўстун крактануў, пачухаў нос, зноў палез у свае паперы і назваў зусім невядомае мне прозвішча. «От дурань. Няўжо ж Хуаніта ці Мігель будуць самі адпраўляць грошы. Галоўнае — сабраць, а выслаць папрасілі некага іншага»,— разважыў я.

У той жа дзень атрымалі па дзевяцьсот франкаў Васіль, Любамір і Францішак і аддалі іх мне. Я патрымаў грошы — тоўсты пачак. Ніколі ў мяне не было гэтулькі грошай... Аддаў хлопцам назад: «Так будзе лепей, браткі. Хай у кожнага з нас будзе нейкая капейчына. Збіралі іх калектыўна і спажываць будзем калектыўна». І сам падзівіўся ў душы, што мне не шкада аддаваць грошы. Мы раздабылі прадуктаў, нават віна купілі, ціш-ком наладзілі свята — пілі за дружбу і братэрства ўсіх людзей.

## XVI

Праз некалькі месяцаў у лагер прыехала камісія савецкага пасольства: запісалі ўсіх беларусаў, украінцаў. Любамір і Францішак таксама падалі заявы, каб іх прынялі ў Савецкім Саюзе. Я паказаў білет члена Кампартыі Іспаніі і гэтым выклікаў асаблівую павагу камісіі. І таму змог закінуць слова за сваіх сяброў. Камісія паехала, а мы засталіся чакаць.

Была вясна 1940 года. Стаялі гарачыя, незвычайна доўгія дні. Я прасіў, маліў сонца, каб яно хутчэй заходзіла і хутчэй узыходзіла, каб час рухаўся як мага шпарчэй і надышоў той дзень, калі можна будзе паехаць на Радзіму. Усе мае думкі, усе жаданні былі скіраваны на гэта.

Аднойчы раніцай лагер акружылі жандары ў чорных плашчах, усіх нявольнікаў выгналі з баракаў, пастроілі, афіцэр аб'явіў: патрэбны людзі на будаўніцтва ўмацаванняў, вырашана стварыць з нас рабочыя каманды, хто жадае працаваць — тры крокі наперад. Афіцэр скончыў гаварыць, шарэнга нявольнікаў не зварухнулася. Ён паўтарыў каманду, але ніхто не выйшаў. Афіцэр махнуў рукой, і жандары пачалі хапаць людзей і кідаць у машыну.

Тут мы ўзбунтаваліся. Не памятаю, як я апынуўся каля агароджы і вырваў кол, але затое добра помню, як агрэў калом жандара ў чорным плашчы. Уміг агароджа была разбурана, жывы ланцуг сенегальскіх стралкоў перагарадзіў нам дарогу. Неўзабаве ў лагер прыгналі цэлую роту салдат. Нас пастроілі каля канторы, насупраць — строй вайскоўцаў.

— Французскія салдаты нашы сябры! — крыкнуў Францішак і сашчапіў рукі над галавой.

— Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся! — пачуліся воклічы.

Нявольнікі грымнулі «Марсельезу».

— Агонь! — крыкнуў афіцэр.

Але ніводзін стрэл не прагучаў. Афіцэр збялеў як палатно, рукі яго затрэсліся. Мабыць, ён скамандаваў «кругом», бо салдаты дружна павярнуліся і строем пайшлі з лагера. Перад намі быццам вырас з-пад зямлі лагерны начальнік у акружэнні вартавых. Ад злосці ў яго пырскала пена з рота, як у шалёнага сабакі. Начальнік аб'явіў, што карміць нас болей не будуць, па-

вярнуўся і, валюхаючыся, нібы гусь, пацягнуўся ў кантору. Мы разбрыліся па сваіх бараках.

Назаўтра пачалася ў лагеры чыстка. Шукалі завадатараў учарашняга бунту. Жандары схапілі мяне, не абышлі «ўвагай» маіх сяброў. Некалькі дзесяткаў зняволеных перавялі ў лагер Вернет. Умовы тут былі яшчэ болей жорсткія, кармілі зусім кепска. У гэты лагер раней перавялі многіх афіцэраў інтэрнацыянальных брыгад.

Светлым майскім днём да нас даляцела вестка: гітлераўцы прарвалі французскую абарону і распачалі шырокія баявыя дзеянні. Скончылася «дзіўная вайна», разгарэлася сапраўдная. Французскія войскі не маглі даць адпор гітлераўскай ваеннай машыне, і праз сорак дзён, 22 чэрвеня, прэм'ер Францыі Петэн падпісаў у Бардо перамір'е, фактычны акт капітуляцыі. Хто мог падумаць тады, што роўна праз год фашысцкія орды рынуцца на Савецкі Саюз?

У нас у лагеры нібыта нічога не змянілася, паўднёвую зону Францыі немцы не акупіравалі. Але яны маглі заявіцца ў любы момант.

Аднойчы Францішак паказаў сярод вязняў хударлявага чалавека з адкрытым тварам, высокім чыстым ілбом. «Гэта Луіджы Лонга. Італьянец. Былы камісар інтэрбрыгад». Во дзе давялося з ім сустрэцца. Я ледзь пазнаў яго: такі ён быў худы, змарнелы. Праз нейкі час дачуліся, што Луіджы Лонга ад'язджае. Адны гаварылі, што яго абменьваюць Саветы на якогасьці фашыста, другія казалі, што Лонга бяруць да сябе французы. Я гэтаму не верыў, бо французская кампартыя ўжо год як была забаронена. «Добра, калі яго абмяняюць і ён трапіць у СССР. У Францыі, а тым больш на радзіме, у Італіі, літасці ад фашыстаў яму не будзе»,— разважалі мы.

Украінцы і беларусы вырашылі падарыць яму сувенір. Змайстравалі з алюмінію адмысловую попельніцу: падстаўка, акурат невялічкая кніжка, усярэдзіне — квадратная попельнічка, з другога боку да падстаўкі прывінчвалася скульптурка: сціснуты кулак паднімае самалёцік «АНТ», на якім Чкалаў з таварышамі пералацеў з Масквы ў Амерыку. Дапамагаў рабіць падарунак і Любамір. Сувенір можна было разабраць на часткі і схаваць у кішэні. Луіджы Лонга прыняў наш падарунак, вельмі расчуліўся, горача дзякаваў... Пазней мы

даведаліся, што таварыша Лонга французскія ўлады выдалі італьянцам, а тыя пасадзілі яго ў турму.

Аднаго дня наш барак акружылі жандары, выгналі ўсіх на пляц, зрабілі пераклічку, загналі ў чорныя турэмныя аўтобусы і павезлі. Куды? Навошта? Няўжо на расстрэл? Усё жыццё прамільгнула перад вачамі, быццам нехта пракруціў стужку нямога кіно.

Аўтобусы імчалі хутка. Нарэшце спыніліся. Нас выпусцілі, пастроілі, зноў зрабілі пераклічку. Я азірнуўся; вакол белыя домікі незнаёмага горада, мы былі на пляцы. Праз нейкі час на пляц выкаціўся бліскучы лімузін з чырвоным флажком. Ад нечаканасці мы ўсе ўстрапянуліся. Машына спынілася каля нас, з яе выйшаў мужчына, падышоў бліжэй, усміхнуўся, прыўзняў капялюш і сказаў па-руску:

— Здравствуйте, товарищи! Я консул Советского Союза...

Горла перахапіла ад радасці і хвалявання. Што ён гаварыў далей, не памятаю. Запомніліся толькі словы: «Родина вас ждет».

Радзіма чакае... З гэтага дня мы адчувалі яе ласку, да нас лепей адносіліся і харч быў лепшы. Неўзабаве мне выдалі дакумент, у якім гаварылася, што я маю права ехаць у Савецкі Саюз. Такую ж паперу атрымаў і Васіль, і многія мае таварышы. Але не так проста было выбрацца. Ніводная дзяржава не згаджалася прапусціць нас цераз сваю тэрыторыю — баяліся нас як чорт ладана.

Надышло гарачае лета сорак першага. Бязлітасна смаліла высокае чэрвеньскае сонца, рухалася яно гэтак павольна — здавалася, што нехта прывязаў яго нябачным ланцугом над сляпуча-сіняй прастораю мора. І калі сонца дасягнула свайго апагея, а лета — сваёй макаўкі, 22 чэрвеня я пачуў страшную вестку, якая скаланула мяне: нямецкія войскі перайшлі граніцу СССР і рухаюцца ў глыб краіны. Светлы дзень адразу спахмурнеў, а сонца пачарнела, нібы глядзеў я праз цёмнае ад сажы шкло.

У Францыі шырыўся рух Супраціўлення. Усё часцей мы чулі, што французскія камуністы ствараюць партызанскія атрады.

— Трэба ўцякаць, хлопцы. Мы знойдзем партызан. Трэба біць фашыстаў. А то нам тут будзе гамон. Дык

лепей загінуць са зброяй у руках,— усё часцей гаварыў я сябрам.

— Твая праўда,— згаджаўся Францішак.

— Вучы нас, браце, шпрэхаць па-французску. А то апроч бонжур, камарад, мы нічога людскага не ведаем,— сказаў я.

— Уі, мон шэр амі [1],— усміхнуўся Францішак.— Люблю за самакрытычнасць. Ты ўжо так не прыбядняйся. Чытаць трохі ўмееш, а слоў ведаеш шмат. Вымаўленне, канечне, далёка не парыжскае, але зразумець цябе можна. І Любамір робіць поспехі...

— Та ў мяне, відаць, лепей за ўсіх выходзіць, га? Я магу балакаць, як сапраўдны парыжанін,— рагатаў Васіль.

— Уі, мон шэр амі. Але драгобыцкі акцэнт адчуваецца,— паджартаваў я.

— А што? Чаму я павінен крыўляцца? Англічанін шыпіць, як гусак. Француз картавіць і хрыпіць, як з перапою. А ў мяне так не выходзіць. Я балакаю па-свойму. Пакуль што заўсёды ўдавалася дамовіцца, папрасіць выпіць, закусіць, а ў дзяўчыны і яшчэ нечага...

— Жарты жартамі, а зубрыць мову трэба. Давай, Францішак...

Той даставаў газету і пачынаў чытаць, лежачы на пяску. Мы клаліся побач і сачылі за ягоным пальцам, чыталі ўголас услед за ім. Потым я не раз дзякаваў яму за навуку, бо яна вельмі прыдалася ў далейшых вандраваннях.

На жаль, курс навучання абарваўся нечакана: прыехалі немцы і пачалі наводзіць свой парадак. Перш-наперш яны забралі з лагера ўсіх яўрэяў, потым вывезлі інтэрбрыгадаўцаў: немцаў, аўстрыйцаў, чэхаў і палякаў. Давялося нам развітацца з Францішакам. Перад ад'ездам ён паспеў сказаць адрасок надзейнага чалавека ў Парыжы. Адрас яму далі яшчэ ў Іспаніі ў штабе дывізіі.

— Запомні, спатрэбіцца. Пароль: «Прывітанне ад генерала Вальтэра...» Абы-каму адрас не давай. Толькі самым надзейным. Будзь здароў.

Мы паспешна абняліся, бо ахова падганяла карабінамі.

Неяк у лагер зноў прыехалі немцы на грузавіках,

[1] Так, мой дарагі дружа.— *франц.*

пачалі адбіраць людзей на будаўніцтва ўмацаванняў. Трапілі туды Васіль, Любамір і я. З нямецкай педантычнасцю гітлераўцы прымусілі працаваць з цёмнага да цёмнага з кароткімі перадышкамі. Харч яшчэ горшы. Усе схуднелі, ледзьве ногі цягалі.

Блізілася восень сорак другога. Раніцай узбярэжжа засцілаў туман, ночы ўсё даўжэлі, халаднелі. Ахову лагераў узмацнілі, але думка пра ўцёкі не пакідала нас. Васіль сустрэў тут свайго земляка — Міколу, пасябраваў з ім. І што б мы ні рабілі, думалі пра ўцёкі. Працавалі мы не заўсёды разам, ды і ноччу чатыром праскочыць цяжэй, чым аднаму ці двум. Я сказаў парыжскі адрас Васілю: калі выпадзе момант, хай змываецца з Міколам.

## XVII

Аднойчы мы разгружалі на станцыі цэмент. На рэйках воддаль стаялі вагоны дроў. У адзін з перакураў я шапнуў Любаміру:

— Як сцямнее, лезем у вагон. Зашыемся між бярвення...

Любамір кіўнуў. Васіль і Мікола былі ў другой групе. Час ішоў марудна. Быў ветраны вераснёўскі дзень з пераходным дажджом, які раптоўна налятаў і гэтак жа хутка сціхаў, тады выглядвала яркае, сляпучае сонца. «Хоць бы хмара насунула»,— маліў я нябесную канцылярыю. Сонца было зусім нізка, калі з-за Пірэнеяў выпаўзла невялічкае бухматае воблачка, яно ўвачавідкі расло, распаўзалася, нібы шырмай завесіла ўжо зачырванелы край заходняга неба. Мы пераглянуліся з Любамірам, я зірнуў на хмару, маўляў, бог нам спрыяе. Калі добра сцямнела, я адышоўся за вагон, пад выглядам, як па малой патрэбе, а сам цішком сігануў цераз рэйкі, нырнуў пад вагон. Прыслухаўся. Сэрца тахкала, нібы колы цягніка. На шчасце, вартаўніка тут не было, святла — таксама: збоч цьмяна пабліскваў ліхтар. Прыгнуўшыся, рушыў паўз вагоны — далей ад ліхтара, ад нашых вартаўнікоў. Зашаргацелі каменьчыкі, высунуўся чалавек. «Павел, дзе ты?» — «Тут. Давай сюды». Любамір паваліўся на зямлю побач. Ён цяжка дыхаў, як загнаны конь. Цэмент храбусцеў на зубах, дзёр горла. З грудзей Любаміра з хрыпам ірваўся кашаль. Ён

уткнуў у рот рукаво, троўся ўсім целам. Счакалі, пакуль ён супакоіцца, пабеглі далей.

У цемры рука намацала прыступкі — значыць, тамбур, адкрытая пляцоўка. Уверсе цямнелася бярвенне — усё, што трэба. Прыступкі мокрыя, слізкія. Ускараскаўся, падаў руку Любаміру, усцягнуў. Сядзім, хаўкаем, аддыхацца не можам. «Рука разбалелася»,— Любамір памацаў плячо. «Што, рука?» — «Натрудзіў, мусіць. Нічога». Лезу наверх, каля стойкі, у кутку вагона ўціснуўся. Удвух тут будзе не павярнуцца, але ў другі кут не перабрацца. Сяк-так ускараскаўся і мой сябрук. Мы прыцісnуліся адзін да аднаго, схуднелыя, танклявыя, што глісты.

Зноў зашамацеў дожджык. Пачуліся галасы пад навесам, дзе разгружаюць цэмент. Мусіць, хапіліся нас. Нехта прабег паўз вагоны. Цягнік даў гудок, шумна ўздыхнуў, эшалон здрыгануўся, залязгацелі буферы, быццам поезд пацягваўся, выпрамляўся пасля застою. Пад навесам успыхнулі пражэктары, снапы святла паласавалі цемру. Цягнік набіраў хуткасць, вецер свістаў у вушах. Тугі вільготны вецер біў у твар.

Салодкі вецер свабоды.

У цемры ўдалечыні паказаліся агні горада Бардо, акурат бліскучыя гнілякі ў цёмным лесе. Успомніўся незабыўны начны паход і чамусьці прыгадаўся Санта-Фе, вячэрнія агні ў густой і маслена-чорнай вадзе Параны, зыркім полымем успыхнуў буэнас-айрэскі трамвай... Колькі я ўжо бадзяюся па свеце? І што чакае мяне наперадзе?

Агні набліжаліся, а цягнік не прыцішаў ходу.

— Трэба саскокваць! — крыкнуў Любаміру.— Руку беражы...

— Добра. Давай ты першы.

Спусціліся ў тамбур. Міма праносіліся цёмныя кусты, яны стаялі ніжэй палатна чыгункі — тут быў насып. Скакаць небяспечна, але і ехаць далей нельга. Я прысеў троху, як некалі перад нырцом на Віліі, адштурхнуўся рукой з усяе сілы і скокнуў па ходу цягніка, упаў і пакаціўся ўніз з адхону. Наперадзе затрашчалі кусты: ламаў галлё Любамір. Я падняўся, ступіў — і востры боль працяў правую нагу, схапіўся за куст, каб не ўпасці, бо галава закружылася, халодны пот абліў усё цела. Абмацаў нагу — нідзе не балела, асцярожна ступіў — зноў працяла болем, як электрыч-

ным токам. «Павел?!» — клікаў Любамір. «Я тут. Іду». Але ісці не мог, сеў, пачаў расціраць нагу, намацаў сухажылле, пакратаў пальцамі — нага слухалася. Павесялеў. Відаць, проста расцяжэнне.

— Павел, дзе ты? — высунуўся з кустоў Любамір.— Што з табой?

— Нічога. Нагу падвярнуў. А як ты?

— Калена збіў... Бокам аб камень выцяўся. Хоць бы рабрыну не зламаў... Ісці можаш?

— Паспрабую,— я зрабіў колькі крокаў.— Нічога. Можна памалу клыпаць.

— Ну, браце, лічы, што нам з табой моцна пашанцавала. Тут можна было і шыю зламаць,— у голасе сябра пачулася радасць.— Давай руку, памагу.

— Не трэба. Я сам...

Але сябра не паслухаўся, абняў мяне за плечы, і так, абняўшыся, мы пачыкільгалі далей ад чыгункі.

Тым часам развіднела. Ля канавы мы памыліся, абчысціліся ад цэментавага пылу, прыгладзілі свае брудныя лахманы, каб можна было паказацца ў горад.

— Паліцыя не зацапае нас у такім адзенні? — Любамір абцягнуў крысо пінжака, на якім быў выдраны ладны кавалак матэрыі.

— Абадранцаў тут хапае і без нас,— супакоіў я, хоць думаў пра тое ж самае.

Што можа быць страшнейшае і больш несправядлівае, чым вырвацца на свабоду і зноў трапіць у пастку? Гэта ўсё роўна, што чалавеку, які памірае ад смагі, даць лізнуць вады і тут жа адабраць яе. З апошніх сіл, як звар'яцелы, ірванецца чалавек да вады і ўсё пераможа, толькі смерць можа спыніць яго.

— Мо тут пабудзем крыху? Пачакаем,— нерашуча сказаў сябра.

— Чаго мы дачакаемся? З мора пагоды? Трэба далей адсюль драпаць. На ўскраіне ў краме купім якуюнебудзь апранаху. І рванем у Парыж. Адрас ёсць. Таварышы дапамогуць... Наперад, браце,— як мог весялей, сказаў я.— Схавай руку ў кішэню. Рукавом прыкрыеш дзюрку. Больш незалежнасці! Мы ж на свабодзе...

Узышло сонца, неба расчысцілася, абяцаючы светлы, цёплы дзень. Памалу, нетаропка пацягнуліся мы наперад, дзе ў зяляніне дрэў бялеліся, нібы грудкі цукру, белыя дамкі. Горад я трохі ведаў: калі ехалі ў Іспа-

нію, дні тры аціраліся тут. Вунь і той курган, на які ўзбіраліся тады, каб палюбавацца з вышыні панарамай Бардо. Цяпер туды не ўзабрацца. Нага яшчэ балела, я злёгку пакульгваў. Любамір рукавом захінаў падранае крысо пінжака. Мусіць, выгляд у нас быў не надта гжэчны, прахожыя з цікаўнасцю пазіралі на двух няголеных масластых бедалаг. Адна бабулька ў доўгім шэрым паліто дык нават спынілася, разявіла бяззубы рот і ўталопілася чырвонымі, як у зайчыхі, слязлівымі вочкамі.

— Жульен! Мон шэр... Жуль...— памкнулася да мяне.

Ад неспадзеўкі я адскочыў ад яе ўбок, як заяц ад лісы, але тут мяне асяніла: гэта ж сам лёс ці фартуна ў выглядзе гэтай бабулі падае руку дапамогі.

— Ма шэрэ тант,— замармытаў я, узяў старую пад руку.

Пачуўшы мой голас ці ўспомніўшы, што Жульен быў яе сынам, а не пляменнікам, бабуля раптам пачала біць у хамут, яна спалохана нешта гаварыла і вырывалася, як злоўленая старая варона. Заікаючыся, блытаючы словы, я даводзіў ёй, што мы — іспанцы, выйшлі з бальніцы, нас абчысцілі на вакзале, але ў мяне ёсць трохі грошай — сунуў у карычневую зморшчаную далонь некалькі пакамечаных франкаў,— што нам трэба купіць вестон (жакеты), і я прашу мадам памагчы, што мы з братам (мон фрэр П'ер) едзем у Парыж, дзе мяне чакае ла фам (жонка) і г. д.

Я абрынуў на старую цэлы паток слоў: французскіх, італьянскіх, а ў маіх вачах, мусіць, было такое маленне, што старая супакоілася: паглядзела на грошы, на мяне, потым на Любаміра — фрэр П'ер галантна пакланіўся, чаго ніяк нельга было чакаць ад такога абарванца, і важна прамовіў, што ён — ля кутур'е (кравец жаночага адзення).

— Уі, уі... Б'ен (Так, так... Добра),— гугнява праскрыпела старая і тыцнула кулачком, з якога тырчалі франкі, у бок прысадзістага дома з аблупленай жоўтай фарбай: у зашклёнай вітрыне вісела адзенне.

— Пастой на вуліцы,— кінуў я Любаміру, а сам пад ручку з «ма тант» сігануў цераз парог. Старая павярнула сваю птушыную галоўку да Любаміра: — Пур куа?..— але я не даў ёй магчымасці высветліць, чаму

майстар дамскага адзення пагрэбаваў гэтым магазінам, зачыніў дзверы.

Неўзабаве я выйшаў, як і раней, пад ручку з «ма тант», але я ўжо не быў той галадранец, а схуднелы масье ў прыстойным шэрым пінжаку і сінім берэце. Старую мы адпусцілі, я хацеў даць ёй грошай за дапамогу, але яна адвяла маю руку.

— Мерсі, мадам,— дзякавалі мы ёй з Любамірам.

Старая перахрысціла нас, прашаптала нешта бяскроўнымі вуснамі і паклыпала далей сваёй дарогай. Любамір за бліжэйшым вуглом нацягнуў пінжак, шыкоўны, клятчасты, надзеў карычневы берэт і ўзрадавана выскаліў зубы ва ўсмешцы.

Далей мы рушылі больш упэўненай хадой. Вялікая справа — адзенне. Калі ты добра, ва ўсякім разе, даволі прыстойна апрануты, у цябе зусім іншы настрой. Горад мала змяніўся за пяць гадоў. Адразу кінулася ў вочы, што вітрыны магазінаў амаль голыя, а тады яны ламаліся ад тавараў, прадуктаў. З адчыненых вокнаў рэстарана «Этуаль» неслася нямецкая гамана, рогат, п'яныя песні.

Сонца тым часам схавалася, збіралася на дождж. Трэ было недзе перакусіць і кіравацца на вакзал. Але тут нам давялося перапыніць свой «шпацыр»: здалёк мы ўгледзелі двух немцаў з аўтаматамі і ў брудна-зялёных плашч-палатках. Круглыя каскі, шырокія плямістыя накідкі рабілі фрыцаў падобнымі на жаб, якія сталі на заднія лапкі і чэшуць па вуліцы. Мы таўханулі бліжэйшыя ад нас дзверы і апынуліся... у кнігарні. У невялічкім паўцёмным памяшканні на паліцах стаялі кнігі, на прылаўках бялелі вялікія аркушы ватману, вучнёўскія сшыткі, у кутку сінеў круглы, як гарбуз, глобус. Выкаціўся з-за шырмы таўстун гаспадар з вусікамі-нітачкамі:

— Ке дэзірэ ву, масье...

А што хацелі масье, яны і самі не ведалі. У вочы кінулася карта Францыі, тыцнуў пальцам у яе. Праз акно ўбачыў, што немцы, нетаропка, сыта валюхаючыся, прайшлі міма. Каб трохі счакаць, Любамір з непаддробнай цікаўнасцю, як першакласнік, упіўся вачамі ў глобус, нібы яму дужа карцела адшукаць на ім кропку, што азначала горад Бардо, а мо прыкідваў, ці далёка да Сафіі. Я таксама пачаў разглядаць глобус: жоўта-

зялёныя лапікі сушы, а то ўсё шаравата-сінія акіяны і моры.

Якая невялікая наша зямля, падумалася мне, і колькі на ёй бедламу, гора і бядоты. Мацярык Паўночнай Амерыкі быў падобны на нейкага страшыдлу рака, які разявіў пашчу — Мексіканскі заліў, а Паўднёвая Амерыка тырчала нібы ракавінка смаўжа: тоўстая зверху, яна ўсё танела, худнела і канчалася хвастом-ластай — аргенцінскай Вогненнай Зямлёй.

Гаспадар страціў цярпенне, спытаў, чаго мы хочам яшчэ. Мы хацелі есці, але ў гэтым памагчы таўстун наўрад каб згадзіўся, з большай ахвотай ён мог бы выклікаць паліцыю. Мы падзякавалі яму і пацягнуліся далей. Знайшлі невялічкае ціхае кафэ, перакусілі. Есці хацелася страшэнна, але мы рабілі выгляд, што ядзім без апетыту, як з пахмелля. Падсілкаваўшыся, пашыбавалі на вакзал. Прычакаўшы момант, калі ля касы не было нікога падазронага, на жахлівай французскай мове я папрасіў два білеты да Парыжа.

## XVIII

У вагоне мы селі ў розныя купэ: на выпадак праверкі дакументаў, каб хоць адзін хто мог саскочыць з цягніка і выратавацца. Я забіўся ў куток, падпёр галаву рукамі, вочы зліпаліся — так хацелася задаць храпака, і ў той жа час усё было напружанае, расслабляцца — нельга. На шчасце, нам пашанцавала: даехалі без прыгод. У Парыжы даволі хутка знайшлі патрэбны дом, падняліся на шосты паверх, пастукалі ў дзверы. У адказ пачуўся жаночы голас: уваходзьце, адчынена. У пакоі была жанчына сярэдніх гадоў і дзяўчынка дашкольнага ўзросту.

— Будзьце ласкавы, скажыце, тут жыве масье Лосеў? — па-французску спытаў я.

Жанчына ўважліва агледзела мяне, паківала галавой:

— Не, ніякага масье Лосева ў нас няма. Тут жыў адзін мужчына, халасцяк. Прозвішча яго не ведаю. Часам у двары бачу яго. Можа, ён і ёсць масье Лосеў. А вы адкуль яго ведаеце?

— Некалі разам працавалі. Два гады. З трыццаць сёмага па трыццаць дзевяты... Ён мо і забыў ужо... Даўно было. Мы прывезлі яму прывітанне ад сябра.

— Разам працавалі? Два гады? Павінен помніць. У мужчын памяць моцная, не тое што ў нас, жанчын,— усміхнулася яна. Хоць усмешка была нейкая знешняя: усміхаліся толькі вусны, вочы заставаліся сур'ёзныя, засяроджаныя, твар жанчыны пасвятлеў, адразу памаладзеў.— Вы сядайце. Я выйду, зірну. Жанета, пабудзь з дзядзямі. Не бойся, мілая. Дзядзі добрыя...

Жанета ўзняла на маці вялікія цёмныя вочы, кіўнула кучаравай галоўкай.

— А можна дзядзям казку расказаць?

— Канечне. Песеньку можаш праспяваць, каб дзядзі не сумавалі.

Жанчына таропка выйшла. Малая шчабятала, моршчыла носік, рабіла вялікія вочы. Кот — герой яе казкі — пужаў мыш, якая цененька папісквала. Спачатку мы слухалі, дзіваваліся: якое смелае, вясёлае дзяўчо. Жанчына не вярталася, трывога ўсё мацней забірала нас.

— Павел, а яна не пайшла ў паліцыю, га? — заёрзаў на крэсле Любамір.

— Чорт яго ведае. Адрас надзейны... Каб зусім не паверыла, дык не пакінула б малую з двума басурманамі. Пачакаем,— супакоіў я Любаміра, хоць на душы ў самога рабілася ўсё больш неспакойна. «Пападземся, нібы кураняты. Цёпленькія...»

Дзяўчо распявала сваю песеньку, але галасок быў невясёлы, мусіць, і яна засумавала без мамы. А мамы ўсё не было.

— Можа, лепей у двары пачакаем? Калі што якое, дык хоць драпанём,— Любамір падышоў да акна, зірнуў на вуліцу.— Адсюль не скокнеш.

На лесвіцы пачуліся крокі, пстрыкнуў замок у дзвярах. Я міжволі ўвесь сцяўся, як спружына, гатовы да ўсяго. У пакой увайшла жанчына, а следам за ёй хударлявы, сярэдніх гадоў мужчына з маладжавым тварам, які падаўся мне дужа знаёмым. Хуткім позіркам мужчына агледзеў нас, спытаў па-французску: хто мы такія і што нам трэба.

— Вам прывітанне ад генерала Вальтэра,— сказаў я па-іспанску.

— Спасибо. Кажется, мы с вами где-то встречались, а? — ціха сказаў ён на рускай мове.— Откуда у вас адресок?

Каб не блытаць сюды Францішака, я адказаў, што адрас далі ў штабе дывізіі. Цяпер я пазнаў дзяжурнага афіцэра, з якім сустракаўся ў штабе батальёна імя Міцкевіча.

Жанчына здзівілася, узрадавалася, што мы аказаліся знаёмыя, узяла малую за руку і пайшла на кухню, адкуль неўзабаве запахла падсмажанай цыбуляй і яшчэ нечым. Супакоіўся, пасвятлеў Любамір. Лосеў усё распытваў: дзе мы былі пасля Іспаніі, адкуль прыехалі ў Парыж, што хочам рабіць далей? Калі ўсё было высветлена, абодва пераканаліся, што няма чаго гуляць у хованкі, я папрасіў Лосева дапамагчы наладзіць сувязь з партызанамі, каб перабрацца нам у атрад.

— Постараюсь помочь. Вы тут малость передохните. Вечерком я приду...

— Скажыце, той самы сувязны Збігнеў не быў тут у вас? Ён даў мне адрас...

— Нет, не было такого.

Лосеў нешта сказаў гаспадыні па-французску, тая ветліва заківала галавой, прыязна паглядзела на нас, запрасіла да стала. Мы з Любамірам зусім павесялелі.

Калі добра сцямнела, прыйшоў Лосеў з таварышам.

— Камарад Жульен,— незнаёмец падаў тонкую вузкую далонь.

Я цішком падміргнуў Любаміру: маўляў, шанцуе нам на Жульенаў. Гаварыў гэты Жульен толькі па-французску. Во дзе спатрэбіліся мае, хоць і невялікія, веды, і ўжо каторы раз я мысленна дзякаваў Францішаку за навуку. Хоць і цяжка было галоднаму зубрыць словы невядомай, чужой мовы, калі ў галаве толькі адна думка: як бы паесці і ўсе размовы зводзіліся на гэта, але затое цяпер я слухаў Жульена і амаль усё разумеў.

Камарад Жульен расказаў аб становішчы ў Францыі і на фронце ў Расіі, прапанаваў мне паехаць у Бардо.

«Зноў — Бардо. Ужо трэці раз лёс кідае мяне ў гэты горад»,— мільганула думка. А Жульен тым часам гаварыў, што мяне там сустрэнуць, скажуць, што трэба рабіць.

— Я хачу ў атрад. Да партызан. У мяне няма дакументаў.

— Усё будзе ў ажуры,— усміхнуўся Жульен.— А ваш таварыш хай адпачне дзень-другі тут. Камарад

Лосеў возьме над ім шэфства. Камарад Любамір... Здаецца, так вас завуць?

— Так, я — Любамір,— падхапіўся мой балгарскі сябра.

— Мерсі, камарад Любамір. Вы паедзеце пазней. Там ужо камарад Поль вам дапаможа.

Я не верыў сваім вушам: усё выходзіла, нібы ў казцы. Значыць, я буду змагацца з фашыстамі, буду помсціць ім за Іспанію, за родную Беларусь, за здзекі з савецкіх людзей.

На другі дзень я атрымаў усю інфармацыю для сувязі ў Бардо, а таксама ліпавае пасведчанне асобы, якое не гарантавала бяспекі, хіба што давала магчымасць пераначаваць ў гасцініцы, бо без якіх-небудзь дакументаў у атэлях не пускалі на парог.

У той жа дзень я ад'язджаў. Лосеў і Любамір праводзілі мяне. Я моцна пацiснуў ім рукі і — бывай, Парыж! Наперад, камарад Поль!

## Частка трэцяя

### I

Як і было дамоўлена, у Бардо я спыніўся ў атэлі «Этуаль». Начаваў у ім яшчэ калі ехаў у Іспанію, а зусім нядаўна праходзілі міма яго з Любамірам.

Удзень у гасцініцы я не стыкаўся, раніцай выходзіў, быццам на работу, увечары вяртаўся з надзеяй, што мяне чакае сувязная Піляр. Звычайна я паднімаўся павольнай хадой стомленага чалавека — і сапраўды цэлы дзень блукаў па горадзе, сядзеў з паўгадзіны ў кавярні за кубачкам кавы ці шклянкай соку: на большае не было грошай,— і стамляўся, як афіцыянт, адрабіўшы цэлую змену, але вочы мае пільна шнырылі вакол, шукаючы таямнічую Піляр. А яе ўсё не было.

Што рабіць? Што думаць і чаго чакаць? Вырашыў, калі ніхто не прыйдзе на сувязь, у Парыж не паеду, буду шукаць знаёмства сярод іспанцаў, якія жылі ў атэлі, ды і сам гаспадар яго — іспанец.

У напружаным чаканні прамінула некалькі дзён. Неяк увечары я сядзеў у сваім катуху, перабіраючы ў думках усё ўбачанае за дзень блуканняў па горадзе.

Ідучы міма порта, назіраў, як разгружалі параход — цягалі арматурнае жалеза і таўровыя бэлькі. Жалеза адразу грузілі на чыгуначныя платформы. Працавалі ваеннапалонныя. Я пачуў некалькі рускіх слоў. Трохі воддаль ад платформы я затрымаўся, быццам зашнураваць чаравік, і да вушэй данеслася: «Держи крепче, мать твою за ногу...» Немец з аўтаматам, са свастыкай на рукаве пакрыкваў на грузчыкаў, адрывіста, рэзка, нібы гаўкаў звяглівы сабака.

Значыць, дзесьці ў горадзе ёсць лагер ваеннапалонных. От, каб памагчы ім наладзіць уцёкі...

Яшчэ раніцай я вырашыў напісаць сёння ліст Хуаніце. Ноччу мне снілася, што плыву на параходзе, на тым самым, пад бельгійскім сцягам. Вось ужо бачны, нібы цацачныя, белыя дамы Буэнас-Айрэса. Параход уваходзіць у порт, прычальвае да сценкі. На пірсе поўна людзей, стракаты натоўп нервуецца, гудзе, махае рукамі. Я шукаю Хуаніту, а яе нідзе не відно. Сонца такое яркае, аж вочы адбірае. Ніхто мяне не сустрэў, і гэтак мне зрабілася маркотна, тужліва, хоць плач... Потым я апынуўся ля дома Хуаніты. Стукаю ў дзверы — ніхто не адчыняе, таўхануў — дзверы адчыніліся, уваходжу ў дом. Вакол цішыня, усё як вымерла. Чую раптам нейкія ўсхліпы з пакоя Хуаніты. Ціхутка прачыняю дзверы, гляджу: Хуаніта ляжыць на ложку ў белай кофце і цёмнай спадніцы, спіць, а донна Луіза яе будзіць і не можа дабудзіцца, па шчоках старой коцяцца слёзы, яна выцірае іх ражком цёмнай хусткі... Я кінуўся да Хуаніты, яна прачнулася, абхапіла мяне за шыю, пачала цалаваць і горача шаптаць: «Ты вярнуўся, мой любы. Ты вярнуўся! Я цябе так чакала. Усе вочы прагледзела... Я так рада, што прыехаў...» І зноў пачала цалаваць...

Тут я прачнуўся, не разумеючы, дзе я, аблапаў ложак, нібы шукаў побач Хуаніту, потым сеў і ледзь не завыў ад роспачы і тугі.

І вось увечары ўзяўся пісаць ліст. Дрыжачай рукой вывеў першыя словы:

«Любая Хуаніта! Прайшло пяць гадоў, як мы рассталіся. Так даўно... Сёння ты мне прыснілася. Нібыта я прыехаў да вас, а ты спіш. Донна Луіза пачала цябе будзіць...— вядома, пра пацалункі пісаць не стаў.— Я не атрымаў ад цябе ніводнага ліста. Не ведаю, ці даходзяць мае. Як вы змаглі сабраць столькі грошай? Да-

памога прыйшла ў час, грошы памаглі выжыць мне і маім таварышам. За гэта вялікае дзякуй табе, Хуаніта. На жаль, з Францыі выбрацца не ўдалося. Пакуль дамогся дазволу ехаць на радзіму, фашысты напалі на СССР, і я зноў трапіў у лагер...»

Я так захапіўся, што не пачуў, як увайшла дзяўчына — гаспадарова дачка. Бачыў яе пяць гадоў назад — тады яна была малая, зялепуха, а зараз... Як хутка ўсё мяняецца, расце! Мабыць, ёй цяпер столькі год, колькі было Хуаніце, як мы сустрэліся першы раз...

— Масье Поль, вас пытае нейкая мадэмуазель. Яна чакае вас ля буфета.

Я прыкрыў ліст газецінай, падхапіўся — мусіць, занадта хутка — і рэзка падскочыў, бо на поўных ружовых вуснах дзяўчыны прамільгнула ўсмешка: маўляў, во як спяшаецца масье да сваёй дамы. Але мне было не да развагі. У грудзях трывожна стукала сэрца, хуткім крокам я ўвайшоў у рэстаран і яшчэ здалёк згледзеў ля буфета маладую, добра апранутую бландзінку. Яна была ў акулярах, але насіла іх, відно, дзеля маскіроўкі. Тут я прыцішыў хаду, нетаропка падышоў да яе, падаў руку і сказаў:

— Поль.

— Піляр,— пачуў я ў адказ.

Такі быў наш пароль. Дзяўчына ўзяла мяне пад руку, і мы пайшлі з рэстарана. Павольна, як любяць шпацыраваць закаханыя, мы ішлі па цемнаватай вуліцы. Піляр сказала, што яна будзе падтрымліваць са мной сувязь.

— А я думаў, што пра мяне забыліся,— не стрываў я.

— Як бачыце, успомнілі. Заданні будзеце атрымліваць праз мяне. На базу падводных лодак патрабуюцца рабочыя. Трэба туды ўладкавацца.

— Каму ўладкавацца? Мне?

— Так, вам,— тонам, які не дапускае пярэчання, адказала Піляр і падала мне паперку: — Вось адрас канторы.

— Я хачу біць фашыстаў, а не рамантаваць іх падводныя лодкі. Ворагі топчуць маю радзіму, забіваюць старых і малых. Здзекуюцца з людзей, а я буду на іх працаваць. Дапамагаць ім. Я хачу ў атрад. Я ж кулямётчык, а не мокрая курыца...

— Не хвалюйцеся і гаварыце цішэй. Такое заданне

цэнтра. Вы — іспанец. У вас дэфіцытная спецыяльнасць. На базе вельмі патрэбны газазваршчыкі. Немцы вас прымуць. Яны давяраюць іспанцам... А што рабіць далей, скажу потым. Праз тры дні роўна ў восем вечара на плошчы Гамбеты. Не пазніцеся.

— Пастараюся, але...

— Што але?

— Не маю гадзінніка.

— Вазьміце пакуль мой,— не доўга думаючы, Піляр зняла з рукі маленькі квадратны гадзіннік і падала мне.— Я падшукаю вам прыватны пакойчык. У атэлі небяспечна заставацца... Усё, далей не ідзіце...

— Павінен быў прыехаць з Парыжа мой таварыш. Вы не ведаеце пра яго?

— Не, не ведаю. Можа, ў атрадзе.

Мне карцела спытаць у яе пра становішча на Усходнім фронце. Пачуўшы маё пытанне, Піляр уздыхнула, сумна сказала:

— Кепскія весткі. Немцы дайшлі да Волгі. Стаяць пад Сталінградам.

— Не можа быць! — вырвалася ў мяне.

— На жаль, можа. Вы так любіце Расію, масье Поль?

— Я... ваяваў разам з савецкімі таварышамі супраць франкістаў. З некаторымі пасябраваў...

— А рускіх дзяўчат не было там?

— Не было. А што?

— Я падумала, што вы закаханыя ў якую-небудзь савецкую Кацюшу... Арэвуар! — Піляр махнула мне рукой, і таропка зацокалі па асфальце яе абцасікі.

Па дарозе ў атэль уявіў, як пайду заўтра наймацца на работу да немцаў... Хоць бы не нарвацца на каго-небудзь з лагера, хоць бы не прычапіліся да маіх дакументаў... А, як будзе, дык будзе. Навошта выядаць душу. Гэтымі думкамі не дапаможаш, супакойваў сам сябе, трымаючы ў кулаку паперку з адрасам, ад якой тонка пахла духамі.

## II

Раніцай я ўжо быў у канторы па вярбоўцы рабочых. У кабінеце сядзелі пажылы тоўсты немец і дзве жанчыны, мабыць, францужанкі. Я звярнуўся да немца пафранцузску, сказаў, што хачу паступіць на работу, па-

даў яму свой дакумент. «О, эспаньёл, гут. Франка, гут»,— загергетаў немец. Я сам сабе думаю: фашыст твой Франка. Я б яму паказаў «гут». Франка гэтакі ж кат, як і ваш касавокі фюрэр. Пакуль немец разглядаў маё ліпавае пасведчанне, я стаяў, нібы на гарачым вуголлі, чакаючы пытанняў, бо хто ведае, што яго зацікавіць, ці паверыць ён дакументу. На шчасце, немец не ўбачыў нічога падазронага, ды, мусіць, у яго хапала іншых клопатаў.

— Якую маеце спецыяльнасць? — спытаў ён на ломанай французскай мове.

Я захваляваўся, бо не ведаў, як па-французску газазваршчык, сказаў па-іспанску — аўтагена-сольдадор. Немец лып-лып вачамі, утаропіўся на мяне. Ну, думаю, засыпаўся. Тады жанчына, што сядзела за бліжэйшым ад немца сталом, сказала яму па-нямецку.

— О, гут, гут,— узрадавана хмыкнуў той і ўзяўся пісаць накіраванне. Падаючы паперку, буркнуў:— Базе субмарын...

— Дзе я атрымаю аўсвайс? — спытаў я. У адказ пачуў, што пропуск выдадуць на рабоце.

На базе субмарын кіпела будаўніцтва: немцы пашыралі яе, па сутнасці, будавалі нанава — ім было цесна, шмат лодак патрабавалі рамонту. Вакол ляжалі штабялі жалеза, цэглы. Усюды, як мурашкі, корпаліся рабочыя. Немцы пакрыквалі на іх, падганялі, таксама як і ў лагеры, адкуль я збег. Першаму немцу, які трапіўся на вочы, паказаў накіраванне, той тыцнуў пальцам на новы барак.

Кантора-барак была разгароджана на кабінеты. Кавалі, зваршчыкі, арматуршчыкі належалі да аднаго кабінета. Я пастукаў у дзверы, увайшоў і... ногі як прыраслі да падлогі: за сталом сядзеў немец, а насупраць яго — Францішак, таксама ў нямецкай форме. Але адступаць не было куды. Францішак зіркнуў на мяне і ўткнуў нос у паперы. Немец паглядзеў накіраванне, узняў на мяне стомленыя, выцвілыя, блякла-шэрыя вочы, нешта хуценька загергетаў. Я нічога не зразумеў і стаяў слупам. Тады немец паказаў на Францішака. Я падышоў бліжэй да стала, за якім сядзеў мой знаёмы, можа, былы таварыш, а мо і вораг — раз ён служыць фашыстам. Я загаварыў па-французску, устаўляючы іспанскія словы. Па-іспанску адказаў і Францішак. Ён спытаў, ці хачу я жыць у бараках, дзе знаходзіцца

інтэрнат вольнанаёмных, і харчавацца там. Я згадзіўся. Францішак хутка аформіў патрэбныя паперы і сказаў, што заўтра а восьмай гадзіне я павінен быць на працы.

Быў час абеду, калі я кіраваўся да прахадной. Купкамі і па адным ішлі рабочыя. Збоч рухалася калона людзей у брызентавых куртках і штанах. Гэта былі тыя самыя ваеннапалонныя, якіх я бачыў учора. Усе худыя, бледнатварыя. Не мог на іх глядзець, сціснула горла, вочы як адсырэлі.

Яшчэ ў лагеры мы часта абмяркоўвалі падзеі на франтах. Сыходзіліся на адным: поспехі Гітлера часовыя, Чырвоная Армія зломіць хрыбет шалёнаму фюрэру. Але вось прамінула паўтара года, а канца вайне не відно. Фашысты захапілі ўсю Беларусь, Украіну, стаяць пад Масквой, дапялі да Волгі. Хто мог падумаць, што так будзе?

У роздуме я не ўгледзеў, як выйшаў з базы, брыў па вуліцы, не ведаючы куды. Стомлены, прыцягнуўся на плошчу ў цэнтры горада. У рэстаране на рагу вуліцы было поўна немчуры. Раніцай нічога не еў, але і цяпер не хацелася. Я прысеў на лаўку, аглядаючы ўсё навакол, а ў галаве, нібы стрэмка, засела адна думка: вось і наняўся працаваць на фрыцаў. Хіба гэта не злачынства перад сваёй Радзімай, якая стогне пад фашысцкім ботам?!

Не варта было ехаць сюды. Трэ было настойліва прасіцца ў атрад. А як трапіў на базу Францішак? На кватэры ў Парыжы, адрас якой ён даў мне, не быў. Мусіць, сам, добраахвотна. Голад не цётка. Але ж форма? Значыць, ён няпросты вольнанаёмны. Паспеў выслужыцца, падлюка. Зрэшты, мяне ж ён не выдаў. А мо заўтра выдасць? У любы момант трэба чакаць усяго... Ісці да Піляр? Дзе яе шукаць? Яна прыйдзе на сустрэчу праз дні тры. Толькі чакаць...

І так мне тужліва стала і самотна, што хоць воўкам вый. У думках пераляцеў у сваю вёску, у родную хату, прыгадаліся словы маці: «Беражы сябе, сынок...» Ці атрымлівалі дома лісты з Іспаніі? Мабыць, ужо даўно пахавалі мяне. Столькі гадоў ні слыху ні дыху. Не, маці чакае. Маці будзе чакаць да скону...

Успомніліся сябры з Буэнас-Айрэса. Дапамога ад іх прыйшла, не забылі, не адцураліся, а ліста — ніводнага. Мае, відаць, даходзілі, бо адкуль яны б ведалі адрас? Мілая Хуаніта! Ты прадчувала, што не так усё лёгка

будзе і проста... А мо ты ўжо даўно перастала чакаць, а мо і не чакала — больш як пяць гадоў прайшло. Так багата часу. Хто ведае, калі ўсё гэта скончыцца... Не можа быць, каб фашызм перамог. Гэта — катастрофа для чалавецтва. Няўжо людзі так папусцяцца? Дадуць сябе затаптаць. Не хацелася верыць у гэта.

Цэлы дзень не адпускалі мяне падобныя думкі. З трывожнымі прадчуваннямі, як не сваімі нагамі, ішоў на работу раніцай: а што, калі Францішак выдасць? Адно яго слова — і я апынуся зноў у лагеры, а то прыстрэляць, як сабаку. У трывожным, знясільваючым чаканні прайшоў першы дзень работы. Усе пачуцці мае былі абвостраны, усё напружана. Што давялося рабіць у той дзень, ані не памятаю. А вось што адчуваў, калі міма праходзілі немцы, помню як зараз: «Ну, гэтыя фрыцы па маю душу...»

Уздыхнуў з палёгкай за прахадной і ўзрадаваўся, убачыўшы Францішака, той усміхнуўся, падаў руку. Я ледзь стрымаўся, каб не абняць яго, але насцярожанасць зноў авалодала мной.

— Не спяшаешся? — спытаў ён.

— Куды мне спяшацца? Хіба што на той свет.

— Ну, туды ніколі не позна. Пайшлі разам, паабедаем...

У невялічкім паўцёмным рэстаранчыку мы заказалі пляшку віна — чаго-чаго, а віна ў Францыі хапае,— разгаварыліся.

— А я адразу прыкмеціў, як ты разгубіўся і застыў ля парога,— прыгадваў Францішак неспадзяваную сустрэчу ў канторы.— Ну, я зрабіў выгляд, што не пазнаў.

— А як ты сюды трапіў, га? — карцела мне даznацца.

Францішак расказаў, што яго забралі тады разам з іншымі чэхамі — байцамі інтэрбрыгад, везлі невядома куды. Па дарозе яму ўдалося ўцячы з поезда. У Бардо пашанцавала: немцам пільна быў патрэбны перакладчык, а Францішак ведае некалькі моў. Прынялі на работу, у яго меліся яшчэ студэнцкія дакументы. Ён хутка зарэкамендаваў сябе, яго прызначылі ўчотчыкам, выдалі форму.

— Ну, а твая адысея, Пабла? Якім ветрам цябе сюды занесла? — Францішак па-сяброўску паляпаў мяне па плячы.

Я расказаў аб сваіх прыгодах, пра тое, што прыбыў

сюды не так сабе, а па заданню, прамаўчаў. Мне карцела выведаць, чым ён дыхае. Любіць фашыстаў, якія трымалі яго ў лагеры, везлі, можа, на расстрэл. Франціішак не мог.

— Кажуць, што французы ствараюць партызанскія атрады,— нібы між іншым закінуў я вудку.

— Ха, адны размовы. Французы — мастакі гаварыць. А як да справы — у кусты. За тры дні бошы дайшлі да Парыжа. Во якія ваякі французы...

Не, браце, падумаў я, не ўсё ты ведаеш. Французскія камуністы змагаюцца. Нават Піляр і тая не спалохалася. Пачуўшы такі адказ, я вырашыў закінуць яшчэ адзін кручок:

— Што робіш пасля работы? Ёсць знаёмыя? Мо каханку завёў?

— Каханкі, на жаль, няма. Прыяцеляў добрых — таксама... Мы з табой даўно знаёмыя. Трэба нам трымацца адзін аднаго. Можа, ў нядзелю сустрэнемся? Ці ў цябе якія планы?

— Дзівак. Якія ў мяне могуць быць планы? Хіба што ў бардзель схадзіць. Дык няма за што.

— Ну, гэта не бяда. Грошы — не самае галоўнае. Ды іх можна зарабіць...

Размова пайшла весялей. Настрой у мяне палепшыўся: адшукаўся добры стары таварыш, я ўжо не адзін.

## III

На трэці дзень, як і дамовіліся, я прыйшоў на сустрэчу з Піляр. Было каля васьмі. Я сеў на лаўку, агледзеўся: на суседняй сядзела смуглявая, чарнавалосая, падобная на іспанку жанчына, а Піляр нідзе не было відаць. Прайшло пяць хвілін — няма. Можа, я пераблытаў месца? Не, плошча Гамбеты, усё правільна. Мо здарылася з ёй што? Тым часам жанчына з суседняй лаўкі паднялася і пакіравала да мяне.

— Бонжур, масье!

Па голасу я адразу пазнаў Піляр, падхапіўся.

— Пардон, мадэмуазель. Не пазнаў вас. Вы былі бландзінкай, а сёння — брунетка.

— А што, вам больш падабаюцца бландзінкі? — гулліва спытала Піляр і прысела на край лаўкі.

— Ды не. Я не хацеў сказаць...

— Прымячайце не толькі колер валасоў. Падпольшчык павінен быць назіральным. Ну, як справы?

— Два дні адрабіў ужо.

— Віншую! — Піляр дакранулася да маёй рукі.

— З чым? Што працую на ворагаў?

— Цішэй, Поль. Сядайце бліжэй. Не трэба так баяцца жанчын,— Піляр прыхінулася да мяне, я адчуў тонкі пах духоў, парфумы, даўно забыты пах маладога жаночага цела, нешта нібы зварухнулася ў маёй закарэлай, як ануча, душы.— Патруль ідзе. Пацалуйце мяне...

Краем вока я згледзеў трох немцаў: афіцэра і двух салдат з аўтаматамі. Я цмокнуў Піляр у шчаку, яна абняла мяне, мацней прыхінулася. Афіцэр з'едліва ўсміхнуўся, пагардліва, грэбліва зірнуў на нас, маўляў як можна цалавацца на вуліцы, ён, арыец, нямецкі афіцэр, выхаваны зусім інакш, але ў ягоным позірку я прыкмеціў зайздрасць. Салдаты пераглянуліся між сабой, крайні ад нас падміргнуў мне і паказаў вялікі палец, маўляў, добрую дзеўку адхапіў. Піляр адсунулася, калі прайшоў патруль, закурыла цыгарэту. А мне, смех сказаць, захацелася, каб патруль павярнуў назад...

Піляр выпусціла дым, склаўшы губы ў трубачку, і літаральна засыпала мяне пытаннямі: на якіх участках быў, што бачыў, дзе працуюць ваеннапалонныя, хто яны па нацыянальнасці. Вельмі зацікавіў яе Францішак, яна так пра яго распытвала, што я аж прыраўнаваў.

— Ваша задача, Поль, устанавіць сувязі з палоннымі, каб потым арганізаваць уцёкі ў атрад макі... Між іншым, ваш таварыш ужо там, у атрадзе.

— Шанцуе ж людзям,— уздыхнуў я.

— Ваша работа надзвычай важная. На базе працуюць сотні ваеннапалонных. Іх трэба ратаваць. Заўтра ў восем сустрэнемся тут. Адвяду вас на кватэру.

— Мне і ў бараку добра,— пачаў я, але Піляр перапыніла:

— Кватэру трэба мець. Раптам вам захочацца запрасіць мяне ў госці... Гаспадыня — мая знаёмая. Муж яе загінуў пад Вердэнам яшчэ ў 1916 годзе. Немцаў яна ненавідзіць. Але гаварыць ёй нічога не трэба. Жанчына ёсць жанчына.

— Разумею. Ёсць жанчыны, якія ўмеюць трымаць язык за зубамі.

— Ёсць. Але такіх вельмі мала. Ну, правядзіце мяне да вугла. Не забудзьце, заўтра ў восем на гэтым месцы...

— «Не забудзьце...» Смех, дый годзе. Пра што ж мне яшчэ думаць? Я буду цэлы дзень чакаць гэтай стрэчы.

Наступным вечарам Піляр сапраўды завяла мяне на кватэру. Адыходзячы, сунула мне тоўсты жмут паперы:

— Схавайце. Гэта лістоўкі. Шукайце сабе памочнікаў. Лістоўкі трэба раскідаць на базе. Вы не чулі, які фокус зрабілі антыфашысты Тулузы?

— Не, не чуў. А што яны прыдумалі?

— О, яны прыдумалі здарава. У горад меўся прыехаць сам Петэн. Камсамольцы на даху дома прымацавалі дошку. На яе — пачак лістовак. Праз вадасцёкавую трубу спусцілі шнур, які прывязалі да дошкі. І вось картэж машын з Петэнам і яго світай пад'ехаў бліжэй. Адзін хлопец прыгнуўся, быццам завязаць шнурок, і моцна тузануў шнур. З даху сыпануліся лістоўкі, нібы ўзняліся белыя галубы. Кажуць, што нават у машыну Петэна трапіла лістоўка...

Піляр смяялася, і я міжволі прыкмеціў, што ў яе прыгожыя роўныя зубы, поўныя, падфарбаваныя губы. Нават не верылася, што мы цалаваліся... Я адагнаў прэч гэтыя думкі і сказаў, што буду думаць, як распаўсюдзіць лістоўкі.

Калі Піляр пайшла, а гаспадыня легла спаць, я разгарнуў пакунак, разглядзеў лістоўкі: на вузкім аркушыку з абодвух бакоў было надрукавана на машынцы, на адным баку — па-французску, на другім — па-нямецку. Паспрабаваў чытаць, бачу, не па зубах, гаворку французаў у асноўным разумеў, а чытаць было цяжка. І тут я ўспомніў Францішака — лепшага перакладчыка і не трэба.

Пасля змены дачакаўся Францішака за прахадной, быў ён сумны, стомлены. Павіталіся, і я адразу прапанаваў зайсці да мяне ў госці.

— Куды гэта? У барак? — спытаў ён.

— Не, на маю кватэру.

— Кватэру? — Францішак пільна зірнуў на мяне.— Адкуль у цябе кватэра? Ну і спрытнюга!

— А што тут дзіўнага? Я пазнаёміўся з адной мадамай. Удава, адзінокая. І я — самотны, беспрытульны. Трэба ж неяк жыць,— як блазен, падміргнуў я.

— Дзіва што! Гэтакі бугай. А зараз столькі галодных жанчын. Самі вешаюцца. Што робіцца на свеце,— Францішак уздыхнуў і змоўк. Затое на кватэры, агледзеўшы не надта шыкоўны, але вельмі мілы, з густам абстаўлены пакой, разгаварыўся:

— Колькі гадоў тваёй удаве?

— Гадоў сорак. Можа, і меней. Выглядае добра. Цёплая кабета,— ухмыльнуўся я.— Неўзабаве прыйдзе. Пазнаёмішся...

Прызнацца, мне не хацелася, каб Францішак бачыў маю гаспадыню: яна мела ўжо добрую паўсотню гадоў, тоўстая, нібы ступа, ля носа вялікая барадаўка з цёмнымі валасінкамі.

Францішак сеў у мяккае крэсла, зняў акуляры, працёр іх, утаропіўся на мяне.

— Ну, камарад Поль, гэтага я ад цябе не чакаў. Гэта ж — буржуйскае логава, берлаг. Ідзе вайна, вакол льецца кроў. Забіваюць лепшых людзей, а ён схаваўся пад жаночую спадніцу... І гэта былы баец інтэрнацыянальных брыгад. Падкрэсліваю — былы. Я думаў, што ты сапраўдны антыфашыст...

— Магчыма, ты не памыліўся.

— Дзе ж не памыліўся? Ты спіш з жонкай чалавека, які, можа, загінуў у Іспаніі або тут у падполлі... Ну, што ж, бывайце. Жывіце сабе на здароўе, цалуйцеся са сваёй «мадамай». Мне з вамі не па дарозе,— Францішак падняўся, павярнуўся да дзвярэй.

— Пачакай адну хвілінку.

— Каго чакаць? Тваёй удавы? Не, даражэнькі. Ты здрадзіў сваім таварышам. Тым, хто загінуў у Іспаніі. Тым, якія з Аргенціны праслалі табе грошы. Апошнія сабралі і выручылі з бяды. Вось як вы аддзячылі ім...

— Ды стой ты. Расхадзіўся, як халодны самавар. Памажы во прачытаць, што тут напісана.

Францішак доўга чытаў лістоўку: з аднаго боку, з другога, быццам не верыў сваім вачам.

— Моцна напісана,— задуменна сказаў ён.— Дзе ўзяў?

— Знайшоў. А што ў ёй? Я ж па-нямецку ні ў зуб нагой. І па-французску слаба кумекаю.

— Мусіць, калі б ведаў, што ў ёй, спаліў бы адразу. За такое цябе разам з тваёй мадамай могуць паставіць да сценкі. Бачыў на плошчы фотаздымкі дваццаці трох пакараных камуністаў?

Цяпер я зразумеў, чаму такі пахмурны Францішак, мабыць, ноч не спаў.

— Чытай,— ціха сказаў я.

Францішак паправіў акуляры, хвалюючыся, кашлянуў, быццам меўся чытаць па радыё на ўвесь свет.

— «Немцы! Ваша Германія, якая дала свету Карла Маркса і Фрыдрыха Энгельса, цяпер залівае крывёй усю Еўропу і сама патанае ў крыві сваіх сыноў. Усіх, хто здольны трымаць аўтамат, Гітлер гоніць на Усходні фронт. Назад вяртаюцца адтуль толькі калекі. А астатнія? Астатнія знайшлі сабе магілу на палях Расіі. Фашызм — ваш вораг, немцы. Змагайцеся супраць яго. Уступайце ў рады антыфашыстаў!..» Цяпер ты зразумеў, што тут? — з'едліва спытаў Францішак.

— Знайшоў я не адну...— быццам не пачуў пытання, пачаў я.

— Шмат? — устрапянуўся Францішак.

Ні слова не гаворачы, я паклаў на стол цэлы жмут лістовак. Францішак асцярожна, беражна, з прыхаванай радасцю ўзяў іх — так, мусіць, сквалыга бярэ пачак грошай.

— Даруй, братка...

Мы моцна, па-мужчынску абняліся. Францішак спытаў, ці спатрэбіўся мне той парыжскі адрас, і я расказаў яму ўсё.

## IV

Аднойчы ў нядзелю я прыйшоў на сустрэчу з Піляр трохі раней, сеў на вольнай лаўцы. На плошчы сыходзіліся трамваі з усіх бакоў горада і разбягаліся адсюль кожны ў сваім кірунку. Было тлумна. З трамваяў высыпаліся цэлыя натоўпы пасажыраў. Вось выйшлі некалькі салдат, усе чарнявыя, з вусікамі. Ясна было, што гэта не арыйцы. Салдаты прайшлі блізка ад мяне, гаварылі яны не па-нямецку, адзін з іх вылаяўся па-руску. Я вырашыў прасачыць за імі, памалу пайшоў следам. Салдаты перасеклі плошчу, звярнулі ў завулак. Я наддаў кроку. Каля аднаго дома яны пастаялі і зніклі. «Куды ж яны падзеліся? — зацікавіла мяне.— Можа, знаёмых маюць там?» Неўзабаве я быў ля гэтага дома, праз адчыненыя дзверы ўбачыў чырвоную лямпачку ў калідоры і зразумеў, што прывабіла салдат. Карцела

пайсці за імі, але мяне павінна была ўжо чакаць Піляр, крутнуўся назад.

— Нешта вы сёння спазніліся, Поль? Што здарылася? — спытала Піляр.

— Я прыйшоў сюды раней. Хадзіў тут, прыглядваўся. І раптам пачуў рускую мову... Я не іспанец, Піляр. Я беларус. Мінск чулі?

— Канечне, чула. Гэта ж сталіца беларуская. Мы з вамі суседзі, Поль. Я родам з Варшавы. Маці — француженка, а бацька — паляк. Лічыце, што мы землякі,— Піляр непрыкметна пацiснула маю руку.— А хто гаварыў па-руску?

— Салдаты. Яны праходзілі тут і гаманілі. Я за імі следам. Яны павярнулі ў завулак. Там... Ну, гэта самае... вясёлае завядзенне.

— Ведаеце што, Поль? — заблішчэлі вочы Піляр.— Вам трэба пайсці туды. Пазнаёміцца з імі. Сярод іх розныя людзі...

— Яны здраднікі,— перапыніў я гарачую прамову Піляр,— іх расстрэльваць трэба, а не знаёміцца з імі...

— У нас няма зброі. А ў іх — ёсць. За бутэльку могуць нешта перадаць. Вам трэба ісці, Поль,— цвёрда сказала Піляр.

— Куды? Да прастытутак? — ледзь не закрычаў я.— У мяне ў Аргенціне нявеста. Я кахаю яе. І ніколі не пераступаў парог публічнага дома.

— Кахайце на здароўе. Вас ніхто не прымушае спаць з гэтымі дзеўкамі. Салдаты падап'юць, самы час пагаварыць з імі. Вось вам грошы.— Піляр хуценька дастала з рыдыкюльчыка пачак франкаў, усунула мне ў кішэню.— Ідзіце, Поль. Прашу вас.

— Не магу я пайсці,— упарціўся я.

— Можаце. Гэта заданне цэнтра. Мы даўно шукаем сувязі з салдатамі. Ідзіце, Поль. Ну, будзьце ж мужчынам! — яна лёгенька падштурхнула мяне.— Сустрэнемся заўтра ў гэты ж час. Чакаю навін...

Што было рабіць? Пайшоў. Сціскаючы ў кішэні грошы, пераступіў парог даволі вялікага змрочнага памяшкання, шчыльна застаўленага нізкімі столікамі, ля якіх сядзелі мужчыны, а побач з імі і на каленях — напаўаголеныя жанчыны. Дзве маладзенькія амаль голыя мамзелькі танцавалі на невялікай эстрадзе каля буфета пад акампанемент двух акардэонаў. Салдаты сядзелі ўсе разам за адным сталом, каля іх, як восы каля мёду,

завіхаліся мадэмуазелі. Я сеў недалёка ад землякоў і непрыкметна цікаваў за імі. Салдаты ўжо дзюбнулі па чарцы, твары іх зачырванеліся, вочы масляніста заблішчэлі.

— Ну, мамзелі, ваша здароўе! — сталага веку вусаты салдат падняў угору чарку і адным махам кульнуў яе ў рот.

— Што, хлопцы, прыйшлі троху пазабаўляцца? — гучна сказаў я.

Салдаты адразу ўстрапянуліся, пераглянуліся, вусаты падсеў да мяне.

— Адкуль будзеш? З Расіі? — спытаў ён.

— З Беларусі. А вы?

— Каўказ. Грузія.

— Якая сустрэча! Можа, па чарцы шандарахнем? Я частую.

— Вып'ем, кацо. Вып'ем, дарагой. За сустрэчу чаму не выпіць? Мадлен! — пстрыкнуў ён пальцамі.— Каньяку.

Адна з паўголых мамзелей паднялася і, віляючы азадкам, пакіравала да буфета. Я не ведаў, з чаго пачаць гаворку: нечаканая сустрэча, атмасфера гэтага прытону прыгнятала мяне.

— Даўно тут, у Францыі? Нябось цягне дамоў? — спытаў я.

Салдат спахмурнеў, між чорных броваў утварыліся дзве глыбокі маршчынкі, яны разыходзіліся ў бакі і нагадвалі казіныя рогі.

— Цягне, браток. Ой, як цягне! Але мне ўжо не пабачыць... Ні родных гор, ні жонкі, ні дзяцей.

Мадлен тым часам прынесла каньяк, наліла кілішкі.

— Мяне завуць Георгій. А цябе? — спытаў салдат.

— Поль. Ну, па-руску — Павел. За сустрэчу, Георгій.

Мы чокнуліся, выпілі. Потым кульнулі яшчэ. Размова пайшла сама сабой, натуральна і проста.

— Давай, кацо, на ты. Добра? — падаў руку Георгій.

— Добра, Георгій, згодзен.— Я моцна пацісную яго руку.— Дык няўжо немцы не адпусцяць цябе дамоў?

— Немцы як прыйшлі, так і пойдуць. А вось свой народ не пусціць... Сказаць табе, кацо, праўду? Хоць і бачу першы раз. Вочы ў цябе добрыя. Я многа людзей бачыў. Падлюг, шкурнікаў, мярзотнікаў розных. Адра-

зу бачу, хто чым дыхае. Дык вось, кацо, як падумаеш пра сваё жыццё, хочацца сябе самога задушыць. Ох, праклятыя фрыцы, што яны з намі зрабілі? — Георгій ашчаперыў галаву і скрыгатнуў зубамі. Я наліў яшчэ па кілішку.— Давай, кацо, вып'ем. Харошы ты чалавек, Паўлуха. Заві мяне проста — Жора.— Георгій абняў мяне за плечы, мы выпілі.

— Як ты трапіў сюды? — карцела мне паболей дазнацца, бо пад настрой ды пад градусамі чалавек толькі і можа раскрыцца.

— Ой, кацо, занадта доўгая гісторыя. Параненага ўзялі ў палон. Здзекі, голад... Трапіў, як у яму. Паспрабуй цяпер выбрацца. Народ ненавідзіць нас. Мы ж — здраднікі, шкуры прадажныя... Пайшоў бы ад іх, але куды пойдзеш?..

Я не веры́ў сваім вушам. Няўжо ён гаворыць праўду? Няўжо гэтак думае? А навошта яму крывіць душой? Ён добра падпіў і выкладае ўсё як на духу. Ды і з выгляду Георгій усё больш падабаўся: правільныя рысы твару, высокі і чысты лоб, разумныя, трохі насмешлівыя і ў той жа час сумныя вочы. Інтуіцыя падказвала: гэтаму чалавеку можна верыць.

— Трапіў ты, Жора, як у нерат: ні ўзад ні ўперад. І ўсё ж, калі ты... не любіш фрыцаў...

— Чаму «не любіш?» Люблю! — Георгій сцяў губы, сурова зіркнуў на мяне, зморшчынкі між броваў зрабіліся глыбей, сышліся «казіныя рогі», быццам ён збіраўся баднуць. У мяне ёкнула ў грудзях: вось табе і маеш, сам трапіў у нерат. Я інстынктыўна сціснуў край стальніцы, гатовы перакуліць стол і даць драла. Георгій спакойна паклаў на стол рукі — шырокія далоні з кароткімі тоўстымі пальцамі, на правай сінела татуіроўка «Жора». Мяне кінула ў пот, але дастаць насоўку не адважваўся.— Я іх люблю, кацо, як сабака цыбулю.— Георгій падкруціў кончыкі вусоў, задаволена ўсміхнуўся, маўляў, во як можна напалохаць і праверыць новага прыяцеля.— Але што зробіш? Куды падзенешся? — уздыхнуў, неяк адразу згорбіўся, нібы абвяў.

Я сядзеў, быццам абгорнуты потам, каўнер кашулі раптам зрабіўся цесным. Расшпіліў гузік, выцер хусцінкаю шыю.

— Душна тут. Няма чым дыхаць...

— Так, паветра тут не тое, што ў гарах,— сказаў Георгій.

— Трэба нешта рабіць. У вас ёсць зброя. Трэба арганізаваць групу — і да партызан,— смела рушыў я ў наступ.

— Харашо гаварыш. А дзе іх шукаць? Ці прымуць яны?

Нечакана да нас падляцела Мадлен, абняла Георгія:

— Досыць сур'ёзных размоў! Нінэль! Па табе сумуе масье.

Нінэль, адна з танцуючых, амаль голая, падляцела да століка і ўселася да мяне на калені, абвіла цёплымі рукамі за шыю.

— Вы мне падабаецеся, масье,— пачала гладзіць валасы. Ад яе моцна пахла духамі, парфумай, тытунём і потам. Яна ўзяла мяне за руку.— Пойдзем патанцуем...

Я сціснуў потную танклявую далоньку.

— Не, даражэнькая. Другім разам... Сёння спяшаюся.

— Чаго ж тады масье заходзіў? — Нінэль пагладзіла мяне па шчацэ, цмокнула, зручней уладкавалася на каленях.

— Я не зусім здаровы. Жывот забалеў.

— Жыўёт? Як у вас у Расіі кажуць: жыўёт на жыўёт — і ўсё пажыўёт,— Нінэль, нібы п'яўка, прысмакталася да мяне.

— У нас, у Расіі, няма такога паскудства. Брысь адсюль, шлюха! — не стрываў Георгій.

— Грубы, некультурны салдафон,— Нінэль капрызна надзьмула нафарбаваныя губкі.

Георгій сціснуў пустую бутэльку, замахнуўся. Нінэль завярашчала, як свіння ў плоце, і ў імгненне апынулася каля буфета.

— Не трэба, Жора. Спакойна. А то гэтыя шлюхі паклічуць паліцыю,— я абняў Георгія, ціха шапнуў: — Прыходзь у наступную нядзелю на плошчу Гамбеты. У тры гадзіны чакаю на трамвайным прыпынку...

— Прыйду. Абавязкова,— Георгій горача пацiснуў маю руку.

Я развітаўся з Мадлен і выйшаў. Не цярпелася ўдыхнуць свежага паветра і памыцца. Але была і задаволенасць: заданне Піляр выканаў.

## V

На базе я ўжо асвойтаўся, даводзілася бываць на ўсіх участках. Работу сваю ведаў, не ленаваўся: трэ было заваяваць аўтарытэт у майстра — маўклівага лысага немца, які курыў люльку. Аднойчы, гледзячы, як я працую, задаволена хмыкнуў: «Гут, эспаньёл... Гут, арбайтэр»,— папыхкаў люлькай і пайшоў.

Здаралася, што я працаваў побач з палоннымі. Перакінуцца словам было немагчыма, бо заўсёды стаяў вартавы. Але калі ён адыходзіўся далей, я перадаваў палонным хлеб, каўбасу, папяросы. Некаторых ведаў ужо ў твар, яны моўчкі ківалі мне, пазіралі з удзячнасцю і прыязнасцю. Я прыкмеціў хлопца, даволі маладога, з рашучым сур'ёзным тварам, таварышы называлі яго Міхаілам. Аднаго разу, улучыўшы момант, я спытаўся ў яго: «Браток, адкуль ты? Можа, зямляк?» — «З Ленінграда». Наблізіўся вартавы, і наша гаворка скончылася. Аднойчы Міхаіл выціраў пот хусцінкай, цішком падсунуў мне далонь — на заскарузлай, мазолістай далоні бліснуў пазеляненелы гузік з пяцікутнай зорачкай. Ашчадна, як святую рэліквію, палонны загарнуў гузік у хусцінку і схаваў у кішэню. Калі ён нахіліўся, каб падняць адрэзаны кавалак жалеза, я моцна пацiснуў яго руку...

На другі дзень ён апынуўся зноў блізка ля мяне, я шапнуў: «Тут ёсць партызаны. Калі жадаеце ўцячы, памагу». Міхаіл увесь устрапянуўся, востра зірнуў на мяне, вочы бы засвяціліся агнём, але нічога не сказаў... Усё я зразумеў без слоў. Ну, думаю, было не было, трэба дзейнічаць. Назаўтра кінуў яму пад ногі папяровы шарык. Там быў чарцёжык, які дала Піляр. На плане была ўказана мясцовасць на ўскрайку горада, недалёка ад будоўлі, iсці туды цераз балота, парослае густым чаротам, кустоўем, што зелянела на астравах. На востраве ўцекачы могуць перачакаць, а адтуль іх забяруць у атрад. Трэба сабраць групу — чатыры-пяць чалавек — і ўцякаць. Калі надумаюцца, каб паведамілі мне. Вось якую паперку ім падкінуў.

Праз колькі дзён я рэзаў таўровыя бэлькі, адрэзаныя кавалкі палонныя насілі ў цэх. Сярод палонных не было Міхаіла, не ўбачыў я і яшчэ некалькіх знаёмых. Мусіць, загналі ў ваду, дзе рамантуюць падводныя лодкі, падумаў я. Недалёка ад мяне як слуп стаяў немец

з аўтаматам. Калі ён адвярнуўся, да мяне падбег малады, худы, як шкілет, палонны і сунуў мне ў далонь папяровы шарык. Я схаваў яго ў кішэнь і, як ні ў чым не бывала, завіхаўся з аўтагенам. Парэзаўшы ўсе бэлькі, пакіраваў у туалет, дрыжачымі рукамі разгарнуў паперку. «У гэтую ноч паспрабуем уцякаць. Нас пяцёра. Калі нас не будзе на рабоце, значыць, мы на тым востраве. Чакаем дапамогі. Міхаіл».

Мінулая ноч была дажджлівая, бушаваў вецер — у такую непагадзь лепей за ўсё ўцякаць. Пасля работы, не заходзячы на кватэру, я памчаў на ўскрай балота — пагледзець, ці ёсць там уцекачы, бо ці мала што можа здарыцца. Я ішоў па дарозе, што перасякала балота, і насвістваў «Кацюшу». Мне было, канечне, не да песень: і слых, і зрок — усё было наструнена. У любы момант маглі паявіцца немцы, і сустрэча тут з імі нічога добрага не абяцала. Адна надзея на хуткасць ног і густы чарот. Раптам пачуўся ціхі свіст ззаду, я азірнуўся, убачыў пад кустом чалавека, ён махаў мне рукою. Гэта быў Міхаіл. Я ўзрадаваўся, падбег да яго. Сіні ад холаду, ён калаціўся, як у ліхаманцы. Міхаіл сказаў, што ўсе пяцёра тут, усе мокрыя, адубелыя, ледзьве жывыя.

— Чакайце тут. Зараз прынясу чаго-небудзь пагрэцца. Як сцямнее — забяром вас.

Подбегам кінуўся на сваю кватэру, хуценька пераапрануўся, забраў увесь хлеб: добра, што гаспадыні не было дома, давялося б доўга тлумачыць, а яна вялікі аматар пагаварыць. У магазіне купіў тры кілаграмы конскай каўбасы, літр французскай гарэлкі з вінаграду, і усё гэта адтарабаніў уцекачам. Міхаіл чакаў на тым самым месцы. Астатніх нікога не пабачыў — не было калі, памчаў на кватэру Піляр. На шчасце, яна была дома. Адразу ўстрывожылася, бо заходзіць да яе было нельга, толькі ў крайнім выпадку. Я растлумачыў, у чым справа.

— Што ж яны не папярэдзілі?

— Мусіць, не змаглі.

— Ну, але адважныя. Малайцы!

Удваіх мы пайшлі да Хуана. Ішлі пад ручку, як закаханыя. Піляр пазнаёміла мяне з Хуанам, бо раней мы не бачыліся. Рослы, плячысты, дужы, але аднарукі. Пазней я даведаўся, што ён служыў у іспанскай арміі, калі ўспыхнуў мяцеж, перайшоў на бок рэспублікан-

цаў, пасля ранення страціў руку, але знайшоў сабе жонку: дзяўчына-санітарка закахалася ў яго. Яна француженка, родам з Бардо, вярнулася з ім сюды. Абое ненавідзелі фашыстаў, абое сталі надзейнымі падпольшчыкамі. Хуан адразу адправіў дамоў Піляр: «Не жаночая справа хадзіць ноччу па балоце. Чарцей палохаць. Мы з Полем справімся». І сапраўды, у той вечар нам пашанцавала: праз колькі гадзін пяцёра ўцекачоў сядзелі ў Хуанавым склепе, а праз дзень яны былі ў партызанскім атрадзе.

## VI

Адвячоркам другога дня каля прахадной мяне чакаў Францішак.

— Ну, браток, у мяне багата навін,— сказаў ён, як мы адышліся далей.— Першая навіна: пад Сталінградам Чырвоная Армія акружыла вялікую групоўку нямецкіх войск. А другая навіна — з лагера зніклі пяць палонных. Трупаў іх нідзе не знайшлі. Як скрозь зямлю праваліліся. І куды яны дзеліся, гэтыя ўцекачы?

— Яны ўжо далёка. У атрадзе макі.

Францішак аж падскочыў ад радасці.

— Брава, Поль! — крыкнуў ён.

Я тузануў яго за руку, азірнуўся, паблізу нікога не было.

— Слухай, Поль, пойдзем да мяне на кватэру. Пагаворым. Там ніхто не будзе замінаць.

Францішак займаў невялікі ўтульны пакойчык. Гаспадыня выйшла па сваіх справах, мы адчувалі сябе вольна і маглі гаварыць пра ўсё.

— Ведаеш, Поль, мне так радасна стала, як пачуў, што хлопцы збеглі ад немцаў. На будоўлі працуюць арматуршчыкі, мае землякі, чэхі. Добрыя хлопцы. Антыфашысты. Узяць бы іх, чалавек дзесяць, і разам з імі да партызан. Паможаш?

— Чаму не памагчы? — усміхнуўся я.— Абы надзейныя хлопцы. У атрадзе работы хопіць.

— Трэба помсціць фрыцам за ўсё. Цярпець іх не магу. Між сабою грызуцца, як сабакі. Кожны пнецца ўгору, каб вышэй быць, камандаваць. Ёсць сярод іх і сумленныя людзі, але вельмі мала. Перадушыў Гітлер...

— Думаю, што фюрэр знішчыў далёка не ўсіх камуністаў. Трэба шукаць сярод іх антыфашыстаў.

— Я пазнаёміўся з адным немцам. Інжынер Краўс, загадвае інструментам. Яму за паўсотню ўжо. Дык вось неяк разгаварыліся, ён і кажа: «Гітлер капут. Хайль Тэльман». Падкінуў яму тую лістоўку...

— Глядзі, Францішак, асцярожней з ім.

— На базе мне вельмі давяраюць. Лічаць мяне шчырым служакам. Хочаш, запрашу Краўса да сябе? Ты быццам незнарок прыйдзеш пазней. Падрыхтую немчыка, падпаю, каб язык лепей хадзіў.

Я падтрымаў ідэю Францішака і заспяшаўся: мяне чакала Піляр. Краўс яе вельмі зацікавіў, яна раіла абавязкова з ім сустрэцца.

— Дарэчы, я прынесла вам новы касцюм,— Піляр падала мне важкі скрутак у тоўстай паперы.— Каб вы маглі іншы раз пераапрануцца. Купіце акуляры. Могуць спатрэбіцца для маскіроўкі... А што ваш салдат? Не бачыліся з ім?

— Заўтра на плошчы Гамбеты ён будзе чакаць мяне. Калі не перадумае...

— Скажыце яму, хай самі пачынаюць дзейнічаць. У атрад іх узяць не можам... Адзін уласавец выдаў сям'ю французскага камуніста. Будзьце асцярожны, Поль,— Піляр зірнула мне ў вочы, ціха сказала: — Я непакоюся за вас, Поль. Беражыце сябе...

У яе голасе пачуліся трывога і заклапочанасць. Хваля ўдзячнасці гэтай жанчыне варухнулася ў душы. Так некалі, паўтара дзесятка гадоў назад — бог ты мой, столькі ўжо часу бадзяюся па свеце! — гаварыла мне маці, нешта падобнае сказала на развітанне Хуаніта. Ці жывая маці? Як там Хуаніта? Калі згадваў іх, на сэрца навальвалася туга і самота. Але прэч нуду! Я не адзін гэтакі гаротнік. Не соладка жывецца і Георгію. Хіба лягчэй Францішаку? А ваеннапалонным, для якіх кожны дзень можа быць апошнім. А Піляр? Разгараецца барацьба супраць фашызму. На Волзе засвяцілася зорка перамогі. Будзем яе набліжаць.

## VII

У нядзелю я прыйшоў на плошчу раней прызначанага часу. Гляджу, Георгій ужо сядзіць на лаўцы, есць смажаныя каштаны, мусіць, купіў у бабулі, што заўсёды прадае іх тут. Я не падыходзіў да яго, пакуль га-

дзіннік на вежы не празваніў тры разы. Счакаў яшчэ некалькі хвілін, бачу, салдат паглядвае на гадзіннік, потым падняўся, прайшоўся па дарожцы, нервова азіраючыся па баках, а я ўсё не падыходзіў. Георгій зусім занерваваўся, плюнуў і пакіраваў на той завулак, дзе ў калідоры гарыць чырвоны ліхтар. Ледзь не бягом памчаў я наўздагон, а калі дагнаў, узяў яго ззаду за плячо — Георгій спалохана адскочыў убок. Папрасіўшы прабачэння, што спазніўся — маўляў, падвёў трамвай, я спытаў, куды ён кіруецца. Георгій сумеўся, прапанаваў павярнуць назад.

Зайшлі ў невялікі ціхі рэстаранчык, і там ён расказаў сваю невясёлую гісторыю. Аказваецца, Георгій быў не радавым чырвонаармейцам, а лейтэнантам, да вайны працаваў бухгалтарам. Немцаў ненавідзіць, падгаварыў шасцярых салдат уцякаць — у асноўным яго землякі, каўказцы, сярод іх і яго стрыечны брат. Я сказаў, што спачатку ім давядзецца дзейнічаць самім, зброя ёсць, а потым наладзім сувязь з атрадам макі.

— Перад уцёкамі думаем ірвануць склад боепрыпасаў,— пераходзячы на шэпт, сказаў Георгій.

— О, гэта было б здорава,— падтрымаў я.— Гэта будзе пропуск у атрад макі...

Георгій сказаў, што яму патрэбна карта Францыі і бінокль. Я адразу ўспомніў той магазінчык, куды мы трапілі з Любамірам, хаваючыся ад немцаў.

Неўзабаве мы ўжо былі ў магазіне. Гаспадар, той самы таўстун, выкаціўся з-за шырмы. З картай усё вырашалася проста, мы купілі аж дзве: карту Францыі і яе паўднёвага захаду — тут былі пазначаны ўсе маленькія гарадкі вакол Бардо. А вось бінокля не было і ў аптычным магазіне, і тут таксама. І ўсё ж я спытаў у гаспадара. Той доўга муліўся, аднекваўся, маўляў, што ёсць — усё на вітрыне, але калі пачуў, што заплацім колькі скажа, прынёс сапраўдны вайсковы бінокль. У Георгія аж вочы заблішчэлі.

Гандляр змікіціў, што можна падзарабіць, і загнуў дабрэнную цану — чатыры тысячы франкаў. Энтузіязм Георгія адразу спаў, бо ў яго было дзве з паловай тысячы. Гаспадар стаяў на сваім. Вытрас і я кішэні, паўтысячы наскроб — мне плацілі ў месяц дзевяцьсот франкаў. Але гаспадар упарціўся. Мы ўпрошвалі яго і так і гэтак. Хацелі ўжо ісці. Зразумеўшы, што болей з нас не здзярэш, гандляр аддаў бінокль.

Выходзячы, я ўбачыў у кутку той самы глобус, павярнуў да яго, адшукаў Беларусь — зялёную лапінку, нібы дзіцячая далонька ці дубовы лісток. Знайшлі Каўказ — цёмна-карычневы перашыек між двух мораў. Вочы ў Георгія затуманіліся. Мусіць, ён бачыў у гэты момант не карычневыя плямы на глобусе, а родны дом, жонку, дзяцей...

Развіталіся мы, калі ўжо добра сцямнела. Георгій адвёў мяне далей ад прыпынку, выцягнуў з-за пазухі нейкі цёмны прадмет.

— Держи, дорогой. Здесь пять патронов. Пять фрицев уложишь...

Дамовіліся, калі Георгій захоча мяне сустрэць, хай прыходзіць у нядзелю на плошчу, як і сёння, у тры гадзіны. Я паабяцаў кожную нядзелю быць тут у гэты час.

Дні праз тры я ўбачыў Францішака, які чакаў мяне за прахадной. Размова была кароткая: заўтра да яго прыйдзе Вальтэр Краўс.

Да гэтай сустрэчы я рыхтаваўся з асаблівым хваляваннем: яшчэ б не хвалявацца — буду гаварыць з нямецкім афіцэрам, які мог бачыць мяне на базе і можа пазнаць, хоць ён нібыта і спачувае камуністам, але хто ведае, якога коніка ён выкіне. Новы касцюм быў мне акурат, але з непрывычкі я адчуваў сябе ў ім, як у мяшку, гальштук і каўнер белай кашулі сціскалі шыю, акуляры рэзалі пераноссе, затое зірнуў у люстэрка і сам сябе не пазнаў — на мяне пазіраў важны, надзьмуты, што індык, незнаёмы масье.

Дзверы адчыніў Францішак, павітаўся, падміргнуў.

— Ён ужо цёпленькі. Лае Гітлера ваўсю.

Услед за Францішакам я ўвайшоў у пакой, дзе ў крэсле сядзеў расчырванелы немец з чорнай стужкай на рукаве — пасля Сталінграда ў Германіі была аб'яўлена жалоба.

— Пан Краўс, дазвольце вам прадставіць майго сябра Пабла Варанецці.

— Вельмі прыемна, пан Варанецці,— па-французску сказаў Краўс і падаў мне сухарлявую моцную далонь.

— Сядай, Пабла,— Францішак спрытна, як запраўскі бармен, напоўніў кілішкі.— Панове, вып'ем за знаёмства.

— І за тое, каб хутчэй скончылася вайна,— дадаў Краўс.

— За гэта грэх не выпіць,— я падняў кілішак, як мага прыязней паглядзеў у вочы Краўсу і выпіў.

Далей гаворка ішла такім парадкам:

Францішак. Мы з панам Краўсам тут спрачаліся: звер чалавек па сваёй натуры ці не? І не прыйшлі да пэўнай высновы.

Краўс. Прабачце, Франц. Вось Пабла... Вы італьянец?

Пабла (г. зн.— я). Бацька — італьянец, а маці — іспанка. А нарадзіўся ў Аргенціне, у Буэнас-Айрэсе.

Францішак. Бацька Пабла — багаты чалавек, уладальнік гэтага самага... фрыгарыфіка.

Пабла. Фрыгарыфік — гэта мясакамбінат, бойня.

Краўс. Я, я, разумею. О, Аргенціна дае многа мяса. Вось, дарагі Франц, яшчэ адзін доказ крыважэрнасці чалавека. Ён паядае сваіх малодшых братоў. Вось зрабіце такі эксперымент. Пасадзіце ў клетку дзесятак пацукоў і не давайце ім есці. Праз пэўны час там застанецца адзін пацук. Самы дужы і самы хітры. Астатнія будуць з'едзены.

Пабла. Прырода ставіць такія эксперыменты даволі часта. У дзяцінстве я хацеў вырасціць у лужыне шчупакоў. Яны былі малыя, іх было шмат. Пад восень лужа абмялела. Я вырашыў вылавіць рыбу. І злавіў аднаго шчупака, вялікага і тоўстага...

Краўс. Дзе гэта вы назіралі? У Аргенціне?

Пабла. Так... Не, здаецца, гэта было ў Іспаніі,— спахапіўся, бо ў Паўднёвай Амерыцы не водзяцца шчупакі. Краўс, можа, пра гэта і не ведаў, але я адчуў, што спіна пакрылася халодным потам і кашуля прыліпае да цела. Францішак, мабыць, заўважыў маю разгубленасць і паспяшаўся на выручку.

Францішак. Але чалавек не можа жыць без мяса. Мяса патрэбна чалавеку, каб ён мог нармальна жыць і працаваць.

Краўс. Скончыцца вайна, вярнуся дамоў, стану вегетарыянцам. Мяса — ні грама... Чалавецтва некалі жахнецца, што яно есць мяса, жывых істот. Некалі вучоныя вынайдуць штучныя бялкі. Людзі перастануць ужываць мяса.

Пабла. Канечне, пан Краўс, шкода забіць кураня. Яно такое маленькае, мяккае, кволае... А дзіця, маленькага чалавека, забіць не шкода? Ды на вачах ягонай ма-

ці? Во дзе жорсткасць! На якую нават звер не здатны. А так забіваюць цяпер у Расіі...

Краўс (уздыхае). На вялікі жаль, пан Варанецці, вы гаворыце праўду... Але нямецкі народ не хацеў вайны.

Францішак. Чаму ж ён галасаваў за Гітлера?

Краўс (усхвалявана). Народ падманулі. Буржуазія, капіталісты паставілі Гітлера, таму што ён быў ім патрэбен. А рабочы клас хацеў Эрнста Тэльмана. Нягледзячы на тэрор, на паклёп і брудную хлусню, 13 сакавіка 1932 года пяць мільёнаў немцаў галасавалі за Тэльмана. Пяць мільёнаў! І я быў сярод іх... Так, не здзіўляйцеся, што гэта гаворыць нямецкі афіцэр. Я нарадзіўся ў Гамбургу. Мой бацька быў партовым грузчыкам. Хлапчуком я прадаваў газеты, падлеткам працаваў у абутковым магазіне. Дзякуючы сваёй настойлівасці, я скончыў марское вучылішча, плаваў на браняносцы ў тую вайну. Потым руская рэвалюцыя перакінулася ў Германію. Мы хацелі зрабіць нашу радзіму сацыялістычнай. Не ўдалося. Калі прыйшоў да ўлады Гітлер, мяне кінулі ў Маабіцкую турму. У адзіночнай камеры гэтай турмы сядзеў Эрнст Тэльман.

Пабла. Вы ведалі яго?

Краўс (з гонарам). Я слухаў некалькі разоў яго выступленні. Аднойчы мы сядзелі вось так, як зараз з вамі... Калі пачалася вайна з Расіяй, трох маіх сыноў пагналі на фронт. Мяне вызвалілі з турмы.

Францішак. Дзе вашы сыны цяпер?

Краўс (пасля паўзы). Эрых загінуў у сорак першым. На Дняпры, пад Магілёвам. Пауль — пад Масквой. А Ганс, мой малодшы... Яшчэ зусім дзіця... Можа, паклаў галаву пад Сталінградам. (Дастае хусцінку, гучна смаркаецца.) Другі месяц не маю ад яго вестак. Сыны загінулі. Гітлер і мяне прымусіў надзець пагоны... Вайну мы прайграем. Расія — вялікая краіна. Там паўстаў увесь народ. Гітлеру будзе тое, што Напалеону.

Пабла. Пан Краўс, вы хацелі б нешта рабіць, каб Германія была іншай? Не такой, якая яна цяпер.

Краўс. Што тут зробіш? Нямецкіх камуністаў усіх перадушылі. Засталіся адзінкі, маральна і фізічна разбітыя. Я стары ўжо... (Пазірае на гадзіннік.) Што ж, мае юныя сябры, мне было вельмі прыемна пагаварыць з вамі. На жаль, я павінен ісці. (Апранае плашч.)

Францішак (пазірае ў акно). На вуліцы зноў дождж.

Краўс. Вось чаму я не люблю французскі вясна. Яна нагадвае капрызную, плаксівую бабу.

Краўс пакланіўся, крутнуўся да дзвярэй. Францішак правёў яго, вярнуўся.

— Ну, што скажаш, Пабла Варанецці? — усміхнуўся і, не пачуўшы ад мяне нічога ў адказ, загаварыў сам: — Ён наш таварыш. Вядома, столькі перажыў, страціў веру ў адраджэнне нямецкіх камуністаў. Добра, што яму трапіла лістоўка. Адразу інакш загаварыў.

Тады я і не думаў, што праз некалькі дзён Краўс прымусіць нас моцна пахваляваццa.

## VIII

А было вось як. Група чэшскіх рабочых наважылася ўцякаць, падрыхтавалі для Францішака запіску. Вартавы перахапіў яе. А тут якраз праходзіў Краўс, забраў паперку ў вартавога, моцна лаяўся, пагражаў усіх расстраляць і пайшоў у кантору. Да канца змены нікога з рабочых не чапалі. Мне перадалі змест запіскі: «Заўтра будзем уцякаць. Нас чацвёра». Я параіў уцякаць сёння.

Пасля работы падпільнаваў Францішака. Той здзівіўся і спалохаўся, бо Краўс яму нічога не сказаў. Я памчаў да Піляр. Расказаў усё пра Краўса, што ўцёкі перанесены на сёння, маршрут цераз балота ў іх ёсць, мы з Францішакам сустрэнем.

— Гэта небяспечна,— запярэчыла Піляр.— Гестапа настрыла вушы. Увечары лепей нідзе не паказвацца...

Піляр выйшла ў суседні пакой. Я чуў, што яна нешта гаварыла гаспадыні. Неўзабаве Піляр вярнулася.

— Учора двух нашых таварышаў расстралялі. Яны рабілі гранаты на заводзе. Адзін з іх — іспанец, сябра майго мужа...

— А дзе ваш муж, калі не сакрэт?

— Загінуў у Іспаніі... Я пазбегла канцлагера таму, што ў мяне дзявочае прозвішча. Як дачку камерсанта, мяне ніхто не крануў. Я ж вучылася ў Парыжы. У інстытуце замежных моў. Там пазнаёмілася з італьянскім студэнтам, выйшла замуж. Муж быў камуністам. Калі пачалося ў Іспаніі, паехаў туды... Шкада, дзяцей не паспелі нажыць.

— Вы яшчэ такая маладая. Дажывем да перамогі — усё будзе...

— Дай бог дажыць,— уздыхнула Піляр.— Поль, я непакоюся за вас. Краўс можа выдаць.

— Той рабочы ведае толькі Францішака. А Францішак ведае толькі мяне... Галоўнае — вытрымаць, пакуль страціш прытомнасць. А тады хай рэжуць на кавалкі... Мяне ўжо маглі забіць шмат разоў. А я жывы. Мне шанцуе.

— У вас невясёлыя жарты, Поль. А можа, вам з Францішакам таксама ісці ў атрад?

— Перарвецца сувязь. Толькі сцежку пратарылі. Мы можам пераправіць у атрад сотні людзей. Я веру Краўсу,— з упэўненасцю сказаў я.

— І ўсё-такі сёння вы дома не начуйце.

— На работу ж усё роўна трэба ісці. І сустрэць чэхаў...

— Зробім вось як. На золку прыйдзе сюды Хуан. З ім вы пойдзеце на балота... Я папярэдзіла Хуана. Дамоў вам ісці небяспечна...— Піляр хвалявалася, хоць і старалася гэта не паказаць.— А што ваша нявеста, маўчыць? — нечакана спытала яна.

— Пакуль ніякіх вестак. Шэсць гадоў, як рассталіся.

Піляр доўга моўчкі пазірала на мяне, потым ціха сказала:

— Не пушчу вас нікуды. Заставайцеся тут...

Я застаўся. Спалі мы ў розных пакоях. Ноччу мне снілася Хуаніта, разам з ёй мы былі ў пампе, касілі канюшыну, альфу-альфу. Я касіў, а Хуаніта сушыла, адпадварушвала. Рыжы Стась з жонкай Мірапалуса адвозілі. Стась быў вясёлы, задаволены, скаліў зубы, чапіўся да мяне, чаму я раней не пазнаёміў яго з Хуанітай. Апошні воз мы везлі з Хуанітай, ляжалі на духмяным сене, воз калываўся, пагойдваўся ў бакі. Раптам з гары конь пабег шпарчэй, і воз абярнуўся. Мы грымнуліся на зямлю. Я падхапіўся. Хуаніты не было відно: гэтак заваліла сенам. Я пачаў разграбаць яго, дакапаўся да Хуаніты, яна ляжала моўчкі, як непрытомная. «Што з табою? Ты ўдарылася?» — тармашыў яе, але яна нічога не адказвала. Я падхапіў яе на рукі і стаяў, не ведаючы, што рабіць. Аднекуль паявіўся Стась. «Што ты стаіш як слуп? Хутчэй на калёсы. Павязем яе ў бальніцу...»

Не ведаю, ці давезлі мы яе, бо тут мяне пабудзіла

гаспадыня кватэры: прыйшоў аднарукі Хуан. Трэ было ісці ратаваць уцекачоў.

Праз тыдзень, калі на базе трохі ўлеглося пасля ўцёкаў чэхаў, Краўс паказаў Францішаку запіску, як доказ сваёй лаяльнасці, і сказаў, што сам хацеў бы ўцячы да партызанаў, бо аставацца яму тут проста немагчыма. Францішак абяцаў дапамагчы, але Піляр пакуль што не давала згоды.

Разгром арміі Паўлюса на Волзе змяніў становішча не толькі на фронце, але і ў глыбокім тыле, можна сказаць, ва ўсёй Еўропе. Самыя зацятыя фашысты і тыя апусцілі крылы, некаторыя зусім разгубіліся. Былі і такія, самыя заядлыя садысты, тыя, што нічога іншага не ведалі і не ўмелі, як толькі здзекавацца з людзей, якіх лічылі за рабоў. Праз сваю звярыную тупасць яны нібы не чулі, што робіцца на свеце, не разумелі, што вецер павярнуўся з усходу, і не маглі развітацца са сваёй неразлучнай сяброўкай — гумавай палкай, якой так навучыліся лупцаваць людзей.

Палонныя, наёмныя рабочыя радаваліся да слёз, калі даведаліся пра перамогу Чырвонай Арміі.

А ў разгар спякотнага, душнага французскага лета прыйшла вестка аб разгроме гітлераўцаў на Курскай дузе. Значыць, хутка фюрэру капцы. Усё часцей я чуў ад Піляр, што саюзнікі збіраюцца адкрыць другі фронт. Пра тое ж гаварыў Краўс Францішаку. У чаканні гэтага прамільгнула восень, потым кароткая, але кіслая і надакучлівая зіма. Другога фронту так і не было.

З набліжэннем вясны ўсё настойлівей прасіўся ў атрад Францішак: ён арганізаваў яшчэ групу чэхаў — сем чалавек, якія чакалі сігналу. Не цярпелася развітацца з базай і Краўсу, але цэнтр не даваў згоды. Краўс патрэбен тут — такі быў адказ.

Даўно я ўжо не бачыўся з Георгіем. Улетку яго часць выводзілі на ўзбярэжжа: будавалі там умацаванні, зімой зноў салдаты месціліся ў прыгарадзе Бардо. На адным са спатканняў Георгій сказаў, што іх збіраюцца паслаць супраць партызанаў.

— Кацо, дорогой, не могу стрелять хороших людэй. Может, во время боя перемахнуть к партизанам? Не поверят. Кокнут... Если склад взорвется, знай, дорогой,— наша работа. Георгий Ианишвили трепаться не любит.

У той жа дзень я паведаміў Піляр, што немцы рыхтуюцца да блакады партызанаў. Потым два разы па

нядзельных днях хадзіў на плошчу Гамбеты, каб сустрэць Георгія, але яго не было. Аднойчы пра яго спыталася Піляр.

— Магчыма, вайсковую часць перавялі ў іншае месца,— адказаў я.

— Відаць, ён ужо не прыйдзе. Склад узарваны. Тры салдаты загінулі ў час выбуху. Некалькі расстралялі немцы. Шкада людзей,— уздыхнула Піляр.

«Значыць, Георгій стрымаў слова,— падумаў я, памацаў у кішэні пісталет, яго падарунак.— Буду помсціць і за цябе, Георгій».

Аднойчы Піляр перадала мне, каб Францішак з таварышам рыхтаваўся да ўцёкаў. План быў такі. Францішак са сваёй групай прабіраецца на аўтобусны вакзал. Там іх будзе чакаць Любамір і праваднік з атрада. Усе сядуць у аўтобус, што ідзе ў Тулузу, і выйдуць на прыпынку, дзе будуць выходзіць Любамір і праваднік. Я здалёк назіраў, як сустрэліся Любамір і Францішак. Не, яны не кінуліся абдымацца, нават не рукаліся, перамовіліся параю слоў, якія былі паролем, і ўсё. Любамір адгадаваў чорныя вусы, рослы, плячысты, ён выглядаў вельмі імпазантна. Як хацелася мне падысці да яго! Столькі пражыта з ім у Іспаніі, у лагерах Сан-Сіпрыен і Вернет, у Парыжы! Спытаць, мо ведае што пра Васіля? От, бывае, сустракаюцца людзі і становяцца блізкімі і дарагімі, як родныя браты. Папраўдзе, да брата ў мяне не было такіх цёплых пачуццяў, як да таварышаў, сяброў, такіх, як Хасэ, Васіль, Любамір, Францішак, Максім і камісар Тамашэвіч. Бог мой, колькі добрых людзей сустракалася на маёй жыццёвай дарозе!

Аўтобус тым часам запоўнілі пасажыры, сярод іх былі два партызаны і восем будучых змагароў за свабоду. Аўтобус развярнуўся, пусціў блакітна-шызае вобалачка дыму і схаваўся за паваротам. К вечару яны будуць у лесе, на волі. А я павінен сядзець тут, нібы на ланцугу. Працаваць на фрыцаў. Бачыць, як яны здзекуюцца з палонных. Праўда, палонных усё меншае і меншае. Які пярэпалах узнімецца заўтра, калі хопяцца, што збеглі восем чалавек і нават іх перакладчык, надзейны чалавек. Могуць і мяне выклікаць на допыт. Міжволі я азірнуўся — ці не сочыць хто за мной, сціснуў у кішэні пісталет. Услед ішлі мужчына і жанчына, я павярнуў у завулак, пара таксама павярнула. «Што за чорт! Няўжо яны за мной цікуюць?» —я перайшоў на другі

бок вуліцы, звярнуў у пад'езд, прыстоіў за вуглом — мужчына і жанчына пайшлі сваім кірункам, нават не зірнулі ў мой бок. Я ўздыхнуў з палёгкай, выцер узмакрэлы лоб. Хто парасё ўкраў, у таго у вушах пішчыць — прыгадалася прымаўка маіх вяскоўцаў.

На двары быў светлы вясенні адвячорак. Ужо цвілі каштаны, лісце вялікае, як лапці, чуйна застыла ў цішы. Але не было цішыні і спакою ў маёй душы. Мусіць, я стаміўся ад пастаяннай напружанасці. Метал стамляецца, і самалёт развальваецца ў паветры. А то жывы чалавек... Успомніўся танкіст, з якім пазнаёміўся ў шпіталі ў Іспаніі, яго стомленасць і страх. Пасля шпіталя ён загінуў у першым баі... Можа, мяне чакае засада ў кватэры Піляр? Не, от дурань. Дык што: Піляр у лапах гестапа? Чамусьці паўсталі перад вачыма тонкія пальцы Піляр з прыгожымі перламутрава-бліскучымі пазногцямі, з якіх сцякалі кропелькі крыві. «От неўрастэнік,— ушчуваў сябе.— Зусім нюні распусціў. Што баба...» Наддаў кроку, пятляючы, як заяц, дайшоў да вуліцы, дзе была кватэра Піляр. Насцярожаны, поўны нядобрых прадчуванняў, нерашуча сунуўся па другім баку вуліцы. Насустрач траплялісія рэдкія прахожыя, часцей за ўсё — жанчыны, навакол было ціха, толькі дзесьці скуголіў малы сабачка. Вокны Піляр мірна свяціліся рэдкім жаўтлявым святлом. Але трывога не пакідала мяне. Уздыхнуў спакайней, калі ўвайшоў у кватэру, убачыў Піляр, але, мусіць, на твары адбівалася перажытае толькі што, бо Піляр адразу кінулася да мяне:

— Што здарылася, Поль?

— Нічога. Усё нармальна. Яны паехалі.

— А чаму вы такі...— мабыць, яна хацела сказаць, «напалоханы», але стрымалася.— Вы стаміліся, Поль?..

— Так,— сказаў я і, каб супакоіць Піляр, узяў яе за руку, пацалаваў вузкую белую далонь з прыгожымі тонкімі пальцамі: я разглядаў іх, нібы шукаў сляды крыві.— Ці няма ў вас кавы, Піляр?

— Ёсць. Зараз падам. З каньяком.

— Цудоўна,— сказаў я і вымучана ўсміхнуўся.

Піляр пацалавала мяне ў шчаку, ускудлаціла валасы і выйшла.

«Не ўздумай распускаць нюні. Што, думаеш, ёй лёгка?» — дакараў я сябе.

Потым мы пілі каву. Піляр выпытвала ўсё пра ад'-езд групы Францішака.

— Трымайся, Поль. Нядоўга засталося нам пакутаваць. Усё будзе добра. Вы адшукаеце сваю Хуаніту. Не бядуйце.

Я зноў пацалаваў ёй руку.

— Вы сёння надзіва гжэчны кавалер.

— Я заўсёды быў такі. Проста вы не заўважалі, мадам,— весела сказаў я.

— Чао! — усміхнулася яна, але ўсмешка атрымалася не дужа вясёлая.

Праз паўгадзіны без прыгод дайшоў да сваёй кватэры. Гаварлівая гаспадыня спытала, чаму так позна. Я сказаў, што быў у рэстаране, пахіснуўся разы са два, каб паказаць, як я нарэзаўся.

— Малады, здаровы, прыгожы,— уздыхнула гаспадыня.— Чаму не пагуляць? А ваша мадэмуазель прыгожая? Яна таксама іспанка?

— Так. Іспанка. Яе завуць Кармэн. Вельмі прыгожая. Калі мы ідзем па вуліцы, усе пазіраюць на нас. І мужчыны і жанчыны.

— Мужчыны зайздросцяць вам, а жанчыны вашай Кармэн. О, жанчыны — вялікія зайздросніцы. Запрасіце да нас сваю мадэмуазель. Я хачу з ёй пазнаёміцца... Памятаю, мы з П'ерам, калі вырашылі ажаніцца... А выйшла так нечакана...

Ужо каторы раз мне давялося выслухаць гісторыю пра вяселле гаспадыні. Заўсёды паяўляліся новыя падрабязнасці, новыя дэталі. Як ні трываў я, усё ж — пазяхнуў.

— Пардон, мадам,— спахапіўся я.

— Гэта я вінавата. Задурыла вам галаву. А заўтра ж вам на работу.

Мадам падалася да сябе, я, нібы падкошаны, упаў на ложак. Дзень скончыўся. Якой будзе ноч і што прынясе заўтрашні дзень? Прэч, думкі. Трэба спаць. Нарэшце стомленасць узяла сваё, і я забыўся ў кароткім трывожным сне.

## IX

На чарговай сустрэчы Піляр сказала, што яна павінна ісці на сход актыву.

— А вы, Поль, праводзіце мяне. Вас таксама зага-

дана прывесці. Камарад Жан хоча з вамі пазнаёміцца.

Сход збіраўся за горадам. Вечарэла, калі мы дабраліся да сялібы фермера-агародніка. Вакол былі кусты, далей пачынаўся лес. Метраў за сто ад дома нас затрымалі двое ўзброеных людзей. Піляр сказала пароль. Адзін з партызанаў быў Міхаіл — кіраўнік першай пяцёркі ўцекачоў,— ён пазнаў мяне, моцна паціснуў руку. З-за кустоў высунуліся яшчэ два партызаны, і раптам я пачуў: «Паўлюк, ці не ты гэта?» — «Васіль!» — мы так імкліва кінуліся адзін да аднаго, што перапалохалі астатніх партызанаў. Васіль ціскаў мяне ў абдымках.

— Жывы, Паўлюк! Каб ты сказіўся! Гэта ж камарада Пабла. Мы разам у Іспаніі ваявалі,— сказаў ён сваім таварышам.

— Ну і здаровы ты стаў, Васіль. Як мядзведзь,— я ледзьве выбавіўся з абдымкаў.— Мабыць, харчы ў атрадзе добрыя?

— Харчы нішто сабе. Вось партызанак малавата. Здаецца, ты гэта ўлічыў? — ухмыльнуўся Васіль.

— Гэта таварыш Піляр. Наша сувязная.

— Васіль або проста — Вася,— сказаў ён.

— Добра, Вася. Мне падабаецца ваша імя,— Піляр падала яму руку.

— Браткі, прашу прадставіцца даме. Ну, Мішук, чаго ты пачырванеў як дзяўчо-падлетак? — падштурхнуў Васіль Міхаіла.

— Камандзір узвода макі Самохін,— зухавата прыклаў руку да берэта Міхаіл.

— Вось вы які, арганізатар першай пяцёркі. Вельмі прыемна,— Піляр падала яму руку.— А вы адкуль родам?

— З Ленінграда... Горад быў у блакадзе. Не ведаю, ці жывыя хто з маіх...

— Ленінградцы — мужныя людзі. Трэба спадзявацца на лепшае.

Самохін з удзячнасцю зірнуў на Піляр.

— Хадзем, я вас правяду,— сказаў ён.

Мы рушылі за ім услед. Сярод кустоў, на палянцы, сабралася шмат узброеных людзей: хто сядзеў, хто стаяў. У цэнтры быў мажны, сталага веку, чалавек з чорнай барадой. Самохін падвёў Піляр і мяне да яго. «Гэта камарад Жан. Прадстаўнік гаркома»,— шапнула мне Піляр. Чорнабароды пайшоў насустрач.

— Салют, камарадас! Як вы дабраліся, Піляр?

— Добра. У мяне надзейны праваднік — камарад Поль.

— А, дык вы камарад Поль! — Жан абняў мяне.— Рады вас бачыць. Дзякуючы вам і Піляр атрад вырас больш чым на сто чалавек. Дзякуй вам, Поль!

Я разгубіўся і не ведаў, што сказаць.

— Ну, што вы... Я рабіў тое, што на маім месцы рабіў бы кожны інтэрнацыяналіст.

— Мы ўсе — інтэрнацыяналісты-марксісты. Для нас не важна, якой чалавек нацыянальнасці. Галоўнае, каб ён змагаўся за справу пралетарыяту,— наўмысна гучна, каб усе чулі, сказаў Жан.

Мяне абступілі з усіх бакоў партызаны. Я з цяжкасцю пазнаваў у гэтых узброеных, па-рознаму апранутых — хто ў англійскіх, хто ў французскіх, а той-сёй у нямецкіх фрэнчах, загарэлых, барадатых — тых змардаваных палонных базы субмарын. Партызаны пацiскалі мне рукі, абдымалі, а я не мог сказаць ні слова: ці то ад радасці, ці то ад хвалявання перахапіла горла.

Праціснуўся да мяне Францішак, за ім Краўс, які таксама ўжо быў у атрадзе. Я пазнаёміў іх з Піляр. Не адыходзіўся ад нас Самохін. Толькі Любаміра нідзе не было відаць. На маё пытанне Францішак адказаў, што Любамір у дазоры, але яго скора павінны змяніць, і ён прыйдзе сюды.

Тым часам таварыш Жан адкрыў сход, папрасіў мінутай маўчання ўшанаваць таварышаў, якія загінулі ад рук гітлераўцаў.

— Камарадас, мы сёння сабраліся ўсе разам упершыню. Справа вось у чым. Саюзнікі адкрываюць другі фронт...

«Га, спалохаліся, што Чырвоная Армія абыдзецца без іх»,— таўхануў мяне пад бок Самохін.

— Чакаецца высадка дэсанта. У тым ліку і французскіх войск,— гаварыў далей Жан.— Магчыма, гэта адбудзецца ў раёне горада Бардо. Задача партызанаў — атакаваць гарнізоны ўсіх прыморскіх гарадоў, памагчы дэсанту ўмацавацца. Перамога над фашызмам блізка. Чырвоная Армія разграміла гітлераўцаў пад Сталінградам, Курскам і Арлом, часткова вызваліла Беларусь, Украіну...

— Што я казаў, хлопцы? — усклікнуў Васіль.

— Віва Чырвоная Армія! — пазнаў я голас Любаміра.

— Віва! Віва! — сцішана, але дружна выгукнулі мы.

Радасная вестка так усхвалявала ўсіх, што некаторыя заспявалі «Інтэрнацыянал». Песню падхапілі, і вось ужо сотня галасоў, прыцішаных, але поўных унутранай моцы, рашучасці і мужнасці, злілася ў магутны хор. Камарад Жан спрабаваў супакоіць партызанаў, але твар у самога сяціўся ад радасці, і ён таксама падпяваў. Словы былі розныя: французскія, рускія, іспанскія, нямецкія, чэшскія, але мелодыя была адна, непадзельная, і было адзінае разуменне пралетарскага гімна:

Паўстань, пракляццем катаваны!
Паўстань, хто з голаду век пух!
Бурліць наш розум ўзбунтаваны,
Няволі кліча рваць ланцуг! [1]

Нібы маланка высвеціла ўспамін: палянка ў белым бярэзніку, купка хлопцаў і дзяўчат з маёй вёскі, Антось выступае з палымянай прамовай, а потым усе спяваем «Інтэрнацыянал». Дзе вы, сябры майго далёкага юнацтва? Лёс толькі аднаго — няўрымслівага жыццялюба Стася — быў мне вядомы. А ці жывыя астатнія? Шаснаццаць год... Шаснаццаць бясконцых бурлівых гадоў прамінула з часу расстання з радзімай. Можа, скора сустрэнемся з імі? Мая родная Беларусь ужо вось-вось будзе вызвалена ад фашысцкай навалы. Толькі б дачакацца перамогі! Толькі б вярнуцца на радзіму.

## X

Дні праз тры я чысціў у сваім пакоі пісталет. Страляць з яго ні разу не даводзілася, хоць і хацелася паспрабаваць, але патронаў было ўсяго пяць. Праўда, Жора тады запэўніў, што б'е пісталет добра. На будоўлю я ўжо не хадзіў — другую ноч базу бамбілі самалёты саюзнікаў. Па ўсім было відно, што наступленне пачнецца скора.

Раптам у дзверы пастукалі. Я падумаў, што гэта гаспадыня, схаваў пісталет у кішэню, спытаў: «Хто там?» — «Гэта я... Піляр».

«Нешта здарылася, раз яна прыйшла»,— прамільгнула думка. Я адчыніў дзверы — побач з Піляр стаяў Хуан, абое былі ўзрушаныя.

---

[1] Пераклад Я. Купалы.

— Поль, саюзнікі высадзіліся ў Нармандыі,— забыўшыся прывітацца, сказала Піляр.

— Немцы драпаюць з горада. На базе субмарын іх ужо няма,— дадаў Хуан.

— Збірайся, Поль. Нас чакаюць,— Піляр нецярпліва зірнула на гадзіннік.

А што мне збірацца? Я заўсёды гатовы, як піянер. Хуценька апрануўся, і мы пайшлі. Наперадзе крочыў Хуан, а мы з Піляр назіркам за ім. Зайшлі на ўскраек горада — тут я ніколі не быў. Прамінулі пустэчу, парослую чарнобылем, дзядоўнікам, павярнулі ў вузкі правулак, потым на двор, абнесены высокай дашчатай агароджай. Мусіць, некалі тут быў драўляны склад: сямтам ляжала бярвенне, штабялі дроў, гнілыя скрынкі, ґурбы пілавіння. У двары сустрэў нас чарнагаловы падлетак. Хуан паляпаў яго на плячы.

— Стаіш на варце? Ну, глядзі пільна...

Хлопец паказаў на вялізны, як стадола, хлеў. Там было чалавек дваццаць мужчын і маладых жанчын. У некаторых мелася зброя: у каго нямецкі аўтамат, у каго паляўнічая стрэльба.

— Салют, камарадас,— з купкі людзей выйшаў Жан.— Мы вас чакаем.

— Гэта я вінавата. Мае спадарожнікі гатовы былі бегчы, але я не паспявала. Даруйце,— чамусьці пачала апраўдвацца Піляр.

— Ну, што вы, мілая Піляр. Вы не спазніліся. Зараз павінен падысці атрад макі. Мы далучымся да яго. Наша задача — захапіць тэлеграф, вакзал, вызваліць з турмы зняволеных.

— А разведку ў горад паслалі? — спытаў я.

— Адразу відзён бывалы вайсковец,— усміхнуўся Жан.— Паслалі. Калі атрад прыйдзе раней, то чакаць яе не будзем.

У горадзе чуліся стрэлы. З боку базы субмарын даносіўся трэск аўтаматаў, дзесьці далей бухалі гарматы ці то разрываліся бомбы. Усе стаялі прыціхлыя, узрушаныя. Чакалі партызанаў, непакоіліся, што доўга няма разведчыкаў. Нарэшце пачуліся галасы: «Разведка вярнулася». Пажылы, добра апрануты, але з няголеным падбароддзем мужчына і маладзенькая, з прыгожымі цёмнымі вачанятамі дзяўчына — відаць, ягоная дачка — падышлі да таварыша Жана.

Разведчык расказаў, што немцы ўцякаюць з горада. Каля тэлеграфа праехалі дзве машыны гітлераўцаў і пакіравалі ў бок моста цераз Гарону. У будынак тэлеграфа ніхто не заходзіў і не выходзіў, турма зачынена, варты не відаць.

— Значыць, немцы драпаюць. А па дарозе іх, мабыць, перастрэлі партызаны. Таму і позніцца атрад. Трэба дзейнічаць,— рашуча сказаў камарад Жан.— Слухайце маю каманду. Мы раздзелімся на дзве групы. Адна пойдзе са мной, другой будзе камандаваць камарад Поль.

Жан адабраў сабе дванаццаць чалавек, аднаго з аўтаматам, астатнія з пісталетамі, гэтулькі ж людзей — Піляр і Хуан сярод іх — засталося ў маёй групе. Пастроілі па тры чалавекі, выйшлі на вуліцу. З пісталетам у руках я ішоў наперадзе сваёй групы.

Убачыўшы ўзброеных людзей, жыхары выходзілі на вуліцы, махалі нам рукамі, доўга глядзелі ўслед. Не даходзячы да цэнтра горада, мы сустрэліся з групай партызанаў. Я здзівіўся і ўзрадаваўся, калі ўбачыў сярод іх Самохіна, Францішака і Любаміра.

— Камарад Жан! Атрад макі прыбыў у ваша распараджэнне. Камандзір атрада Самохін,— па-французску адрапартаваў Міхаіл.

— Ну і малайцы! А то мы зачакаліся. Дай абняць цябе, камарад Самохін,— барадаты Жан сціснуў у абдымках партызанскага камандзіра.

Партызаны былі ўзброеныя аўтаматамі, ва ўсіх ля рамянёў віселі гранаты.

— Мы б даўно прыйшлі. Але сустрэлі па дарозе фрыцаў... Пакуль з імі разлічыліся. Больш за сотню палонных узялі. Дзве машыны спраўныя. Гармату адбілі...

— Ого, добрыя трафеі. Страты ёсць? — спытаў Жан.

Самохін спахмурнеў, мацней сціснуў аўтамат.

— Загінула чацвёра нашых... І камарад Васіль...

— Што? — рвануўся я да Самохіна.— Васіль загінуў? Дзе? Ты бачыў?

— На маіх руках сканаў,— Самохін сцягнуў з галавы берэт.

Не хацелася верыць вушам. Васіль, з якім прайшлі ўсю Іспанію, вынеслі пакуты канцлагера, загінуў перад самым вызваленнем.

— Вельмі шкада нашых баявых сяброў. Мы адпомсцім за іх смерць, камарадас. Наперад! — скамандаваў Жан.

Тэлеграф узялі без адзінага стрэлу. Служачыя сустрэлі нас даволі прыхільна. Камандзір загадаў ім заставацца на сваіх месцах і працаваць. Для аховы пакінулі дзесятак партызанаў і рушылі далей да турмы. Уваходныя дзверы яе, абабітыя жалезам, былі зачынены. На стрэлы і крыкі ніхто не адгукнуўся. Прыцягнулі аднекуль бервяно, выламалі дзверы, уварваліся на тэрыторыю турмы. У камерах чуліся крыкі, шум. Варты нідзе не было відно. Аказваецца, вартаўнікі збеглі, вязні двое сутак не мелі ні вады, ні ежы.

Турма была забіта зняволенымі, справы якіх знаходзіліся яшчэ ў гестапа. Ніколі не забуду, як мы выбілі дзверы адной з камер, насустрач са слязамі кінуліся нявольнікі. Жанчына з грудным дзіцем прыхінулася да мяне. Я ўзяў на рукі малое, а ягоная маці ашчаперыла мяне за шыю і пачала цалаваць, як мужа ці брата. Слёзы руччом ліліся ў яе з вачэй. І я сам, нібы малы, раззвёў сырасць. Дзіва, мая заскарузлая душа яшчэ была здольная да сантыментаў. Але я быў не адзін такі. Садмохін паціскаў усім рукі, абдымаўся і паўтараў безупынку: «Лібертад, камарад. Лібертад!..» [1] Змахнуў скупую слязу Любамір, плакала, не хаваючыся, Піляр.

Мабыць, не знайшлося ніводнага вызваліцеля, які б не пусціў слязу, не гаворачы пра вязняў, тыя спявалі, цалаваліся і плакалі. Гэта былі святыя слёзы радасці.

Пасля вызвалення зняволеных атрад баявым парадкам рушыў да цэнтра горада, дзе быў прызначаны збор. На шырокай вуліцы, недалёка ад плошчы Гамбеты, насустрач атраду імчаў нямецкі грузавік. Аванпост паспрабаваў яго спыніць, гітлераўцы адказалі аўтаматнымі чэргамі. Тады мы лупянулі ў лоб. І я выпусціў тры кулі па кабіне. Вадзіцель, як мяшок, абвіс на баранцы руля, машына вільнула ўбок, урэзалася ў дрэва. Немцы ўжо не стралялі. Іх абяззброілі, хто мог ісці, таго ўзялі з сабой, параненым загадалі зрабіць перавязку сабе і іншым, пазванілі ў шпіталь, каб выслалі «хуткую дапамогу».

— Мы — гуманісты, не тое, што гітлераўцы,— сказаў камарад Жан.

---

[1] Свабода, таварыш. Свабода!..— *франц.*

У машыне было шмат зброі. Цяпер нават жанчынам выдалі аўтаматы. На хаду я тлумачыў Піляр, як з яго страляць. Яна павярнула ствол угору, націснула на кручок — аўтамат заляскатаў доўгай чаргой. Спалоханая Піляр не аднімала палец, і аўтамат страляў, пакуль не скончыліся патроны.

— Чаму стральба? Што здарылася? — строга спытаў камандзір.

— Камарад Жан, даруйце. Гэта я... Нечакана. Сам аўтамат...— прызналася Піляр.

— Гэта ж вам не дзіцячая цацка. Трэба асцярожней! — але, убачыўшы перапалоханы, разгублены твар сувязной, камандзір памякчэў: — Ладна, Пілі. Будзем лічыць, што гэта першы салют у гонар руху Супраціўлення.

Усе вакол засмяяліся. Піляр таксама павесялела. Я ўзяў яе аўтамат, ускінуў на плячо — ён быў цяжкі, хоць і без патронаў.

Змяркалася, калі наш атрад прыбыў на вуліцу, дзе месціўся галоўны штаб партызанаў. Каля будынка штаба было шумна, тлумна, вакол хадзілі ўзброеныя людзі. Мы прывялі палонных гітлераўцаў, якія звесілі галовы, сцяліся, нібы пабітыя сабакі,— куды падзелася іх славутая пруская ваяўнічасць. Адусюль пачуліся воклічы: «Віва французскі рух Супраціўлення! Віва свабодная Францыя!»

Нас, як і іншых партызанаў, пасялілі ў вялікім доме побач са штабам. Памалу сціхала гамана, усе паснулі, апроч варты. Так прайшла першая ноч у вызваленым Бардо.

Прамінула некалькі дзён, але ў горадзе то ў адным, то ў другім квартале чуліся аўтаматныя чэргі, асобныя стрэлы: партызаны вылоўлівалі гітлераўцаў і паліцаяў, якія не паспелі ўцячы. На ўзбярэжжы, ва ўмацаваным раёне Сан-Вердэн, партызаны акружылі нямецкую групоўку, але фашысты не здаваліся і колькі разоў спрабавалі прарвацца з акружэння. Гэта былі трывожныя, неспакойныя дні, калі вакол яшчэ гінулі людзі. Вайна, як дагараючае вогнішча, усё чадзіла і дыміла.

Неўзабаве мяне выклікалі ў гарком партыі. Што б гэта значыла? Што там скажуць? Гэтыя пытанні не выходзілі з галавы. Я ўвайшоў у кабінет сакратара і здзівіўся: за сталом сядзеў Жан.

— Камарад Поль! — падняўся ён насустрач.— Рады

вас бачыць. Праходзьце, сядайце. Скажыце, вы добра ведаеце польскую мову?

— Як сваю родную — беларускую.

— Дык вы не паляк?

— Не, я беларус.

— Ёсць важная справа. Вам трэба ёй заняцца,— Жан хадзіў па кабінеце і гаварыў, нібы разважаў угалас: — Польскія белаэмігранцкія газеты ўзнялі кампанію супраць Савецкага Саюза. Пішуць усялякае глупства пра Чырвоную Армію, пра паўстанне ў Варшаве. Ёсць думка стварыць польскі Камітэт дапамогі айчыне. Ну, каб даносіць праўду да палякаў-эмігрантаў. Вы згодны працаваць у гэтым камітэце?

— Згодзен. Але што я буду там рабіць?

— Пра гэта вам раскажа таварыш Піляр. Пойдзем да яе.

Мы выйшлі ў калідор, але ў кабінеце зазваніў тэлефон. Жан паказаў пакой Піляр і крутнуўся назад. Дзверы былі прачынены, і я сігануў цераз парог. Піляр сядзела за столікам, на якім было шмат вялікіх і малых аркушыкаў паперы, стос газет і часопісаў, нешта пісала, схіліўшы галаву, нібы першакласніца, і не пачула, як я ўвайшоў.

— Бонжур! — павітаўся я, стоячы ля парога.

— А, Поль! Дзень добры! Прошэ сядаць,— загаварыла яна па-польску, выйшла з-за стала, падала руку. Па звычцы я ад душы моцна пацiснуў яе і, спахапіўшыся, папрасіў прабачэння.

— Нічога. Даўно ведаю, што вы дужы,— усміхнулася Піляр.— Ведаю таксама, што вас накіравалі сюды. А самі б вы, мусіць, і не ўспомнілі пра мяне? Зусім забыліся?

— Даруйце, Піляр. Не было калі,— сказаў я і паглядзеў дзяўчыне ў твар, прыкмеціў, што яна схуднела, падалося, аж носік завастрыўся: відаць, шмат у яе было работы.

— Сядайце бліжэй. Раскажу, што мы павінны рабіць.

У дзверы пастукалі — увайшоў Жан.

— Прабачце, што перапыніў вашу гутарку. Я на хвілінку. Забыў сказаць вам, камарад Поль, што заўтра ў горадзе мітынг і парад. Прысвечаны ён вызваленню Францыі. Трэба арганізаваць калону савецкіх грамадзян. Сярод партызанаў ёсць шмат савецкіх людзей.

Многіх пераправілі вы з Піляр. Трэба паехаць у казармы, адшукаць.

— А чым наша калона будзе адрозніваццa? От, калі б сцяг чырвоны... Але ж яго няма.

— Сцяг? Будзе вам чырвоны сцяг,— Жан засмяяўся, ляпнуў мяне па плячы і выйшаў. Неўзабаве вярнуўся, на хаду вымаючы з чахла вішнёва-чырвоны шаўковы сцяг, акаймаваны залатой аблямоўкай.

Я не верыў сваім вачам: на адным баку палотнішча быў герб Савецкага Саюза, на другім надпіс: «Пролетарии всех стран, соединяйтесь!»

— Дык гэта ж сапраўдны савецкі сцяг! Дзе вы яго ўзялі?

— Гэта цікавая гісторыя, камарад Поль. Перад вайной дэлегацыя рабочых Бардо ездзіла ў Савецкі Саюз. Масквічы падарылі на памяць гэты сцяг. Мы, як бачыце, зберaглі яго. Добры сцяг, Поль. Трымайце!

Дрыжачымі ад хвалявання рукамі ўзяўся я за дрэўка, нахіліўся і пацалаваў чырвонае палотнішча.

— Едзьце, Поль, у казарму. Шукайце землякоў,— сказаў Жан.— З Піляр пагаворыце потым.

Не марнуючы часу, я адразу памчаў у казарму. Дзяжурны афіцэр уважліва агледзеў мой пропуск, паказаў, дзе знаходзіцца камендант.

Выслухаўшы мяне, камендант выклікаў пасыльнага і загадаў прывесці партызанаў — савецкіх грамадзян. Чакаць давялося нядоўга. Праз акно я ўбачыў групу людзей, якіх вёў пасыльны. Здалёк я пазнаў Францішака, Самохіна, астатнія, мусіць, былі хлопцы з ягонай пяцёркі. Я сказаў каменданту, што хачу сустрэць сваіх таварышаў, той не пярэчыў. У імгненне вока я выбег на двор і кінуўся да хлопцаў. Спалоханы пасыльны адскочыў убок, а я абняў і пацалаваў Францішака, тройчы, як прынята спакон веку на Русі, пацалаваўся з Самохіным, абняў кожнага з хлопцаў і тут жа расказаў ім пра ўсё.

— Дык нас жа і прывезлі на парад. А так бы яшчэ загаралі пад Сан-Вердэнам. Любамір застаўся там... Францішак прыехаў з групай чэхаў. Ён у нас за галоўнага перакладчыка. На ўсіх мовах чэша,— свяціўся ад радасці Самохін.

— Поль ведае болей, чым я. І рускую, і беларускую. Так што, browкі, я перадаю свае функцыі яму... Праўда, французскую ён зубрыў не без маёй дапамогі. Помніш?

Мы зноў абняліся, але часу на ўспаміны было замала. Дамовіліся, што хлопцы збяруць усіх нашых, хто тут ёсць, падрыхтуюцца, а я раніцай прыеду з савецкім сцягам, і мы пойдзем на парад.

Мітынг адбыўся на гарадскім стадыёне, які да адказу запоўнілі людзі. Перад трыбунай цесным строем стаялі партызаны і падпольшчыкі Бардо. Гараджане сабраліся, каб урачыста адсвяткаваць дзень вызвалення Францыі ад нямецкіх захопнікаў. Адзін за адным выступаюць прамоўцы. Потым падняўся на трыбуну камарад Жан. Ён сказаў, што Камуністычная партыя Францыі з першых дзён гітлераўскага нашэсця паднімала народ на барацьбу з ворагам, сілы Супраціўлення вызвалілі большую частку тэрыторыі краіны, авалодалі Парыжам.

— Тысячы лепшых сыноў і дачок Францыі,— гаварыў Жан,— загінулі ў няроўным баі. Поплеч з імі змагаліся сотні антыфашыстаў іншых нацыянальнасцей: рускіх, іспанцаў, чэхаў, палякаў. Многія з іх аддалі сваё жыццё за свабоду Францыі. Прашу ўсіх прысутных ушанаваць іх памяць хвілінай маўчання...

У адзіным парыве падняліся людзі. Цішыня спусцілася над вялізнай чашай стадыёна. Нехта выпусціў двух галубоў, лапочучы крыламі, яны зрабілі круг над стадыёнам і зніклі ў засені дрэў. Усе быццам сачылі за палётам галубоў, бо як яны схаваліся, людзі паселі на свае месцы, таварыш Жан гаварыў далей:

— Дзякуючы мужнасці і гераізму савецкіх людзей, мужнасці і гераізму Чырвонай Арміі, злейшы вораг чалавецтва — гітлераўская Германія будзе разгромлена. Народы Еўропы будуць вызвалены ад фашысцкага рабства...

Мітынг закончыўся. Перад трыбунай строем праходзілі калоны партызанаў. Наша калона рухалася ўслед за французскай. З чырвоным сцягам я ішоў наперадзе. Калі стаялі, здаецца, не было ветру, а як пайшлі — падзьмуў вецер, палотнішча сцяга трапяталася, нібы вялізная крылатая птушка.

Прамільгнуў успамін, як ішлі мы з Хуанітай на дэманстрацыі ў Буэнас-Айрэсе, прыгадалася першамайская сходка ў белым бярэзніку на радзіме. Калі наша калона параўнялася з трыбунай, пачуліся воклічы: «Він ля Унієн Савецік! Він ля Арме Руж!» («Няхай жыве Савецкі Саюз! Няхай жыве Чырвоная Армія!»). Пасля

воклічаў, як абвал у гарах, грымнула авацыя. Шматтысячны стадыён апладзіраваў нам, грамадзянам Савецкай краіны. Маё сэрца было перапоўнена гонарам і радасцю. Даўно я не быў такі шчаслівы, як у той дзень, несучы ў руках чырвоны савецкі сцяг.

## XI

Польскі Камітэт дапамогі айчыне распачынаў шырокую дзейнасць. Піляр засыпала мяне даручэннямі. У Бардо я амаль не стыкаўся, калясіў па дарогах дэпартамента Жыронда, знаёміўся з палякамі, якія жылі ў прыгарадах, пасёлках. Запрашаў іх заходзіць у камітэт, там можна пачытаць польскія газеты і часопісы, сустрэцца са сваімі суайчыннікамі. Мы наладжвалі танцавальныя вечары, канцэрты, і неўзабаве камітэт стаў папулярны сярод маладых польскіх эмігрантаў.

Пасля выгнання гітлераўцаў з французскай тэрыторыі партызаны разыходзіліся па дамах, ад'язджалі на радзіму. У горад прыехала багата маіх «хрэснікаў» з тых пяцёрак, што я перапраўляў у атрад.

Аднаго дня мы з Піляр былі ў камітэце, як зазваніў тэлефон.

— Гэта вас, Поль,— Піляр падала мне трубку.

Званіў Самохін, сказаў, што ён, а разам з ім Францішак і Любамір, хочуць зайсці да мяне. Я з радасцю запрасіў іх.

— Я вам зайздрошчу, Поль. У вас гэтулькі сяброў,— уздыхнула Піляр.— А што ваша нявеста? Няма пісьмаў?

— Няма. Ніводнага не атрымаў.

— Гэта балюча перажываць, Поль. Я разумею... Заставайцеся тут,— яна падышла бліжэй, узяла мяне за руку, быццам хацела затрымаць.— Я зраблю ўсё для вас, што ў маіх сілах. Я таксама адзінокая. Давайце жыць разам...

Што я мог адказаць? Я паважаў яе, яна падабалася мне як чалавек, як таварыш, але ніколі не думаў пра яе як пра сваю жонку. Яна не магла замяніць Хуаніту, адзіную маю любоў. І я не траціў надзеі адшукаць Хуаніту.

— Мілая Піляр. Дзякуй за ўсё. Я вельмі ўдзячны вам... Але не магу застацца тут. Хачу дамоў, на радзіму. Я тут загіну ад настальгіі...

— Я таксама сумую па радзіме. Дарэчы, мяне завуць Зося. Піляр — гэта падпольная клічка. У Варшаве жывуць мае бацькі... Паедзем у Польшчу. Добра? — Піляр пазірала мне ў вочы, быццам шукала ў іх адказу.

— Не ведаю,— я пацалаваў тонкую, лёгкую і такую мужную руку гэтай незвычайнай жанчыны.

Колькі на свеце добрых, прыгожых, разумных і светлых людзей! І як рэдка яны бываюць шчаслівыя. Мабыць, таму, што абывацельскі мінімум — есці, спаць і размнажацца — іх не можа задаволіць. Яны гатовы аддаць жыццё за справядлівасць, за свабоду чужой краіны, бо для іх не існуе чужых краін і народаў. І хоць не заўсёды шчаслівыя гэтыя людзі ў звычайным чалавечым разуменні, але заўсёды маладыя душой, бо толькі маладая душа не можа ці не ўмее мірыцца з несправядлівасцю, уціскам, яна прагне волі, прыгажосці, сапраўднага кахання.

Рашучы стук у дзверы перапыніў мае думкі. У пакой увайшлі Самохін, Францішак і Любамір, усе вясёлыя, узрушаныя. У невялікім кабінеціку адразу зрабілася цесна і тлумна.

— Ці ведаеш ты, Поль, навіну? — ледзь не з парога спытаў Францішак.

— Што за навіна? — перапытаў я.

— Не ведаеш? Ха! Дык што ж ты тады ведаеш? — ляпнуў мяне па плячы Любамір.— Самохін ордэн атрымаў. Ну, паказвай! — Любамір адвярнуў крысо самохінскага плашча.— Бачыш? Крыж славы і доблесці! — з гонарам і радасцю, нібы гэта і яго ордэн, гаварыў Любамір.

— Што вы, хлопцы, распранаеце мяне? Перад жанчынай сорамна,— каб прыхаваць сваю сапраўдную сарамяжлівасць, пажартаваў Самохін.

— Які тут сорам? Камарад Самохін, ганарыцца трэба. Гэта вельмі высокая ўзнагарода Францыі. І вы яе заслужылі,— у голасе Піляр пачуліся павага і захапленне.

— Першую пяцёрку ўцекачоў арганізаваў. Віншую, браток, з узнагародай,— я моцна паціснуў руку Самохіну.

— У атрадзе быў самы храбры,— дадаў Францішак.

— Карацей, трэба гэта дзела замачыць,— Любамір выцягнуў з-пад плашча пляшку шампанскага.— Хацеў

бы я вас пачаставаць балгарскім віном. Прыязджайце пасля вайны... А пакуль што вып'ем французскага.

Піляр прынесла бакалы, і вось ужо запенілася залацістае віно.

— Замочваць дык замочваць! Здымай, браце, свой ордэн — і ў бакал,— сказаў я.

— Ай, навошта гэта, хлопцы? Не трэба,— аднекваўся Самохін.

— Трэба. Такі звычай,— Піляр адшпіліла ордэн, апусціла яго ў бакал.— За вашу доблесць, камарад Самохін.

— За доблесць і прыгажосць! — падняў бакал Францішак і чокнуўся з Піляр.

— Вып'ем за перамогу,— з хваляваннем сказаў Самохін.

— І за вяртанне на радзіму,— дадаў Любамір.

— Ото, праўда. Хутчэй бы дамоў,— не стрываў я. Мабыць, мае словы прагучалі дужа сумна, бо ўсе павярнуліся да мяне.

— Не сумуй, Паўлюк. Паедзем разам з намі.— Самохін чокнуўся з усімі, адным духам асушыў бакал.— Мы збіраемся ў Парыж, адтуль у Лондан — і дахаты.

— У мяне ж няма дакументаў. Толькі паперка з савецкага пасольства. Перад вайной атрымаў.

— Дакументы будуць. Была б галава,— весела сказаў Францішак.

— Паедзем, братушка. Там будзе відаць,— угаворваў Любамір.

— Канечне, Поль. Трэба ехаць. Што цябе тут трымае? — падступіў бліжэй да мяне Францішак.

Я перахапіў пільны позірк Піляр, тая адвяла вочы, ціха сказала:

— У кожнага з нас ёсць свая радзіма. І кожнаму хочацца хутчэй дамоў. Але тут яшчэ багата спраў. У сярэдзіне снежня ў Парыжы адбудзецца з'езд прадстаўнікоў польскіх арганізацый. Камарад Поль абраны дэлегатам.

Самохін з Любамірам пераглянуліся, маўляў, не з'езд тут трымае, а жаночая спадніца. Каб рассеяць іх падазрэнні і даказаць, што не трапіў пад абцасік гэтай прывабнай і прыгожай жанчыны, я сказаў:

— Так, хлопцы, пакуль што не выпадае... У Парыжы завітаю ў савецкае пасольства, разведаю, што і як. І ў аргенцінскае пасольства трэба...

— А яна піша? — спытаў Любамір.

— Мабыць, не даходзяць яе лісты,— паціснуў я плячыма.

— Відаць, не даходзяць... Яна вельмі дапамагла нам, калі мы былі ў лагеры. Шукай яе, Поль. Знойдзеш,— запэўніў Францішак.

— Канечне, чалавек не іголка,— сказаў Самохін, але распытваць, хто такая **яна**, не стаў.— Ну, што ж, Паша, як будзе вяселле — запрашай. Прыеду ў Беларусь. Вось табе мой адрасок...

Мы ўсе абмяняліся адрасамі. Піляр прышпіліла Самохіну ордэн, той зноў зачырванеўся, разгубіўся ад увагі. Каб загладзіць няёмкасць моманту, я сказаў:

— Ну, браткі, цяпер мне толькі раз'язджаць у госці. Ленінград, Сафія, Браціслава...

Піляр уздыхнула і сказала, што гэта вельмі добра, калі ў чалавека ёсць сябры. У голасе яе пачулася такая самота і скруха, што мы ўсе адразу змоўклі.

— А можна вам напісаць, Піляр? Мы ж суседзі. Я троху разумею па-польску,— сказаў Францішак.

— Калі ласка. Буду вельмі рада атрымаць ад вас вестку. Нам і пасля вайны трэба помніць нашу дружбу...

Францішак расцвіў ад усмешкі, а ў мяне варухнулася нешта ў душы, і гэтае пачуццё, гэтае «нешта» было вельмі падобнае на звычайную рэўнасць. А калі Францішак пацалаваў руку Піляр і сказаў, што абавязкова напіша, я адчуў самы сапраўдны прыступ рэўнасці. Не так, як некалі раўнаваў Хуаніту да Раберта — тады я ведаў, што Раберта — падлюга і мярзотнік, Хуаніта яго ненавідзіць, а Францішак — малады, адукаваны, не тое, што я. Любая жанчына палічыла б за гонар мець такога мужа. І мусіць, каб ніхто не здагадаўся пра мае думкі і каб адагнаць іх, я сказаў:

— Вярнуся дамоў, адразу паеду ў Гомель. Ёсць такі горад у Беларусі. Там жыве маці камісара Тамашэвіча, жонка яго там, сын... Камісар прасіў аб гэтым. Ён загінуў у Іспаніі...

— Абавязкова з'ездзі, Паша. Знайдзі яго сям'ю. Гэта святы абавязак,— голас Самохіна прагучаў ціха і стрымана, але ад ягоных слоў нешта сціснула сэрца.— Ну, бывай, браток. Да сустрэчы. Не забудзь на вяселле запрасіць!

Піляр пацалавала ўсіх трох. Я хацеў іх правесці, але хлопцы дружна запярэчылі, бо ім трэба спяшацца, перад ад'ездам шмат розных спраў. Разам з імі я спусціўся ўніз. На вуліцы мы моцна абняліся. Яны пайшлі. А я доўга глядзеў ім услед. Яшчэ адно развітанне з добрымі людзьмі — і магчыма — назаўсёды. Колькі было ў мяне такіх расстанняў! Хоць для нас і скончылася вайна, але невядома, каго куды закіне лёс і дзе хто знойдзе свой дом. Маленькі і круглы, бы качан капусты, глобус, а Зямля вялікая, падзеленая межамі, пагранічнымі кардонамі, рэкамі і акіянамі, моўнымі бар'ерамі і рознымі забаронамі.

Самохін, Францішак, Любамір схаваліся за павароткай, а я ўсё стаяў слупам. Стрэнуся з імі ці не, у сэрцы яны будуць заўсёды.

У сярэдзіне снежня Піляр і я паехалі ў Парыж на з'езд польскіх арганізацый. Гаворка там ішла пра будучыню Польшчы, якой яна павінна стаць пасля вайны. Большасць дэлегатаў падтрымала Часовы польскі ўрад, створаны ў Любліне.

Мне карцела хутчэй трапіць у савецкае пасольства. З вялікім хваляваннем увайшоў у будынак, над якім палымнеў чырвоны сцяг. Прыняў мяне лысаваты мужчына ў смокінгу, саветнік Арлоў. Я сказаў, што нарадзіўся ў Заходняй Беларусі, жыў у Аргенціне, потым у Іспаніі. Словам, усё расказаў і падаў саветніку пажаўцелую падклееную паперчыну. Дыпламат надзеў акуляры, доўга чытаў яе, разглядаў, быццам не верыў сваім вачам, потым уважліва зірнуў на мяне.

— Як жа вы яе збераглі? Гэтулькі гадоў! У такіх вы былі пераплётах...

— Зберагаў гэтую паперу, як жыццё. Загінуў бы я, загінула б і яна...

— Ну што ж, вы паедзеце на радзіму, у СССР. Але пакуль што мы не маем наконт гэтага ніякага ўказання. Нават пашпартоў не маем. Пачакайце з месяц. Я думаю, усё будзе добра.

— І яшчэ хачу спытаць. Можна?

— Калі ласка, слухаю вас,— у ветлівым паклоне схіліў галаву саветнік.

— У мяне ёсць таварыш. Таксама беларус, а жонка — з Аргенціны. Ці можа ён паехаць з жонкай у Савецкі Саюз?

— Калі ваш таварыш атрымае савецкае грамадзян-

ства, пашпарт, то ўсё гэта атрымае і яго жонка. Яны разам змогуць паехаць у Беларусь.

— Дзякуй вам. Вялікі дзякуй.

— Няма за што,— усміхнуўся саветнік, падаў руку.— Чакаю вас праз месяц... таксама з жонкай.

От гэтыя дыпламаты! Мусіць, Арлоў адразу змікіціў, што не таварыш, а я сам хачу ехаць у СССР з жонкай-аргенцінкай. Зрэшты, хай сабе здагадваецца, галоўнае — можна ехаць!

Не помнячы сябе ад радасці, выйшаў я на вуліцу, хмурны снежаньскі дзень падаўся мне святлейшым, чым маёвы ці летні, чэрвеньскі, бо ў душы ў мяне была вясна і расцвіталі ружы. Душа спявала ад вялікай радасці. Вы паедзеце на радзіму... Гэтыя словы, як звон, стаялі ўвушшу. Я кінуўся шукаць аргенцінскае пасольства, знайшоў, мяне выслухалі і сказалі, што росшукамі не займаюцца, параілі напісаць у адраснае бюро Буэнас-Айрэса. Распытаўшы, як гэта зрабіць, у той жа дзень адаслаў запытанне ў Аргенціну.

Па дарозе ў гасцініцу купіў швейцарскі гадзіннік «Анкер», аддаў тры тысячы франкаў, бо даўно мяне мучыла думка, што не магу вярнуць Піляр яе гадзіннік. Я аддаваў, а яна не брала, маўляў, калі купіце сабе другі, тады аддасцё. І вось цяпер я магу гэта зрабіць.

— Дзе вы былі так доўга? — накінулася на мяне Піляр.— З самага рання. Я ўжо думала, што вы паехалі ў Бардо, а мяне пакінулі. Гаварыце, дзе вы былі? — строгасць і прыхаваная радасць пачуліся ў голасе Піляр.

Давялося расказаць ёй усё.

— Значыць, вы скора паедзеце... Паслухайце, Поль... Калі вам спатрэбіцца мая дапамога, грошы ці яшчэ што... Разлічвайце на мяне... Я ўсё зраблю, што змагу...

— Дзякуй, мілая Піляр. Я вам і так шмат чым абавязаны. О, нарэшце магу вам вярнуць ваш гадзіннік... Я купіў сабе...

— Хай ён будзе вам на памяць. Ён не дужа малы. Такія носяць і мужчыны. Часцей будзеце ўспамінаць мяне...

— Дзякуй, Піляр. Вазьміце тады гэта... Ад мяне...

Піляр узяла гадзіннік, разглядала яго, як дзіця любуецца новаю цацкай.

— О, як імчыць секундная стрэлка... Здаецца, я адчуваю, як мінае час... І гэтыя хвіліны ніколі ўжо не вернуцца... Мне здаецца, Поль, што ведаю вас вельмі даўно... Вы не такі, як іншыя... Добрае ў вас імя. Запомнілася, як Самохін вас назваў — Па-ша. Чаму вы не завяце мяне Зосяй? Мы ж ужо не падпольшчыкі.

— Не прывык. Цяпер — буду. Добра, Зося?

— Добра, Паша. Вы скора паедзеце... Я хачу сказаць... Толькі зразумейце мяне правільна. Сем гадоў прайшло. Для жанчыны — гэта вельмі доўга. Мы старэем хутчэй... Калі ваша нявеста... Ну, магла ж яна выйсці замуж?! Жыццё ёсць жыццё. Магло нешта здарыцца... Помніце, што я люблю вас, Паша. Хачу вас пацалаваць... Без усялякай канспірацыі...

Зося падышла да мяне і тройчы пацалавала. У мяне аж галава закружылася. Мне хацелася застацца аднаму, бо трэ было пісаць ліст Хуаніце, але Зося нечага марудзіла, не выходзіла.

— А вы паедзеце ў Польшчу? — спытаў я.

— Так. Хоць я не ведаю, ці чакае мяне хто там. Ці жывыя бацькі?.. Давялося беднай Зосі паблукаць па свеце. А што яшчэ наперадзе? Невядома. Ой, не буду вам галаву дурыць. Дабранач!

— Дабранач, Зося,— я ціха зачыніў за ёй дзверы і адразу — да стала.

«Мілая Хуаніта! — пісаў я.— Ужо сем гадоў, як мы рассталіся з табой. Я не атрымаў ніводнай весткі, але забыць цябе не змог. Ты, канечне, перамянілася за гэты час. І я ўжо не той. Мяне жорстка калашмаціла жыццё. Сем разоў быў на валасінцы ад смерці, але застаўся жывы. Вядома, трохі пастарэў, але ў душы я такі ж, якім і быў. Толькі яшчэ болей узненавідзеў нашых агульных ворагаў, якія адабралі ў нас шчасце. Цяпер я магу вярнуцца на радзіму. Калі ты можаш і жадаеш, я зраблю ўсё, каб выклікаць цябе ў Парыж. І мы паедзем у краіну, якая дарагая і блізкая для ўсіх простых людзей свету... Пішы хутчэй. Чакаю. Помню цябе і ніколі не забуду. Павел».

## XII

Надыходзіў новы, 1945 год. Набліжалася вялікая перамога над фашызмам. У камітэце вырашылі наладзіць навагодні баль-маскарад. Я прапанаваў паставіць ёлку.

Некаторыя пярэчылі, маўляў, гэтага ніколі не рабілі тут, і калі людзей збярэцца мала, мы не разлічымся: вечар меркаваўся па білетах, выручка — на карысць дзяцей-сірот, чые бацькі загінулі ў Польшчы ў засценках гестапа. Зося-Піляр (ніяк не мог прывыкнуць, што яна Зося) падтрымала мяне. Прывезлі з Пірэнеяў ёлку. Разаслалі больш сотні запрашэнняў палякам, якія жылі ў Бардо і наваколлі.

Можа, болей за ўсіх перад вечарам хваляваўся я: а калі ніхто не прыйдзе? Чым заплаціць музыкантам? За дастаўку ёлкі, за цацкі? Кожная папяровая гірлянда і тая нешта каштуе. Усё было падрыхтавана. Я выйшаў на вуліцу і, як маятнік, хадзіў ля дома, каб здалёк убачыць жаданых гасцей. Горад зіхацеў агнямі, купкамі хадзілі людзі, але ўсё міма. Нарэшце пачулася польская мова: чалавек дзесяць хлопцаў і дзяўчат павярнулі да асветленага ўваходу ў нашу залу. Услед за імі яшчэ некалькі хлопцаў, якія гаварылі па-французску. Неўзабаве ля ўваходу сабраўся цэлы натоўп: касіркі не паспявалі прадаваць білеты.

Гаварылі нашы госці не толькі па-польску і па-французску — вакол чулася іспанская гаворка, энергічная адрывістая англійская. Зала была паўнюткая, і я захваляваўся яшчэ болей, але ўжо не за выручку, а за поспех вечара: хацелася, каб усім спадабалася наша задума. Страх ахапіў мяне: трэба выступаць з прамовай і гаварыць па-польску, а перад такой вялікай аўдыторыяй ні разу не выступаў.

Пасярод залы высілася прыгожая ёлка. На галінках яе віселі рознакаляровыя шары, лямпачкі, гірлянды. Грала музыка, кружыліся пары. Таямніча гарэлі свечкі, па-хатняму ўтульна пахла воскам і хвояй. За сцэнай я ўбачыў Зосю. Яна была ў доўгім вячэрнім плацці з чорнага аксаміту, з вялікім дэкальтэ — ад да самага раўчука між грудзей. «Якая ты прыгожая, Зося»,— падумаў я, але нічога не сказаў.

— Павел, паглядзіце, што робіцца! Паўнюткая зала людзей! — Зося сціснула маю руку.

— Яны ж такога дзіва зроду не бачылі,— усміхнуўся я, хоць ногі трэсліся ў каленях, калі думаў, як буду выступаць.

Зося, мабыць, адчула маё хваляванне, пачала супакойваць:

— Усё будзе добра, Павел. Як здорава мы прыдумалі! — радавалася яна.

Роўна апоўначы Зося выйшла на сцэну, павіншавала ўсіх з Новым годам і аб'явіла:

— Зараз перад вамі выступіць таварыш Поль. Ён змагаўся добраахвотнікам у брыгадзе імя Яраслава Дамброўскага ў Іспаніі. Таварыш Поль — актыўны ўдзельнік французскага Супраціўлення ў нашым горадзе...

Не памятаю, як апынуўся на сцэне. Воплескі ў зале чамусьці нагадалі трэск аўтаматных стрэлаў. На мяне глядзелі сотні вачэй, глядзелі з цікавасцю і чаканнем. А я стаяў і маўчаў: у роце ўсё перасохла, язык быццам прырос да нёба. Здавалася, ведаю, пра што трэба сказаць, наслухаўся на з'ездзе ў Парыжы, яшчэ помнілася дыскусія ў лагеры, калі падпісвалі мемарандум польскаму ўраду, а тут раптам усё вылецела з галавы. Я таксама павіншаваў гасцей з Новым годам, пажадаў усяго найлепшага і загаварыў пра з'езд польскіх арганізацый, што дэлегатаў было там амаль паўтысячы,— людзі розных палітычных і рэлігійных поглядаў і перакананняў, што прамоўцы болей за ўсё гаварылі пра будучыню Польшчы.

— Якой будзе Польшча? Гэтае пытанне цяпер хвалюе кожнага паляка. Вось таму на з'ездзе ў Парыжы, гэтак далёка ад радзімы, усе дэлегаты былі заклапочаны лёсам сваёй айчыны. Вы ведаеце, якой была наша Польшча да вайны. Хто нас прымусіў пакінуць радзіму, родных і блізкіх сэрцу людзей? Хто прымусіў ехаць на край свету ў пошуках кавалка хлеба? Няўжо ў Польшчы не было хлеба? Усё было. Але ў той час краінай правілі магнаты, паны і капіталісты. Іх не цікавіла, як жывуць польскі селянін і рабочы. Турмы былі запоўнены людзьмі, якія ўзнімалі голас пратэсту супраць прыгнёту і эксплуатацыі. Вось якая была наша Польшча. Якой яна будзе пасля смяротэльнай барацьбы з гітлераўскімі акупантамі? Пасля пяці гадоў невыносна цяжкога змагання. Польскі народ не дапусціць, каб яму на шыю зноў селі таўстазадыя паны і заводчыкі, якія ў цяжкі час барацьбы з фашызмам кінулі радзіму на глум і здзекі, а самі ўцяклі ў Англію. Наш народ змагаўся і змагаецца за такую Польшчу, аб якой марылі Адам Міцкевіч, Яраслаў Дамброўскі, Фелікс Дзяржынскі...

Маўклівая, прыціхлая, насцярожаная зала раптам

выбухнула громам воплескаў. Я стаяў нібы аглушаны. Але адчуваў, што не сказаў галоўнага, да чаго падвёў, наблізіўся. Счакаўшы, пакуль супакоіцца зала, я загаварыў зноў:

— Нам патрэбна такая Польшча, дзе б кожны селянін мог атрымаць зямлю, якую ён умее абрабіць. Каб кожны рабочы меў права на працу і адпачынак. Каб кожнае польскае дзіцянё мела магчымасць атрымаць адукацыю, да якой яно здатнае. Вось за такую Польшчу змагаўся і змагаецца польскі народ. Пра такую Польшчу гаварылі эмігранты на з'ездзе ў Парыжы. Няхай жыве народная сацыялістычная Польшча!

Гучныя воплескі, воклічы «Нех жые польска людова» пачуліся ў зале. Як ні быў усхваляваны, заўважыў, што апладзіруюць не ўсе. Значыць, былі і такія, каму гэта не падабалася, але іх адзінкі.

— Малайчына, Павел! Аказваецца, вы такі прамоўца! — вочы Зосі ззялі ад радасці. Яна глядзела на мяне, нібы бачыла ўпершыню.— Пойдзем танцаваць.

Я даўно не танцаваў і ўвогуле ў маім жыцці не было месца для скокаў. Зося танцавала лёгка, неяк самааддана, расчырванелася, яна літаральна закружыла мяне — усё навокал расплылося ў адзіную жоўтую пляму, у сярэдзіне якой блішчала агнямі і хісталася ва ўсе бакі ёлка. Стомленыя, мы спыніліся каля ёлкі.

— Я сёння такая шчаслівая,— пачуўся ціхі шэпт Зосі.— Можа, гэты год нарэшце будзе мірны і спакойны.

Я кіўнуў у адказ і пацалаваў халаднаватую і трапяткую Зосьчыну руку.

## XIII

Аднаго дня ў камітэт зайшоў малады, добра апрануты мужчына, у якім я не адразу пазнаў... Самохіна.

— Міхась, я ўжо думаў, ты даўно ў Ленінградзе. А ты яшчэ па Францыі разгульваеш. Мусіць, прыжаніўся тут, га? — жартам спытаў я.

— Ды не, браце, не прыжаніўся. А не шкодзіла б разгавецца...

Увайшла Зося, і мы, як кажуць, перамянілі пласцінку. Самохін сказаў, што яго накіравалі сюды з Парыжа: трэба тут стварыць зборны пункт для савецкіх грамадзян — гэта заданне савецкага ваеннага аташэ.

— Просьба да цябе, Паша. Ты на ўсіх мовах шпрэхаеш. Будзеш перакладчыкам, га? Потым разам паедзем дамоў. З тваім начальствам дамовімся. Як, таварыш Піляр? Не пярэчыце?

— Не пярэчу. Але вам трэба папярэдзіць таварыша Жана. А дзе Францішак, Любамір?

— Засталіся ў Парыжы. Ім абяцалі выдаць пашпарты. Магчыма, яны ўжо дома.

«Яны ўжо дома. А калі я?..» — міжволі мільганула думка.

Зайшлі да Жана. Самохін паказаў паперу з савецкім гербам.

Камарад Жан таксама не пярэчыў, папрасіў, калі будзем ад'язджаць, каб абавязкова зайшлі да яго развітацца, ён арганізуе ўрачыстыя праводзіны і ўсё такое.

Апошнія дні я жыў у напружаным чаканні вестак з Буэнас-Айрэса і з савецкага пасольства. Паездкі з Самохіным па лагерах, пошукі савецкіх людзей забіралі ўвесь час, не было калі забегчы ў камітэт пабачыць Зосю, спытаць, ці ёсць пісьмо, часцей званіў па тэлефоне. Набіраючы нумар, адчуваў, як трапечацца сэрца.

— Пакуль што няма. Не бядуйце, Паша. Усё будзе добра,— супакойвала Зося, прасіла заходзіць, бо яна сумуе без мяне...

Неяк пазваніў і ў адказ пачуў: ёсць пісьмо з Буэнас-Айрэса.

Нібы на крылах, імчаў я ў камітэт. Чаго толькі не перадумаў за тыя паўгадзіны! Сапраўды, што можа быць хутчэй за чалавечую думку! Я ўжо бачыў сябе ў Буэнас-Айрэсе: Хуаніта сустракае мяне, на таксі — чамусьці зноў зялёнага колеру — мы едзем ў горад. Была і такая думка: Хуаніта піша, што яна замужам, у яе ўжо дзеці. Гэтую думку я гнаў прэч.

Найбольш мяне грэла іншая карціна. Хуаніта прыязджае ў Парыж, мы атрымліваем савецкія пашпарты і едзем у Беларусь, у маю вёску. Маці доўга глядзіць на мяне і на Хуаніту і не пазнае мяне. «Мама, гэта ж я, твой Паўлік...» — «Сыночак мой любы! — маці кідаецца мне на шыю, а потым пытаецца: — А што ж гэта за дзяўчына?» — «Гэта мая жонка. Хуаніта. Яна сем гадоў чакала мяне...» — «А матка боска! — перахрысцілася маці.— Мая ж ты дачушка! Мая ж ты гаротніца... Дзякуй табе, мая птушачка. Дачакалася ж ты свайго саколіка...» Я пераказаў матчыны словы Хуаніце па-іспан-

ску. «А што яна — па-нашаму не разумее?» — здзівілася маці. «Нічога. Навучыцца. Я ж па-іхняму навучыўся». Потым уся вёска гуляла на нашым вяселлі. І Пятрок з жонкаю — я не крыўдаваў на яго, сёстры прыйшлі з мужыкамі і дзецьмі. Нас з Хуанітай абсыпалі жытам, далі па чарцы гарэлкі. Нехта закрычаў: «Горка! Горка!» Я шапнуў Хуаніце, што мы павінны ўстаць і пацалавацца, каб соладка пілася гарэлка...

Нарэшце убег у камітэт, выхапіў у Зосі пісьмо, дрыжачымі рукамі разадраў канверт, і першы ж радок, бы вядро сцюдзёнай вады, астудзіў мяне: «Дзень добры, Пабла! Піша табе Энрыке...» Я нібы глытаў радок за радком, пакуль не спатыкнуўся: Хуаніту застрэлілі паліцыянты... У пакоі нібы пацямнела, хоць за акном быў сонечны вясновы дзень. Я стомлена прываліўся да стала і няўцямна зноў чытаў гэты лісток, які ўвачавідкі зрабіўся чорным, як абвугліўся.

— Што здарылася, Павел? Прыедзе? Ці выйшла замуж? — як праз сцяну даляцеў голас Зосі.

— Не, не прыедзе... Яна загінула,— я ашчаперыў галаву і змоўк.

— А хто піша? Можа, няпраўда? — дапытвалася Зося.

— Піша яе брат, Энрыке,— я ўзяў пісьмо, літары скакалі і расплываліся перад вачыма, пачаў чытаць, мусіць, каб яшчэ раз пераканацца ў тым, што напісана: «Увечары шостага лістапада 1942 года Хуаніту застрэлілі паліцыянты, калі яна расклейвала лістоўкі: «Рукі прэч ад Савецкага Саюза». У тую восень мы рыхтаваліся адзначыць 25-ю гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі. Немцы тады стаялі пад Сталінградам, але мы верылі, што фашызм будзе разбіты. Рэакцыя ўсяляк прыцясняла камуністаў...» — я перавёў дых і прастагнаў.— Як я ненавіджу вас, праклятыя жандары! — кулакі міжволі сціснуліся.

— А бацькі яе жывыя? — Зося не хацела пакідаць мяне аднаго.

— Маці яшчэ жыве. Бацька памёр. Ён вельмі сумаваў па радзіме, па сваім Неапалі. Таварыш Мігель — гэта кіраўнік нашай партячэйкі — зноў у турме. Энрыке ажаніўся з Кармэн, сяброўкай Хуаніты. Вось што ён піша: «Прыязджай у госці, будзем рады. У нас расце сын — маленькі Пабліта. Імя далі ў гонар цябе...» Бедная Хуаніта! Усё чакала. Замуж не выходзіла... І загі-

нула за маю радзіму...— слёзы душылі мяне, і ўрэшце я моўчкі заплакаў.

Зося нешта гаварыла, суцяшала, зазваніў тэлефон, яна штосьці адказала і хутка выйшла. Тут я даў волю слязам, але хапіла іх ненадоўга. Перад вачыма ўсплывалі малюнкі жыцця ў Буэнас-Айрэсе, сустрэчы з Хуанітай, першамайская дэманстрацыя, калі мы з ёй неслі плакат: «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!» Як цяпер бачыў: яна смяялася, смуглявы тварык ружавеў ад радасці і хвалявання... Прыгадаліся незабыўныя дні і ночы перад расстаннем. І чамусьці ўвесь час яна паўставала перада мной у белай блузцы з кароткімі рукавамі і чорнай спадніцы, хоць за столькі гадоў, пражытых у Буэнас-Айрэсе, бачыў яе ў розных сукенках і ў кароткім хатнім халаціку — у ім яна была асабліва прывабная і спакуслівая. Згадаў той апошні вечар, калі купаліся ў начным моры ў адзенні Адама і Евы — так захацела Хуаніта...

Увайшла Зося з бутэлькай віна, зірнула на мяне — у яе вачах было столькі спагады і дабрыні,— паставіла віно на стол. Я не зварухнуўся, быццам прыкіпеў да крэсла.

— Паша,— кранула мяне за плячо.— Ну, Паша, нельга так... Вы ж мужчына... Калі я даведалася пра смерць Рычарда, тры дні раўла як бялуга... Хіба паможаш слязьмі, пакутамі? Мне было цяжка. І нікога блізкага побач. Зусім адна... Гэта жудасна. Я не пакіну вас аднаго, Павел... Давайце вып'ем за Хуаніту. Раз вы гэтак яе кахалі, значыць, яна была вартая...

Зося напоўніла бакалы, я падняўся, моўчкі выпіў. Зося ўсё гаварыла і падлівала мне віно. Тым часам ужо і звечарэла. Трэ было ісці. Ля дзвярэй, калі мы наважыліся выходзіць, Зося абняла мяне:

— У вашых грудзях, Павел, б'ецца гарачае, добрае сэрца,— яна мацней прыхінулася, быццам прыслухоўвалася, як тахкае маё сэрца, раптам асцярожна расшпіліла верхнія гузікі кашулі, нібы кашуля замінала ёй слухаць:— О, як б'ецца... Сем гадоў вы... Лепей — ты. Давай будзем на «ты»? Добра? — я моўчкі хітнуў галавой.— Сем гадоў ты насіў у сэрцы Хуаніту. Не здрадзіў ёй. Нават... калі яе ўжо не было...

— Не гавары так,— я моцна сціснуў Зосіны рукі.— Для мяне яна жыве. І будзе жыць заўсёды, пакуль я дыхаю.

— Я любіла свайго Рычарда... Так шкадую, што не засталося дзіцяці... Я была зусім дзяўчо. Такая дурніца... Павел, зразумей, мы павінны жыць і змагацца.Назло ворагам. Гадаваць дзяцей. Хай не думаюць, што знішчылі нас.

— Зося, мілая, прабач. Я хачу пабыць адзін...

...Сустрэліся мы зноў недзе толькі праз месяц. Зося запрасіла да сябе на кватэру...

## XIV

Прачнуўся раніцай у пакоі Зосі, а сама яна спала на маім плячы. Сонца, мусіць, ужо было высока, бо яркае святло прабівалася праз цёмна-зялёныя шторы, і ў маленькім пакойчыку плаваў зеленаваты паўзмрок. І Зосіны валасы, жоўта-залацістыя, як спелая жытняя салома,— цяпер яна не фарбавала іх,— здаваліся зялёнымі, нібы касмылі рачных водарасцяў, і сама яна нагадала нейкую русалку, што выплыла на бераг у часе шторму, і я паіў яе віном — на стале цьмяна паблісквалі дзве бутэлькі, потым прыхінуў да сваіх грудзей, каб не загінула, не задыхнулася, як рыбіна на пяску. Спрасонку нават мільганула думка, што гэта Хуаніта, успомніліся яе голыя плечы, калі мы ляжалі на пляжы пасля купання...

Ад гэтага ўспаміну мяне кінула ў жар, я адхінуў край фіранкі, прамень святла ўпаў на ложак, і я аж здрыгануўся: такі бледны, стомлены быў твар у Зосі, вочы глыбока запалыя, сасмяглыя вусны. Яна расплюшчыла вочы, усміхнулася, і адразу твар яе ажыў, зарумянеўся.

— Хадзі да мяне, любы...— працягнула голыя цёплыя рукі.

Ужо ў яе абдымках успомніў, як ноччу моўчкі лашчыў яе. Яна таксама маўчала, толькі гарачыя губы яе не ведалі зморы і знямогі.

— Даруй, Зося...

— Ну, што ты. Мне так хораша! Каб ты толькі ведаў! — яна пачала мяне цалаваць і ўсё шаптала на вуха ласкавыя і пяшчотныя словы, ад якіх кружылася галава.

— Пачакай,— Зося выбавілася з маіх абдымкаў.— Зірну, ці дома гаспадыня. Можа, кавы зрабіць? Я хуценька...

Зося ўскінула на плечы халацік і выйшла, неўзабаве вярнулася:

— Гаспадыні няма. Але і цукру няма. Ні цукерак. Нічога. Дажылася, Зоська... Затое ў мяне ёсць ты,— яна прысела на ложак, нахілілася нада мной, валасы яе, быццам пеністая лёгкая хваля, закрылі мой твар.

Мы зноў цалаваліся. Зося выліла ў бакалы рэшту віна.

— За шчасце, любы. Мы заслужылі яго. Гэта ўзнагарода за нашае чаканне... Мне таксама было нялёгка... Сёння не хачу ўспамінаць,— яна трасянула галавой, нібы закідвала валасы за плечы.— Сёння Зоська думае толькі пра каханне...— і адным дыхам выпіла ўвесь бакал.

Я таксама выпіў, віно падалося надзвычай прыемным і хмельным: адразу пачулася лёгкасць і бязважкасць. Гледзячы на Зосю, нечакана ўспомніўся Францішак, да якога я быў прыраўнаваў Зосю.

— А табе Францішак не піша? — не вытрываў, каб не спытаць.

— Францішак? Не. Ён яшчэ хлапчанё.

— Добрае хлапчанё. Яму дваццаць пяць год. А колькі ён ужо зведаў гора і ліха...

— Так. Але ж мне ўжо дваццаць шэсць. Я старэйшая.

— А што мне казаць? Я зусім стары. Трыццаць сем скора будзе.

— Ты малады душой, мой любы... Помніш, як пацалаваліся на плошчы? Для канспірацыі. От пасля таго я і пачала думаць пра цябе. Ты прыходзіў у мае сны... А потым даведалася, што кахаеш другую. Як я зайздросціла ёй!.. А яе не было ўжо...

Успомніўшы Хуаніту, я падняўся, сеў на ложку. У пакойчыку яшчэ болей пасвятлела.

— Мабыць, трэба ісці ўжо. Мяне на зборным пункце чакаюць...

— Надакучыла я табе, так? — Зося прыўзнялася, села побач.— Не хачу нікуды ісці...

І мне не хацелася ісці. Не мог я пакінуць Зосю адну. Яна, можна сказаць, вярнула мяне да жыцця. Вестка з Аргенціны пра смерць Хуаніты быццам выбіла зямлю з-пад ног, мне падалося, што ўвесь свет захістаўся... Тры гады яе няма, а я пісаў лісты, чакаў, спадзяваўся. Хоць і былі сумненні: яна магла ўжо выйсці замуж, за-

быць мяне, але дзесьці ў куточку сэрца жыла надзея. І вось яе няма. Як бы я пераржыў гэта, каб не Зося? І маё сэрца раптам агарнула такая ўдзячнасць і дабрыня да гэтай жанчыны. Не ведаю, як атрымалася, чаму я апусціўся перад Зосяй на калені? Мог жа я сказаць і седзячы побач з ёй? Дык вось, укленчыў я на танкаваты рэдзенькі дыванок перад ложкам, адчуваючы халодную падлогу.

— Ну, вось што, Зося. Калі ты не пярэчыш... Адным словам, будзь маёй жонкай... Я кахаю цябе. Вельмі прашу тваёй рукі...

— Ты сур'ёзна? Ці насміхаешся? — чамусьці пакрыўдзілася Зося.— Так нечакана ўсё...

Я разумеў, што сапраўды гэта ўсё надта хутка. На душы было такое адчуванне, што я ўхапіўся за яе, Зосю, як тапелец хапаецца за саломінку.

— Зося, зразумей мяне правільна. Ну, як табе сказаць? Я ніколі не забуду Хуаніту... Але яе ўжо няма. Тры гады... У мяне такое адчуванне, што некалі даўно я абдымаў дым... Нікога няма, адны толькі вочы мае плачуць...

Я ўткнуўся галавой у яе калені. Яна моўчкі гладзіла мае валасы.

Калі супакоіўся, яна ціха сказала:

— Ты пажартаваў наконт замужжа? Гэта ў цябе так вырвалася? Несур'ёзна. Ты не падумаў...

— Што ты, любая? Сур'ёзна, як ніколі... Хіба ты сумняваешся?

Зося таксама ўкленчыла на дыванок, паклала рукі мне на плечы.

— Мы з табой стаімо на каленях. Толькі няма каму блаславіць.

— Ты мысленна пакліч сваіх бацькоў, а я сваіх,— сказала Зося.— І хай яны блаславяць нас,— яна нешта адпашаптала, быццам малітву.— Ну вось. Блаславенне адбылося. Хай сабе ўяўнае. Затое давай пацалуемся направду. Каб нікога і нічога не баяцца...

Цяпер Зося не маўчала, як уначы. Яна смяялася і плакала ад радасці, ад вялікай радасці і асалоды кахання. Потым мы ляжалі побач, стомленыя, шчаслівыя. Было такое адчуванне, што мы падняліся на высокую гару. З гэтай вышыні, я б сказаў, з вышыні пачуцця, усё іншае здавалася дробязным, неістотным. Бо што наша

жыццё, як не чаканне любові, як не вечнае змаганне за яе!

— Ведаеш, Паша,— Зося пацерлася носам аб маю шчаку, быццам хацела пераканацца, што гэта не сон, што я сапраўды тут, на яе падушцы.—Сёння з радасцю падумала: добра, што я жанчына. Ты не смейся... З дзяцінства я была гарэзай. Зайздросціла хлапчукам. Бедавала, што я дзяўчына. А сёння радуюся: як добра быць жанчынай...

## XV

Праз дзень, 9 мая 1945 года, усе французскія газеты паведамілі аб капітуляцыі гітлераўскай Германіі. Нарэшце прыйшоў жаданы і доўгачаканы дзень Перамогі. Зборны пункт савецкіх грамадзян лікаваў. Самохіна падхапілі на рукі і падкідвалі ўгору. А потым і мяне. Дзіўнае пачуццё: узлятаеш над галовамі ўзрушаных, узрадаваных людзей, ляціш уніз, боўтаючы нагамі, ловіш сябе на думцы, што не падхопяць, не ўтрымаюць, грымнешся на зямлю. Але дужыя рукі зноў падкідваюць цябе, і сэрца, быццам птушка, б'ецца ў грудзях.

Увесь горад выйшаў на вуліцы, запоўніліся плошчы вясёлымі, святочна апранутымі людзьмі. Мы сядзелі з Піляр-Зосяй на той самай плошчы Гамбеты і цалаваліся.

Надвор'е было як па заказу. Цёплы сонечны дзень змяніўся светлым ціхім вечарам. Было ўжо даволі позна, калі мы, узрушаныя, стомленыя, вярнуліся на Зосіну кватэру, дзе нас чакаў вузкі ложак, на якім зручна спаць толькі абняўшыся.

Пасля перамогі зборны пункт пачаў аціхаць: групамі і паасобку людзі ад'язджалі на радзіму. Аднойчы выклікалі ў Парыж Самохіна. Ён паехаў як звычайна — ездзіць яму даводзілася часта, але на гэты раз назад не вярнуўся. Пазней прыслаў ліст, напісаны перад выездам у Ленінград.

Надышоў чэрвень. Неяк адвячоркам я завітаў у камітэт да Зосі.

— Табе пісьмо з Парыжа,— падала яна пакет, як толькі я пераступіў парог.— Чытай хутчэй. Мо нарэшце?..

Супрацоўнік пасольства Арлоў паведамляў, што ёсць пашпарты і дазвол на маё вяртанне ў СССР.

— Зоська! Едзем дамоў! Ура! — я хацеў падхапіць яе на рукі, але Зося адхіснулася ўбок, адышлася да акна, закрыла твар далонямі.

— Што з табой, Зося? Бядуеш, што няма дакументаў? Прышлюць і табе,— пачаў я супакойваць.

— Дакументы будуць. Я таксама скора паеду... Не ў гэтым справа.

— А што такое? Што-небудзь здарылася?

— У мяне будзе дзіця...

— Няўжо? Гэтак хутка?

— Які ж ты дурань. Калі прыйдзе час, тады...

— Цудоўна, Зоська! І не ў цябе, а ў нас з табой. Радавацца трэба, а ты хныкаеш,— я пацалаваў яе мокрыя вочы, яна прыхінулася да маіх грудзей.

— Дык ты не кінеш мяне? — узняла яна вочы, пільна зірнула.

— Ну, што ты, любая. Паедзем разам у Парыж. Атрымаю пашпарт, распішамся. І — у Беларусь.

— Не, спачатку едзь ты адзін. Раптам не пусцяць нас дваіх. Не забывай, я дачка польскага камерсанта. Багачка. У вас не любяць такіх... Невядома, як там будзем жыць. Паедзем лепей у Варшаву.

— Якая ты багачка?! Ты член французскай кампартыі. І ніхто не будзе пярэчыць. Я абавязкова даб'юся. А як жыць? Працаваць будзем. Ты будзеш выкладаць французскую мову, а я магу электрыкам, зваршчыкам, слесарам. Не прападзем, Зоська!..

Зося доўга маўчала, потым сказала:

— Можа, і так. Я хачу верыць табе, Паша. Хачу быць з табою.

Карацей, вырашылі, што я еду ў Беларусь, а Зося — у Польшчу, у Варшаву, потым я дамагаюся дазволу, і Зося прыязджае да мяне ў Беларусь.

Неўзабаве я ад'язджаў у Парыж. Праводзіла мяне багата людзей, шмат каго я ведаў, а некаторых бачыў упершыню. Таварыш Жан сказаў усхваляваную прамову, нават маўклівы Хуан выціснуў:

— Аста ла віста! Салют, камарада!

Хуанава жонка абняла мяне, пацалавала, паспела шапнуць на вуха, каб я не забыў Пiляр і яшчэ нешта, што і не разабраў. Зося была бледная, нервова кусала вусны, мусіць, каб не заплакаць. Заставаліся апошнія

хвіліны да адыходу цягніка. Я тройчы пацалаваў Зосю, яна-такі заплакала, Хуанава жонка ўзяла яе пад руку і адвяла ўбок. Цягнік крануўся, я ўскочыў на падножку.

— Аста ла віста! Салют, камарада! — гучала ўслед, і дзесяткі рук махалі на развітанне.

## XVI

Тыдні праз два я быў у сваёй вёсцы. Але яе, вёскі, не было: на месцы хат буяла крапіва, цягнуліся ўгору моцныя сцяблiны лебяды. На былым нашым котлішчы стаяла ўжо высокая, таўставатая таполя — тая самая, што мы пасадзілі з бацькам. Адзін сук яе абгарэў, быў чорны, але на самай макушцы зелянела некалькі галінак.

Маці і сваякоў знайшоў у райцэнтры. Маці жыла з Чэсяй у невялічкай хаціне. Мяне ніхто не пазнаў. Бралася на вечар, калі я падышоў да хаты. У руках быў невялічкі саквояж, астатнія рэчы пакінуў на вакзале. Адчыніў веснічкі, на агародзе корпалася жанчына: акучвала бульбу матыкай, гурбачка прывялага пырніку, малачаю ляжала на мяжы. Жанчына ўзняла галаву, моўчкі зірнула на мяне. Няўжо гэтая старэнькая бабуля — мая маці, якую я помніў яшчэ даволі маладой, прыгожай кабетай?

— Чы тут жывуць Варанецкія? — спытаў я з польскім акцэнтам.

— Тут. А хто вам трэба? Чэслава?

Па голасу я адразу пазнаў маму, але жанчына разгублена, пільна і насцярожана глядзела на мяне.

— Мама! Гэта ж я, Павел. Няўжо не пазнаеш?

Жанчына паківала галавой, запхнула пад палінялую хустку пасму валасоў, аблізнула блеклыя сасмяглыя вусны.

— Нешта я ніяк не прызнаю... І голас не такі ў цябе, чалавеча... І адзенне ўсё не нашае... І з твару не падобны... Ці мае вочы ўжо слаба глядзяць... Я ўжо імшу ў царкве адслужыла па сваім Паўліку...— маці перахрысцілася, вочы яе затуманіліся, але яна зноў пачала ўглядацца на мяне.

Чаго-чаго, а гэтага я не чакаў. Няўжо я так пераменіўся? Дзіва што — семнаццаць гадоў! Я ўявіў сябе. На мне быў чорны берэт, французскі клятчасты аднаборт-

ны касцюм, жоўтыя англійскія чаравікі, моцныя, салдацкія, якія неўзабаве давялося прадаць,— уявіў буры, абветраны твар, шрам амаль цераз увесь лоб. Ой, нялёгка пазнаць мяне.

— А дзе ж Чэся?

— На рабоце. На чыгунцы працуе...

— А Пятрок? Аленка? Яны ў Максімаўцы?

— Дык ты ўсіх нашых ведаеш? Але ж ты не падобны на Паўла. То ж было хлапчанё малое... Вочы, здаецца, нашай пароды...

— Мама, я ўжо схадзіў у нашу вёску. На нашым котлішчы таполя з абгарэлым суком. Мы з бацькам яе пасадзілі... Помніш, як ты сярмяжку латала і плакала?

Матыка выпала з маміных рук, яна сама захісталася, ірванулася да мяне напрасткі па бульбе. Я падхапіў, каб яна не ўпала... Далей не памятаю, што я гаварыў, што яна гаварыла. Помню, што да нас падышла прыгожая, цёмнавалосая маладзіца з хлопчыкам гадоў пяці.

— Во і Чэська прыйшла. Ці пазнаеш ты Паўла?

Чэся адмоўна пахітала галавой, хлапчук нечага зашморгаў носікам, мусіць, спалохаўся незнаёмага чалавека.

— Мама, ці ж гэта наш Павел?

— Ну, во, бачыш, сынок? Дакарай ты мяне, старую. Во яна з маладымі вачамі не прызнае...

— Ай, Чэся, Чэся, мала я табе даваў па адным месцы, раз так не запомніўся... А я ж цябе насіў на плячах да самай Віліі.

Чэся адпусціла хлопчыкаву руку і памкнулася да мяне.

Вось такая была стрэча. На другі дзень прыйшоў Пятрок са сваёй Марысяй, якая магла быць маёй. Марыся не пазнала мяне і ўсё гаварыла, што я зусім-зусім перамяніўся. Толькі Пятрок зрабіў выгляд, што пазнаў адразу, але асаблівай радасці на яго нягаленым твары я не ўбачыў, а нейкую насцярожанасць, ніякаватасць. Дзівак, ён, відаць, пераажываў, што ажаніўся з маёй нявестай, ці думаў, што запатрабую грошы, якія прысылаў некалі яму. Ва ўсякім разе, халадок і насцярожанасць у нашых адносінах былі вельмі прыкметныя, што занепакоіла маму.

Марыся хвалілася дзецьмі — іх чацвёра пахвальвала Петрака, што хоць і любіць выпіць, але свайго не прап'е, што ўедлівы да работы. Была цяпер яна маж-

ная, дзябёлая кабета з шырокім тварам, гаварыла гучна, хоць і злёгку гугнявіла. Алена жыла, як і раней, у Максімаўцы, мела пяцёра дзяцей і чакала мужыка, хоць паведамленне атрымала: загінуў смерцю храбрых пры фарсіраванні Віслы. Хадзіла яна ў ваенкамат, прасіла, каб напісалі паперу, дзе пахаваны муж, паперу адаслалі, але адказу не было.

Першыя дні на мяне ўсе глядзелі, як на заморскае дзіва: берэт, клятчасты касцюм, жоўтыя чаравікі, па даўняй звычцы завязваў хусцінку на шыю. Не хапала толькі понча і альпаргатаў для поўнай экіпіроўкі былога лінжэра.

Пачаў я распытваць пра сваіх былых сяброў. У Петрака нічога не даведаўся, Марыся сказала, што Юзя і Антось пажаніліся, што Антось нібыта вярнуўся пасля вайны дамоў, працуе ў райцэнтры. У міліцыі, калі здаваў свой пашпарт на прапіску, спытаўся ў начальніка, ці не ведае той Іванюка Антона?

— Антона Васільевіча? Як не ведаць? Ведаю,— начальнік, пажылы маёр, з жаўтаватым нездаровым тварам і чырвонымі, мусіць, ад бяссоння вачамі, усміхнуўся.— А вы знаёмы з ім?

— Знаёмы. Некалі разам пачыналі падпольную дзейнасць.

Я расказаў пра першамайскую сходку, як арыштавалі Антося.

Маёр слухаў уважліва, вочы яго пацяплелі, і гаварыў ён са мной не так афіцыйна, як спачатку. Вось што я дазнаўся. Антось працуе дырэктарам райпрамкамбіната, але цяпер хварэе: у турме нажыў язву, трэба дыета.

— А якая можа быць зараз дыета? — уздыхнуў маёр.— Толькі галодная... Усё немец панішчыў, спапяліў... Словам, адвезлі Антона Васільевіча ў Маладзечна, у абласную бальніцу. Бачыў на днях Юзю, жонку яго, казала, што Антон абяцае скора прыехаць. Зайдзіце да яго. На камбінаце і работа вам знойдзецца. Што ад мяне будзе залежаць, я зраблю,— маёр падаў на развітанне руку, і я з удзячнасцю пацiснуў яе.

Пра галадоўку мне не трэба было гаварыць. Раніцай маці паставіла на стол талерку, у якой было некалькі дробных бульбін, адрэзала скрылёк сала, астатні кавалак, падобны на брусок мыла, ашчадна загарнула ў чыстую анучку.

— Гэта во Марыся прынесла. Канчаецца сальца. А солі няма ні драбінкі. Можа, Чэся раздабудзе к абеду. Хоць бы шчаўе было чым падсаліць.

Не мог я есці тую бульбу: перасядала ў горле, і не таму, што яна была як трава без солі... І сала жаваў як не сваімі зубамі...

— Вось-вось бульба падрасце. Гурочкі ўжо завязваюцца. Перажыць нам пару тыдняў...— маці не дагаварыла, адвярнулася, змахнула слязу...

Вычысціў я да глянца свае жоўтыя чаравікі і аднёс на рынак. Сам абуў падношаныя, у якіх шпацыраваў па вуліцах Бардо. Дамоў прынёс тры кілаграмы мукі, шклянку солі, дзвесце грамаў цукерак — падушачак для Уладзіка, Чэсінага сына.

Амаль штодня хадзіў у грыбы — іх было ў тое лета багата, болей, чым хлеба і бульбы. Аднойчы, вяртаючыся з поўным кашом сыраежак і лісічак — баравікі яшчэ не раслі,— праставаў па сцежцы міма лапіка жыта. Не ведаю, чый там быў агарод. Памацаў каласок — ужо набрынялі мяккія кволыя зярняткі. Я азірнуўся ва ўсе бакі, нідзе нікога, сарваў з дзесятак каласкоў і, прыгнуўшыся, як злодзей, пашыбаваў у кусты. Расклаў там цяпельца, падсмажыў каласкі, мяккія, саладкавыя зярняткі пахлі дымам і былі такія смачныя, быццам раставалі на зубах. Вядома, наедак невялікі, толькі мацней завурчала ў жываце. Закусіў сцяблінкамі шчаўя, лёг на траву. Так ласкава прыгравала сонейка!

Падумалася пра Зосю: дзе яна цяпер? Ці прыехала ў Варшаву? Калі бацькі жывыя, мо і не пусцяць яе. А мо і сама не захоча ехаць... А можа, ўсё-такі прыедзе... Уявіў, як яна ўваходзіць у нашу хаціну, садзіцца за стол, які хістаецца на паточаных шашалем ножках. Ці зразумее яна нашу галечу? Ці не ўцячэ праз колькі дзён? Ліст ёй пакуль не адаслаў: рука не паднімалася пісаць. Лепей, каб яна прыехала пад восень, калі хоць хлеб і бульба будуць на стале. Мучыла мяне думка, што не з'ездзіў у Гомель, не знайшоў сям'ю камісара Тамашэвіча. За што, за якія грошы паедзеш, ды і не з пустымі ж рукамі ехаць...

Вырашыў: трэба схадзіць да Антона. Прадаць новенькі цёмна-сіні касцюм, ні разу яго не апранаў, застанецца шэры і ўжо добра паношаны клятчасты. Шэры не купяць, лепей пойдзе цёмны, больш практычны. Мужчына, што купіў чаравікі, шкадаваў, што яны не

чорныя, нават болей бы заплаціў, але другі мужык супакоіў яго, маўляў, мазнеш дзёгцем і будуць чорныя.

У тыя гады ўсе хадзілі ў цёмным, у армейскіх гімнасцёрках і галіфэ, шэра-зялёных фрэнчах, бачыў на рынку чалавека і ў жоўта-зялёным англійскім шынялі. Толькі ніводнай жанчыны ці дзяўчыны не прыкмеціў у квяцістай сукенцы. Самі дзеўкі цвілі, як ружы, нягледзячы на нястачу і нішчымніцу: прырода брала сваё. Разы са два і я хадзіў на танцы. Дзеўкі да мяне так і ліплі: некаторыя думалі, што прывёз багата грошай — цалавалі і ў кішэню паглядалі, а некаторым, можа, я і падабаўся, бо хлопцаў было мала.

Чэська штовечар пачынала гаворку: дзеўкі не даюць праходу, усё пытаюць пра мяне, запрашаюць у госці. І маці ўсё часцей загаворвала, калі будзем гуляць вяселле. Тады я прызнаўся, што ёсць у мяне жонка ў Парыжы, хоць і не распісаны, што чакае дзіця, а я чакаю яе, што яна, магчыма, цяпер у Варшаве і адтуль прыедзе.

— Вой-вой,— пляснула рукамі маці.— Калі ж яна прыедзе? Як жа мы стрэнем? Чым накарміць? Дзе пасадзіць?..

Словам, задаў жанчынам клопату. Супакоіў, што прыедзе не скора. Маці болей пра вяселле не гаварыла, але і пра жонку не распытвала: можа, думала, забудзецца, дзе там што ў свеце было, і ніхто не прыедзе, ажэняць мяне тут.

Вось пра што мне думалася пасля пражма, пад родным сонцам, на роднай зямлі.

## XVII

Бралася на вечар, калі я падыходзіў да кватэры, дзе жыў Антон Іванюк. Дні два назад я праходзіў паўз яе, тады на дзвярах вісеў замок. Цяпер веснічкі былі адчынены, з хаты выйшла жанчына з вядром.

— Антон Іванюк тут жыве? — спытаў я.

— Тут,— жанчына паставіла вядро на лаўку, пільна зірнула на мяне. Мяккі, пасечаны маршчынамі твар, карычнева-буры ад загару, сівыя, попельна-шэрыя валасы. Няўжо гэта Юзя?

— Вярнуўся ён ужо?

— Дома. Заходзьце,— жанчына адчыніла дзверы, прапусціла мяне наперад. Я ўвайшоў у цемнаваты па-

кой. З бакавых дзвярэй высунуўся лысаваты, шчуплы мужчына ў гімнасцёрцы навыпуск, паношаных салдацкіх галіфэ, запраўленых у абрэзаныя валёнкі.

— Да цябе, во, чалавек. Сядайце,— жанчына падсунула мне табурэт, што стаяў ля стала.

Я забыўся і падзякаваць, ва ўсе вочы глядзеў на Антона і не пазнаваў. Мне запомніўся золатавалосы яснавокі дзяцюк, а зараз перада мной стаяў лысы стомлены чалавек і пазіраў праз круглыя шкельцы акуляраў.

— Не пазнаеш, Антось? — зрабіў я крок да яго, быццам для таго, каб яму лепей было бачыць.

— Павел? Няўжо ты? Казалі, што прыехаў...

— Далібог, Павел! — пявучым, памаладзелым голасам усклікнула Юзя.— Я ўсё гляджу, гляджу...

— Ну, здароў, Паўлюк. З вяртаннем цябе...

Абняліся, пацалаваліся. Юзя замітусілася па хаце. Я паставіў на стол пляшку гарэлкі і пачак печанькоў — болей у магазіне нічога не было.

Пачаліся ўспаміны: Антон і Юзя то выпытвалі ў мяне, то гаварылі самі. Я расказаў пра Стася, пра нашы блуканні ў Аргенціне, потым пра Іспанію, Францыю, пра Зосю. І канца нашай гутарцы не было відаць. І так усю ноч да раніцы.

Я слухаў Антося, і горла сціскалася ад болю: адзінаццаць год праседзеў ён у польскіх турмах. Вызвалілі яго Саветы восенню трыццаць дзевятага. Юзя прыязджала да яго, перад вайной нарадзіўся хлопчык, вясной сорак чацвёртага ў блакаду ён памёр. З таго часу русявыя валасы Юзі зрабіліся попельна-шэрымі. Антон захварэў на язву, стаў кепска бачыць.

— Цяпер я троху падужэў. Неяк у турме... Калі Прытыцкага збіраліся судзіць, мы аб'явілі галадоўку... Я тады так выпетраў, што хадзіць не мог. Здаецца, ад ветру падаў. Але нічога. Мы перамаглі. Мы яшчэ пажывём, Паўлюк! — цяпер гэта быў той самы Антось, які запаліў ува мне іскрынку...

На развітанне дамовіліся, што я пераходжу працаваць на камбінат. Антось прапанаваў на выбар: брыгадзірам, у бухгалтэрыю, а то і слесарам. Я выбраў апошняе.

Ніколі не забуду той радасці, як атрымаў першы заробак, прынёс дамоў пачак грошай — сем даўжэзных соценных купюр і дзве чырвоныя трыццацірублёўкі —

савецкія грошы з сілуэтам Леніна. Першыя савецкія грошы, якія зарабіў! Яшчэ больш узрадаваўся, калі маці сказала:

— Ну, цяпер мы зажывём, сынок. Бульба падрасла ўжо, хлеб ёсць. А грошы хай будуць на вяселле...

Увайшоў у хату Пятрок, гучна павітаўся, паставіў на стол пляшку мутна-сіняватай самагонкі.

— З новага хлеба новая гарэлка,— Пятрок сеў, асалавелымі вачамі паглядзеў на грошы, на мяне.— Троху, кажаш, зарабіў... Вялікія грошы, як анучы. А што за іх купіш? Добра, што свая скварка ёсць ды бульба... Дый чарка свая, не тое што куплёная... Трэба хату будаваць... Варшавянка прыедзе, каб усё як след. Не апошнія ж мы людзі, га?

— Трэба, Петрачок, хата. Трэба,— падтакнула маці.

— Я памагу, Аленчын большы, Васька, сякеру трымаць умее... Давай, братуха, вып'ем, каб ты... Ну, сэрца на мяне не меў... Я ж помню, як ты грошай прыслаў. Тады зусім нявыкрутка была... Я, брат, гэта не забыў... А ты не крыўдуй...

— Дзівак ты, Пятрок... З таго часу столькі вады ўцякло, што і ўспамінаць не варта...

Чокнуўся я з Петраком поўнай чаркай і выпіў да дна. Маці з удзячнасцю зірнула на мяне, ражком хусцінкі змахнула няпрошаную слязу. А Пятрок разгаварыўся. Прыгадаў, як яны з Марысяй дапамагалі партызанам: ён вазіў збожжа ў млын, жонка пякла хлеб, ездзіў у Маладзечна раздабываць соль.

— Аднойчы пытаецца ў мяне начальнік разведкі нашага атрада: ці ведаю я максімаўскага бургамістра,— апавядаў Пятрок.— Каго, пытаюся, Броніся Качаноўскага? Ведаю як аблупленага. Разам у войску былі. У трыццаць дзевятым годзе маёнтак дзялілі... Тады начальнік разведкі і кажа: вось табе баявое заданне. З'ездзі ў Максімаўку і перадай Качаноўскаму запіску. Напісана ў ёй вось што: бяры добрых людзей і пераходзь да нас. Запрог я ў нядзелю каня, ускінуў на воз кабанчыка і свіначку. Не ехаць жа на кірмаш з голымі рукамі. Паперчыну схаваў у акрайчык хлеба. Селі мы з Марысяй і паехалі. Ну, яна засталася свінства прадаваць, а я да Качаноўскага. Той мяне за стол. Выпілі. Ну, я і кажу: ці не пара табе, Броніс, у лес падавацца, клічуць хлопцы-малойцы, і паперчыну яму тыц. Прачытаў ён яе раз, другі, кінуў у печ. Перадай, кажа, сваім хлоп-

цам, што замінаць ім не буду, але і ў лес не пайду. У мяне — сям'я, дзеці, сваякоў палова вёскі. Праз мяне тады ўсіх панішчаць... Так і не пайшоў ён у лес. Забілі яго фрыцы. А жонку ягоную і дзяцей мы з Марысяй ноччу адвялі ў лес. Выратавалі. Вось так было...

Слухаў я Пятра і не пазнаваў яго: не застаўся ў баку, змагаўся і ён. Мусіць, жонка ўцягнула. Ды і само жыццё вучыла, выхоўвала. Мабыць, змікіціў Пятро, куды дзьме вецер. Як бы там ні было, але я адчуў да яго большую павагу і цеплыню.

Увосень, калі выбіралі бульбу, калі адляталі ў вырай птушкі, прыйшоў ліст ад Зосі. Яна пісала, што бацька загінуў падчас паўстання ў Варшаве, маці хварэе, і таму зараз яна, Зося, прыехаць не можа. «Чакай мяне, любы, я прыеду, як толькі будзе можна. Мы ж па-суседску жывем. Нас не раздзяляюць ні моры, ні акіяны. Зможаш ты — прыязджай. Твая назаўсёды Зося».

Радасці маёй не было канца. З сэрца нібы камень зваліўся. Зося не забыла мяне, яна прыедзе. Але калі? Здаецца, птушкаю паляцеў бы да яе. Паехаць самому? Я быў не гатовы да гэтага. На рабоце толькі прызначылі механікам: Антось сасватаў. Клопату ў мяне прыбавілася. Чаго толькі не даводзілася тады рабіць! Майстравалі граблі, сякеры, зубілі сярпы, паялі чыгуны і каструлі. Аднойчы мне прыйшлося рамантаваць прылады зубнога доктара, нават ягоную бормашыну. Спецыялістаў не было, усе майстры — самавукі, і я аказаўся самым вопытным. А як стаў механікам — дняваў і начаваў на камбінаце: аднекуль прыцягнулі стары даваенны лакамабіль, узяліся яго рамантаваць, каб даць электрычнасць гораду, перш-наперш установам, школе, бальніцы.

Затрымлівала не толькі работа. Часцяком прыставалі хлопцы: як жывуць у Аргенціне, што ядуць і п'юць, чаму не пабілі фашыстаў у Іспаніі, як ваявалі французы? Пытанняў было шмат, самых розных. І вось цяпер зноў збірацца ў дарогу? Пасля семнаццаці гадоў вандраванняў па свеце я баяўся нават паездкі ў раён. Гэта як чалавек калі нечага аб'есца, дык і лыжкі ўжо не можа праглынуць. Мне за лета гэтак прыеліся грыбы, што глядзець на іх не мог... А маці? Хіба яна можа мяне адпусціць? А розныя фармальнасці. Ды і ці дазволяць мне зараз паездку за мяжу?

Увайшла маці, села ля акна, паклала на стол рукі.

Я зірнуў на матчыны рукі, і нечакана горла сціснула ад хвалявання, захацелася пацалаваць іх... Колькі я бачыў старэчых рук: спрацаваных, бледна-жоўтых, сухіх, як пергамент, з пакрыўленымі пальцамі і набрынялымі сінімі жылкамі. Тут было зусім не тое. Цёмныя, шыракаватыя матчыны далоні, тоўстыя пазногці, рукі, якія зроду не ведалі, што такое манікюр, затое ведалі серп і пілу, ткалі кросны і вышывалі ўзоры, мясілі цеста і лашчылі дзяцей...

— Што добрае пішуць, сынок? — спыталася маці.

— Пісьмо ад Зосі. Зараз не можа прыехаць. Маці хварэе. А пазней прыедзе. Мо я выберуся...

— Ой, сынок, столькі ў нас дзяўчат. Любая б за цябе пайшла... Не едзь ты, Хрыстом-богам малю... Няўжо не нацешыўся чужбінаю?.. Дзед твой, нябожчык, казаў: не дай, доля, у прымах жыць і на чужыне загінуць...

— Мама, нікуды я не паеду,— я падсеў бліжэй, абняў за плечы.— Усё будзе добра. Прыедзе Зося. Ты палюбіш яе...

— Мне два вякі не жыць. Глядзі, каб табе не шкадаваць потым.

За акном мільганула постаць Петрака. Увайшоў, гучна павітаўся. Я ўзрадаваўся яму, але пісьмо схаваў у кішэню.

— Што вы без святла? Газы няма?

— Ды ёсць яшчэ троху,— маці ўзялася запальваць лямпу.

— Пятрок, як думаеш, дрэўцы ранавата садзіць ці ўжо можна? — спытаў я.

— Зарана. Хай больш захаладае. А што ты хочаш пасадзіць?

— Таполю. Выкапаю на Баўтруковым хутары.

— Вось управлюся з агародам — з'ездзім. Стрэльбу прыхаплю. Свалата ўсялякая швэндаецца па лесе, па хутарах. Кажуць, учора трох бандытаў злавілі. На хутары была ў іх знаёмая. Прыйшлі ў лазні памыцца. Вошы заелі. Памыліся, селі выпіваць. Тут іх і накрылі. Адзін, кажуць, кінуўся ў акно. Яго і кокнулі. А трох зацапалі.

Неяк нядзельным днём Пятрок прыехаў на кані. На воз ён ускінуў сена, даматканую посцілку. І мы паехалі. Пятрок сядзеў справа, каб зручней было кіраваць рудаватым жарэбчыкам, які нагадаў мне незабыўнага Гнядка.

Стаяў пачатак кастрычніка — сярэдзіна спелага бабінага лета. Ацалелыя пасля ваеннага смерчу яблыні чырванелі залацiста-ружовымі крамянымі яблыкамі. Людзі збіралі плён першай мірнай восені. У паветры разліваўся халаднаваты водар садавіны і цёплы пах маладой руні. Лес быў ужо ахоплены барвамі восеньскага пажару.

Седзячы на возе, міжволі прыгадвалася дзяцінства, бежанства, усе мае далёкія і блізкія вандраванні.

— Ведаеш, Пятрок, на чым я толькі не ездзіў за сваё жыццё! У мяккіх вагонах і ў таварняках, на параходах, на браневіках, аўтобусах, трамваях, таксі... Найлепшае таксі — ехаць на такім возе...

— А ты думаў?! Што сваё, дык і горшае? Сваё яно, як ні круці, яно роднае,— па-свойму зразумеў мяне Пятрок.

Апоўдні пад'ехалі да нашага котлішча. Комін абваліўся: жыхары суседніх вёсак разбіралі цэглу з печаў. Крапіва пабурэла, а лебяда пабялела, усохла. На абгарэлай таполі трапяталася рудавата-зялёнае лісце. З-пад прыпечка на нас пазіраў вялізны чорны кот, жоўтыя вочы блішчэлі, як два агеньчыкі. Я зрабіў яшчэ крок, кот жаласна мяўкнуў і шуснуў у крапіву.

— Няўжо не адродзіцца наша вёска? Не ўсе ж загінулі,— павярнуўся я да Петрака.

— Не ўсе, але многія. Няма каму тут будавацца...

— Страх падумаць... Была вёска, хаты. Жылі людзі, тут нараджаліся дзеці. Гэта быў цэлы свет. Маленькая дзяржава. І вось хат няма, людзей няма. Адзін здзічэлы кот...

Пятрок моўчкі пасунуўся да каня. Мы паехалі на Баўтрукоў хутар. Таполя яшчэ стаяла, верхавіна ўжо засыхала, але на бакавых суках лапушылася лісце. Вакол дрэва цеснай купкай цягнуліся ўгору маладыя таполі. Далей сцяной стаяў густы жоўта-зялёны хвойнік. Выбліснула сонейка, ласкавае, яркае, але не гарачае, як позняе каханне. Я расказаў Петраку, як мы са Стасем спрабавалі абхапіць дрэва, выраашылі тут ехаць за мора, як снілася мне гэтая таполя ў Аргенціне. Аблюбаваўшы праменькае, ладнае дрэўца, я ўзяўся за рыдлёўку. Выкапаў сабе топольку і Пятрок.

Праз месяц прыйшоў ліст ад Зосі. Яна пісала, што вельмі ўзрадавалася майму пісьму, маці яе папраўля-

еццa, і сама яна, Зося, пачувае сябе добра і цяпер, маўляў, нас нішто не разлучыць.

Усю ноч я пракачаўся без сну. Думалася, як мы будзем жыць, ці спадабаецца Зосі ў нас, ці прывыкне, нене дый успамінаў Хуаніту, простую рабочую дзяўчыну, якая з дзяцінства бачыла розную работу: і хатнюю, і дзеля кавалка хлеба.

Падняўшыся ўранні, я здзівіўся: у акно адсвечвала сцішанае белае ззянне — усё навокал было, як захутанае бялёвым абрусам. Міжволі ўявілася: поплеч са мной у доўгай начной сарочцы, басанож, стаіць Зося, асцярожна бяру яе, цёплую са сну, мяккую, на рукі. Здаецца, адчуваю, як пацяжэла яна — трымаю на руках два чалавечыя жыцці. «З першым снегам цябе, любая».

Я глядзеў на чыстае, заснежанае поле, яно клікала прайсці па ім, пракласці след, яно клікала наперад.

Наперадзе было новае жыццё.

*1974—1980*

# АПАВЯДАННІ

## ШЧАСЦЕ

### I

Позна ўвечары аграном Чуйкевіч вярнуўся дамоў з камандзіроўкі.

— А мы ўчора цябе чакалі-чакалі з Ірынкай. Усё бедавалі... Новы год на парозе. А ў нас і ёлкі няма...— папракнула Вера, ягоная жонка.

«Мне б твае клопаты і праблемы»,— нездаволена падумаў Чуйкевіч, але ўголас сказаў:

— Мог і сёння не прыехаць. Добра, што раніцой удалося прабіцца да намесніка міністра. І той дапамог. Будзе насенне лубіну. Нават «эльгіны» выпрасіў. Гэта новы гатунак ячменю...

— Ды чула я пра гэты ячмень... Пабачым, як ён будзе расці... Засумавала без цябе,— Вера прыціснулася шчакой да калючага падбародка мужа. Чуйкевіч абняў жонку, пацалаваў. Яна прыхінулася да яго шчыльней. Ён адчуў пах яе валасоў, такі знаёмы і родны.

— Ну, як вы тут? Ірынка здаровая? — спытаў ён.

— Трохі кашляе... Цішэй гамані. Яна толькі заснула. Усё чакала цябе і змаглася. Ідзі перакусі. Нябось, не еў цалюткі дзень.

На кухні Чуйкевіч піў гарачы, духмяны чай, жонка сядзела насупраць, захінаючы на грудзях чырвоны, у буйныя белыя гарохі, халацік, ласкава пазірала на мужа.

— З раёна не званілі? Ніхто мяне не пытаўся?

— Не, не званілі. Заходзіў сёння Басько. Ну, гэты... Брыгадзір. Дзядзька Цімох пытаўся, калі прыедзеш.

— Які Цімох? Міхалюта? Цікава, што яму прыспічыла,— усміхнуўся Чуйкевіч, але нічога не сказаў.

Ужо лежачы ў ложку, адчуваючы на сваёй руцэ цёплае жончына плячо, радуючыся, што нарэшце дома, што ўдала з'ездзіў, ён не стрымаўся і расказаў, што нечакана сустрэў у горадзе знаёмую, Наташу, якую не бачыў сем гадоў, што яна замужам, чакае дзіця, другое, але не хоча яго мець і не ведае, што рабіць.

— Дык вось чаму ты запазніўся!..— жонка прыўзнялася, села на ложку, нібы ёй зрабілася непрыемна ляжаць з ім побач.— Вось яна якая, твая «эльгіна»! Нябось, хадзіў з ёй там па рэстаранах... А я сядзі тут... Канечне, навошта ёй дзіця, калі ў галаве...

— Ты што? З глузду з'ехала? Бачыўся з ёй некалькі хвілін. У тралейбусе разам ехалі...— Чуйкевіч ужо шкадаваў, што пачаў гаворку.

— Так я і паверыла! Я не такая дура, як ты думаеш. Ці кінецца яна ў тралейбусе такое табе гаварыць! Можа, яшчэ на скрыжаванні, ля паставога міліцыянера прызналася: «Я цяжарная. Што мне рабіць?» — жонка заплакала і, хліпаючы, праз слёзы дадала:— Усе вы такія. Абы толькі вырвацца ў камандзіроўку. Адразу халасцякамі прыкідваецеся...

«От, дурань! Трапло няшчаснае»,— лаяў сябе Чуйкевіч. У душы паднімалася раздражненне, злосць на жонку, міжволі падумаў: да чаго не трывалая рэч — чалавечыя адносіны. Толькі што яны цалаваліся, жонка па-дзіцячы радавалася падарункам, а тут раптам пачала біць у хамут... Чуйкевіч спакойна, ласкава сказаў:

— Вера, мілая. Ну, як ты можаш?! Ніхто не патрэбен мне, апроч цябе. Зразумей гэта нарэшце,— ён прыхінуў жонку да сябе і выключыў святло.

## II

Жонка сцішылася, адвярнулася, але ён чуў, што яна не спіць. Не браў сон і яго. Перад вачамі мільгаў пражыты дзень з усімі падзеямі і клопатамі. Паўставалі людныя вуліцы горада, перапоўненыя магазіны, на вітрынах якіх застыла ўсміхаліся чырванашчокія, сівабародыя, падобныя, як дзве кроплі вады, дзяды-марозы.

Перадсвяточная навагодняя мітульга асабліва кідалася ў вочы яму, прыезджаму чалавеку. Да таго ж, ён не спяшаўся: білет на самалёт у кішэні і да адлёту яшчэ амаль тры гадзіны. Хадзіць па магазінах не было настрою, ды і сёе-тое ён ужо купіў: дачцэ — паўзункі карычневыя і белыя, жонцы — духі і прыгожы набор цукерак. Вось толькі цацак на ёлку не разжыўся: надта вялікая чарга. «Ат, ліха з імі, з цацкамі. Ірынка яшчэ малая. Абыдземся»,— суцешыў ён сябе.

Чуйкевіч нетаропка крочыў па праспекце, усё разглядваў, яго здзіўляла тлумная мітульга гараджан, што, як мурашы, снавалі па вуліцах, застывалі нецярплівым натоўпам перад чырвоным вокам светафора і адразу імчалі далей, калі ўспыхвала зялёнае святло. «Каб не чырвоны светафор, так бы і перлі без перадыху»,— усміхнуўся Чуйкевіч. Некаторыя гараджане неслі ёлкі. Хлапчук з ранцам за спіною трымаў у руках, нібы свечку, маленькае цёмна-зялёнае дрэўца, і яго бледнаваты тварык аж свяціўся ад задавальнення.

«Як мала трэба чалавеку для радасці! — падумаў Чуйкевіч.— А мы ўсё бяжым, імчым на ўсе жылы... Чаго? Куды? У кожнага на руцэ гадзіннік. Прыкінь, колькі трэба часу, выйдзі раней, каб не ляцець на злом галавы...»

Ён разумеў, што «прыкінуць» можна, але невядома, колькі будзеш чакаць аўтобуса, колькі прастаіш у чарзе ў магазіне. А потым псіхалагічны момант — усе бягуць, і ты бяжыш, падхоплены натоўпам, як сухадрэвіна вясенняю паводкай. Чуйкевіч зірнуў на гадзіннік, вырашыў пад'ехаць і сеў у перапоўнены тралейбус.

— Прабіце, калі ласка, талончык,— пачуў ён. Голас падаўся дужа знаёмы, і Чуйкевіч павярнуўся — на яго глядзела маладая, круглавідная, мажная кабета.

— Іван? Няўжо гэта ты? Здароў! Не пазнаеш?

— Добры дзень! Здаецца, пазнаю... Наташа?

— Не забыў, значыць,— усміхнулася яна.— Якім ветрам цябе занесла ў сталіцу?

Чуйкевіч разгубіўся ад нечаканасці, не мог апамятацца, не мог даць веры, што гэта поўная, мажная кабета і ёсць тая самая Наташа, якую некалі кахаў. Ён сказаў, што быў тут у камандзіроўцы і сёння ад'язджае: праз дзве гадзіны самалёт.

Яна адвярнула рукаў футра — бліснуў маленькі залаты гадзіннік. «Якая тоўстая ў яе рука,— міжволі ад-

значыў ён. Рука сапраўды была шырокая ў касці, чырвоная, набраклая.— Не пазнаць Наташы. Гэткая ланя зрабілася...»

— Мне таксама трэба ў аэрапорт. Там добры ювелірны кіёск. Хачу купіць адну рэч... Ну, як ты жывеш? Сям'я ёсць?

— Ёсць. Дачка расце. Другі год ужо. Жонка — эканаміст. Разам працуем...

Тралейбус тым часам спыніўся каля аэрапорта. Чуйкевіч выйшаў першы і падаў руку Наташы, апіраючыся, яна злёгку пацiснула яго далонь. Яны ішлі побач. Наташа цвёрда тупала высокімі, аж да каленяў, боцікамі, чорнымі, бліскучымі, якія туга сядзелі на даволі поўных нагах. Чуйкевіч пазіраў на яе збоку і ніяк не мог паверыць, што поруч ідзе Наташа, тое ўсмешлівае, танюсенькае, як чарацінка, дзяўчо.

— А дзе ты працуеш? — спытала яна.

— У калгасе. Аграномам.

— Проста аграномам ці галоўным?

— Хіба гэта так важна? Галоўным.

— Значыць, акадэмію скончыў?

— Але. Завочна... Прыязджаў у міністэрства. Раздабыў насення ячменю, шматгадовага лубіну.

— Што значыць — шматгадовага?

— Аднагадовы — жоўты, салодкі. Яго ў нас хапае. А шматгадовы — блакітна-фіялетавы. Высокі такі, паўз дарогу расце.

— Ведаю. Люблю з яго букеты рабіць.

— Дык вось блакітны, горкі лубін — добрае угнаенне. Вырасце — яго заворваюць. Па вясне саджай бульбу — па качану будзе.

— Цяпер у калгасе жыць можна. Мо лепей, чым у горадзе, га? І грошай паболей, чым у гараджан.

— Ды ўжо ж. Без капейчыны не сядзім.— Чуйкевіч адчуў, што сказаў даволі рэзка і, каб неяк загладзіць гэта, спытаў: — Ну, а як у цябе жыццё? Дзе працуеш?

— Працую ў гастраноме, касірам. Работа няўдзячная, нудная. Бывае, трапіцца з раніцы якая-небудзь клізма, дык расстроіць на ўвесь дзень. Тады і свет не мілы. А людзей поўна заўсёды. Асабліва перад святамі. Сёння ў мяне адгул. А заўтра давядзецца позна тырчаць... А так — жывём, як усе добрыя людзі. Кватэра вялікая, кааператыўная. Шкада, спяшаешся, а то зайшоў бы, паглядзеў...

— Можа, другім разам калі...

— Праўда, мужык у мяне раўнівы. Мо таму, што дома рэдка стыкаецца. Ён шафёр. На міжгародніх аўтобусах. Зарабляе добра. Часам і падкалыміць,— неяк вінавата ўсміхнулася яна.— Здаецца, усяго хапае. Ёсць што паесці, апрануць. Сын гадуецца. Пяць гадоў ужо... Але нешта... чорт яго ведае. Нешта не так. Жывём, як дні адбываем. Вось выбралася ў цырульню — навесці прыгажосць. А дзеля каго? Госці ў нас бываюць гады ў рады. І самі рэдка ходзім...— у голасе Наташы пачулася хваляванне, яна ўзяла яго пад локаць, прыхінулася: — А помніш ядловец?

— Помню,— ціха адказаў Чуйкевіч.

— Вось, Ваня, якой я зрабілася...

— Якой жа? Прыгожая, відная кабета. Будзь я вольны, пайшоў бы на край свету за табой.

— Жартуеш. А я... Зрэзалася тады на экзаменах. Замест тэатра — засела ў гэтым гастраноме. Замуж выскачыла — і ўсё... Спрабавала ў Дом культуры хадзіць. Там народны тэатр. І ролі мне сур'ёзныя давалі. Куды там? Дома — скандал! Што табе — тэлевізара мала? А сам спіць ля яго. Павячэрае, сядзе. Праз паўгадзіны — храпе седзячы... Вось так і жывем. Каб не дзіця, кінула б усё...

Чуйкевіч слухаў Наташу, і яму зрабілася вельмі шкада яе, але што ёй параіць, чым памагчы? Людское шчасце не будуецца паводле тыпавых праектаў. Кожны будуе яго сам, і ў кожнага яно сваё, адметнае.

Яны ўвайшлі ў залу аэрапорта. Уся са шкла і бетону, залітая дрыготкім неонавым святлом, зала нагадвала велізарны акварыум. Чуйкевіч зарэгістраваў білет. Вакол хадзілі, тоўпіліся людзі.

— Можа, выйдзем на вуліцу? — Наташа ўзяла яго пад руку, і па коўзкіх ад мокрага снегу прыступках яны спусціліся да выхаду на пасадку. Самалёты раўлі безупынку: то прыляталі, то адляталі. Тут таксама было людна. У вочы кінулася маладая пара: яна ў лёгкім клятчастым паліто, а ён у блакітнай куртцы. Яны стаялі і цалаваліся, адкрыта, не хаваючыся. Невядома, хто каго праводзіў, але найбольш цалавала дзяўчына.

— Ім можна пазайздросціць, Ваня, праўда?

— Так. Але хто ведае, як складзецца ў іх жыццё.

— Затое цяпер яны самыя шчаслівыя. Тут усе нервуюцца, усе як на вуголлі. А для іх час спыніўся. Стаяць,

нібы зачараваныя. А потым што будзе дык будзе,— уздыхнула Наташа.— От падумаю іншы раз: яшчэ гадоў пяць, і я канчаткова ператваруся ў сонную, тлустую бабу, здольную толькі есці і спаць. Ад гэтакіх думак хоць на свеце не жыві...

— Трэба яшчэ дзяцей вам. Ну, што гэта — адзін сын? Вы ж яго заліжаце. Эгаіст вырасце.

Наташа пільна зірнула на яго, раптам слёзы бліснулі ў яе на вачах.

— Ой, Ваня, ты як у ваду глядзеў... Сама не ведаю, што рабіць. Зацяжарыла я. Муж кажа: хай будзе дзіця. А я не хачу. Каб любіла... А так двое дзяцей — гэта ўжо ўсё. Нікуды не дзенешся. Нічога не папішаш.

— А куды ты думаеш дзецца? Муж цябе любіць. Сына шануе. Не лайдак, не п'яніца. Ты сама не ведаеш, чаго хочаш...

— У цябе зусім іншае жыццё. І ты не можаш уявіць... Я жыву, як у балоце...

— Ну, дык асушай яго,— паспрабаваў пажартаваць Чуйкевіч, але жарт яму самому не спадабаўся.— Прабач. Я разумею, што ўсё няпроста. А што ты зрабіла, каб перайначыць сваё жыццё? Думаеш, мне было лёгка?

— Што я магу зрабіць? Спрабавала... Зрэшты, сыты галоднага не разумее. Ты — шчаслівы...

— Дык што я... вінаваты па-твойму?

— Не, не, Ваня, мілы! Я сама вінавата. Я такая дурніца... Я ж цябе любіла. І цяпер яшчэ... Чаму я цябе не паслухалася? І вось пакутуй усё жыццё...

Чуйкевіч раптам адчуў, як сціснулася сэрца, быццам штосьці забытае прачыналася ў ім. Усхваляваны, разгублены, ён стаяў перад ёй і не ведаў, што сказаць, чым суцешыць. Яны доўга маўчалі. Нарэшце Наташа загаварыла зноў:

— Да чаго я дадумалася, Ваня? Мне здаецца, жыццё — гэта любоў. А калі яе няма — чаканне яе. І няшчаснай любові не бывае. Чым бы яна ні скончылася, але яна была. І гэта — шчасце. І цябе я ніколі не забуду...

Аб'явілі пасадку на самалёт. Пасажыры захваляваліся, адразу вырасла чарга ля металічнай брамкі, за якой стаяла мілавідная дзяжурная ў блакітнай аэрафлотаўскай форме.

— Трэба ісці, Ваня. Задурыла табе галаву. Забудзь пра ўсё гэта. Не крыўдуй на мяне.

## III

Праз колькі хвілін серабрыста-блакітны «Як-40» узяў курс на Магілёў. Спачатку ляцелі ў густым, як малако, тумане, потым воблакі зрабіліся рэдкімі, нібы касмылі ваты падалі ўніз і раставалі ў фіялетавай смузе. Чуйкевіч адкінуўся на спінку крэсла і заплюшчыў вочы...

Прыгадаўся той далёкі вясновы дзень, светлы і цёплы, як усмешка немаўляці. Іван быў тады на практыцы ў адным саўгасе, жыў на кватэры. Раніцой, калі ён збіраўся ў кантору, у пакойчык зазірнула гаспадыня, Ядвіга Сымонаўна.

— Ну што, можа, сёння з'ездзім па ядловец, га? Ты ж некалі абяцаўся ўзяць каня,— пачала яна.

— Не ведаю. Ці ўдасца,— адказаў кватарант.— Я, канечне, пастараюся. Але, вядома, абяцаць лягчэй...

— Добра было б звэндзіць кумпякі. Усё падрыхтавана. Толькі б ядлоўцу прывезці. Лес жа ў нас пад бокам. Мы з Наташай хуценька б адвярнуліся, усё б зрабілі,— гаспадыня імкнулася цвёрда пераканаць кватаранта, бо калі выпісаць каня самой, то трэба плаціць грошы, і таму яна рассыпалася драбней за мак.— Глядзіш, Іванька, была б у нас свежая вяндлінка. Ды з хрэнам — смаката,— прыжмурыла яна невялікія хітрыя вочкі.

— Ну, Ядвіга Сымонаўна, скажаце... У мяне аж слінкі пацяклі,— усміхнуўся хлопец.

Іван жыў тут ужо другі месяц. Гаспадыня ўсё больш да яго прыглядалася, і не без дай прычыны: дачка дзесяцігодку канчае, а там і пра замужжа трэба думаць, а кватарант хлопец прыгожы, не шкада і вяндлінкі, каб прывабіць.

Каня ўдалося ўзяць, і апоўдні яны былі ў лесе. Івану таксама захацелася паехаць. Ён высякаў галінкі ядлоўцу, цвёрдыя, нібы косць, выбіраў самыя густыя кусты, якім такое прасвятленне не дужа шкодзіла. Наташа ўскідала галінкі на воз. Ядвіга Сымонаўна адышлася воддаль і там збірала сучча.

— Паглядзіце, якое дзіва! — Наташа паказала на высокі, стройны ядловец.— Такі густы, кучаравы, а макаўка вострая, быццам дзіда.

— Паўночны кіпарыс. Сапраўды прыгожы,— Іван любаваўся дзіўным стварэннем прыроды. Але яшчэ бо-

лей яму хацелася любавацца гэтай тоненькай усмешлівай дзяўчынай з русявымі касіцамі, такой чыстай, ладненькай і мілай.

— Што вы на мяне так гледзіцё? — яна раптам пачырванела і апусціла вочы.

— Я нічога... Я на ядловец гляджу.

— Ён такі калючы. Во, як рукі пакалола.

Іван зірнуў на далоні дзяўчо — яны былі спрэс у чырвоных крапінках, узяў за руку, яна была гарачая, трапяткая.

— Давайце паваражу. Гэта — лінія жыцця. Доўга жыць будзеце. Гэта — лінія шчасця...

Наташа слухала, схіліўшы галаву, твар яе быў так блізка... Трэснуў сучок — да іх набліжалася Ядвіга Сымонаўна. Хлопец, як заяц, скочыў за куст.

— Ну, як у вас тут работа?

— А мы, Ядвіга Сымонаўна, па прынцыпу: ты, работа, нас не бойся, мы цябе не закранем,— пажартаваў Іван.— Так хлопцы ў тэхнікуме гавораць.

— Гэтак і абначыцца тут можна. Дзень ужо канчаецца,— па-свойму зразумела жарт Ядвіга Сымонаўна.

— Мама, паглядзі, які прыгожы куст. Усе галінкі роўненькія, як адна. І так цягнуцца да сонца.

— Бачу, дачушка. Сячы яго і рука не паднімецца. А яму ўжо, мусіць, шмат гадоў?

— Але. Ён ужо не малады. Жыве ядловец доўга. Трыста, пяцьсот. Часам да дзвюх тысяч гадоў...

Іван расказаў, што гектар ядлоўцу за суткі выдзяляе каля двух пудоў лятучых рэчываў — фітанцыдаў, і што гэтыя фітанцыды могуць знішчаць шкодных бактэрый, прафільтраваць паветра вялікага горада, што ягады ядлоўцу багатыя на цукар, за што яго называюць хвойным вінаградам.

— Што ты кажаш! Во ты куды дзівіся, га! Вось табе і ядловец,— вохкала ад здзіўлення Ядвіга Сымонаўна.

— А як зацвіце — першая прыкмета, што пара сеяць ячмень,— Іван перахапіў позірк Наташы, у якім было несхаванае, шчырае захапленне.

Гэтае ж захапленне і гордасць свяціліся ў яе вачах, калі вярталіся дамоў. Ядвіга Сымонаўна ехала ўслед. Ці то маладыя крочылі борзда, ці то конік ішоў занадта ціха, адлегласць паміж імі і фурманкай усё павялічвалася.

— Ну, як рука? Баліць? — спытаў хлопец.

— Трохі пашчыпвае...

— Нічога, пройдзе,— Іван узяў Наташу за руку — па-сялянску шыракаватая далонька была гарачая. Яны ішлі побач, і калі фурманкі было амаль не відаць, Іван нечакана прыхінуў дзяўчыну да сябе і няўмела пацалаваў у шчаку. Наташа пачырванела, разгубілася, вырвала руку і пабегла. Але неўзабаве спынілася, пайшла павольна, унурыўшы галаву ў плечы. Іван хутка дагнаў яе, нясмела абняў.

— Ты... кахаеш мяне? — спытала раптам Наташа.— Ці хочаш пасмяяцца? Паехаць — і забыць...

— Ты мне падабаешся. Вельмі. Не ведаю, ці гэта каханне...

Наташа спынілася, паглядзела яму ў вочы, устрапянулася, ускінула рукі, нібы крылы, абхапіла яго за шыю і моцна пацалавала ў губы. У хлопца перахапіла дыханне, соладка затахкала сэрца і млява закружылася галава.

Далей яны ішлі моўчкі, прыціхлыя, узрушаныя, нібы адкрылі для сябе нешта нязведанае і таямнічае. Потым яны цішком цалаваліся і абдымаліся амаль штодня. Наташа здавала іспыты ў школе. Іван раіў ёй паступаць у сельскагаспадарчую акадэмію. Яна не згаджалася.

— Я хачу стаць актрысай. Хачу жыць у вялікім горадзе. Выступаць на сцэне. У кіно здымацца...

— А ты ўпэўнена, што з цябе выйдзе актрыса?

— У школьным драмгуртку я выконваю галоўныя ролі.

— Ну і што? Гэтага мала, каб стаць кіназоркай. Проста ты грэбуеш сялянскай працай... Мамчына дачка. Пястуха...

Наташа надзьмулася, перастала з ім гаварыць, пазбягала яго.

Неўзабаве скончылася практыка, і будучы аграном паехаў з вёскі. Шмат разоў ён браўся напісаць ліст Наташы, але так і не напісаў...

Самалёт гайдануўся, пайшоў на зніжэнне, вушы як заклала ватай. Была відаць зямля, белыя, засланыя снежным абрусам, палі. Унізе ішоў па рэйках цягнік, павольна, як сонны. Побач з чыгункай цягнулася стужка аўтастрады, па ёй густа каціліся разнаколерныя машыны, і шаша нагадвала стракатую нітку пацерак.

«Як многа чаго зрабілі людзі,— думаў Чуйкевіч.— Праз лясы, балоты праклалі чыгунку, працягнулі шашу. Нарабілі машын, самалётаў. Набудавалі гарадоў, вырасцілі сады. А калі няма шчасця, радасці, дык навошта усё гэта? Чаму чалавек рэдка бывае шчаслівы? Чаму? Ці гэтаму трэба вучыцца? І, мабыць, мы яшчэ не дараслі да гэтага. Не навучыліся...»

## IV

Заснуў Чуйкевіч позна. Раніцой пайшоў у кантору. Да паўдня займаўся рознымі справамі. Ужо збіраўся дамоў, калі ўвайшоў брыгадзір Сяргей Басько, вясёлы, чыста паголены.

— Ці не глынуў ты зрання? За стары ці ўжо за новы?

— Ды не, Іван Антонавіч. Яшчэ макавай расінкі не было ў роце. Во, толькі атрымаў,— падаў невялікую паперчыну.— Выклік з тэхнікума прыслалі. Сесія з пятага чысла. А я ўжо думаў — не прышлюць. Кантрольныя работы былі такія галаваломныя. Асабліва па хіміі. Чорт нагу зломіць. Мне здалося, нахімічыў я там будзь здароў. Ажно не. Залічылі. Дзякуй, Антонавіч. Каб не ты...

— Няма за што дзякаваць. Я за цябе кантрольных не рабіў.

— На першым курсе пасабляў. Сілком зацягнуў у тэхнікум.

— Ну, на першым не грэх памагчы. А вучыцца ты сам захацеў.

— Дык вось, Антонавіч, просьба да цябе. Апошняя ў гэтым годзе.— Чуйкевіч насцярожыўся: чаго ён так пад'язджае? — Прыходзь сёння да нас. З жонкай, з дачкой. Па-сямейнаму. Пасядзім, пагамонім. «Агеньчык» паглядзім. Справадзім стары, спаткаем новы...

Гэтага Чуйкевіч ніяк не чакаў. Міжволі падумалася: колькі разоў спрачаўся з брыгадзірам, аднойчы ў часе жніва ледзь загрудкі не пабраліся, а ён, дзівак, прыйшоў падзяліцца радасцю.

— Дзякуй, браце. Не абяцаю. Дзіця малое,— нерашуча пачаў Чуйкевіч, але ўбачыў, як брыгадзір спахмурнеў, прытрымаў язык і, памаўчаўшы, дадаў: — Адным словам, пабачым... З жонкаю трэба параіцца... Я думаю, прыйдзем, Сяргей Ігнатавіч. Абавязкова.

— О, гэта голас! — Басько шырока ўсміхнуўся, моцна паціснуў руку аграному і шпаркім, лёгкім крокам выйшаў з кабінета, ціхутка зачыніў дзверы.

Чуйкевіч упершыню заўважыў, што ў Басько ўжо сівыя скроні, падумаў: гэта ж яму за сорак, і ахвота, маючы пяцёра дзяцей, гарбець над кантрольнымі, ездзіць на экзамены. А зрэшты, дзе падзенешся? Які цяпер брыгадзір без дыплома?

Так раздумваючы, агранparam падыходзіў да свайго дома, калі яго дагнаў Цімох Міхалюта, у шэрым паліто, новай футравай шапцы. Павіталіся, разгаварыліся.

— Ну і шапка ў вас, Цімох Піліпавіч! Надта фарсістая.

— А што? З такой шапкай толькі да дзевак хадзіць, га? — стары зарагатаў, паказаўшы жоўтыя ад тытуню, буйныя зубы.— Не ўжо, браце. Быў Цімох ды пайшоў па мох... Гэта ж, во... Валодзька мой прыехаў. Ён у Казахстане, на цаліне працуе. Добра зарабляе тамака. Толькі, во, не ажэніцца ніяк. Можа, тут у нас якая акруціць яго? Тады б і застаўся дома.

— Было б нядрэнна. Добрыя людзі нам патрэбны.

Стары востра зірнуў на Чуйкевіча. Мабыць, словы галоўнага агранома былі яму, як маслам па душы, але ён не падаў выгляду, глуха кашлянуў у кулак:

— Вы яго ці помніце? Мы з ім касілі жыта... А вы ішлі. Я тады яшчэ пасміхаўся з той палосы... А ўвосень Валодзьку ўзялі тады ў армію. А адтуль — на цалінныя...

— Помню, Цімох Піліпавіч. Чаму ж не? І палосу тую помню.

Стары зноў кашлянуў у кулак:

— Дык вось, Антонавіч, заходзьце сёння да нас. Па чарцы зробім за Новы год. Валодзька будзе рады...

— Ну, Валодзьку трэба ў клуб. На танцы. Што яму дома сядзець. Сёння — не абяцаю. Можа, заўтра? Зайду, пагамонім.

## V

Праз паўгадзіны Чуйкевіч кіраваў у лес. Дзень быў ціхі, задумны, падалі сняжынкі, вялікія, бухматыя. «Няхай ідзе снег,— радаваўся Чуйкевіч.— Няхай укрывае, уцяпляе поле. Снегу многа — хлеба многа. Каб не горш як сёлета было».

А сёлета калгас «Чырвоны барацьбіт» сабраў па сорак цэнтнераў збожжа з гектара.

Поле горбілася белымі ўзгоркамі. Паўз дарогу высіліся даўжэзныя абснежаныя сціртры саломы. Сціртры стаялі якраз на той палосе, якую Чуйкевіч не забудзе да скону і якую, аказваецца, помніць і стары Цімох.

У той год вясна была ранняя, зіма бедная на снег. Так галашчокам і перазімавала поле.

— Трэба паболей падкарміць жыта. Асабліва каля дарогі,— загадаў старшыня брыгадзіру Басько.— Сыпце, не шкадуйце.

— Лепш унесці норму,— запярэчыў аграном.

— Ідзі ты са сваёй нормай. Рабіце, як я сказаў,— адрэзаў старшыня.

Брыгадзір зірнуў на агранома, але змоўчаў.

Так і зрабілі. Жыта расло як на дражджах, роўнае, густое, з цёмна-шызым тлустым адлівам. У калгас часта прыязджалі розныя дэлегацыі, прадстаўнікі з раёна. Усе хвалілі, дзівіліся. Суседзі зайздросцілі. Толькі аграном глядзеў на гэтае жыта, як у жніво пазіраюць на неба, калі дзесьці на краі небасхілу засінеецца хмурынка. Не паспела збажына адкрасавацца, як лінуў дождж з навальніцай і шквалістым ветрам. І жыта палегла. Палоса метраў паўсотні шырынёй працягнулася паўз дарогу аж да лесу.

— Нічога, падымецца. Дзе яно дзенецца,— супакоіў агранома старшыня калгаса.

Але жыта не ўставала. Праз колькі дзён старшыня з аграномам зноў прыехалі на поле.

— Падымецца? Як ты думаеш, Іван Антонавіч?

У хрыплаватым голасе старшыні чулася прыхаванае шкадаванне, разуменне сваёй віны і павага да гэтага хлапчука-агранома.

— Яму ўжо не падняцца. Жаўцець пачало ля кораня. Трэба скасіць, пакуль не згніло.

Старшыня павярнуўся і моўчкі пасунуўся да машыны. На другі дзень аграном ішоў цераз поле. Мужчыны касілі палеглае жыта. Цімох Міхалюта, каржакаваты, жылісты, у палінялай блакітнай майцы навыпуск, згледзеўшы яго, гукнуў:

— Ну, як ураджай, аграном?

— Калі будзе дождж ды гром, дык не трэба й аграном,— сказаў нехта, і касцы зарагаталі.

— Але ж доўгая палоска, каб яе ліха.— Стары пры-

ставіў да лба далонь, зірнуў у далячынь.— Ды і не абы-якая яна... Паказухіна палоса... Дзе ж яно вытрывае, гэтае жыта? Тут жа насыпалі столькі супрастату ці яшчэ нейкай трасцы.

— Не суперфасфату, а салетры,— паправіў Цімоха яго сын, хударлявы, рыжаваты хлопец.

— Хай сабе так. Аж бела было. Ну, і пёрла жыта ўгору, пакуль не палегла. Што залішне, то не здарава. Паспрабуй у суп насыпаць солі, перцу звыш меры. Есці не будзеш. Так і тут. Адным словам, зарабіў наш брыгадзір, як Хама на воўне: кажух астрыг і воўны не прадаў.

Мужчыны рагаталі, а Басько, які касіў разам з усімі, агрызнуўся:

— Палоса не майго носа. Мне загадалі, я зрабіў.

— Канечне, цяпер нікому ані ў пяце ані ў галаве. Пасеялі ў свіны голас. Потым нахімічылі. Не, браце, зямельку-карміцельку не падманеш. Я і старшыні гэта казаў. І табе, аграном, кажу.

Чуйкевіч слухаў і гатовы быў праваліцца скрозь зямлю ад сораму.

— Будзе ўраджай, Цімох Піліпавіч. Будзе! Не сёлета, дык налета. Павінен быць.

— Дай бог чутае бачыць,— усміхнуўся Цімох і пачаў мянтачыць касу.

Скошанае жыта дыхала цёплым, саладкавата-гаркавым водарам.

А ўвосень выступіў аграном на раённай нарадзе. Гаварыў пра набалелае, не забыў і «паказухіну палосу». Як цяпер ён помніць тое адчуванне, калі ішоў з трыбуны, а зала грымела ад воплескаў.

— Ну, брат, і ўрэзаў ты! Малайчына! — чуліся галасы.

На справаздачным сходзе калгаснікі абралі новага старшыню. А праз год Чуйкевіч уступіў у партыю. Першым яго рэкамендаваў Цімох Міхалюта, былы франтавік, камуніст з сорак трэцяга года.

...Чуйкевіч падыходзіў да лесу. Маўклівы, нахмураны, абснежаны, быццам прыпудраны дзед-мароз, лес застыў у чаканні Новага года і, можа, прыгадваў перажытае: якія дрэвы зніклі, як падраслі маладыя, колькі паявілася новых.

Вакол панавала незвычайная цішыня. Ні адна птушка не адважвалася яе парушыць. Нават сарока і тая

моўчкі пераляцела цераз дарогу. Чуйкевічу не верылася, што сёння апошні дзень года, хоць, уласна кажучы, ён ужо даўно жыў клопатамі будучага года, будучага ўраджаю, з тых дзён, калі на схіле лецейка пачалі сеяць жыта.

Ён ішоў, раздумваючы, а вочы пільна ўзіраліся ў густы падлесак, нібы абмацвалі кожнае дрэўца. Нарэшце знайшоў кучаравую елачку, агледзеў з усіх бакоў, дастаў невялікую сякеру, што была за рэменем, пастукаў па тонкім ствале — елачка здрыганулася, серабрыстым пылам пасыпаўся снег. Чамусьці прыгадаўся хлапчук, які нёс маленькае дрэўца і ўсміхаўся.

Чуйкевіч патупаў вакол елачкі, трохі воддаль убачыў ядлоўцавы куст і пакіраваў да яго. Куст быў густы, высокі, адны галінкі нібы прыхіналіся да ствала, другія адыходзілі далей, закругляліся, цягнуліся ўгору і там сыходзілі на конус. Куст быў як абсыпаны дробнымі матава-сінімі і яшчэ недаспелымі зялёнымі ягадамі. Успомнілася, як аднойчы спрабаваў настойку на гэтых ягадах — пітво гаючае, з прыемным смалістым водарам.

— Вось зацвіцеш — пасеем «эльгіну». Паглядзім, што за навіна. Прыжывецца, дадзім ёй дарогу,— сказаў уголас Чуйкевіч, нібы наказваў ядлоўцу не прапусціць час сваёй квецені, бо ад гэтага залежаў лёс у калгасе «Чырвоны барацьбіт» замежнай «эльгіны», узгадаванай нашымі сябрамі, нямецкімі хлебаробамі.

## VI

Дамоў Чуйкевіч прынёс некалькі сцяблін ядлоўцу, яловую галінку з вялікімі, доўгімі рудаватымі шышкамі.

— А дзе ж ёлка? — здзівілася Вера.

— Хіба не ведаеш, дзе ёлкі? У лесе... Такую знайшоў елачку прыгожую! Ну, проста як лялька. Рука не паднялася ссячы. Затое, во, прынёс ядлоўцу. Паўночны кіпарыс. Дзівоснае дрэва. А гэта ягады,— падаў кулёк з газеты.— Зробім настойку. Зёлкі кахання. Каб мацней абдымала...

Вера адвярнулася, нервова сцепанула плячамі.

— А што, тая мацней абдымае? Таму і запазніўся... Я ўсю ноч думала, вачэй не звяла...

— Ні з кім я не абдымаўся. Ну, што ты за чалавек!

— Канечне, нам ёлка не патрэбна. Таму і цацак не купляў... Пра дзіця падумаў бы,— яна адышлася ў куток і села там ля халадзільніка.

— Вера, гэта ж смешна. Навошта Ірынцы ёлка? Яна яшчэ хадзіць добра не навучылася. Давай ёй ужо карагод. Дзеда-мароза і снягурку. А ёй гэта трэба, як зайку стоп-сігнал, а рыбе — парасон. Падрасце — будзем ставіць ёлку. А сёння пойдзем у госці да брыгадзіра. Запрашае чалавек. Я ж табе гаварыў.

— Нікуды я не пайду... Туды гэтая Насця прыпрэцца, звеннявая. Яна ж радня нейкая яму. Будзеш ліпнуць да яе. Казалі ж, шаптаў ёй усё на вуха, як прэмію замочвалі.

«Божа, што з ёй зрабілася?» — Чуйкевіч стомлена сеў ля стала, і нейкае злое, нядобрае пачуццё абуджалася ў ім.

— А пра тое, што я вуха ёй адкусіў, не гаварылі? А яна мне — нос...

Вера няўцямна паглядзела на яго і яшчэ мацней заплакала.

— Ну, вось што, як сабе хочаш! Можаш сядзець дома!

Чуйкевіч моцна грукнуў дзвярамі. Пастаяў трохі на ганку. Ужо бралася на вечар, кружыліся рэдкія, лёгкія сняжынкі.

«Што на яе напала? Яшчэ расказаў, дурань. Хіба ж я думаў, што яна такая... От, ёлкі-маталкі... І трэба ж у канцы года. Пра адну сем гадоў думаў, успамінаў, насіў у сэрцы нешта светлае... А другую лічыў самай добрай...» — Чуйкевіч павольна сышоў з ганка, высунуўся на вуліцу. Па дарозе нехта ішоў і курыў. Яшчэ здалёк пазнаў старога Цімоха, які нёс цяжкую сумку — мабыць, з крамы. Чуйкевіч раптам крута павярнуў назад.

Жонка сядзела на тым самым месцы, зірнула на яго і моўчкі павярнулася да акна. Чуйкевіч абняў яе за плечы.

— Ну, не трэба, Вера. Супакойся. Сёння апошні дзень года. Пражылі мы яго нядрэнна. І спрачаліся рэдка. Давай, каб у новым годзе мы пра гэта не ўспаміналі.

— Калі ты не будзеш такі ветраны...

— Вера, ну, зразумей ты адно. Я люблю цябе. І ніхто мне болей не патрэбен,— ён пацалаваў яе. Яна абшчапіла яго за шыю і моўчкі гладзіла валасы, уся

прыціхлая, мяккая, расслабленая. Потым узяла галінкі ядлоўцу, асцярожна паднесла іх да твару.

— Ой, якія калючыя! А як пахнуць! Трэба паставіць у ваду.

У другім пакоі заплакала Ірынка. Яны пайшлі да яе.

Канчаўся апошні дзень старога года.

*1975*

## БАРКУН

### I

Зменны майстар абутковай фабрыкі Мікола Хадаронак прыйшоў дадому стомлены. Быў панядзелак. Да канца месяца заставалася пяць дзён. План гарэў, начальнік цэха хадзіў заклапочаны і хмурны, як восеньская аблачына, што можа прынесці і дождж, і снег. Пад канец дня, нібы гром з яснага неба, абрынуўся яшчэ адзін клопат: гандлёвая база вярнула кантэйнер абутку. Значыць, тысячу пар чаравікаў давядзецца перарабляць. Хто-хто, а Хадаронак ведаў, чым гэта пахне, і настрой яго зусім сапсаваўся.

— Пачакай, Коля. Не распранайся,— сустрэла жонка.— Бульбы няма. Схадзі ў магазін, га?

— Ну вось, пачынаецца. Толькі на парог...

— Я таксама толькі прыйшла. У нас быў сход. У садзік забегла. Кацю забрала. Дзімка вунь румзае — задачка не паддаецца...

Дзімка тым часам падляцеў з кніжкай да бацькі, перапэцканым пальцам, хоць і піша шарыкавай ручкай, тыцнуў у старонку.

— Во, гэта. Пра пешаходаў,— і таропка, захліпаючыся, пачаў чытаць: — З дзвюх вёсак адначасова выйшлі два пешаходы, праз тры гадзіны яны сустрэліся, першы пешаход ішоў з хуткасцю чатыры кэмэ ў гадзіну. З якой хуткасцю ішоў другі?..

Хадаронак не мог адразу ўцяміць, што да чаго. «У трэцім класе — гэтакія задачы»,— стомлена ўздыхнуў ён.

— А ты і сёння выпіў, татка? — раптам сказаў ма-

лы і для большай пэўнасці, як гэта рабіла маці, дадаў: — Прызнавайся!

— Ды не, сынуля. Нічога я не піў. І ў рот не браў...

Апошнія словы пачула жонка, яна вярнулася з кухні, трымаючы ў руцэ чырвоную сетку.

— Што, няўжо зноў? Ты ж абяцаў! Кляўся, што не будзеш. Як з табой жыць далей? — жонка камячыла ў руках сетку, і яе чырвань яшчэ мацней падкрэслівала бледнасць і кволасць тонкіх пальцаў.

— Ды не піў я. Чаго ты прычапілася? Піва толькі... Настрой паганы. Пасля ўчарашняга блага. А тут на рабоце непрыемнасці.

— У цябе заўсёды так. Прычын хапае. То п'еш, то пахмяляешся.

— Учора я не шукаў прычыны. Твой жа брат прынёс...

Хадаронак вырашыў перайсці да актыўнай абароны і пусціў у ход галоўны козыр: учора зайшоў швагер, вядома, не з пустымі рукамі. Хадаронак, як гаспадар, таксама паставіў на стол пляшку, і яны дабравата падпілі. Жонка змоўкла, бо не было чым крыць. Каб замацаваць перамогу, Хадаронак рашуча дадаў:

— І няма чаго бурчаць. «Напіўся, набраўся...» Бурчаць усе ахвотнікі, а бульбы купіць няма каму,— ён вышмаргнуў сетку з жончыных рук і крутнуўся за дзверы.

На вуліцы ўжо зусім ацямнела, сеялася халодная імжа. Цьмянае, сіняватае святло цадзілася праз шкляныя сцены піўнога бара, які здалёк нагадваў асветленую знутры вялізную чарніліцу. Хадаронка зноў рапатам пацягнула туды: назло жонцы, начальніку цэха, назло ўсім... У кішэні муляў траяк — можна ўзяць бутэльку віна і на бульбу застанецца, але ўспомніў Дзімку з ягонай задачкай і прыцішыў хаду. «Соку вып'ю і пайду па бульбу»,— разважыў ён.

У шкляной будыніне было тлумна, людна, вісеў густы дым і панавала бязладная гамана. Хадаронак выстаяў чаргу, узяў таматнага соку, сыпануў у шклянку солі і адышоў убок.

— Сын у мяне нарадзіўся, разумееш, стары? — гучна гаварыў за суседнім сталом хударлявы хлопец з чырвоным, даўгаватым носам, пад якім тапырыліся рудаватыя вусы.— Вырасце сын, разам у лазню хадзіць будзем,— ён адхінуў крысо паліто, дастаў бутэльку,

дрыжачай рукой пачаў наліваць віно ў шклянкі. Бутэлька дробна пастуквала аб край шклянкі, і здавалася, што нехта клацае зубамі ад холаду.

«Дапіўся, салага. Ужо рукі дрыжаць. Не зайздрошчу я твайму сыну,— падумаў Хадаронак.— Ды і я — цаца добрая. Дома чакаюць, а я тут вушы развесіў...»

Гамана за суседнім сталом не сціхала.

— Раніцай сёння ўбіўся ў аўтобус. Там гэтак пахла, што хоць вымай з кішэні хлеб і закусвай,— хрыплаватым голасам казаў напарнік вусатага, пажылы мужчына з няголеным, азызлым тварам.— У панядзелак заўсёды так...

Пачуўшы гэта, Хадаронак нечакана горка ўсміхнуўся, бо сам сёння прачнуўся рана, галава была цяжкая, як цабэрак, язык прысох да нёба. Каб крыху ачомацца, не стаў чакаць аўтобуса, а пайшоў пехатою паўз чыгунку.

Не дапіўшы сок, які быў гаркаваты — мусіць, перадаў солі, Хадаронак падаўся да выхаду. Азірнуўшыся, прыкмеціў, што вусаты зноў адхінуў крысо паліто.

## II

У магазіне «Гародніна», як заўсёды пад вечар, была чарга. Хадаронак выбіў чэк і памалу пасоўваўся у чарзе, у думках зноў перабіраючы падзеі сённяшняга дня. У галаве, нібы цвікі, заселі словы начальніка цэха: «Далей так працаваць нельга. Вытворчасць існуе не дзеля вытворчасці. Закон эканомікі сведчыць,— начальнік быў малады, шустры, любіў казырнуць навуковымі тэрмінамі,— прадукт зроблены толькі тады канчаткова, калі ён рэалізаваны. Пакуль нашы чаравікі не купілі, пакуль у іх не ходзяць на работу, у кіно, на танцы, значыць, мы працуем, як у народзе кажуць, на ўзвей вецер. Вось так, браток».

Хадаронак стаяў і думаў пра план, пра рэканструкцыю цэха, пра якую апошнім часам пачалі гаварыць усё часцей. Хоць галава была занята гэтымі не дужа вясёлымі думкамі, вочы самі сабою, па звычцы аглядалі ногі людзей: у гэтага чаравікі венгерскія, у таго — югаслаўскія, а вунь у той мажнай кабеты — боцікі віцебскія, на платформе. «Хутка віцябляне падхапілі моду,— падумаў ён і зірнуў на ногі жанчыны, што стаяла перад ім.—

Авохці мне! Нашы! — ён пазнаў чаравікі новай мадэлі, якую нядаўна асвоіў іх цэх: шыракаваты, даволі высокі абцасік, ля мыскоў дзве дэкаратыўныя прошвы.— Вось ён, канчатковы прадукт. Мы зрабілі, яна купіла...»

Нечакана жанчына павярнулася.

— Вы будзеце стаяць? Мне трэба на хвілінку. Я во — за ёй,— паказала на кабету ў віцебскіх боціках.

Хадаронак моўчкі кіўнуў. Жанчына пакіравала да касы. Ішла яна лёгка, з нейкай прыроджанай грацыяй, на стройных нагах з высокім пад'ёмам чаравікі выглядалі дужа хораша. Прыталенае цёмна-сіняе паліто яшчэ болей акрэслівала яе тонкую, як у дзеўчаняці-падлетка, постаць, на галаве нізка павязана цёмная хустка.

«Мо яна з нашых?» — мільганула думка, бо так любяць завязваць хусткі дзяўчаты з іхняй фабрыкі. Але твар яе быў незнаёмы. На патыліцы ражок хусткі прыўзнімаўся над тоўстай русявай касой, сціпла і акуратна ўкладзенай так, што яе канец падгінаўся, і была відаць толькі кароткая тугая пляцёнка, якая чамусьці нагадала Хадаронку бурштынава-жоўты вянок цыбулі — маці вешала іх на жэрдку пад столь ля печы і завешвала посцілкай.

Неўзабаве жанчына вярнулася з чэкам у правай руцэ, на якой пабліскваў шлюбны пярсцёнак, ветліва падзякавала Хадаронку.

«А я не датумкаў. Спачатку ў касу выстаяў чаргу, цяпер тут»,— паўшчуваў сябе, а ўголас сказаў:

— Няма за што. Ведаю, клопату ў жанчын хапае. Усюды трэба паспець,— Хадаронка як хто цягнуў за язык, карцела пагаварыць.

— Чаго-чаго, а клопату хапае,— уздыхнула яна.

Голас незнаёмкі ўздрыгнуў, і Хадаронак адчуў, што яна нечым узрушана, заклапочана, ад яе паліто ён улавіў пах, якім звычайна тхліць усё ў бальніцы. Жанчына стаяла бокам да Хадаронка, бо, пакуль хадзіла да касы, чарга пасунулася, ушчыльнілася, цяпер яму быў добра відзён яе твар — бледнаваты, далікатны. На штрыфлі паліто ён заўважыў вялікі круглы значок апельсінавага колеру. На ім то ўспыхваў фіялетава-шэры бегемот, то паяўлялася дзяўчо з малым сабачкам, і толькі надпіс заставаўся нязменны — «Самый большой друг».

— Сімпатычны ў вас значок,— нечакана для сябе сказаў Хадаронак.

— Вам падабаецца? — на яго зірнулі вялікія цёмнакарыя вочы, і Хадаронак убачыў у іх затоены смутак.

— Цікавы. Сын мой збірае.

— Я магу вам падарыць,— жанчына рашуча адшпіліла значок.— Калі ласка. У мяне яшчэ ёсць...

— Ну, што вы... Я проста так,— Хадаронак разгубіўся, пачырванеў. Жанчына патрымала значок на далоні, а потым апусціла яго ў кішэнь Хадаронкавага плашча.

Хадаронак стаяў сам не свой, няўцямна памацаў кішэню, пачуў шоргат паперы і ўспомніў, як раніцай ішоў паўз чыгунку.

...Быў густы туман — нібы ўсё абкладзена ватай. Пахла адсырэлая трава. У адным месцы ён пачуў нейкі незвычайны водар, моцны і тонкі, быццам расцвіла чаромха ці нехта кінуў касмыль духмянага лугавога сена. Хадаронак пачаў шукаць «духмянку» і знайшоў: гэта былі высокія, без лісцяў, кусцікі баркуну, на самым версе іх віселі доўгія, тонкія суквецці драбнюткіх, ужо закарэлых, белаватых кветачак. Ён адшчыкнуў галінку — дыхнула водарам майскага лесу, калі цвітуць ландышы.

У прадымленым гарадскім паветры гэты пах быў асабліва прыемны. Усплыло на памяць, як улетку каля сцежкі высіліся кусты жоўтага баркуну. Аднойчы Хадаронак убачыў бабулю, якая адшчыквала жоўтыя суквецці — на зёлкі. Тады і даведаўся, што гэта баркун і што бывае ён белы і жоўты. Потым нехта абкасіў сцежку, падсохлая трава доўга ляжала, вакол моцна пахла сенам. Пасля работы, ачмурэлы ад смуроду гумы, клею, Хадаронак прыцішаў тут хаду, дыхаў на поўныя грудзі, усміхаўся сам сабе, як дзіця, і — нясцерпна карцела паехаць у вёску...

Галінка была мокрая, брудная, счарнелая, бо ўжо пракідаліся замаразкі — канчаўся кастрычнік. У тумане загрукатаў цягнік, міма праносіліся пузатыя цыстэрны, яны блішчэлі, як бакі загнанага каня. «Бензін», «прапан» — мільгалі цёмныя, закапцелыя надпісы. Рэйкі зыбаліся, угіналіся ад цяжару. Цягнік заляскатаў далей, успыхнула чырвонае вока семафора. Хадаронак панюхаў кветку. «Якая ж ты малайчына! Колькі ў цябе жыццёвай сілы!» Ён загарнуў кветку ў паперу, паклаў у кішэню і забыў — дзень выдаўся тлумны.

Цяпер, стоячы ў магазіне, ён ціхутка дастаў кветку. Яна падсохла, але суквецці не адваліліся, пах быў гэ-

такі ж моцны, як і раніцай. Ён памкнуўся быў падараваць познюю кветку незнаёмцы і хоць такім чынам аддзячыць за значок, але жанчына падставіла ўжо сетку пад латок: прадаўшчыца адважыла ёй бульбу. Хадаронак мітусліва дастаў сваю сетку. Некалькі бульбін упала міма, але ён нават не глянуў сабе пад ногі і сігануў на вуліцу.

Наперадзе ў паўзмроку віднелася стройная постаць незнаёмкі. Хадаронак наддаў кроку. «Два пешаходы выйшлі...» — мільганула ў галаве.

— Відаць, нам па дарозе?

— Дарога не далёкая. Да канца завулка.

— Паглядзіце, што за кветка. Не дужа прыгожая. Затое водар які! Сёння раніцай сарваў...

Незнаёмка вольнай рукой узяла кветку.

— Ой, праўда, як пахне. Вось дык дзіва. Што гэта такое?

— Баркун белы. Па-руску — доннік. Бывае і жоўты... Давайце сетку. Паднясу,— спахапіўся ён. Незнаёмка не пярэчыла.— Во, зусім другі каленкор. У абедзвюх руках груз. Для цэнтроўкі. Каб не хістаўся. А чаму ж вы мужа не выправілі ў магазін?

— Пад мухай прыйшоў... Хваліцца ўсім у двары: «Сын у мяне». А сына няма...

— Як няма? Што-небудзь здарылася?

— Слабы нарадзіўся. Захварэў і памёр... А бацька п'е на радасці. Я сёння з бальніцы. Не прызналася яму. Сказала, што дзіця захварэла, не выпісалі...

Хадаронак адчуў, як пацяжэлі сеткі, нібы ў іх было каменне. Перад вачамі паўстаў вусаты хлопец... «Чаму ж яна не прызналася? Пашкадавала... Дык усё роўна ж трэба будзе сказаць. Не хапіла духу, відаць»,— думаў Хадаронак з вялікай спагадай да гэтай жанчыны. Яго ўласныя беды і непрыемнасці здаліся дробязнымі і нікчэмнымі. А жанчына ўсё гаварыла і гаварыла. Мабыць, доўга маўчала, і цяпер яе быццам прарвала, як з-пад лёду выбілася вада. Таропка, блытана расказвала яна, як ажаніліся, жылі, як муж пачаў прыходзіць дамоў усё пазней і пазней...

— Мусіць, трэба разводзіцца. Надта ўцягнуўся ў гарэлку. Мо таму і дзіця кволае нарадзілася. Свякруха часта лае яго, ушчувае: «Распіўся ты, сынок, на сабачую пугу». А мяне ўгаворвае: пачакай, пацярпі, можа, за розум возьмецца. Я ўсё чакала. Думала, дзіця будзе...

Яна змоўкла. Маўчаў і Хадаронак: не ведаў, што сказаць. Гаварыць пра тое, што бачыў яе мужа, язык не павярнуўся.

У канцы завулка яны развіталіся.

## III

Назаўтра раніцай Хадаронка выклікаў Круцько, начальнік цэха.

— Што будзем рабіць з гэтым абуткам? Зноў вярнулі, каб іх...

— Як — што? На калодкі. Выпраўляць трэба.

— А план? А прагрэсіўка? Пра гэта ты падумаў?

— Падумаў.

— Кепска падумаў,— Круцько памаўчаў, зняў акуляры, пацёр вочы — павекі зрабіліся чырвоныя, і былі знаць сінія прожылкі.— Што яны там напісалі? — Круцько ўссадзіў на нос акуляры, пільна зірнуў на Хадаронка.

— Няроўнасць граняў падэшвы...

— Дык кажаш — выпраўляць. Дзівак чалавек. Зіма стукаецца ў дзверы. Прайшоў сезон на чаравікі. Вось таму і вярнулі. А гэтая няроўнасць для адчэпкі.

Круцько падняўся, рослы, з прыкметным чэравам, што выпірала з-пад шэрага, у буйныя клеткі, пінжака, патупаў па кабінеце. Гадоў пяць назад ён прыйшоў на фабрыку пасля інстытута хударлявым і касцістым, а зараз быў гэтакі краснец.

— Гм, няроўнасць,— абурана хмыкнуў ён.— От хітруны, гэтыя гандляры. Яны могуць напісаць што заўгодна. Раней пісалі «няправільная прасцілка следу». Дакажы, што не так. Гэта ж табе не шасцяронка. Замераў — і ўсё відаць. Падганяй па чарцяжы... А мы таксама не дурні. Сціралі пылінку, пакавалі абутак у новыя каробкі, адпраўлялі ў іншы горад. І там чаравікі бралі за маліну. Усякае здараецца ў нашай рабоце. Ці мне табе пра гэта гаварыць? Сам ведаеш. Бывае, што і кошка лапці абувае,— усміхнуўся Круцько, паказаўшы буйныя зубы, на адным, збоку, бліснула залатая каронка.

Хадаронак разумеў, да чаго хіліцца гаворка, але ўспомніў учарашнюю незнаёмку ў іхніх чаравіках. «І ў яе, мусіць, з няроўнасцю». Прызнацца, ён даўно быў незадаволены сваёй работай, у душы наспявала рашучасць, жаданне перайначыць тое-сёе. Аднойчы ён уба-

чыў, як работніца з ягонай змены — Таня Чаўлытка — перабірала ў магазіне чаравікі: перамацала добры дзесятак, але так і не ўзяла ніводных.

— Бывае, што і кошка... Хіба я не ведаю? Але ж вы самі кажаце, што далей гэтак працаваць нельга. Вы ўчора...— Хадаронак захваляваўся і не мог знайсці дакладнага слова, а Круцько з'едліва пазіраў на яго. Быў Круцько маладзейшы, але Хадаронак заўсёды гаварыў яму «вы», нават калі той напачатку таксама працаваў майстрам змены: можа, таму, што ў Круцько за плячамі быў інстытут, а ў Хадаронка — тэхнікум.— Каго мы абдурваем? Самі сябе... Хоць нашы работніцы, ды і вы таксама, нашых чаравікаў не носяць,— узрушана гаварыў Хадаронак.

— Мікола, што з табой? Чаго ты? Дзівак чалавек! Я табе раю як найлепш, а ты сам у вяроўку лезеш. Тут ўсё элементарна проста. Вытворчасць — працэс калектыўны, а спажыванне — індывідуальнае. Работу можна спіхнуць на каго іншага, а спажыванне — толькі сваё. Кожны хоча купіць найлепшае, а сам робіць часцяком абы з рук. Вось так, браце. І не шукай ты сабе гуза.

— Дык трэба ж, каб інакш было!

— Каб жа так лёгка... Вось атрымаем неўзабаве новае абсталяванне. Тады і пачнём працаваць па-новаму.

— А людзі ж будуць тыя самыя. Тыя, што пылінку сціралі. Абрыдла гэта распуста!

— Ну, хопіць! Развёў анцімонію. Што будзем рабіць з абуткам? Твая прапанова?

— Спыніць канвеер. Сказаць усё, як ёсць. Наш брак — нам яго і выпраўляць.

— Ну што ж, спыняй, рабі што хочаш,— Круцько ўпёрся кулакамі ў стол, аж хрупнулі пальцы ў суставах,— а план каб быў!

Хадаронак моўчкі выйшаў. На лесвічнай пляцоўцы, за чорнымі, абабітымі дэрмацінам дзвярамі кабінета ён спыніўся. Справа з шырокага акна, што выходзіла на вуліцу, цадзіўся шэры восеньскі світанак. А злева жыў, грукатаў ярка асветлены цэх. Нібы кулямёты, стракаталі пашывачныя машыны; як свінчо ў прасле, верашчалі фрэзерныя станкі.

Ідучы па цэху, Хадаронак лавіў на сабе пільныя позіркі работніц — у большасці маладых дзяўчат, учарашніх выпускніц прафтэхвучылішчаў. Ён машынальна прыгладзіў валасы, але падалося, толькі яшчэ болей ус-

кудлаціў іх. На сярэдзіне пралёта павярнуў да зеленаватай цаглянай калоны — тут на цвічку вісела даволі вялікае люстэрка ў жоўтай рамачцы. «Так і ёсць. Як раскалмачаны верабей»,— падумаў, зірнуўшы ў люстэрка. Старанна прычасаўся, глыбока ўздыхнуў, нібы перад доўгім заплывам.

Праз хвіліну ў цэху ўсталявалася нязвыклая цішыня, толькі знізу, з другога цэха, чуўся глухаваты грукат штампаў, што выразалі са скуры падэшвы. Хадаронак аблізнуў сасмяглыя вусны і нягучным, хрыплаватым голасам загаварыў. Пачаў з таго, як Таня Чаўлытка выбірала сабе чаравікі.

— Навошта я буду купляць абы-што? — азвалася Таня, і шыракаваты яе твар засвяціўся ад усмешкі.— У адных караткаватыя заднікі, другія — падрапаныя, трэція кепска пафарбаваны.

— А хто іх робіць такія? Хто? — спытаў Хадаронак.

Таня змоўкла, як асеклася. Маўчалі ўсе, утаропіўшыся долу.

«Ды ім жа самім сорамна,— падумаў Хадаронак.— Будзе план ці не... А я зрабіў правільна».

Было цёмна, зноў церусіў дождж, калі Хадаронак выйшаў з фабрыкі. Яму дужа хацелася пайсці паўз чыгунку, сарваць мокрую, духмяную галінку баркуну, але гэтакаю цемраю і дажджом на тую сцежку лепей не патыкацца. Ён павярнуў да газетнага кіёска, што свяціўся пад круглым грыбком-дахам, нібы казачны дамок, і купіў... значок. Зеленаваты, круглы, даволі вялікі, хоць і меншы за той, падараваны. На ім паблісквалі то ліса, то певунік.

У душы Хадаронак спадзяваўся сустрэць незнаёмку, бо жывуць жа яны блізка. «Мабыць, яна адзінокая, самотная. Можа, у яе няма нікога з родных,— разважаў ён.— Не сказала ж яна ні пра маці, ні пра бацьку. Толькі пра свякруху. Быў значок «Самый большой друг», і той аддала...»

Цяпер ідучы з работы, Хадаронак часта даваў кругаля: заходзіў у гароднінны магазін выпіць соку, купіць бульбы ці яблыкаў. Сетку ён насіў з сабой, што вельмі радавала жонку. Але незнаёмка болей не траплялася на вочы. «Лісу і певуніка» Хадаронак праз нейкі час аддаў у сынаву калекцыю, а той значок — з бегемотам і дзяўчынкай, так і насіў у левай унутранай кішэні паліто.

## IV

Ясным, прасветленым адвячоркам, якія зрэдку надараюцца напрадвесні, Хадаронак вяртаўся дамоў. Пад нагамі звонка хрупаў тонкі лядок — нанач браўся марозік, але неба ўжо было высокае і чыстае. Зіма канала, учарнела ад скрухі — снег вакол пацямнеў, зіма плакала на сонцы капяжом, а раніцай пабліcквала штыкетнікам ледзяшоў. Настрой быў вясновы. Да таго ж — цэх выканаў квартальны план, «свае» чаравікі Хадаронак усё часцей бачыў на нагах гарадскіх модніц.

Насустрач ішла маладая пара: ён — высокі, плячысты, яна — танклявая, стройная. Мужчына нешта гаварыў, жанчына сцішана смяялася. Хадаронак адразу пазнаў яе, хоць яна цяпер не выглядала стомленай і бледнай, твар пасвяжэў і вочы не такія сумныя, як у той раз. А чаравікі былі тыя самыя — з дзвюма белымі прошвамі.

Хадаронак аж спыніўся ад нечаканасці. Але жанчына нават не зірнула на яго. Ён пастаяў трохі, паглядзеў услед і павярнуў да свайго дома.

У двары да яго падбег Дзімка, задыханы, з чырвонымі, як снегіры, шчокамі.

— А ў мяне ёсць нешта. Заплюшчвай вочы,— сказаў Хадаронак сыну.

Дзімка нецярпліва міргаў вейкамі, пакуль нарэшце адчуў на далоні штосьці круглае і халоднае.

— Ух ты, які значок! — узрадаваўся ён.— «Самый большой друг»,— і тут жа пахваліўся: — А я сёння шпака бачыў. Спяваў на яблыні. Ды так шчыраваў, так здорава свістаў!

— Вясна, Дзімка. Можна сказаць, мы з табой перазімавалі.

«І яна перазімавала»,— усміхнуўся сам сабе Хадаронак. Яму не хацелася гадаць: ці гэта быў яе новы муж, ці проста знаёмы, ён убачыў галоўнае — яна шчаслівая.

На душы было і радасна, і трохі сумна, і хацелася, каб хутчэй прыйшло лета, калі зноў зацвіце баркун.

*1977*

# ЖАНОЧЫ ПЛЯЖ

## I

Мора было зусім ціхае. «Яшчэ спіць. Я прачнуўся раней,» — падумаў Віталік. Праўда, ён прачнуўся не сам — пабудзіла маці, зрабіў зарадку, памыўся. Снядана́к быў не гатовы, і хлапчуку захацелася пакупацца, бо заўтра ад'язджаць дамоў.

Ён шпарка прабег па асфальтавай сцежцы цераз сасновы бор, прасветлены ранішнім сонцам,— лес нешырокаю палосай аддзяляў рыбацкі пасёлак ад мора,— і пакіраваў на пляж. Тут замест асфальту ляжалі драўляныя шчыты. Паўз бераг высілася дамба, абкладзеная дзірваном і агароджаная плотам з тоўстай лазы, каб вецер і вада не пагналі пясок на пасёлак.

Скончыўся драўляны памост, Віталік зняў сандалі, сігануў на пясок, халодны, сыраваты і шорсткі. Справа на слупку жаўцела шыльда — «Жаночы пляж». Там, як і на агульным пляжы, не было яшчэ нікога. Віталік павярнуў налева, на свой «мужчынскі», на лаўцы склаў адзенне — тут яны звычайна загаралі з Саўлюкасам, а мамы іх ішлі на свой пляж. Трохі воддаль ад лаўкі тырчаў у пяску, нібы куст аеру, высокі букет гладыёлусаў, перавязаны чорнай стужкай: колькі дзён назад насупраць гэтага месца патануў малады мужчына, і яго жонка пакінула тут кветкі...

Віталік прабег па вылізанай морам паласе прыбою — паглядзець, ці няма кавалачкаў бурштыну. Мора ледзьледзь уздыхала, хвалі лашчылі бераг. Хлапчук пачаў рабіць зарадку: махаў рукамі, прысядаў, падскокваў. Раптам, нібы абудзіўшыся ад сну, мора зашумела, зялёныя хвалі з белымі чубамі папаўзлі на пясок, падзьмуў парывісты вецер.

— А, прачнулася, соня,— Віталік засмяяўся і зноў пабег па беразе, пырскі ляцелі ва ўсе бакі, а хлапчук імчаў усё далей і смяяўся. У адным месцы, дзе з вады выторкваліся камяні, ён убачыў невялічкі, з фасоліну, жоўта-ружовы крышталік. «Бурштын!» — узрадаваўся Віталік, хуценька выкупаўся і паляцеў да маці.

Праз гадзіну ён зноў быў на пляжы. Яго маці і Альбіна Альгірдаўна, маці Саўлюкаса, сядзелі на лаўцы не распранаючыся, быццам нечага чакалі. А сонца прыпякала ўсё мацней.

— Шкада, Саўлюкас паехаў... Бабуля пазваніла, вельмі прасіла. Не хацелася яму ехаць. Хутка вы пасябравалі,— прыглушваючы звонкія гукі, з мяккім акцэнтам сказала Альбіна Альгірдаўна і пагладзіла Віталіка па галаве.

— Мне таксама шкада,— уздыхнуў Віталік.— Я пабуду тут адзін. Вы ідзіце...

Ён разумеў, што ім хочацца на свой пляж, каб купацца «без гэтых анучаў і быць сам-насам з морам»,— так гаварыла Альбіна Альгірдаўна не раз.

— Мы і тут можам плаваць. Няўжо мы табе надакучылі? — усміхнулася Альбіна Альгірдаўна.

— Канечне, можам,— сказала маці.— Вунь, колькі жанчын тут з хлапчукамі.

— Як сабе хочаце. Я пайду паплаваю.

Маці пільна зірнула на сына, а той моўчкі падняўся, загарэлы да чарнаты, худы, з вострымі, хоць і даволі ўжо шырокімі плечукамі, пастаяў трохі і ляніва пайшоў да мора. Нечаканы ад'езд Саўлюкаса, адзінота, якая чакала яго на пляжы ў апошні дзень,— усё гэта сапсавала Віталіку настрой.

«Хай ідуць,— падумаў ён.— А то давядзецца слухаць іх бясконцыя размовы. Пра школу, праграмы, планы. Пра дырэктараў і завучаў, пра вучняў. Як ім не надакучыць?..»

Альбіна Альгірдаўна і Віталікава маці пазнаёміліся год назад у Друскеніках, пасябравалі — абедзве працуюць у школе — і цяпер ніяк не могуць нагаварыцца.

«От людзі, гэтыя настаўнікі. Для іх увесь свет — нібы школьны клас. А кожнае дзіця — чысты ліст паперы. Што хочаш, тое і пішы... Хутчэй бы скончыць школу»,— думаў Віталік. Калі хадзіў у першы клас, ён усім гаварыў, што будзе настаўнікам. Потым вырашыў стаць інжынерам, як тата. А цяпер пэўна не ведаў: то хацелася быць лётчыкам, то мараком, то геолагам, то... настаўнікам геаграфіі: апавядай сабе пра розныя краіны, рэкі, горы. А каб пра іх расказваць, трэба самому пабачыць, паездзіць па свеце. Не, калі і быць настаўнікам, дык толькі географам.

Успомнілася, як вясной адзначалі маміна саракагоддзе. Было шмат гасцей, тоўстая, расчырванелая пасля чаркі кабета ўсё жартавала: «Бедны той мужчына, што за настаўніцай жыве. Ні ласкі, ні клопату не бачыць. Толькі сшыткі ды планы. Вы б цяпер не ажаніліся з на-

стаўніцай?» — пыталася яна ў таты. «Чаму? Гледзячы з якой. Хаця, канечне, падумаў бы»,— смяяўся тата.

«Не, хай лепш ідуць. А я тут буду з морам,— суцешыў сябе Віталік.— Глядзець на хвалі ніколі не надакучыць».

Хлапчук адплыў ад берага, лёг на спіну і глядзеў на белыя, лёгкія аблачынкі, што нібы застылі ў высокім яшчэ, жнівеньскім небе. З-за дамбы вынырнуў самалёт, вялізны, даўганосы, ён ляцеў невысока і збоку нагадваў дэльфіна або нейкую дзівосную рыбіну.

## II

Калі ляцелі сюды, Віталік сядзеў каля ілюмінатара і не адрываўся ад яго, бо ўпершыню бачыў, як аблокі, нібы шматкі ваты, чапляюцца за крыло. Потым самалёт падняўся вышэй, небакрай, здаецца, наблізіўся, а зямля ахуталася блакітна-бэзавай смугой. Добра былі відаць жоўтыя лапікі збажыны, цёмныя плямы лясоў, рудавата-зялёныя пакошаныя лугі. А ўгары быў другі слой аблокаў, белых, лёгкіх, на краі неба клубіліся, тоўпіліся бухматыя, густыя, з белымі краямі хмары. Ляцелі добра, не было ніводнай «ямкі», а іх Віталік баяўся. Маці спачатку таксама пазірала ў ілюмінатар, а потым задрамала: позна легла, дашывала новы халацік.

Неўзабаве адкрылася такая прыгажосць, што Віталік аж заёрзаў: унізе бялела застылае снежнае поле, бугрыстае, як пасля завірухі. У прагалінах, нібы ў палонках, бачна зямля, хаты, як пчаліныя домікі. Далей зноў пачаліся роўныя, як стол, палі, зрэдку сярод іх пракідаліся цёмныя плямы лесу і хмызняку. Раптам Віталік убачыў мора — бялёсае, сіняватае, яно блішчала і горбілася ў ілюмінатары: самалёт паварочваў на Палангу, ляцеў над вузкай палоскай зямлі, якая, нібы меч, уразалася ў бліскучы блакіт мора. «Мабыць, гэта і ёсць Куршская каса»,— здагадаўся хлапчук.

Тут успаміны абарваліся — Віталіка паклікала маці. Яна стаяла на беразе, ужо ў купальніку, і трымала ручнік. Хлапчук паплыў да яе.

— Доўга ў вадзе сядзіш. Можна прастудзіцца. Хадзі, разатру, а то скура як гусіная зрабілася.

— Я сам...— Віталік узяў ручнік і пачаў расціраць спіну, адчуваючы, як загарэлася скура, аж пакалвала.

Маці не вытрывала, пачала церці яму плечы, потым

з любасцю — які вялікі ўжо, сталы і прыгожы яе сын — прыхінула Віталіка да сябе, цмокнула ў халаднаватую мокрую шчаку.

— Дык, можа, цяпер мы з Альбінай Альгірдаўнай сходзім паплаваем? А ты пабудзеш тут...

— Добра. Ідзіце.

— Вось табе, каб не сумаваў,— Альбіна Альгірдаўна падала Віталіку даволі тоўстую кнігу ў цёмна-зялёнай вокладцы. «Жыхары бяздоння»,— прачытаў ён загаловак.— Гэта пра жыхароў акіяна. Аўтар — Уільям Кромі, вучоны, марак і пісьменнік. Цікавая кніжка. Ты ўжо шасцікласнік. Зразумееш...

— Дзякуй. Пачытаю, пастараюся зразумець.

Маці зірнула на яго з дакорам, бо ўлавіла ў яго словах іронію, Альбіна Альгірдаўна ўсміхнулася, адкінула назад валасы; расчасаныя на прабор, яны закрывалі вушы, атульвалі шчокі — твар жанчыны шыракаваты, з энергічным, прыгожым, прамым, але трохі даўгаватым носам — і такая прычоска надавала ёй мяккасць і жаноцкасць.

— Ну, не сумуй. Ты ж мужчына,— Альбіна Альгірдаўна зноў тузанула яго за бялявы, выгаралы ад сонца, хлапечы віхор.

— Мы доўга не будзем. Трохі паплаваем і прыйдзем.

Маці, відаць, адчувала сябе ніякавата, што сын застаецца адзін, і каб яе супакоіць, Віталік сказаў:

— Не турбуйся, мама. Я буду чытаць. Ідзі...

Жанчыны пайшлі на свой пляж. Віталік доўга глядзеў ім услед. Адышоўшыся далей, яны на хаду пачалі здымаць «анучы», і хлапчук адвярнуўся.

## III

Ён часта пазіраў на жаночы пляж, калі яны сядзелі тут з Саулюкасам. Яны будавалі з пяску крэпасць, і раптам Саулюкас ціха сказаў:

— Глядзі, хто ідзе. Вунь, у паласатай сукенцы.

Паўз мора ішла высокая стройная дзяўчына. У адной руцэ яна трымала белыя басаножкі, а другой прытрымлівала блакітную сумку, што вісела цераз плячо.

— Піянерважатая з нашай школы. Генавайтэ. Прыгожая,— у голасе Саулюкаса пачулася прыхаванае захапленне.

— Падумаеш. Звычайная дзяўчына,— хмыкнуў Віталік.

— Ты проста не разгледзеў,— не пагадзіўся Саўлюкас.

Між тым, Генавайтэ зайшла на жаночы пляж, на хаду скінула сукенку, прыпынілася, узняла рукі і адшпіліла тое, што прыкрывала грудзі, потым лёгка і грацыёзна зняла купальнік. Віталіку здалося, што ён бачыць белаватую, незагарэлую палоску між лапатак, над якой матляўся русявы хвосцік валасоў.

— Не, яна прыгожая,— уздыхнуў Саўлюкас.— Проста ты яшчэ ў гэтым, ну, не разумееш нічога...

— Ох, ты ўжо надта разумееш! Ты на адзін год старэйшы.

— Хай сабе. Год — не так і мала. Я ўжо ў сёмым класе.

Хлапчукі паспрачаліся, і гэтая спрэчка ледзь не скончылася трагічна для Віталіка. Мора з раніцы было спакойнае, але апоўдні вецер памацнеў, хвалі з шумам накатваліся на пясок. Смельчакоў плаваць амаль што не знаходзілася.

— Давай акунемся,— прапанаваў Саўлюкас.— Толькі далёка не заходзь.

— Чаму? На хвалях так хораша пагойдацца. У Чорным моры я плаваў і не ў такі вецер.

— Не ведаю, як там у Чорным, а тут нельга. Зацягне.

— Не зацягне. Ты проста баішся.

— Я не баюся. Але няможна.

— Падумаеш, нельга. Я зараз дакажу...

З гэтымі словамі Віталік кінуўся ў ваду. Хвалі падхапілі яго і панеслі далей ад берага. Напачатку ён дужа радаваўся, калі ўзлятаў на белагрывы пеністы грэбень, потым ляцеў уніз і зноў угору, азіраўся, задзіраючы галаву,— нідзе не было плыўцоў, толькі на пляжы махаў рукамі і нешта крычаў Саўлюкас. «Ага, ніхто больш не адважваецца!» — сэрца хлапчука поўнілася радасцю ад усведамлення сваёй сілы і адвагі, праўда, было трохі страшнавата.

Віталік зноў азірнуўся — бераг быў далёка, і ён павярнуў назад: слова стрымаў — даказаў. Плысці было лёгка, хвалі часам накрывалі яго з галавою і нібы штурхалі да берага. Хлапчук плыў і радаваўся: добра быць пераможцам!

Да берага заставалася ўсяго некалькі метраў, калі Віталік адчуў, што яго цягне назад. Ён мацней гроб, але бераг не набліжаўся: хвалі кідалі яго наперад, а потым яшчэ мацней цягнулі назад. Хлапчук ужо стаміўся, рукі нібы налiліся свінцовым цяжарам. І тут яму зрабілася страшна, думкі ліхаманкава закруціліся ў галаве: «Гэта ж я таплюся... От, дурань, сам залез. І не знойдуць. Мора зацягне»,— перад вачыма паўстаў букет з чорнаю стужкай.

Яму хацелася крычаць, клікаць маму, але ён разумеў, што мама далёка, лодак блізка няма. Саўлюкас ужо не махаў, а проста хадзіў па беразе — супакоіўся, паверыў у сілы свайго новага сябра. Вялізная хваля накрыла Віталіка з галавой, ён нахлябаўся салёнай вады і ледзь не задыхнуўся — адчуў, як закалола ў скроні, зазвінела ўвушшу. На нейкі момант ён перастаў грэбці, каб супакоілася дыханне. Зноў накацілася хваля, штурхнула яго наперад і потым, як трэску, панесла назад.

Хлапчук адчайна боўтаў нагамі, шукаючы цвёрдую зямлю. Бераг блізка, а дна не было. «Трэба нырнуць і паўзці па дне... Трэба нырнуць...» — білася ў галаве думка. Ён зяхаў ротам, як рыбіна на пяску, хапаючы паветра, і калі хваля навалілася на яго,ірвануўся наперад і ўніз, на дно, і, чапляючыся пальцамі за цвёрды, рабрысты грунт, папоўз да берага. У галаве гудзела, перад вачамі нібы мільгалі чырвоныя мятлушкі, а ён поўз, і калі вынырнуў, вада была яму па грудзі. Ён зрабіў яшчэ крок наперад і паваліўся. Саўлюкас падхапіў яго, выцягнуў на бераг.

## IV

Віталік будаваў пясчаную крэпасць. Раптам ён убачыў, што каля ўваходу ў яго «замак» спыніліся нечыя тонкія загарэлыя ногі. Ён узняў вочы — над ім стаяла хударлявая дзяўчынка з тонкімі касіцамі. Да мокрага, закрытага жоўтага купальніка яна прыціснула, нібы шчыт, невялікі зялёны надзіманы матрац. Дзяўчо моўчкі калупала нагою пясок, разглядала замак. Яе тварык, абсыпаны рабаціннем, быў сур'ёзны і засяроджаны. Яна пастаяла, раптам нечага хмыкнула, павярнулася і пайшла, як дарослая, віляючы худзенькімі бёдрамі.

«Дзе я бачыў гэтае кураня?» — падумаў Віталік, і

адразу прыгадаўся дзівосны гарадок Ніда, белыя, пясчаныя дзюны.

Яны паехалі туды на другі дзень пасля таго незабыўнага купання. Саўлюкас стрымаў слова і нікому не сказаў пра гэта. У Нідзе пахадзілі па вузкіх вуліцах, агледзелі старую царкву, музей. Альбіна Альгірдаўна ўсё расказвала пра гісторыю гэтага краю, яго прыгажосць. Віталік слухаў няўважліва: яму карцела ў дзюны, пачуць, як яны спяваюць.

І вось нарэшце выйшлі з горада. Злева быў заліў з цёплаю зялёнаю вадой, справа — нізкарослы, густы хвойнік, а прама наперадзе высілася белае пясчанае ўзвышша. Па сцяжынцы Віталік узабраўся ўслед за Саўлюкасам на гару, і вачам адкрыліся сліпучыя белыя барханы, нібы ўсхваляванае застылае мора. Дзьмуў вецер, тонкія струменьчыкі пяску змейкамі паўзлі ў бок заліва. Пясок рыпеў пад нагамі, і гук гэты нагадваў журботнае курлыканне жураvоў. Далёка наперадзе віднеліся тры белыя постаці, як здані.

— Пустыня Сахара! Вунь тры бедуіны ідуць,— усклікнуў Саўлюкас і памчаў, пераскокваючы цераз барханы.

«Бедуіны» аказаліся трыма асобамі жаночага полу — маці і дзве дачкі. Самая малая і была гэтая дзяўчынка з касіцамі. Яна несла фотаапарат з адкрытым футлярам, і яе аблуплены нос аж свяціўся ад радасці.

Потым Віталік неяк бачыў гэтую маляўку і ў школе, дзе яна, відаць, жыла: улетку школа ператваралася ў пансіянат, з класаў выносілі парты, ставілі ложкі, і тут адпачывалі настаўнікі і іх сем'і. Гэта ўжо быў апошні заезд, і таму Альбіна Альгірдаўна здабыла пуцёўку і для гасцей з Беларусі.

Віталік прыгадаў, як Альбіна Альгірдаўна пацалавала яго, калі сустрэла іх у Паланзе, як ехалі на таксі да Клайпеды і шафёр «злупіў па два рублі з носа», потым плылі на пароме, позна вечарам дабраліся да гэтага пасёлка, уладкаваліся ў невялікім пакойчыку на трэцім паверсе. Калі ўключылі святло, Віталік жахнуўся: акно на мора расчынена і яго праём пераплецены павуціннем. Павукоў было шмат, яны сядзелі ў кутках: за лета акно, відаць, ні разу не зачынялася, але ў пакоі — ніводнай мухі, хаця на вуліцы віўся рой машкарэчы.

## V

Тым часам будаўніцтва пясчанага замка было завершана. Задаволены майстра падняўся, атрос рукі, агледзеў сваю крэпасць. Потым азірнуўся: ці бачыць хто яшчэ яго збудаванне, і застыў на месцы — да пляжа падыходзіла Генавайтэ. Вось яна скінула басаножкі і сiганула са сходкаў на пясок, адышлася, зняла сукенку, а затым і ўсё астатняе. Віталік доўга глядзеў ёй услед і не мог адарваць вачэй. Замак раптам страціў для яго інтарэс. Мабыць, сапраўды, замкі і церамы цікавяць тады, калі там жыве прынцэса.

Хлапчук сеў на лаўку, каб не стаяць слупам сярод пляжа, а вочы былі там, на беразе, дзе прысядала, махала рукамі Генавайтэ. Вось яна ўвайшла ў ваду, прысела, падскочыла ўгору, кінулася на хвалю і паплыла. «Добра плавае. Малайчына»,— пахваліў яе Віталік, і яму раптам прымроілася, што яны плывуць побач, Генавайтэ ўсміхаецца яму. Ён бачыць усё яе цела ў вадзе, яно ружова-белае, расплывістае. Дзяўчына падае руку: «Давай дружыць...»

Хлапчук пайшоў у ваду. Але і пасля плавання цікаўнасць яго да жаночага пляжа не астыла: ён зноў стараўся вылучыць Генавайтэ са стракатага ружовага натоўпу. Шмат жанчын было ў вадзе, але яны не плавалі, а заходзілі па грудзі ў мора і падскоквалі ўгору. Гэтак рабілі яны па многу разоў...

Віталік доўга пазіраў на жаночы пляж і раптам адчуў сябе вельмі адзінокім, самотным. Каб пазбавіцца гэтага пачуцця, узяўся за кнігу, але чытаць не хацелася, і ён проста разглядаў малюнкі. Адзін зацікавіў: гэта было «дрэва жыцця». У самым нізе яго ствала намалявана стварэнне, якое нагадвала лісток акацыі — дыятамея, над лістком нейкая цыбуліна з трыма каранямі — флагелята, вышэй мядуза, потым — чэрві, рыбы, уверсе — альбатрос, кіт, малпа, і на самай вяршыні — чалавек.

На старонцы побач з малюнкам хлапчук прачытаў, што існуе сто мільёнаў планет, прыдатных для жыцця. Толькі ў галактыцы Млечнага Шляху каля сотні тысяч такіх планет, што жывыя арганізмы і нават разумныя істоты, магчыма, ёсць і ў іншых частках Сусвету. Хлапчук адчуў яшчэ большую адзіноту: уявіў сябе пясчынкаю ў велізарным, бязмежным Сусвеце. А вакол хадзі-

лі, смяяліся, плёхаліся ў вадзе загарэлыя, вясёлыя людзі. Мабыць, нідзе так не адчуваеш адзіноту, як на тлумных вуліцах незнаёмага горада, калі табе няма куды спяшацца, і асабліва — на пляжы. Мо таму, што сам сябе не можаш абняць, не можаш сам сябе вучыць плаваць, сам з сабою пырскацца і кідаць самому сабе мяч. Віталік з сумам азіраўся вакол. Да гэтага суму прымешвалася нейкае нязведанае пачуццё, нейкія патаемныя хвалюючыя жаданні.

Вецер падзьмуў мацней, зялёныя хвалі з шумам набягалі на пясок. Хлапчук глядзеў у далячынь і яму здавалася, што мора нібы лезе ўгору — спяшаецца на сустрэчу з небам, і да берага хвалі самі коцяцца ўніз, бы з кургана. Учора вечарам мора было зусім ціхае, і яны ўчацвярых любаваліся заходам сонца. Барвовы дыск праклаў на вадзе бліскучую дарогу, нібы сатканую з ружова-залацістых, жоўта-блакітных, зеленаватых палос: быццам з неба ўпала вясёлка і купалася ў вадзе.

«Што за прыгажосць! Так бы і пайшла, здаецца, па гэтай дарозе»,— сказала Альбіна Альгірдаўна. «Мне б сандалі крылатыя, як у Персея,— уздыхнуў Саўлюкас.— От я б панёсся па хвалях. І адсек бы галаву медузы, выратаваў Андрамеду...» — «А медуза ператварыла б цябе ў камень,— нібы падбухторвала сына Альбіна Альгірдаўна, каб ён гаварыў далей, але Саўлюкас маўчаў, тады яна спытала ў Віталіка: — Ты чытаў легенду пра зоркі?» — «А што за легенда?» — перапытаў хлопчык. «Саўлюкас, раскажы»,— угаворвала Альбіна Альгірдаўна. Саўлюкас аднекваўся, мабыць, хацеў, каб і сябра папрасіў яго, але той моўчкі, задуменна глядзеў на мора...

«Усё гэта выдумкі. Які там Персей! Цяпер касманаўты лётаюць»,— Віталік уявіў сябе касманаўтам. Разам з Саўлюкасам яны імчаць у касмічным караблі і перадаюць пра ўсё ўбачанае на Зямлю. Увесь свет сочыць за іх палётам. І, канечне ж, Генавайтэ... Вось яны вяртаюцца дамоў. Мора людзей сустракае іх, гучыць аркестр, іх засыпаюць кветкамі, а Генавайтэ дорыць Віталіку вялізны букет гладыёлусаў: «Я не ведала, што вы такі смелы і мужны...»

Вясёлы рогат перапыніў думкі хлапчука. Паўз мора ішлі трое маладых хлопцаў і весела гаманілі, пазіраючы на жаночы пляж.

— Во, каб меў бінокль, дык можна было б сёе-тое ўбачыць...

Хлопцы зноў зарагаталі, селі на лаўку распранацца. Віталік падняўся і пабрыў паўз мора. Хвалі нібы малявалі на пяску абрысы гор, а мокрыя каменьчыкі, пляскатыя, круглыя, быццам гузікі, блішчалі і пераліваліся ўсімі колерамі вясёлкі. «Колькі стагоддзяў мора шліфавала гэтыя каменьчыкі»,— думаў хлапчук і дзівіўся: якія яны прыгожыя мокрыя і якія шэрыя, нецікавыя, калі сухія.

Віталік прайшоў міма букета гладыёлусаў з жалобнай стужкай. Успомнілася Генавайтэ, і ён нерашуча павярнуў у бок жаночага пляжа. Ішоў унурыўшыся, быццам шукаў бурштын, і зрабіў некалькі крокаў за шыльду: з краю нікога не было, толькі дзяўчо плавала на сваім матрацы. Далей ісці не выпадала, а Генавайтэ адсюль не было відаць. Ён зірнуў на здзірванелую, парослую кустоўем, дамбу, і раптам мільганула думка: а што, калі адтуль пацікаваць хоць адным вокам? І тут жа адагнаў гэтую думку прэч, але павярнуў да шчытоў-сходкаў: паглядзець, якая сёння тэмпература.

Ён пастаяў ля чорнай дошкі, дзе крэйдай было напісана: тэмпература паветра — 25, вады — 21 градус. Паветра густа пахла разагрэтай хвояй, смалой, прывялаю ад гарачыні травой. Віталік павярнуў у лес, прайшоў у бок жаночага пляжа, потым, прыгінаючыся, падкраўся да насыпу. Раптам пачуліся галасы: з пляжа, па сцежцы цераз дамбу, ішлі дзве жанчыны. Хлапчук прысеў ля агароджы, потым лёг на гарачы пясок — вецер тут не халадзіў, а сонца смаліла. Жанчыны былі ў сукенках, з сумкамі — значыць, праставалі ў пасёлак. Калі яны прайшлі, ён падняў галаву, агледзеўся і папоўз наперад. На самым версе насыпу раслі чэзлыя калючыя кусцікі. Хлапчук рассунуў галінкі, і пляж адкрыўся перад ім як на далоні. На беразе стаялі жанчыны, у асноўным, пажылыя, тоўстыя, з абвіслымі грудзямі.

Вочы яго прагна шукалі **яе**, і раптам Віталік убачыў русявую галаву, прадаўгаваты, тонкі, як у дзеўчаняціпадлетка, твар. Яна выходзіла з вады, вось ён ужо бачыў яе прыгожае бронзавае цела, курганкі грудзей, стройныя ногі... На беразе яна расцерлася далонямі, нібы сціраючы кроплі вады, узняла галаву, матнуўшы хвосцікам валасоў, пайшла... прама на Віталіка. Ён адчуў, што чырванее, апусціў вочы долу — бачыў

толькі ступакі стройных загарэлых ног, да якіх паналіпалі пясчынкі.

Яна спынілася трохі збоч лаўкі, дзе ляжала адзенне, падставіла твар сонцу і заплюшчыла вочы. І тады хлапчук асмялеў: доўга разглядаў яе твар, хударлявыя плечукі, стройную дзявочую паставу.

Віталік раптам убачыў маці: яна ў купальніку ішла па беразе, у адной руцэ трымала капялюш, а ў другой — белы пакунак. Ён заліўся чырванню і кумільгам скаціўся ўніз, памчаў па лесе, ступіў на сухую калючую шышку, войкнуў ад болю і ляцеў далей. Ён паспеў дабегчы да свайго месца раней за маці, але дыхаў цяжка.

— Чаго ты засопся?

— Прабег пасля купання.

— Сядай, перакусі.

Маці разлажыла на паперы чырвоныя памідоры, бутэрброд, яблыкі. Хлапчук адразу накінуўся на ежу. Маці, любуючыся, глядзела на сына.

— Ты не сумуеш? Мы з Альбінай Альгірдаўнай ніяк не можам наплавацца. Заўтра ад'язджаем. А ў Мінску такога мора няма...

— А больш нельга пабыць?

— Мне на работу праз тры дні. Планы каляндарныя трэба пісаць. Неўзабаве канферэнцыя... А там і пачатак заняткаў. І табе трэба рыхтавацца. У шостым класе праграма складаная.

— А што мне рыхтавацца? Я дома столькі чытаў... Эх, шкада,— уздыхнуў ён.— Так і не пачуў, як спяваюць сеці...

— Ты ж бегаў з Саўлюкасам.

— Вецер тады быў слабы.. Нічога, як ні слухалі, не пачулі.

— Сёння ўвечары сходзім. Ветрык свежы дзьме. Паслухаем... Ой, я ўсё думаю, як там дома?

Віталік прагна еў, слухаў і не-не цішком пазіраў на маці. Яна загарэла за гэтыя дні, нават маршчынак паменела ля вачэй, разгладзіліся і зніклі. «Прыгожая мая мама,— падумаў з любасцю і цеплынёй.— Ну і што, калі ёй сорак гадоў? Яна яшчэ выглядае маладой...» І нават кароткая стрыжка яму цяпер падабалася: вясною, калі маці абрэзала валасы, татка і ён, Віталік, гэта не ўхвалілі. Зойка — тая заўсёды за маці — адразу сказала, што кароткая прычоска маці да твару.

— Ну што, сынуля, пабыць мне з табой?

— Ідзі яшчэ пазагарай. Паплавай. Я чытаць буду... Ідзі.

Маці з удзячнасцю зірнула на яго.

— Я хутка вярнуся. Не сумуй.

Віталік праводзіў яе да «мяжы» і павярнуў назад: глядзець на жаночы пляж не хацелася. Ён думаў, што добра было б налета прыехаць сюды ўдвух з Саўлюкасам, той усё тут ведае, калі ў гэтай школе не дадуць месца, уладкаваліся б у жыхароў пасёлка. Можа б, і Генавайтэ прыехала... Дзяўчына адразу паўстала перад ім, і ён адчуў, што зноў чырванее.

Захацелася паплаваць, і хлапчук пайшоў да мора. Ля берага боўталіся дзяўчо з касіцамі, яе сяброўка, яны смяяліся, дурэлі, куляліся з матраца. Раптам вецер падхапіў матрац і панёс яго па хвалях, нібы гартаў кнігу з зялёнымі старонкамі. Дзяўчынкі закрычалі, заплакалі. Віталік, не раздумваючы, кінуўся ў ваду. Ён плыў сажонкамі, ліхаманкава ўзмахваў рукамі, быў ужо блізка ад матраца, але вецер зноў падхапіў матрац і панёс. Хлапчук ірвануўся з апошніх сіл і нарэшце дацягнуўся да матраца, потым узваліўся на яго грудзямі і тут адчуў, як страшэнна стаміўся.

Аддыхаўся, зірнуў навокал і жахнуўся: аднесла далёка, быў якраз насупраць жаночага пляжа. Паспрабаваў грэбці пад вецер, але ўсё роўна адносіла. Хлапчук зусім змогся і гроб ужо толькі адной рукой — левай, а правай трымаўся за матрац.

Памалу Віталік падплываў да берага. «Хоць бы маці не было паблізу»,— варухнулася думка. Здалёк убачыў дзяўчынак, якія махалі яму. Малая ў жоўтым купальніку пайшла насустрач. Калі было ўжо неглыбока, падштурхнуў матрац дзяўчынцы.

— Палшое спасіба,— сказала тая і пацягнула на пясок уратаваны матрац.

Віталік прысеў у вадзе, раздумваючы, што рабіць. Плыць супраць ветру ён не мог, вырашыў ісці па вадзе паўз бераг. Аднак наперадзе было багата жанчын. Ён удала абмінуў некалькі купальшчыц, але раптам пачуліся галасы:

— Жанчынкі, глядзіце, хлапчук!

— Дзе? Адкуль ён узяўся?

— Ды вунь ён! От, шпінгалет! Трэба яму галавамыйку зрабіць.

Купальшчыцы насцярожыліся.

— Вой, праўда, хлапчук! — залямантавала сухарлявая жанчына і сарамліва закрыла рукамі грудзі.

— Трымайце яго,— крыкнула другая.

Шлях наперад і ў мора быў адрэзаны, заставалася адно — прарвацца да берага і сігануць цераз дамбу. Віталік выскачыў з вады, да яго адразу кінулася некалькі жанчын. Адна з іх, тоўстая, у белым войлачным капелюшы са стужкаю пад бараду, схапіла яго за руку і прыціснула да сябе.

— Анюта, здымай яму трусікі. Трэба яго правучыць. От, крапівы няма...

— Бач ты яго! Малако не абсохла, а ўжо на дзевак...

Віталік адной рукой прытрымліваў плаўкі, другой адбіваўся.

— Што вы робіце?! Ён дзяўчынку ратаваў. Яго аднесла...

Віталік павярнуўся на голас і зусім разгубіўся: сюды ішла Генавайтэ...

— Дзе? Якую дзяўчынку?

Жанчыны на хвіліну страцілі пільнасць, хлапчук вырваўся, сігануў цераз насып, абадраў аб калючкі руку, балюча выцяў аб камень калена і памчаў у лес.

Абадраны, увесь у пяску, стомлены, Віталік ледзь прыцягнуўся да свайго месца; абмыўся, паслініў паперку і заклеіў рану на руцэ. Лёг на гарачы пясок, выпрастаўся і чамусьці ўсміхнуўся. Усміхнуўся стрымана і скупа, як і належыць мужчыне.

*1976*

## ДОЎГІ ВОСЕНЬСКІ ВЕЧАР...

### I

Да пачатку спектакля было яшчэ больш як паўгадзіны, але Маня занепакоілася:

— Мо пойдзем? Пакуль распранемся, агледзімся. Ды трэба ж марафет навесці... Ой, як даўно не была ў тэатры! Як гэта ты здагадаўся ўзяць білеты?!

Лагоша ўсміхнуўся, зірнуў на сястру, кінуў вокам на Васіля, які стаяў побач з ёй. Перахапіўшы позірк, Маня ўзяла свайго кавалера пад руку, закінула галаву: маўляў, як мы выглядаем?

— Нішто сабе... Чорт сем пар лапцяў стаптаў, пакуль такую пару дабраў... Ну, топайце. Ні пуху...

Лагоша глядзеў ім услед, аж пакуль высокія цяжкія дзверы быццам неахвотна прапусцілі ў фае маладую пару. На душы ў яго было і радасна, і сумна. Радавала, што так вырасла, стала прыгожай дзяўчынай малодшая сястра, якую, здаецца, зусім нядаўна насіў «на пагоршках»: яна абшчэплівала рукамі шыю, а ён трымаў яе за ногі і лётаў па вуліцы. «Но, кося, но!» — крычала ў захапленні малая і залівалася, нібы той званочак. І вось Маня выходзіць замуж. Прыехала запрашаць на вяселле. Як ляціць час! Маня ўжо скончыла гандлёвы тэхнікум, загадвае сельмагам.

Ён нетаропка крочыў па праспекце. Блішчэў, зіхацеў агнямі мокры асфальт. З мутна-жоўтага неба, быццам праз сіта, сеяўся дробны, як вадзяны пыл, дождж. Вось і прыпынак. Мякка пад'ехаў перапоўнены тралейбус. «Прапушчу гэты»,— вырашыў Лагоша, стаяў і бяздумна пазіраў, як выходзілі і заходзілі людзі, як зачыніліся дзверы і тралейбус паплыў у туман.

Да прыпынку падышлі двое і супыніліся трохі воддаль. Высокая стройная, модна апранутая жанчына неяк дужа ветліва слухала свайго спадарожніка — так умеюць слухаць артысты і ўвогуле добра выхаваныя людзі, нават калі размова іх зусім не цікавіць. Жанчына павярнулася, і Лагоша ўстрапянуўся, падаўся напеappend рад, бо вельмі знаёмы быў яе твар. «Няўжо гэта Надзя?» — мільганула думка. Лагоша прайшоў міма жанчыны, павярнуў назад і тут заўважыў, што жанчына таксама цікуе за ім.

«Яна. Надзька... Мо падысці? Але хто ж мужчына? Муж? Якая розніца! Не надта высокі і не дужа прыгожы. Яна прыгажэй. А што я скажу? — Лагоша разгублена памацаў няголены падбародак, глянуў на запэцканыя граззю чаравікі.— От, выскачыў як Піліп з канапель... Зусім я не той, якім быў некалі»,— ён адчуў сябе няёмка і яшчэ болей разгубіўся.

Між тым двое прайшлі міма яго. Лагоша рушыў услед. Неўзабаве яны павярнулі, і Лагоша ледзь не зачапіў плячом жанчыну, але яна нават не зірнула на яго,

Праз колькі крокаў ён павярнуўся і ўбачыў, што двое садзяцца ў тралейбус. Ён кінуўся бегчы, але не паспеў — перад носам зачыніліся дзверы. З ціхім скавытаннем тралейбус крануўся. Падышоў другі. Лагоша, не раздумваючы, ускочыў, сеў ля акна з правага боку. «Куды я еду? Навошта? — варухнулася думка, але ён адагнаў яе прэч.— Трэба ехаць, дагнаць. Я ўбачу, як яны выйдуць».

Праз некалькі прыпынкаў пярэдні тралейбус знік з вачэй.

«Не, браце, не дагоніш. Ды і навошта?» — раздумваў Лагоша. Ён памалу супакоіўся, глядзеў у акно і не бачыў ні дамоў, ні людзей. Не бачыў і не чуў нічога...

«Калі ж мы сустракаліся апошні раз? Пасля службы. Прайшло ўжо... Колькі ж прайшло? Восем гадоў...»

## II

Успомніўся спякотны ліпеньскі дзень. Разам з сябрам Алесем Лагоша зайшоў на паштамт. Пакуль Алесь стаяў у чарзе ля акенца «Да запатрабавання», Лагоша разглядаў вялікую круглую залу, нетаропка хадзіў паўз сталы. У зале было людна, але ніхто на Лагошу не звяртаў увагі. Гэта трохі здзівіла яго. Хіба ж можна не заўважаць Віктара Лагошу, бравага марака, старшыну першай стацці? Але людзям было не да яго. Іх займалі свае клопаты: людзі пісалі лісты, пасылалі паштоўкі, адбівалі тэлеграмы — клікалі сваякоў і сяброў на вяселлі, на радзіны, на хаўтуры. У кожнага было сваё.

Лагоша яшчэ раз абышоў залу. Раптам ён уздрыгнуў і стаў як укопаны: прама на яго ішла высокая русявая дзяўчына ў васільковай сукенцы ў буйны белы гарох, з шырокім белым каўнерыкам. Яна прайшла міма, кінуўшы абыякавы позірк на Лагошу. «Ды гэта ж Надзя! Няўжо яна мяне не пазнала? А мо не яна?» — раздумваў Лагоша.

Дзяўчына падышла да акенца, над якім віднеліся першыя літары алфавіта. «Бальцэвіч яе прозвішча. Усётакі яна...» Тым часам дзяўчына атрымала два пісьмы, села ля століка. Лагоша схапіў паштовы бланк, сеў насупраць. Ён нешта крэмзаў на паперы і ўвесь час глядзеў на дзяўчыну. Нячутна падышоў Алесь.

— Ты што, стары, вырашыў даць тэлеграму: хвалюйцеся, нешта здарылася, падрабязнасці ў пісьме, так?

Дзяўчына ўсміхнулася, узняла галаву, і ўсмешка за-

стыла на яе твары. Дзяўчына доўга глядзела на Лагошу, потым усхапілася:

— Віця! Ці ты гэта?

Лагоша таксама ўсхапіўся, зняў бесказырку. Надзя падала яму руку, паўтараючы са слязамі на вачах:

— Якая нечаканая сустрэча! Якая сустрэча!

— Не кажы, сустрэча нечаканая. Я ледзь пазнаў цябе...

— Прабач, Віця, я зараз,— дзяўчына адышлася ў куток, дзе стаяла сметніца, і пакуль яна шкуматала на дробныя шматкі пісьмы, Алесь шапнуў сябру: «Я знікаю, стары. Не губляй бесказырку... Наперадзе па курсе — экзамены...»

Неўзабаве Віктар і Надзя выйшлі на вуліцу. Размова не клеілася. Яны яшчэ не маглі апамятацца, нагледзецца...

— Форма табе да твару. А што гэта за палоскі на пагонах?

— Тры лычкі — старшына першай стацці.

— Помню твой дэвіз: «Калі быць, дык быць лепшым».

— Ты толькі гэта помніш?

— Не, Віця, усё помніцца... А мы з табой не бачыліся пяць гадоў. Ці многа ж табе яшчэ служыць?

— Ужо ўсё. Адслужыў.

— Ой, як добра! Віншую! — Надзя ўзяла яго за руку, і так, быццам дзеці, яны ішлі па вуліцы.— Паступаць будзеш куды?

— Паспрабую ў медыцынскі. Можа, стану ў лекарскіх навуках доктарам... Вабіць медыцына. Ужо нейкі вопыт маю. Пасля вучылішча два гады працаваў. На флатах быў фельчарам... А ты, Надзя, як? Дзе ты?..

— А я вучуся... у тэатральным. Не здзіўляйся, бывае і такое. Разлюбіла медыцыну. Паступіць было цяжка. Праўда, вучылішча скончыла на выдатна. Трохі памагла адна вядомая артыстка... Але хопіць пра гэта. Паслухай, Віця,— Надзя змоўкла, паглядзела яму ў вочы, нясмела прыхінулася.— Можа, пойдзем, пагуляем,— і, не чакаючы адказу, дадала: — Можам паехаць на возера... Куды хочаш. Я згодна...

Віктар моцна сціснуў яе руку і ўбачыў, як заблішчэлі яе вочы, уздрыгнулі, затрапяталі ноздры.

— Куды б нам паехаць? — задуменна сказаў Віктар, хаця думаў зусім не аб тым, куды ехаць. Яму было

ўсё роўна — куды. Галоўнае: ехаць ці не ехаць? — Разумееш, Надзя, паслязаўтра экзамены. І потым...— Віктар асекся і змоўк.

— Разумею, Віця. Усё разумею,— Надзя адпусціла яго руку.— Ты пойдзеш назад? Калі не супраць, я праводу цябе. Хачу штосьці спытаць... Можна ўзяць цябе пад руку?

— Калі ласка. Толькі ідзі з левага боку. Я павінен казыраць...

— Прабач, не ведала. Не маю знаёмых сярод ваенных... Што я хацела спытаць? Скажы, у цябе ёсць дзяўчына?

— Так, ёсць.

— Ты кахаеш яе?

— Не ведаю. Яна добрая...

— А ў мяне, Віця, няма сябра. Знаёмых, паклоннікаў — процьма. Але ўсё гэта не тое... Зусім не тое...

Насустрач ішоў афіцэр — малады падцягнуты маёр. Віктар аддаў чэсць. Надзя ўздыхнула, уважліва паглядзела на яго.

— А помніш... Помніш, як ты падарыў мне букет чаромхі? — нечакана спытала Надзя.

— Помню. Здаецца, як учора было,— адказаў Віктар.

— Як бывае ў жыцці... Як усё складана. Ты харошы, Віця. Ты нават не ведаеш, як я цябе кахала... І вось ідзем, нібы чужыя. Я часта думаю, чаму ад дзяўчат патрабуюць чысціні, ад хлопцаў — не...

— Я ніколі не ўхваляў лавеласаў... А што да чысціні... Ты ж павінна ведаць, што права на цнатлівасць дамагаліся самі жанчыны. Дзеля кахання. Аб гэтым пісаў Энгельс...

— Так, Віця, мы гэта праходзілі,— перапыніла яго Надзя і, каб перавесці размову ў другое рэчышча, загаварыла пра кіно.

Падышлі да паштамта. Віктар прыціснуў Надзіны рукі да грудзей. Доўга стаялі яны, гледзячы ў вочы адно аднаму. Прахожыя з цікаўнасцю пазіралі на іх, а яны не заўважалі нікога.

— Мілы мой, шчасліва табе здаць экзамены. Як кажуць студэнты, ні пуху ні пяра. І пашлі мяне к чорту.

— Ну што ты, Надзя...

— Не, пашлі мяне к чорту! Я прашу, чуеш?

— Ну, ідзі к чорту,— ціха сказаў Віктар і пайшоў. Праз некалькі крокаў азірнуўся — Надзя стаяла і гля-

дзела яму ўслед. Потым ён зноў азірнуўся — Надзя паранейшаму стаяла на месцы і махала яму рукой. Віктар памахаў ёй бесказыркай і павярнуў за вугал.

## III

У тралейбусе ўжо было пуста. Ён падыходзіў да апошняга прыпынку. Лагоша выйшаў, агледзеўся. «Вось дык заехаў. У другі канец горада. Хай яго ліха, добрую гадзіну прыйдзецца дабірацца...» — падумаў ён, перасмыкнуў плячамі — відаць, бралася на марозік: туман рассеяўся, з неба пазіралі рэдкія зорачкі. Успомніў, што дзесьці тут жыве Алесь, захацелася пазваніць, але ў кішэнях не знайшлося двоечкі. «Трэба дамоў хутчэй. Жонка будзе бурчэць: дзіця хворае, а ты недзе гойсаеш...» Некалькі тралейбусаў, ахутаныя цемрай, быццам драмалі на канцавым прыпынку, але ніводзін з іх пакуль што не збіраўся ў дарогу. Лагоша ўглядаўся ва ўсе бакі: ці не міргне дзе зялёны агеньчык таксі. Нарэшце падышоў тралейбус, і ён паехаў назад.

«Дзе Надзя зараз? Што яна робіць? Мо ў гасцініцы? І з ёй гэты мужчына»,— Лагоша быў чамусьці ўпэўнены, што яна прыехала аднекуль здалёк, інакш яны б даўно стрэліся...

Лагоша стараўся прыгадаць першую сустрэчу з Надзяй, тое імгненне, калі запрыкмеціў тоненькую, як лазінка, першакурсніцу. Перад вачыма паўстала яна: хударлявы тварык з вострым падбародзем, вялізны белы бант і такія даверлівыя шэрыя вочы... Вялікія шэрыя вочы... А за імі нібы паўставалі гаманлівыя калідоры на перапынках, спартыўная зала — Надзя ў цёмным трыко, сцэна — Надзя чытае верш, і вочы яе ззяюць сінім бляскам...

Дзіўная рэч — памяць чалавека! Як моцна яна беражэ тое, што некалі ўсхвалявала, уразіла ў далёкім дзяцінстве ці трохі бліжэйшым юнацтве! Часам здаецца: усё гэта юначае даўно забыта, бо столькі ўбачана, зведана, перажыта потым. А пачнеш успамінаць, і быццам на фотапаперы ў праявіцелі, быццам з туману, выплывае тое далёкае, выразна акрэсліваецца і паўстае, як жывое. Праз столькі гадоў Лагоша ўспамінаў сваё першае каханне, і аказалася, што помніцца ўсё да драбніц...

Хіба ж можа ён забыць той сакавіцкі вечар! Тады студэнты медвучылішча давалі канцэрт у школе на ўскраіне горада. Віктар вучыўся на апошнім курсе, а Надзя толькі пачынала. У вучылішчы было багата самадзейных артыстаў, асабліва — дзяўчат. Канферансье Віктар Лагоша быў душою калектыву. Ён збіраў і захоўваў любоўныя запіскі, якія кідалі на сцэну паклонніцы, і вельмі ганарыўся гэтымі пісулькамі, любіў чытаць іх на адзіноце.

У той вечар Віктар вёў толькі першае аддзяленне канцэрта. Стаяў ён за кулісамі і глядзеў на сцэну. «Ой, які доўгі і нудны канцэрт! Хачу дамоў, ды баюся адна ісці»,— пачуў ён за суседняй кулісай. «Чаго табе так прыспічыла? Тут такія танцы будуць!» Віктар пазнаў голас Надзі і яе сяброўкі Іры. Адхінуў кулісу: «А са мной не будзеш баяцца?» — «З такім рыцарам мне нічагусенькі не страшна»,— гарэзліва ўсміхнулася Надзя. «Ну, дык што ж, гайда?» — жартуючы сказаў Віктар. «Гайда»,— сур'ёзна адказала Надзя.

Ісці трэба было кіламетры два. На вуліцы — лужыны, ляпіў мокры снег. Але Надзя нечага развесялілася.

— Эх, Віця! Мне хочацца зрабіць што-небудзь такое... Штосьці незвычайнае, каб аж дых заняло! — і пайшла па лужах напрасткі.

— Дурніца, што ты робіш? — Віктар узяў Надзю за руку і адцягнуў на тратуар, але яна вырвалася і зноў пабегла па вадзе. Віктар кінуўся наўздагон. Надзя смялася на ўсю вуліцу, фантаны пырскаў разляталіся ва ўсе бакі ад яе чаравікаў. Дагнаць Надзю было не проста: яна займалася спортам і бегала хутка. Нарэшце Віктар схапіў яе за касіцу. Надзя адразу спынілася, і ён з налёту ледзь не збіў яе з ног. Дзяўчына не пакрыўдзілася, а яшчэ шчыльней прыхінулася да яго, і ён адчуў, як моцна тахкае яе сэрца, убачыў зусім блізка яе вочы, па-дзіцячы прыпухлыя вусны.

Віктар ніколі да гэтага не цалаваўся, не мог ён адважыцца і зараз. Нешта стрымлівала яго, можа, нават тое, што часта думаў пра гэта, даўно чакаў гэтага, і таму пацалунак здаваўся яму нечым вельмі незвычайным, таямнічым... А зусім блізка былі яе вусны. Снег падаў на яе лоб, ад снегу былі белыя бровы, вейкі, каўнер паліто. Дрыжачымі пальцамі Віктар пяшчотна дакрануўся да яе лба, змахнуў снег з броваў. Надзя заплюшчыла вочы і на апушчаных вейках заблішчэлі сня-

жынкі. Мімаволі рука хлопца абняла Надзю за шыю, і губы іх зліліся ў пацалунку.

З-за павароту выпаўз грузавік, святло фар ударыла ў вочы. Надзя войкнула і ўткнулася хлопцу ў грудзі... Потым яны цалаваліся зноў. Віктару зрабілася горача, шчокі яго гарэлі, а ногі, быццам ад холаду, дрыжалі ў каленях, дробненька ляскалі зубы...

— Ой, Віця, каб ты ведаў, як мне хочацца спяваць, скакаць! — усклікнула яна і ўзяла яго за руку.— Хорошо, когда снежинки падают и от них светлее все вокруг...— ціха заспявала Надзя.

Віктар абняў яе, і яны павольна закружыліся ў вальсе. Снег падаў і падаў, блішчэў мокры асфальт, цьмяна паблісквалі лужыны. Пабраўшыся за рукі, Віктар і Надзя пайшлі па вуліцы, па набрынялым, бы каша, снезе, па вясенніх лужынах. Вада хлюпала ў чаравіках, але хіба магла гэтая макрэдзь сапсаваць настрой закаханым!

Пасля гэтага вечара Віктар і Надзя сустракаліся часта. Падоўгу стаялі вечарамі ў калідорах інтэрната.

Прайшоў сакавік, прамільгнуў красавік. На Першае мая Віктар не паехаў дамоў у вёску, бо Надзя заставалася ў інтэрнаце. Ёй не было куды падацца, апроч дзіцячага дома, а туды ехаць яна не захацела. Са сваякоў у яе — толькі цётка, якая жыла далёка. Пасля дэманстрацыі Віктар і Надзя пайшлі ў парк, селі на лаўку над абрывам, прыхінуліся адно да аднаго і моўчкі пазіралі на Дняпро.

— Віця, хачу табе нешта сказаць... Толькі ты зразумей. Добра? Не магу я гаварыць пра каханне. Ну што, калі скажу «кахаю». Проста слова, і ўсё. Я кожным паглядам, кожным рухам кажу табе гэта...

Віктар абняў Надзю. Неяк нязграбна аблапіў, яна зашчыльней прыхінулася, і хлопец адчуў, як соладка закалацілася, замлела яго сэрца, адчуў, што чырванее, яму стала горача, хоць і дзень быў халодны.

Доўга сядзелі яны абняўшыся. Віктар гладзіў яе валасы. Асабліва яму падабаліся Надзіны касіцы з мяккімі завітулькамі на канцы.

Вясна буяла. Віктар і Надзя сустракаліся штодзень. Пабраўшыся за рукі, бесклапотна блукалі па горадзе, хадзілі ў кіно. У цёмнай зале кінатэатра ён браў яе далонь, такую гарачую, трапяткую, у сваю, таксама гарачую. Калі Надзя выслабаняла руку, хлапечыя пальцы

цягнуліся да каленяў дзяўчыны, пяшчотна і баязліва гладзілі іх. Надзя лавіла руку, моцна сціскала яе, бліскучыя, нібы гузікі, вачаняты глядзелі з дакорам.

Надзі ўжо споўнілася шаснаццаць гадоў. Неяк у суботу ў міліцыі ўрачыста ўручалі пашпарты. Віктар у той дзень здаваў экзамен. Калі прыбег у міліцыю, Надзі там ужо не было. Зазірнуў у яе пакой вечарам: дзяўчаты сказалі, што яна пайшла ў госці да знаёмых.

Назаўтра прачнуўся Віктар дужа рана. Спачатку яму падалося, што пабудзіла радыё — хлопцы звычайна не выключалі дынамік: у юнацтва сон моцны,— але радыё маўчала. Затое з-за акна даносіўся вясёлы птушыны грай. Верхнія шыбы акна заружавеліся, а ніжнія пабялелі, у пакоі плаваў сівы паўзмрок. Віктар зірнуў на гадзіннік. Было без чвэрці пяць. Ён зноў лёг, але сон не браў. Пракачаўшыся з гадзіну, устаў і пайшоў на вуліцу.

Сонца таксама нядаўна прачнулася, было ружавата-чырвонае, як велікоднае яйка. Віктар подбегам спусціўся ўніз да Дняпра. Тут пачынаўся луг, а паўз абрыў цягнуліся гароды. На градках зелянела цыбуля, раслі кветкі, а каля агароджы высіліся кусты чаромхі. Белыя ад квецені, мокрыя ад расы, буйныя кроплі якой зіхацелі на лістах, іскрыліся на пялёстках, кусты стаялі, нібы феі ў шлюбным вэлюме. І як зачараваны стаяў і глядзеў на іх юнак.

У роднай Віктаравай вёсцы чаромху называлі «калакалуша». Прывозілі яе ў лодках, бо, калі яна зацвітала, луг яшчэ быў заліты паводкай. Сон, лотаць, калакалуша — першыя ластаўкі вясновай квецені. Іх Віктар любіў з маленства, асабліва калакалушу. Багата яе кустоў абламашыў ён у дзяцінстве.

Праз паўгадзіны з вялікім букетам ён караскаўся на ўзгор'е.

— Ах, якая чаромха! Дай галінку,— не стрымаўся незнаёмы мужчына, сустрэўшы хлопца.

— Не, што вы! Не магу,— спалохана запярэчыў Віктар.

— Дзівак ты. Шкадуеш галінкі,— пахітаў галавой мужчына.

У інтэрнаце хлопцы яшчэ спалі. Віктар злётаў на тэлеграф, купіў паштоўку, падпісаў: «Надзя, віншую з шаснаццацігоддзем і з першым пашпартам! Ты стала паўнапраўным грамадзянінам. Расці вялікая. З павагай

Віктар». У той час ён захапляўся гісторыяй дыпламатыі, прачытаў тры яе тамы і мог нават напісаць: «Прыміце мае запэўненні ў шчырай да вас павазе». Але дыпламат з яго быў кепскі: не мог дачакацца, калі прачнуцца дзяўчаты і хто-небудзь выйдзе з пакоя, пачаў памалу грукаць у дзверы. Неўзабаве яны зарыпелі, высунуўся заспаны кірпаты тварык Іры, Надзінай сяброўкі. Яна насіла кароценькую грыўку, была бойкая, языкастая, нібы хлапчук-задзіра. Таму Віктар дражніў яе «Ірчык», што не вельмі ёй падабалася.

— Чаго прыпёрся ні свет ні зара?

— Ціха, Ірчык,— Віктар расчыніў шырэй дзверы, каб льга было прасунуць букет.— На, перадай гэта... Сама ведаеш каму.

Ірчык шморгнула носам, прыжмурылася:

— Ой, як пахне! Вой-та да!

Віктар адчуў палёгку, хуценька збег па лесвіцы, выйшаў на вуліцу. Ён адчуваў сябе зусім дарослым, яму здавалася, што ён зрабіўся шырэйшы ў плячах і вышэй ростам.

У той дзень Віктар меўся браць удзел у шахматнай алімпіядзе на першынство горада: чэмпіён вучылішча, нідзе не дзенешся. Пачаў ён партыю не вельмі ўдала і ў дэбюце давялося аддаць слана за пешку. Але потым Віктар гуляў з натхненнем. Яго коні смела рынуліся ў тыл праціўніка, пад пагрозай непазбежнага мата партнёр, вопытны турнірны баец, на сорак трэцім ходзе паціснуў руку маладому шахматысту. Перамога яшчэ болей акрыліла Віктара, ён з нецярпеннем чакаў вечара, каб расказаць пра гэта Надзі.

Вечарам быў культпаход у тэатр. Але Надзя не прыйшла. Віктар сядзеў як на іголках і ледзь дачакаўся антракту. Як толькі ў зале ўспыхнула святло, ён падышоў да дзяўчынак з Надзінай групы.

— Салют, Рамео! Шукаеш сваю Джульету? А яе няма. І чаромху выкінула,— з'едліва хіхікала мардастая Алена Клімовіч.— Не верыш — ідзі правер. Джульета твая ні з кім не гаворыць. Надзьмутая, як сыч.

Віктар стрымгалоў кінуўся ў інтэрнат. Пастукаў у дзверы — выйшла Ірчык.

— Надзя захварэла,— сумна сказала яна.

— Дык я зайду, праведаю...

— Не трэба. Яна не хоча цябе бачыць.

Пачуўшы гэта, Віктар адсунуў убок Ірчыка, увар-

ваўся ў пакой. Надзя ляжала на ложку, убачыўшы Віктара, адвярнулася да сцяны. Ён пастаяў, пастаяў і, ні слова не кажучы, выйшаў.

На другі дзень ён сустрэў Надзю ў калідоры, узяў за руку:

— Што здарылася, скажы?

— Пакінь мяне ў спакоі,— Надзя вырвала руку і пабегла.

Гэта канчаткова раззлавала Віктара, і ён болей да яе не падыходзіў, хаця яму вельмі хацелася гаварыць з Надзяй, высветліць, што здарылася. А калі выпадкова сустракаліся, Надзя адварочвалася, Віктар праходзіў міма не вітаючыся. Неўзабаве пачаліся дзяржаўныя экзамены — было не да спатканняў. Так і паехаў не развітаўшыся...

Пасля вучылішча працаваў фельчарам у сельскай бальніцы. Вёска была вялікая. Стаяла яна на беразе Нёмана. Часцяком Віктар хадзіў у мясцовы Дом культуры, выступаў на сцэне. Вясковыя красуні заглядаліся на маладога прыгожага фельчара, і не адна з іх сохла па ім, а фельчар нібы не заўважаў дзяўчат.

Перад Новым годам напісаў Надзі пісьмо, доўгае, шчырае. Пра тое, што не можа забыць, што яны павінны сябраваць. Адказ прыйшоў хутка. Гэта пісьмо Лагоша помніў слова ў слова.

«Я не чакала твайго пісьма,— пісала Надзя.— Я ўсё забыла. Больш не пішы, адказваць не буду. Я зрабіла вялікую памылку, непапраўную. Каб я была хлопцам, а не дзяўчынай... Спачатку хацела атруціцца, кінуцца ў Дняпро. Гэтыя думкі не пакідаюць мяне і зараз... Ты не ўяўляеш, як цяжка ад іх. І нельга адагнаць іх прэч. Ніколі... Медыцына мяне не цікавіць, спорт закінула. Адна мара — стаць артысткай... Не крыўдуй на мяне, добра? Вельмі прашу не крыўдаваць. Я сама вінаватая, і ты не даруеш мне... Сустрэнеш дзяўчыну, якую пакахаеш, і будзеш шчаслівы. А пра мяне забудзь...»

Дзесяткі разоў перачытваў Лагоша пісьмо. Некалькі дзён хадзіў сам не свой. Хацелася кінуць-рынуць усё і ехаць да Надзі. Спрабаваў пісаць адказ, але з-пад пяра выходзілі не тыя словы, фальшывыя суцяшэнні. Шкуматаў паперу, пачынаў зноў пісаць... Так і не паслаў пісьма.

## IV

Пасля сустрэчы з Надзяй на паштамце Лагоша прымусіў сябе сесці за падручнікі. «Не раскісаць, стары! Ты ж мужчына, а не медуза»,— гаварыў самому сабе. Займаўся да вечара, а потым з Алесем пайшлі гуляць. Алесь дэмабілізаваўся на год раней і ўжо скончыў першы курс фізічнага факультэта.

— Ну, як рандэву? Гэта тая самая Надзя, пра якую ты некалі гаварыў? — пытаўся сябар.

— Тая самая.

— Ты нават збялеў, калі яна сказала: «Віця, ці ты гэта?»

— Быць не можа. Табе падалося, стары... Вось сустрэліся і развіталіся, каб больш не сустракацца...

— Чаму? Ты ж кахаеш яе. Я б на тваім месцы ажаніўся. Надзя зрабіла памылку. Але ж яна сірата. Колькі перажыла ўсяго... А ў той вечар мо захапілася кім-небудзь, паверыла, а мо проста падпаілі... Хіба чалавек, які зрабіў памылку, не мае права на шчасце?

— Мае... Толькі Надзя не пойдзе за мяне. Яна гордая. Нездарма ж прымусіла мяне паслаць яе к чорту... Так прасіла, настойвала...

— Дзівак чалавек! Яна хоча, каб ты стаў студэнтам. І жыў у адным горадзе з ёй... Тады вы абавязкова сустрэнецеся.

— Не, браце, не буду я шукаць гэтай стрэчы...

— Шчэ як будзеш шукаць. З ног саб'ешся.

— Разумееш, баюся, што не хопіць духу, вытрымкі, ці яшчэ там чаго, каб не дакараць яе. Мабыць, гэта цяжка... Сёння так хацелася пайсці з ёй. Калі развіталіся ля паштамта, гатовы быў бегчы ўслед... І ўсё ж не пабег, стрымаўся... Добра зрабіў ці не, не ведаю... Мабыць, дарэмна не пайшоў.

— Ты становішся мужчынам, стары. Не самцом, а мужчынам. Не бядуй, самыя прыгожыя дзеўкі яшчэ наперадзе.

Віктар моўчкі сарваў з клумбы маленькую белую кветачку, панюхаў — густым мядовым водарам дыхала яна.

— Які пах! — здзівіўся ён.— Мёдам пахне.

— Між іншым, гэта алісум або каменнік. Кветка Паўднёвай Еўропы,— аўтарытэтна засведчыў Алесь.

Зараз Лагоша дзівіўся, як добра ён памятае той вечар, памятае нават, як пахла бялюткая кветка каменніку. Мабыць, таму, што яе водар нагадваў яму чаромху.

## V

Дамоў Лагоша прыехаў позна.

— Дзе ты ходзіш, от валацуга! Можа, скажаш, быў у тэатры? — пыталася жонка Тамара.— Дык тэатралы ўжо дома.

— Сустрэў аднаго знаёмага. Пацыента. Некалі лячыў яго. Як прыліп: зойдзем, пасядзім. Ну, зайшлі ў кафэ. Раздавілі бутэльку сухача.

— Ой, нешта мне не верыцца. Можа, то была пацыентка? — жонка пільна зірнула на яго.

— Калі б пацыентка, дык прыехаў бы пазней. Як Юлька? Грудкі нацерла? — спытаў ён, распранаючыся.

Жонка моўчкі павярнулася і пайшла ў пакой. Ён зразумеў, што не паверыла, але змоўчала, бо дома госці. Каб не яны, скандал закаціла б неадкладна, а так адклала на будучае. Лагоша вымыў рукі і пайшоў у спальню. Малая пасапвала, падлажыўшы пад галаву далоньку. Шчочкі яе расчырванеліся. Лагоша дакрануўся губамі да лобіка — тэмпературы не было. Ён паправіў коўдру, Юлька цмокнула праз сон, устрапянулася, зноў нагамі ссунула коўдру.

— Не брыкайся, Юлька! Што ты сабе думаеш? — ціха сказаў Лагоша. Малая адкрыла вочы.

— Ню-ню, тата! — пагразіла маленькім тоўсценькім пальчыкам, павярнулася на другі бок і заснула. Лагоша глядзеў на дачку і адчуваў, што ад замілення сціскаецца горла і ён гатовы расплакацца.

— Усё добра. Дыхае роўна, глыбока,— сказаў ён жонцы.— А ты паніку паднімаеш, як заўсёды. Ну што там, у тэатры? — звярнуўся Лагоша да Васіля.

Хлопец адказаў не адразу. Расчырванелы пасля чаркі, ён сядзеў на канапе, закінуўшы нагу за нагу, абшчапіўшы калена рукамі. Лагоша міжволі заўважыў, што ў яго чырвоныя шырокія далоні, доўгія моцныя пальцы, на адным — шызы пазногаць: відаць, стукнуў малатком — Васіль працуе на экскаватары. «У самога лапы дай бог. Добры коўш»,— падумаў Лагоша. На стале бялела бутэлька гарэлкі, ды і закусі хапала. Хоць і бур-

катуха жонка, але гасцей любіць, апошняе аддасць, пачастуе як трэба.

— Спектакль так сабе. Можна глядзець,— урэшце сказаў Васіль.

— Ат, няма чаго там глядзець,— выйшла з кухні Маня, села побач з Васілём.— Спектакль пра каханне. А якое там каханне! Сустрэліся, пазнаёміліся, яна пайшла да яго. І адразу — у пасцель. Ну, а потым ён зрабіўся такім ухажорам. Пачаў за ёй бегаць. Яна стала сцюардэсай. Самалёт разбіўся, і яна загінула... Вось табе каханне, вось табе спектакль. Жанчыны пахлюпалі трохі ў хусцінкі. Шкада ўсё-такі чалавека. Артыстка дужа прыгожая... І ўсе разышліся... І ніякай узнёсласці, ніякай рамантыкі. Адна распуста... Ой, напалохалася я сёння, Віця. Я ўжо тут гаварыла. Заходжу, прабачце, у туалет, а там дыму, як туман. Нічагусенькі не відно. Я назад. Думаю, да мужыкоў трапіла. Не, гляджу, выплываюць з туману дзяўчаты з цыгаркамі. Ну і распуста!

— Дваццаты век, Марыйка. Што ты хочаш? Кожны жыве, як знае... А ў спектаклі ўсё правільна. Чаго ён будзе хадзіць за ёй тры гады ды ўздыхаць? Не той час,— усміхнуўся Васіль.

— Ну і што, калі дваццаты век. Мы з табой не ў першы вечар пацалаваліся,— капрызліва надзьмула губы Маня.

— Маглі б і ў першы. Я не хацеў...

— Чаму ты не хацеў? — здзівілася Маня.

— Правяраў цябе. Бо я ўсур'ёз думаў. Каб пасур'ёзнаму...

— А я што, не па-сур'ёзнаму? — усхапілася Маня.

— Заднім розумам вы ўсе разумныя... Чаму ж ты не дачакалася вяселля? Ужо дзіця носіш,— Васіль вымучана ўсміхнуўся, твар яго яшчэ мацней пачырванеў.

— Тваё дзіця... На каленях стаяў, прасіў-маліў. Кляўся, што не кінеш. Ну, я і паверыла. А цяпер дакараеш? Як табе не сорамна! Я ж гаварыла: давай пачакаем, пацярпі, Васілёчак. Раней жа цярпелі. Да вяселля не спалі, не займаліся гэтым...

— Я ж цябе не падмануў. Распісаліся, усё як мае быць.

— А што, нельга было пачакаць? Калі ты сапраўды па-сур'ёзнаму,— Маню як прарвала, яна не магла супакоіцца.

— Я хацеў пераканацца...
— Ці чэсная? Гэта ты хацеў ведаць?
— Ну, у гэтым я не ўпэўнены... Не разабраў...
— Я во зараз бутэлькай як трэсну! П'яны быў. Таму і не разабраў. І не сорамна табе гаварыць такое...
— А можа, ты хацела, каб я п'яны быў?.. Ды гэта глупства. Гэта я так, пажартаваў. Я хацеў пераканацца... Ну, мы ж тут усе дарослыя,— Васіль зірнуў на Лагошу, нібы прасіў падтрымкі.— Я хацеў пераканацца, ці падыходзім мы... Ну, тэмперамент і ўсё такое...
— Ну, і што ты высветліў? — дапытвалася Маня.
— Здаецца, падыходзім. Здаецца, нам добра...
— А ты можаш параўноўваць? Лазіў па бабах. А мяне дакараеш...
Лагошу здзівіла рэзкасць і адкрытасць Васіля, ды і Мані таксама. Ён зразумеў, што пад чарку хлопец выказаў тое, пра што сапраўды думае, і што гэтая гаворка даўно наспявала, і ён паспрабаваў супакоіць сваіх маладых гасцей.
— Пачакай, Маня, не гарачыся. Васіль правільна разважае. Як урач, я павінен сказаць, што большасць разводаў адбываецца не таму, што не сышліся характарамі. Глупства. За гэтым хаваецца палавая дысгармонія. Неадпаведнасць, няўменне жыць і паважаць адзін аднаго. А калі фізічная блізкасць не дае задавальнення, радасці, пачынаюцца нервовыя хваробы, крыўды, скандалы. Ну, і пошукі радасці ў другім месцы, з іншымі...
— Мы з Віцем нядаўна чыталі кнігу пра сям'ю. Вам трэба пачытаць,— падала голас Тамара.— Во, цяпер мой выступае тут як з трыбуны: «Як урач, павінен вам сказаць...» А мы ажаніліся. І я — урач, і ён — урач, а мала чаго ведалі. Што тады казаць пра іншых?
— Я больш тэарэтычна ведаў. Мы ж, во, прыцёрліся... Чатыры гады пражылі ўжо. Два гады на прыватнай кватэры адпакутавалі. Цяпер на свой кут узбіліся. Ну, што, госцікі, пара ўжо і выпіць, га? — Лагоша наліў чаркі.
— Цяпер вам толькі жыць. Вучыцца ўжо не трэба. Я дык пра інстытут усё думаю,— уздыхнула Маня.— А вам цяпер трэба грошы збіраць на другое дзіця.
— Ну што ты, Манечка, дай хоць апамятацца. Для сябе пажыць трохі хочацца,— Тамара ўзяла чарку.— Была прапанова выпіць...
— Пачакайце адну хвілінку,— Васіль адставіў убок

чарку, памаўчаў, быццам падбіраў найбольш дакладныя словы або разважаў, гаварыць ці не.— Што мяне раззлавала... Пачынае камандаваць мая палавіна. Не пі, не куры, не глядзі туды, не гавары з тым. Або тое не так сказаў, не так паглядзеў... Раней была мяккая, хоць да ранкі прыкладай, а як распісаліся, перайшоў да іх жыць... Ну, да вашай маці, Віктар... Быццам падмянілі жонку. Што я раб цяпер твой? Рэч, якая табе належыць да канца дзён? Ды пляваў я на гэтыя паперы... Не штампы ў пашпарце звязваюць людзей. І пасля шумнага вяселля бывае ціхі развод...

— Дык навошта тады рабіць вяселле? Навошта дурыць галаву людзям? Пішы заяву на развод. Пішы! Я пярэчыць не буду,— Маня ўсхапілася і выбегла на кухню са слязамі. Тамара пайшла ўслед за ёй.

Мужчыны засталіся адны. Не ведаючы, што гаварыць, як памірыць гасцей, Лагоша ўзяўся за чарку:

— Слухай, Васіль,— чамусьці звярнуўся ён да швагра на «ты».— Давай вып'ем. Ну, за ўсё добрае.

Выпілі, закусілі.

— Вы прабачце. Я не хацеў усчынаць гэтую размову. Проста Маня пачала... У горадзе, маўляў, усе разбэшчаныя, п'юць і кураць, такія-сякія. Я і не стрымаўся.

— Ну, нічога. Сказаў, як кажуць у народзе, не прывязаў. У вас зараз адбываецца высвятленне: хто ёсць хто. Раней былі сустрэчы, пацалункі, мары-мроі. А цяпер пачалося сумеснае жыццё. Яна цябе бачыць і ўвечары, і раніцай. Ты бачыш яе і прычасанай, і без прычоскі... Я лічу, што ў сям'і кіраваць павінен мужчына. Вядома, калі ён мужчына. Не п'янтос, не лайдак. Тады і дзеці не будуць расці залізанымі пестунамі, белаcalled ручкамі, капрызулямі. Будзе болей парадку... Ажаніцца цяпер не штука. Жанчын пакуль што больш, чым мужчын. Любы мужык — абы шапка — і за яго ідуць. Дзяўчаты вымушаны змагацца. У іх конкурс. Гэта спрыяе іх большаму развіццю, большай іх актыўнасці. Мне так здаецца...

— От, гэта праўда. Я сам пра гэта думаў,— з радасцю падтрымаў гаспадара Васіль.

— А маладыя мужыкі некаторыя збабіліся зусім. Ні табе рашэнне прыняць, ні цвёрдасць, вытрымку праявіць,— Васіль няўцямна зірнуў на Лагошу; маўляў, у чый агарод каменьчык? — А давяло да гэтага бабскае

выхаванне. Ну, вот сам падумай: у дзіцячым садзе — жанчыны, у школе — жанчыны, дома — маці, бабуля... Аднойчы я пачуў, як малы шчабятаў, ідучы з мамай з садзіка: я ўстала, я гуляла, хадзіла. Мяне так здзівіла: хто гэта, думаю, хлопец ці дзяўча? Не стрываў — запытаўся: «Як цябе завуць?» Маўчыць, набычыўся. «Ну, Ягорка, скажы, як цябе завуць?» — маці какетліва зірнула на мяне. Бачу — кальцо на левай руцэ... Бедны Ягорка, не чуеш ты бацькоўскага голасу, не ведаеш бацькоўскай ласкі. Маці, можа, цішком вучыць ненавідзіць бацьку. Адсюль — і ла-ла. Так што, бедны Ягорка, будзе табе горка ў жыцці...

З кухні вярнуліся жанкі.

— Нешта ў вас чаркі пустыя. Без нас паспелі? — гаспадыня акінула вачыма стол.— Можа, грыбкоў падкласці? Не трэба? Ну, глядзіце. Налівай, Віця. Міравую.

— Так і быць. За мір у сям'і і на зямлі! — Лагоша наліў Васілю і сабе, падняў чарку, як бы запрашаючы падтрымаць яго, але не піў, быццам нечага чакаў.

Маня павярнулася да Васіля, неяк сарамяжліва, квола ўсміхнулася, ад чаго яе круглы тварык пасвятлеў, праясніўся:

— Мір?

— Мір! — шырока ўсміхнуўся Васіль і звонка чокнуўся.

— От, ведама, мілыя сварацца, дык толькі цешацца. А лепей, канечне, не сварыцца. Жыццё кароткае. Не трэба яго псаваць,— сказала Тамара.

— Вось іменна! — горача падтрымаў Васіль і залпам выпіў чарку. Маня зірнула на яго, але змаўчала.— Не глядзі, жонка. Міравую выпілі. Усё. Больш не буду.

— Я таксама. Заўтра ўставаць рана,— падняўся Лагоша.

— От, гаспадар. Ты гасцей частуй, а не ўцякай. Яшчэ дванаццаці няма. Дзіцячы час...

— А ведаеце, пра што я цяпер думаю? — раптам сказала Маня, абвяла ўсіх уважлівым позіркам.— Мне здаецца... Я зараз пачала думаць. Праўда, раней не задумвалася, а цяпер... Ну, вось будзе ў нас дзіця,— яна прыхінулася да Васіля, той асцярожна абняў яе за плечы.— А тут таго і глядзі — грымне вайна. Ды і цяпер то ў адным куце гарыць, то ў другім. І мо з-за гэтага ліха, што, як чорная хмара, вісіць над намі, людзі

п'юць. Мо праз гэта дзяцей паменела. Мо праз гэта так спяшаюцца маладыя ў каханні...

— Бач ты, які філосаф мая сястрыца! — падміргнуў Лагоша Васілю.— Разумная ў цябе жонка... Не хвалюйся, Маня. Не будзе вайны. Разумеюць і яны, і мы, што тады ўсяму капцы. Так, зараз гарыць. Бывае, насуне вялізная хмара, грукоча гром, маланка раз-пораз свішча, а дожджык ледзь пакрапае. Глядзіш, хмара распаўзлася на аблачынкі і ззяе сонца... Усё будзе добра. Дваццаты век — гэта мы. Усё залежыць ад нас. А мы павінны заставацца людзьмі. А для гэтага трэба воля, вытрымка і стрыманасць. Адным словам — дысцыпліна! Не раскісаць!

— От, наконт дысцыпліны — абсалютна правільна,— размахваў відэльцам Васіль.— Не запчастак, не людзей нам не хапае, а дысцыпліны. От, мы ў гэтым квартале не выканалі план. Чаму? Дажджы, маўляў, не далі. Глупства. Дажджоў было не болей, чым у другім квартале. Лайдакоў многа. Пасля авансу і палучкі некаторыя зусім не выходзяць на работу. А потым ён ірве. Суткі гатовы рабіць. Хіба гэта разумна, га?

— Я згодна, што гэта не разумна. Але чаму той чалавек п'е? — з хваляваннем у голасе загаварыла Тамара.— Значыць, нешта ў яго кепска ў жыцці. У сям'і. А вы на яго — такі-сякі. А ў чалавека душа баліць...

— Душа баліць, бо пахмяліцца хоча,— рагатнуў Васіль.

— Вось так усе думаюць,— з дакорам зірнула на Васіля Тамара.— Дысцыпліна і парадак — гэта ўсё правільна. А я вось што думаю... Дабраты не хапае людзям. І нам, маладым — найбольш. Вось вазьміце санітарак з нашай паліклінікі. Старэнькія — ласкавыя, добрыя. А маладыя такія язвы, злыя, як мегеры. Быццам нехта вінаваты, што яна, гэтакая важная персона, вымушана працаваць санітаркай... Або разводы... Калі б жанчына падумала, што будзе з чалавекам, як яна вытурыць яго... Так цяпер некаторыя жанчыны робяць. Закон на нашым баку, галубочкі. Так што вы не надта петушыцеся,— пагразіла мужчынам Тамара.

— Чуў? — таўханула Маня пад бок Васіля.

— А калі яна сапраўды язва? Ні ласкі, ні дабраты. Дык што — век мучыцца? Лепш развод,— запярэчыў Васіль.

— Ну во, бачыш? Ужо і развод. Бывала, гаварылі:

сцерпіцца — злюбіцца. А зараз чуць што: гаршчок аб гаршчок — і разбегліся,— Тамара памаўчала, уздыхнула.— Ой, няпроста ўсё на свеце. От на рэнтген прыйдзе чалавек, а я ўсё-такі — рэнтгенолаг,— усміхнулася яна Мані, яны пераглянуліся, бы змоўшчыцы, відаць, пра нешта яны гаварылі там, на кухні.— Дык вось глядзіш: лёгкія, сэрца, пячонка, селязёнка. Усё як на далоні. Калі дзе зацямненне — усё відно. А пра што ён думае, гэты чалавек? Што ён любіць, што яго цікавіць? Чаго ён хоча ў жыцці?

— А каго ён любіць? Рэнтген гэта не паказвае? — ухмыльнуўся Васіль і пазяхнуў, прыкрыўшы рот далонню. Маня таўханула яго пад бок, маўляў, не пазяхай у кампаніі.

— Гэтага ніякі рэнтген не пакажа. Ой, загаварыліся мы,— Тамара зірнула на гадзіннік.— Во, не паслухаліся гаспадара. Ужо другая гадзіна ночы... Пайшлі спаць. Я вам тут на канапе пасцялю, добра? — звярнулася яна да Мані.

Маладыя не пярэчылі.

## VI

Ужо ў спальні, распранаючыся, Лагоша сказаў жонцы:

— Не ведаю, як будуць жыць нашы маладыя, калі з першых дзён загрудкі гатовы брацца... Мы з табой паўгода не сварыліся...

— Будуць жыць. Васіль хлопец неблагі. Здаровы, зарабляе добра. Маня прыціхне. Гаварыла, што яна дужа любіць яго. Але хоча ўзяць у рукі. Баіцца, каб не распіўся... Я ёй раіла, каб не чаплялася да кожнай драбязы. Яна й сама гэта разумее. Паказвае характар. Як бы жанчына ні прагла самастойнасці, а ёй заўсёды хочацца абаперціся на моцнае плячо. Схавацца пад крыло. Вось калі яно слабенькае, ненадзейнае — тады другая справа.

— А што, хіба табе не пашанцавала? — Лагоша моцна абняў жонку.— І ўвогуле ты сёння нешта надта разгаварылася...

— Мілы ты мой, калі ж мы з табой гаворым? Нам жа ўсё няма часу. Ой, што, во, з Юлькай рабіць? Перад сном была доўга сухая. А ў хаце халадэча. Адубее ў мокрым, калі што здарыцца. І будзіць шкада,— Тамара

ў задуменні стаяла над ложкам. Лагоша стаў побач, нахіліўся, спытаў:

— Юлька, хочаш?..— дзяўчо прамармытала нешта праз сон, пацiснула плечукамі. Лагоша зноў паўтарыў пытанне.

— Ага,— важна адказала малая і пачала падымацца. Лагоша пасадзіў яе на гаршчок. Калі яна зрабіла што трэба, прыціснуў да грудзей расслаблены цёплы камячок і нейкі час стаяў з дачкой на руках.

— Ой, як добра! — усклікнула Тамара і шуснула пад коўдру.— Цяпер можна спаць спакойна... Як мала трэба для радасці...

— А ты шкадавала будзіць. Я таксама шкадаваў. Але разбудзіць лепей, чым будзе ляжаць у мокрым і прастыне. Разумная дысцыпліна і цвёрдасць. Магу табе развіць цэлую тэорыю...

— Не хачу тэорый. Люблю цябе без іх,— яна выключыла святло.

— Праўда, любіш?

— Люблю,— яна цмокнула яго ў шчаку.

Лагоша быў памкнуўся яе абняць.

— Не трэба. Позна ўжо. Заўтра рана ўставаць.

— Вось яна, твая любоў. Можна ж было раней легчы...

Але жонка нічога не адказала. Неўзабаве яна ўжо спала. Адчуваючы побач яе гарачае цела, ён ляжаў, баючыся паварушыцца. На нейкі момант перад вачыма паўстала Надзя. Яна глядзела з дакорам і сумна ківала галавой. «Даруй, Надзя. Можа, я дарэмна не шукаў цябе... Але хто ведае, як бы мы жылі з табой... Цябе я не забуду ніколі. Ты — мой самы светлы, самы чысты ўспамін...»

Лагоша сіліўся ўявіць сваё жыццё з Надзяй, убачыць яе побач з сабой у ложку... і не мог. Ён зразумеў, што ўжо не ўяўляе свайго жыцця без жонкі і асабліва без Юлькі. Але з яго даўніны зноў і зноў выплываў яснавокі хударлявы дзявочы тварык...

Засну Лагоша толькі пад раніцу.

*1981*

# ЗМЕСТ

**Левановіч Л.**

Л 34 Валанцёр свабоды: Аповесць і апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1983.— 287 с.

У пер.: 1 р. 20 к.

Аповесць «Валанцёр свабоды» — гэта гераічная старонка жыцця нашага земляка, які ў юныя гады выехаў з Заходняй Беларусі ў Аргенціну, дзе ўступіў у Камуністычную партыю, змагаўся за свабоду рэспубліканскай Іспаніі, актыўна ўдзельнічаў у руху Супраціўлення ў Францыі.

Героі апавяданняў — нашы сучаснікі, людзі розных прафесій, аб'ядноўвае ж іх актыўная жыццёвая пазіцыя, любоў да працы, да прыроды.

Л $\frac{4702120200—100}{М302(05)—83}$ 12—82

**ББК 84 Бел7**
**Бел2**

---

*Леонид Киреевич Леванович (Леонов)*

**Волонтер свободы**

*Повесть и рассказы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар *А. П. Рыбак.* Мастак *Л. М. Шукалюкаў.* Мастацкі рэдактар *М. Я. Янчук.* Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал.* Карэктар *А. Т. Глушчанка.*

ІБ № 1249

Здадзена ў набор 30.09.82. Падпісана да друку 08.06.83. АТ 21082. Фармат 84×108$^1/_{32}$. Папера друк. № 2. Гарнітура балтыка. Высокі друк. Ум. друк. арк. 15,12. Ум. фарб.-адб. 15,12. Ул.-выд. арк. 16,08. Тыраж 12 000 экз. Зак. 3010. Цана 1 р. 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.